**Бяляцкі, А.**

Іртутнае срэбра жыцьця. Пралог : нататкі праваабаронцы / Алесь Бяляцкі ; падрыхтоўка да выданьня Алены Лапцёнак. — Менск, 2014. — 208 с. : іл.

Беларускі праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі, асуджаны па палітычных матывах на чатыры з паловай гады калоніі ўзмоцненага рэжыму, у сваіх лістах на волю згадвае апошнія падзеі, якія папярэднічалі арышту, найбольш важныя і цікавыя моманты з замежных паездак. Першыя лісты для гэтай кнігі напісаныя ў верасні 2012 года, апошнія — у чэрвені 2013, але зьмешчаны яны па храналогіі падзеяў, а не па датах напісаньня, з захаваньнем на пісьме традыцыйнай для беларусаў мяккасьці маўленьня.

Асобна пададзеныя лісты “Сустрэчы салідарнасьці”, падрыхтаваныя да публікацыі іх адрасаткай Ірынай Пракопчык.

Большасьць фотаздымкаў, зьмешчаных у кнізе, была адабрана для фотавыставы ў сувязі з 15-годзьдзем ПЦ “Вясна”. Аднак у выніку праведзенага 19 сьнежня 2010 года на офісеператрусу і канфіскацыі камп’ютарнай тэхнікі вялікая частка праваабарончага архіву аказалася страчана.

## Слабых не чапаюць

На момант выхаду гэтай кнігі яе аўтар Алесь Бяляцкі, старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH), адбывае тэрмін у 14-м атрадзе бабруйскай папраўчай калоніі № 2. І не проста адбывае, працуючы ўпакоўшчыкам ў пашывачным цэху, дзе штодня выварочвае міліцэйскія пагоны, складае рукавіцы ці іншыя вырабы, а шмат часу прысьвячае творчай працы. Ён чытае, піша артыкулы, нататкі, успаміны, рэцэнзіі і, вядома ж, лісты, бо вядзе багатую перапіску. За грамадскай і праваабарончай дзейнасьцю, за штодзённымі клопатамі і справамі на волі Алесь не пасьпяваў рэалізавацца ў літаратурнай сферы, таму зараз выкарыстоўвае гэтую магчымасьць. Як напісаў ён у адным зь лістоў, “я вяртаю пазыку — раблю, адпісваюся, тое, што мусіў рабіць з 30 да 45 гадоў, калі больш-менш навучыўся пісаць і зразумеў, што гэта такое. Урэшце, гэта і паказальнік таго, як я выкладваўся на папярэдніх працах, якія забіралі ўсю энергію і ўвесь час. А зараз — рукі (пальцы) працуюць, а мазгі — вольныя”.

Падчас зьняволеньня намаганьнямі сяброў і калегаў ужо ўбачыў сьвет зборнік Алеся Бяляцкага “Асьвечаныя беларушчынай”, у які ўвайшлі напісаныя як раней, так і за кратамі літаратуразнаўчыя артыкулы і эсэ. Цяпер укладальні-

ца кнігі Паліна Сьцепаненка рыхтуе да выданьня зборнік публіцыстычных твораў палітвязьня.

Кніга “Іртутнае срэбра жыцьця. Пралог. Нататкі праваабаронцы”, назву якой Алесь Бяляцкі даў, калі макет быў ужо зьвярстаны і цалкам падрыхтаваны да друку, уключае ў сябе лісты з успамінамі, рэфлексіямі і развагамі. Тут апісаныя звычайныя працоўныя будні, падзеі, што папярэднічалі арышту, міжнародныя паездкі, бо гэта таксама важны накірунак праваабарончай дзейнасьці, тым больш у якасьці віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека. Назва кнігі дастаткова вобразная, і, безумоўна, тут могуць узьнікаць розныя асацыяцыі. Алесь жа хацеў перадаць зьменлівасьць і небясьпечную прыцягальнасьць, пэўную халоднасьць жыцьця. Таму няхай вас, шаноўны чытач, не насьцярожвае сугучнасьць словаў “іртутнае — атрутнае”, гэта не супярэчыць задуме аўтара.

Яшчэ знаходзячыся пад сьледствам у СІЗА на вуліцы Валадарскага, Алесь Бяляцкі напісаў 5 лістоў з расповедамі пра 80–90-я гады XX стагодзьдзя, пра пачатак сваёй грамадскай дзейнасьці. Гэтыя навэлы друкаваліся ў газеце “Народная Воля” (№ 147–148 ад 27.09.2011, № 161–162 ад 21.10.2011, № 165–166 ад 28.10.2011, № 11–12 ад 20.01.2012, № 31–32 ад 24.02.2012), зьмешчаны на online-старонцы выданьня, сайце праваабарончага цэнтра “Вясна” (*spring96.org*), а таксама ўвойдуць у згаданы зборнік публіцыстыкі, што рыхтуецца да друку ў 2014 годзе.

У бабруйскай калоніі палітвязень працягнуў пісаць успаміны, асноўная тэма якіх — праваабарончая дзейнасьць “Вясны” ў апошнія два гады напярэдадні арышту. Першыя лісты з гэтай серыі напісаныя ў верасні 2012 года, апошнія — у чэрвені 2013. На сайце “*Беларускі партызан*” быў створаны асабісты блог Алеся Бяляцкага, дзе з 4 жніўня 2013 года гэтыя лісты-нататкі выстаўляліся па храналогіі падзеяў, а не па датах напісаньня, з захаваньнем на пісьме традыцыйнай для беларусаў мяккасьці маўленьня.

*“Пісаць пра падзеі 2010–2011 гадоў і лёгка, бо яны, здаецца, добра-такі адбіліся ў маёй памяці, і цяжка, бо ўсё ж час няўмольна зьядае сьвежыню эмоцыяў, сотні і тысячы*

*дробных дэталяў, якія ствараюць шматфарбную карціну жыцьця. Набягаюць новыя падзеі, новыя ўражаньні, якія адцясьняюць і заціраюць старыя",* — піша Алесь у адным зь лістоў. Вось таму і занатаваў ён на паперы ўласныя развагі, сваё бачаньне сітуацыі, бо іншай магчымасьці данесьці гэта да нас у яго зараз няма.

Асобна пададзеныя лісты "Сустрэчы салідарнасьці", падрыхтаваныя да публікацыі іх адрасаткай Ірынай Пракопчык. Яго складаюць успаміны пра калег, якія за сваю нястомную праваабарончую дзейнасьць былі пазбаўленыя хто волі, а хто і жыцьця. Гэта сумная гісторыя пра сустрэчу ў бішкекскім турэмным шпіталі з асуджаным на пажыцьцёвае зьняволеньне кыргызскім праваабаронцам узьбекскага паходжаньня Азімжонам Аскаравым. Гэта аповед пра паездку на поўнач Казахстана, у калонію-пасяленьне Усьць-Каменагорска, дзеля падтрымкі казахстанскага калегі Яўгена Жоўціса. Гэта ўражаньні ад знаёмства з праваабаронцай з Чачні Натальляй Эсьцеміравай, забойцу якой "не знайшлі" дагэтуль, і назіраньні за судом над расійскім праваабаронцам Алегам Арловым.

Дзейнасьць праваабаронцаў заўсёды знаходзілася пад пільнай увагай беларускіх уладаў, сябры арганізацыі зьведалі і затрыманьні, і арышты, і штрафы, іператрусы, і асаблівую цікавасьць да ўсіх членаў іх сямей з боку падатковай інсьпекцыі. 28 кастрычніка 2003 года на падставе рашэньня Вярхоўнага Суда праваабарончы цэнтр "Вясна" быў пазбаўлены афіцыйнай рэгістрацыі і дагэтуль не мае легальнага статусу, нягледзячы на тры спробы зноў зарэгістравацца ў Міністэрстве юстыцыі.

У лютым 2011 года, калі беларускімі ўладамі на ўсю моц раскручвалася крымінальная справа аб масавых беспарадках за ўдзел у Плошчы-2010, Генеральная пракуратура Беларусі вынесла Алесю Бяляцкаму афіцыйнае папярэджаньне па арт. $193^{1}$ КК РБ за дзейнасьць ад імя незарэгістраванага грамадскага аб'яднаньня.

У 2011 годзе "Вясна" адзначала 15-годзьдзе сваёй дзейнасьці, а сёлета споўнілася роўна 10 год пазбаўленьня рэгістрацыі. Тым не менш "Вясна", як аб'яднаньне аднадум-

цаў і праваабаронцаў з розных рэгіёнаў краіны, захавалася і працягвае працу па шматлікіх накірунках. У сваіх лістах Алесь адзначае: *“Тое, што “Вясна” ў такіх жахліва неспрыяльных умовах праіснавала, пражыла 15 гадоў, ды як пражыла, стала найбольш актыўнай, крэатыўнай, найбольш уплывовай і пазнавальнай з праваабарончых суполак, — гэта можна назваць цудам. Найбольшы цуд, аснова “Вясны” — гэта людзі, якія былі ў ёй ад пачатку, якія стваралі “Вясну” ў яе яркасьці і адметнасьці, а тыповасьць — у тым, што, дзякуй Богу, не толькі адная “Вясна” можа ганарыцца 15-гадовым узростам і гісторыяй”.*

Прайшло больш за два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага, і палову вызначанага судом тэрміну зьняволеньня ён ужо адбыў. Але нават гэты час у пэўнай ступені не аказаўся для яго страчаным дарма, і, як чалавек з моцным унутраным стрыжнем, Алесь здолеў скарыстаць яго і разбавіць аднастайнасьць турэмнага побыту творчымі задумамі і іх плённай рэалізацыяй. Алесь выдатна разумее, што ягонае зьняволеньне зьяўляецца своеасаблівым прызнаньнем шматгадовага адстойваньня грамадскіх інтарэсаў і грамадзянскіх свабодаў: *“Але хіба што самай яркай падзеяй, якая сімвалічна падвяла рысу пад 15-гадовай гісторыяй “Вясны”, была гісторыя, зьвязаная з маім арыштам. Гэтая падзея намі зусім не планавалася, але яна стала своеасаблівым вынікам, вяршыняю нашай дзейнасьці. Слабых не чапаюць. Гісторыя “Вясны” яшчэ не скончаная, яна працягваецца далей”.*

*Алена Лапцёнак*

# НАТАТКІ ПРАВААБАРОНЦЫ

— А что это за шаги такие на лестнице? — спросил Коровьев, поигрывая ложечкой в чашке с черным кофе.

— А это нас арестовывать идут, — ответил Азазелло и выпил стопочку коньяку.

— А, ну-ну, — ответил на это Коровьев.

*М. Булгаков*
*“Мастер и Маргарита”*

## 15 траўня 2013 г., Бабруйск

Я доўга думаў, як падступіцца да гэтага ліста. Мінула ўжо даволі часу, як мяне арыштавалі. Я ўсё спрабую скласьці гэты дзень у адзінае цэлае, а ён рассыпаецца на асобныя кавалачкі. І я не ведаю, з чаго пачаць, каб сталі зразумелымі пачаткі і прычыны майго арышту. Атрымліваецца, што пачынаць патрэбна як мінімум з 25 верасьня 2010 года. Гэта быў дзень майго нараджэньня. І як чамусьці часта бывала ў ранейшыя гады, удома мяне не было.

На 24–25 верасьня прыпаў Другі зьезд беларускіх праваабаронцаў, які мы праводзілі ў Вільні. Чаму там, я думаю, зразумела. Бо сабраць болей за сто праваабаронцаў, якія прадстаўляюць 17 розных праваабарончых арганізацыяў, у Беларусі было проста нерэальна. У 2004 годзе нам яшчэ ўдалося правесьці Першы праваабарончы зьезд на базе адпачынку пад Менскам. Стаяла зіма, было сьнежна, чыста, бела і прыгожа, мароз стаяў ноччу да мінус дваццаці. Было жахліва холадна. Людзі грэліся як маглі, у асноўным палкімі прамовамі і гарачымі сэрцамі.

Вось жа, мінула шэсьць гадоў — і мы вырашылі сабрацца ізноў, выкарыстаўшы як нагоду гадавую сустрэчу сяброў-заснавальнікаў віленскага Дому правоў чалавека і запрасіўшы ў Вільню таксама калегаў зь іншых права-

абарончых арганізацыяў. На зьезьдзе мы абмяркоўвалі Стратэгію беларускіх праваабаронцаў, рамачны дакумент з агульнымі палажэньнямі і нашымі намерамі ў працы, і нават прынялі яго ў першым чытаньні. Таксама былі прынятыя некалькі рэзалюцыяў, якія датычыліся бягучай сітуацыі з правамі чалавека. У Віцебску напачатку года быў асуджаны Каваленка, працягваў адбываць пакараньне Аўтуховіч, увесну былі вынесеныя чарговыя сьмяротныя прысуды. Не адбывалася ніякіх зьменаў у заканадаўстве да прывядзеньня яго ў адпаведнасьць зь міжнароднымі нормамі, амаль не рэгістраваліся новыя няўрадавыя арганізацыі, як і раней, заставаліся праблемы з рэгістрацыяй і распаўсюдам незалежнай прэсы. Элементарны аналіз паказваў, што гайкі зноў могуць закруціцца. Нам было неспакойна і няпэўна. У сваіх рэзалюцыях мы напісалі пра гэта, а таксама пра тое, што мы чакаем і спадзяемся як мінімум на неўжываньне гвалту падчас выбараў. Адным словам, мы заклікалі: давайце жыць мірна! І нашае грамадства ад гэтага толькі выйграе.

Можа, гэта падаецца і наіўным у нашых умовах, але нічога лепшага за перамовы ў грамадскіх стасунках чалавецтва не прыдумала. І калі перамовы не спрацоўваюць, тады трэба чакаць бяды. Такім чынам, мы абмеркавалі і прынялі важныя праваабарончыя дакументы і рэзалюцыі, якія і на сёньня застаюцца актуальнымі і надзённымі.

Што было не менш істотным для нас, дык гэта тое, што ўпершыню за шэсьць гадоў мы сабраліся разам такой прадстаўнічай праваабарончай грамадою. Праваабаронцы прыехалі і зь Менска, і з рэгіёнаў паслухаць адзін аднаго, паразмаўляць, падзяліцца ўзаемнай энэргіяй. Як бы там ні было, а за апошнія 10–15 гадоў праваабарончы рух у Беларусі ўкараніўся, разросься і ўмацаваўся. На зьезьдзе былі і спрэчкі, і дэбаты, але ўсе мы пачуваліся як адная вялікая сям’я.

Уся нашая грамада разьмясьцілася ў шматпавярхо-

вым гатэлі, які ў савецкія часы называўся “Вільнюс”, а зараз яго выкупіла адна з сусьветных гатэльных сетак і зьмяніла назву.

Побач з гатэлем была крама, знакамітая ў Літве “Maxima”. І 24-га яшчэ ўвечары мы зайшлі з маім сябрам і калегам Валянцінам у яе, каб купіць піва і сыру. Адразу пры ўваходзе ў залу стаялі стэнды з кветкавымі цыбулінамі і насеньнем цюльпанаў, нарцысаў, гладыёлусаў ды іншых кветак. Каля гэтых стэндаў я адчуў рэальную адсутнасьць межаў у Еўразьвязе. Выбар кветкавага насеньня ў Менску значна бяднейшы, і цыбуліны кветак даражэйшыя ў тры разы. Адным словам, я забыўся пра піва і пра сыр і хадзіў вакол гэтага стэнду з кветкамі як зачараваны. Затым пачаў кідаць разнастайныя пакункі сабе ў кош.

І так я выбіраў, выбіраў кветкі, не могучы спыніцца, аж пакуль не настала 22 гадзіны. У гэтую гадзіну ва ўсіх маркетах у Літве спыняецца продаж алкаголю, і піва ў тым ліку. Прычым, ведаючы звычку літоўцаў, як і беларусаў, усё купляць у апошнюю хвіліну, ці ўжо і пасьля яе, у маркетах на сьпіртное ўведзена электронная блакіроўка касы. Пасьля дзясятай вечара гэтыя касы перастаюць выбіваць кошты на сьпіртное, і ўгаворвай касірку ці не ўгаворвай, пасьля дзесяці піва ў касе ўжо не праб’еш. Вось так і застаўся я з кошыкам кветкавых цыбулінаў, але безь піва.

## Бабруйск (20.05.13 па штэмпелі)

*Працягваю аповед пра свой дзень нараджэньня.*

Дык вось, назаўтра, 25 верасьня, быў мой дзень нараджэньня. Падчас зьезду дзяўчаты падарылі мне букет кветак і павіншавалі. Пасьля абеду ўдзельнікі нашага праваабарончага форуму пачалі разьязджацца. А мы,

арганізатары, засталіся яшчэ на дзьве гадзіны для падсумаваньня вынікаў. Гэта было важна і цікава, прааналізаваць зьезд праваабаронцаў адразу пасьля яго заканчэньня. Усе пагадзіліся, што паўтара дні працы — гэта мала. Два, а то і тры дні было б у самы раз. Занадта рэдка мы сустракаемся ў такім поўным складзе, багата тэмаў ёсьць для абмеркаваньня, а мы не пасьпяваем гэта зрабіць якасна. Станоўчым было тое, што погляды ўдзельнікаў зьезду з розных беларускіх праваабарончых арганізацыяў па асноўных пытаньнях былі практычна аднолькавымі. Мы выступалі адзіным фронтам. Мы зьяўляліся часткаю міжнароднага праваабарончага руху. Мы ўдзельнічаем у ім, мы ўзбагачаем і разьвіваем яго.

Скончылі падсумаваньне ўжо каля сёмай гадзіны вечара. Затым сабраліся, разьвіталіся і разьехаліся. Мы селі ўчатырох у маленькае "пежо" і паехалі ў бок літоўска-беларускай мяжы.

Сваё кветкавае насеньне я параздаваў патроху менчукам, каб забраць яго ў Менску, бо перавозіць насеньне праз мяжу забаронена. Гэта лічыцца парушэньнем санітарных экалагічных нормаў.

Неяк з год перад гэтым увесну вёз я з Польшчы разнастайнае насеньне гароху, радыскі, морквы і ўсяго таго, што патрэбна агародніку ўвесну. У той час я быў у абавязковых сьпісах на праверку. Вось жа памежнік, убачыўшы цэлы ворах папяровых пакуначкаў з разнастайнымі бубкамі і зярняткамі, паклікаў экалагічную службу. Дзьве жанчынкі завялі мяне ў свой кабінет, выслухалі мае аргументы: "Вой-вой-вой! А чым жа я градкі засяваць буду!" — і прапанавалі: што ўвойдзе ў кішэні — тваё, астатняе прыйдзецца пакінуць. Кішэні ў мяне былі глыбокія — і ў нагавіцах, і ў куртцы. Амаль усё і ўлезла, штосьці і жанчынам пакінуў на іхнія грады.

У дарозе на мяжу нам патэлефанавалі з машыны, якая выехала раней за нашую, і паведамілі, што на пераходзе "Каменны Лог" дужа багата машынаў. Мы зьвярнулі налева і паехалі на суседні пераезд "Катлоўка". Дарога

ішла па невысокіх прывіленскіх узгорках. Было відаць, як некаторыя распрацаваныя раней палі засаджаныя маладым сасоньнікам. Мы прыехалі на пераезд, але і там машынаў аказалася нямала. І што было рабіць? Мы сталі ў калейку зь легкавікоў. Я дастаў пляшку каньяку, сыр, і мы пачалі адзначаць мой дзень народзінаў. Мы пілі грэцкі каньяк з рыльца і заядалі яго пахкім сырам. Меў рацыю Максім Багдановіч у сваім вершы “Межы”, марачы, што калі надыдзе такі час і межы зьнікнуць, тады разам зь імі зьнікне і зло.

На мяжы мы прастаялі чатыры гадзіны. А затым была пустынная верасьнёўская дарога. У Менск мы прыехалі каля чатырох ранку. Дзьверы ў кватэру мне адчыніла заспаная жонка, пацалавала і павіншавала з днём нараджэньня, і мы пайшлі дасыпаць.

## Бабруйск (23.05.2013 па штэмпелі)

Забаўны выпадак адбыўся ўвосень (16.09.2010. — ***Рэд.***) падчас сьвяткаваньня 15-х угодкаў Беларускай асацыяцыі журналістаў. На імпрэзе ўбачыў я Аляксандра Фядуту і згадаў, што адная мая знаёмая, якая даволі часта кантактавала зь Фядутам, казала мне, што ён хоча сустрэцца са мной і паразмаўляць. Я добра адгукаўся ў размове зь ёй пра том твораў Фадзея Булгарына, падрыхтаванага да друку і адкаментаванага Аляксандрам Фядутам. Я зь цікавасьцю прачытаў успаміны Фадзея Булгарына. Ён быў нашчадкам знанага ў Вялікім Княстве Літоўскім роду, продкі якога ўдзельнічалі ў шматлікіх гістарычных падзеях нашага краю, а ягоны бацька браў удзел у паўстаньні Касьцюшкі супраць расійскай сатрапіі і пасьля паўстаньня за сваё вальнадумства патрапіў у турму. У лёсе Фадзея, а насамрэч Тадэвуша, Булгарына, як у люстэрку таго часу, адбілася трагедыя беларускага набілітэту, які ішоў служыць і на ўсход, і на захад, да-

біваўся там пэўных посьпехаў, але быў страчаны для сваёй зямлі. Тадэвуш Булгарын пасьля падзелу Рэчы Паспалітай стаў расійскім грамадзянінам, у малалецтве быў аддадзены ў вайсковую вучэльню ў Пецярбург, пасьля яе заканчэньня служыў у французскім войску Напалеона, даслужыўся там да капітана, затым у Пецярбургу стаў прафесійна займацца публіцыстыкай, літаратурнай творчасьцю, кнігавыданьнем і рэдагаваньнем газеты. У Расіі ў сваёй справе ён дасягнуў першых пазіцыяў. У пэўным сэнсе палітолаг і ідэолаг тагачаснага царскага рэжыму, якога згадваў у сваіх едкіх эпіграмах сам Аляксандр Пушкін, ён цьвёрда стаяў на абароне інтарэсаў расійскай улады, царскага абсалютызму і пагардліва адзываўся пра шляхецкую вольніцу і дэмакратыю, якая была перад акупацыяй у ягонай некалі роднай Рэчы Паспалітай. Хаця сам ён быў кроў з крыві, костка ад косткі беларускага (ліцьвінскага) шляхецкага стану. Гэта найбольш ярка праявілася ў ягоным парывістым і няўстрыманым характары.

Аднак ягоныя ўспаміны напоўненыя любоўю да сваіх дзіцячых гадоў і да Глушчыны, дзе знаходзіўся адзін зь сямейных маёнткаў Булгарыных. Там ён нарадзіўся, непадалёк ад тых мясьцінаў, у Бабруйску, сяджу зараз я.

На БАЖаўскім юбілеі А. Фядута быў не толькі як сябра БАЖа і журналіст, але й як адзін з бліжэйшых саратнікаў аднаго з кандыдатаў. Я падышоў да яго і быў адным з многіх, хто хацеў паразмаўляць зь ім. Аляксандр з імпэтам павітаўся са мной. “Аляксандр, — пачаў я, — я хачу пагаварыць з табой”. Ён кіўнуў галавою. “Калі вам спатрэбіцца юрыдычная ці якая іншая дапамога ў зьвязку з магчымымі цяжкасьцямі, зьвяртайцеся да нас, і мы пастараемся дапамагчы”.

У вачах у Фядуты я ўбачыў, як ягоны інтарэс да мяне зьнік. Ён будзённа і дзеля ветлівасьці кіўнуў галавою, і нашая размова на гэтым скончылася. Відавочна, ён чакаў, што гутарка будзе весьціся пра літаратуру. Яго вабіла літаратура, а не магчымы перасьлед. Але так сталася,

што неўзабаве нашая дапамога, якая б ні была, яму спатрэбілася.

## 19 траўня 2013 г., Бабруйск

Пісаць пра падзеі 2010–2011 гадоў і лёгка, бо яны, здаецца, добра-такі адбіліся ў маёй памяці, і цяжка, бо ўсё ж час няўмольна зьядае сьвежыню эмоцыяў, сотні і тысячы дробных дэталяў, якія ствараюць шматфарбную карціну жыцьця. Набягаюць новыя падзеі, новыя ўражаньні, якія адцясьняюць і заціраюць старыя.

Нагадаю, што грамадскае назіраньне ў 2006 годзе скончылася для яго арганізатараў вельмі няўдала. Запрацаваў тады толькі прыняты новы ў Крымінальным кодэксе артыкул 193[1].

У наступныя парламенцкія выбары ў 2008 годзе праваабаронцы ўтварылі грамадзянскую ініцыятыву “Праваабаронцы за свабодныя выбары” і пастараліся правесьці назіраньне, з аднаго боку, максімальна адкрыта і празрыста, з другога боку — вельмі асьцярожна, не разгортваючы шырокую сетку кароткатэрміновых назіральнікаў, аб’ектыўна ацэньваючы і ходу выбарчай кампаніі, і яе вынікі. І абышліся, можна сказаць, мінімальнымі стратамі.

З самага пачатку абвяшчэньня выбарчай кампаніі, у верасьні 2010 года, мы правялі першую прэс-канферэнцыю, дзе абвясьцілі пра тое, што мы зьбіраемся назіраць і будзем праводзіць кампанію назіраньня ізноў жа адкрыта і празрыста, не будзем умешвацца ў ходу выбараў. Нашая задача — аб’ектыўна паказваць усе станоўчыя бакі і ўсе хібы выбарчага працэсу. Што ёсьць, тое і паказаць, нічога не хаваючы і не падмалёўваючы. Пад сотню праваабаронцаў пачалі назіраць зь першага дня выбарчай кампаніі, а ў пяць дзён папярэдняга галасаваньня і ў асноўны дзень выбараў да іх меркавалі далучыцца яшчэ

пяцьсот назіральнікаў. Такім чынам, пры двух назіральніках на кожным участку мы планавалі праназіраць прыкладна на трохстах выбарчых участках у розных рэгіёнах краіны, як у гарадах, так і ў мястэчках і вёсках. У нас не было сьпецыяльна падрыхтаванай сацыялагічнай выбаркі ўчасткаў, але іх раўнамернае разьмеркаваньне па ўсёй тэрыторыі Беларусі пэўна што дало б даволі аб'ектыўную карціну праходжаньня выбараў па ўсёй краіне.

Доўгатэрміновыя назіральнікі рыхтавалі справаздачы па кожным з этапаў выбараў. Кароткатэрміновым назіральнікам трэба было штодзённа ў апошнія шэсьць дзён выбараў запаўняць форму назіральніка з пытаньнямі, якія нас цікавілі. Дарэчы, пра характар выбараў, іхнюю празрыстасьць і аб'ектыўнасьць можна вельмі дакладна зрабіць высновы яшчэ да галасаваньня. Гэта дазваляе методыка назіраньня, якую мы ўжывалі. Паводле таго, як сфармаваныя выбарчыя камісіі, як ішла рэгістрацыя кандыдатаў, у якой атмасферы праходзіла агітацыя, ці быў роўны доступ кандыдатаў да сродкаў масавай інфармацыі, можна ўжо вызначыць характар выбараў і адказаць, будуць яны аб'ектыўнымі ці не. А падлік галасоў, лічбы ў пратаколе, калі дакладна, да дробязяў не прапісаная працэдура падліку галасоў, — гэта ўжо справа фармальная. Таму так важна было аб'ектыўна адсачыць і праанілізаваць папярэднія этапы выбарчай кампаніі. Гэтым мы і займаліся падчас выбараў.

## Бабруйск (21.05.2013 па штэмпелі)

Кампанія "Праваабаронцы за свабодныя выбары" была цікаваю тым, што дзякуючы нашым актывістам-назіральнікам нам удавалася атрымаць эксклюзіўныя факты аб выбарчай кампаніі. Яны былі разнастайнымі. Мы адзначылі большыя магчымасьці кандыдатаў пры правядзеньні агітацыйнай кампаніі. Таксама агульная атмасфера ў

грамадстве была больш спакойнай. Не было такіх хапуноў грамадскіх актывістаў і прадстаўнікоў выбарчых штабоў, як у 2006 годзе. Але было багата і адмоўных фактаў і тэндэнцыяў. На некаторыя агучаныя намі выпадкі рэагавала Цэнтральная выбарчая камісія ці тэрытарыяльныя камісіі. Яны тэрмінова выпраўлялі недахопы. Як сказаў адзін зь сяброў ЦВК, дзень для яго пачынаўся з прагляду сайта “Вясны”. Думаю, што не толькі для яго. Але заставалася самае істотнае. Няроўныя ўмовы для правядзеньня агітацыі і вал парушэньняў падчас датэрміновага галасаваньня казалі пра несуцяшальныя вынікі ўсёй кампаніі.

Праўда, пры ўсім рознагалосьсі і какафоніі выбарчай кампаніі, нечакана пры яе завяршэньні зьявілася адзіная агульная нота, якая раптам аб’яднала амаль усіх кандыдатаў, што ўдзельнічалі ў кампаніі. Гэта быў заклік прыйсьці на Плошчу. І якімі б рознымі ні былі кандыдаты, якія б адрозныя праграмы і амбіцыі яны ні мелі, але заклік атрымаўся адзіным. Ён прагучаў і па тэлевізары падчас выступленьня кандыдатаў, і на іхніх сустрэчах з выбаршчыкамі, і ў рэдкіх агітацыйных матэрыялах.

Напачатку гэтаму не надалі сур’ёзнай увагі. Ну, гавораць і гавораць, ну, заклікаюць і заклікаюць. Ці ж багата людзей пачуюць іх узімку, у сьнег і мароз, і з такой “дохлай” выбарчай кампаніяй гэтых шматлікіх, але нераскручаных і таму малавыразных кандыдатаў?

Падчас выбараў нам на сайт самыя розныя людзі дасылалі паведамленьні і розныя факты пра папярэдняе галасаваньне, і нават некалькі відэасюжэтаў, зробленых сотавымі тэлефонамі. Адзін з такіх сюжэтаў даслала нам менская ліцэістка (яго затым паказаў у тэлешоу “Выбар” журналіст Дарафееў). Сюжэт быў вельмі простым. Дзяўчына сфільмавала, як куратарка па сьпісе групы правярае, ці ўсе навучэнкі прагаласавалі датэрмінова, ці не.

Мяне найбольш уразіў не гэты факт, такое ж рабілася скрозь, — а тая атмасфера паўсядзённасьці і звычайнасьці, якая была ў аўдыторыі.

Калектыўная псіхалогія ў нашым грамадстве — рэч мала вывучаная. І чаму гэта паўсюль праходзіла вось так абыдзенна і звычайна — я не маю адказу.

Напярэдадні выбараў на нашым офісе адбыўся дзіўны выпадак. Неяк зранку да мяне падышла адна зь вясноўак і сказала, што хтосьці ўзламаў яе шуфлядку ў стале, якая замыкалася на ключ. У ёй ляжалі паперы, датычныя дзейнасьці "Вясны". "Ці зьнікла што?" — спытаўся я. "Не, усё на месцы", — адказала яна. Мы паглядзелі яе шуфлядку. Сапраўды, на фаніроўцы каля замочка былі бачны драпіны, а сам замочак быў зламаны, як бы яго падчапілі і ламанулі нейкай стамескаю ці нажом, а назад зачыніць ужо не змаглі. Мы абгледзелі іншыя шуфлядкі. На ўсіх каля замочкаў былі падобныя драпіны, але замкі былі пазачыняныя. Дарэчы, ва ўсіх іншых шуфлядках, апроч першай, валялася ўсялякая неістотная дробязь, якая звычайна зьбіраецца ў шуфлядках гадамі. Падзея гэтая, па ўсім відаць, адбылася ўначы. Быў канец лістапада.

## 11 траўня 2013 г., Бабруйск

Вось жа за некалькі дзён да выбараў прыехалі нашыя сябры, праваабаронцы з Нарвегіі і Швецыі. Прыехалі, каб паглядзець, скласьці сваё асабістае ўражаньне. Яны не рэгістраваліся як афіцыйныя назіральнікі, каб не быць зьвязанымі абавязковым для міжнародных назіральнікаў графікам працы: паездкамі па ўчастках, запаўненьнем формаў і гэтак далей. Маючы вопыт назіраньня ў міжнародных місіях, яны вырашылі гэтым разам быць незалежнымі і ў сваіх ацэнках і меркаваньнях.

Праграма побыту ў іх была самастойная. А вось на сустрэчу з двума кандыдатамі, якая мусіла праходзіць каля менскай ратушы, я вырашыў пайсьці разам зь імі. Мы трохі спазьніліся і прыйшлі, калі сустрэча-мітынг

ішла поўным ходам. Было ўжо цёмна, падсьвечаная ратуша стаяла на сьнезе, бы нявеста ў белай сукенцы. Сьвятло ад ліхтароў рассыпалася іскрамі, стаяў лёгкі марозік, пад нагамі парыпваў сьнег. На пераноснай трыбуне прамаўляў адзін з кандыдатаў. Выразна, амаль па-акторску, гучаў пастаўлены ў шматтысячных залах голас. Пасьля яго засьпяваў у мікрафон Зьміцер Вайцюшкевіч. Мне было яго крыху шкада. Сьпяваць нават на невялікім марозе — гэта заўсёды сур'ёзны ўдар па голасе.

Я пакінуў сваіх замежных сяброў і пайшоў хадзіць-брадзіць у натоўпе. Я люблю рухацца падчас мітынгаў, не стаяць на адным месцы, каб паглядзець на людзей, адчуць настрой, зь якім яны прыйшлі на мітынг, урэшце, каб пабачыць знаёмых і павітацца, перакінуцца словамі. Людзей было не мала і не багата, як для зімы, чалавек пяцьсот. Я ўбачыў знаёмага, які жыў у Баранавічах. Ён стаяў з плакатам у падтрымку аднаго з кандыдатаў. Мы павіталіся. Выгляд у яго быў адухоўлены, вочы сьвяціліся. “Ну як? — спытаўся ён з энтузіязмам, — пераможам?” — “Ты што гэта, усур'ёз? — зьдзівіўся я. — Паглядзі, колькі людзей прыйшло”. Ён адразу неяк сумеўся і працьверазеў. “Што, думаеш, ніякіх шанцаў?” — спытаўся ён. “А што ты думаеш, яны ёсьць?” — “Так, — адказаў ён, а потым яшчэ больш сумеўся і нават згорбіўся, — мабыць, ты маеш рацыю”.

Я разьвітаўся і пайшоў да сваіх знаёмых. На душы было прыкра. Не хацеў я яго расчароўваць і выступаць разбуральнікам ілюзіяў. Зьдзівіўся я таксама кандыдату, які здолеў так настроіць каманду, што актывісты сапраўды паверылі ў магчымасьць перамогі. У вачах у свайго знаёмага я бачыў сапраўдную веру ў перамогу. І нашто я сказаў яму, што няма шанцаў, яшчэ раз падумаў я. Можа, так і трэба рабіць, калі хочаш перамагчы. Хаця маё ўласнае адчуваньне, аналіз сітуацыі, размовы з рознымі людзьмі паказвалі, што час для зьменаў яшчэ не надышоў. Не ведаю, дзе тая мяжа паміж бясстрашнай прагаю перамогі і авантурызмам. Так і пайшоў я з гэтай

сустрэчы з кандыдатамі з пытаньнямі, на якія я не пачуў і не адчуў адказу.

## Бабруйск (30.08.2012 па штэмпелі)

І вось наступіў дзень выбараў. 19 сьнежня 2010 года ў Беларусі стаяла сапраўдная зіма. На клумбах і ў парках ляжалі сумёты сьнегу, з вуліцаў яго зграбалі і звозілі. У горадзе было чыста, сьвежа і марозна. Багата хто са знаёмых, далёкіх ад палітыкі людзей пыталіся ў мяне, за каго лепей прагаласаваць. І ўпершыню я не ведаў, што адказаць. Таму раіў так: выбірайце самі. Такая ж няпэўнасьць была і ў сям'і. Зранку жонка Натальля, сын Адам і я пайшлі галасаваць на розныя выбарчыя ўчасткі. Калі сабраліся на сьняданак, высьветлілася, што ўтрох, не згаворваючыся, прагаласавалі за аднаго кандыдата. На выбарчых участках за ходою выбараў назіралі больш за шэсьцьсот актывістаў з розных няўрадавых арганізацыяў. Мы з трэмаю ў душы чакалі вечара. Ізноў жа, на ўсе пытаньні сяброў і знаёмых, а ці будзе што ўвечары, ці зьбярэцца народ на плошчу, я адказваў стрымана і скептычна. Вось жа зьбяруцца якіх тысячаў пяць чалавек, а то і меней па такім надвор'і, пастаяць ды і разыдуцца. І ўсё. Такі быў мой прагноз. І я памыліўся.

На плошчу Каліноўскага (Кастрычніцкую) выбраліся мы інтэрнацыянальнай кампаніяй: я і юрыст Уладзя Лабковіч, швед Роберт, нарвежка Берыт, украінка Вольга і расіянка-калмычка Іна. Мароз мацнеў, мы прадбачліва цёпла апрануліся. Вольга была ў лыжным камбінезоне, акурат як лыжніца. Станцыі метро, як заўсёды падчас апазіцыйных акцыяў у цэнтры, былі перакрытыя. Мы паехалі па прасьпекце Незалежнасьці на сотым аўтобусе. Аўтобус праехаў плошчу не спыняючыся і высадзіў нас каля ГУМа. Было ўжо каля васьмі, гадзіны абвешчанага збору. На плошчы, як і ў 2006 годзе, вакол навагод-

няй ёлкі быў заліты каток. З разьвешаных на бліжэйшых слупах гукаўзмацняльных “званкоў” несьліся на поўную моц гукі аптымістычнай жыцьцярадаснай музыкі. На прыступках Палаца прафсаюзаў гуртаваліся некаторыя з кандыдатаў у прэзідэнты. Мы разышліся ў розныя бакі, каб паглядзець і паслухаць. Я падняўся па прыступках палаца з боку музея вайны. Штосьці празь мегафон намагаліся прамаўляць арганізатары мітынгу. Вясёлыя мелодыі са “званкоў” на слупах глушылі іхнія прамовы. Нічога не было чуваць. На ганку палаца я апынуўся побач з Уладзімірам Кобецам, адным з кіраўнікоў выбарчага штаба Андрэя Саньнікава, маім даўнім знаёмым яшчэ па БНФ. Ён, як і я, быў зьдзіўлены шматлікасьцю людзей, якія прыйшлі на плошчу. Народу было не меней, чым у 2006 годзе, а можа, нават і болей. Зьверху гэта было добра відаць. Частка людзей, не маючы месца дзе стаяць, выйшла на каток. Па маіх суб’ектыўных прыкідках, сабралася недзе дваццаць пяць тысяч чалавек. Было градусаў дзесяць марозу, мы пературпваліся з нагі на нагу.

Я мяркую, што ні арганізатары, ні ўлады не чакалі, што прыйдзе столькі багата людзей. Масавыя акцыі — рэч непрадказальная. Амаль ніколі нельга дакладна сказаць, колькі на абвешчаную акцыю прыйдзе чалавек. Ці палічаць людзі, што іхні асабісты ўдзел мае сэнс. У кожнага ўдзельніка акцыі ёсьць свая ўласная матывацыя ўдзелу, якая штурхае яго ісьці на дэманстрацыю ці мітынг, не зважаючы на забарону і магчымыя непрыемнасьці, а то і рэпрэсіі.

Чаму людзі прыйшлі на плошчу ўвечары 19 сьнежня 2010 года? Мабыць, не столькі ў падтрымку канкрэтных кандыдатаў, колькі дзеля таго, каб выказаць сваё жаданьне пераменаў у краіне, сваю нязгоду з застоем і аўтарытарызмам. Выйшлі тыя, каму неставала свабоды і справядлівасьці. Фальсіфікацыі падчас выбараў асабіста закранулі вялікую колькасьць людзей.

Людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі на плошчу. Нех-

та сказаў, што на выхадзе са свайго штаба быў зьбіты кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў. Зьбівалі невядомыя байцы ў масках. Не трэба было мець багата фантазіі, каб зразумець, хто іх паслаў. Някляева завезьлі ў бальніцу. Пачынаецца, сумна падумаў я.

Між тым мароз прыціскаў. Вялізная грамада людзей стаяла ў чаканьні. Грымела-залівалася бляшаным гукам, аж зьвінела ўвушшу, вясёлая музыка. Хтосьці спрабаваў штосьці сказаць, а хутчэй пракрычаць у мегафон. Я стаяў у пятнаццаці метрах побач і нічога не чуў. "Які далейшы план?" — спытаўся я ў Кобеца. Ён няпэўна паціснуў плячыма. Калі план і быў, дык ён яго не ведаў.

У свой час я сам арганізаваў і правёў не адзін мітынг і не адну дэманстрацыю. Відавочна было, што трэба штосьці рабіць. Проста так стаяць на марозе, не чуючы адзін аднаго ад гукаў аглушальнай музыкі, не было ніякага сэнсу. Трэба было ці распускаць людзей, ці арганізавана сыходзіць з гэтай плошчы. Трэцяга варыянту хіба што і не было. Уся ж безнадзейнасьць сітуацыі для арганізатараў заключалася ў тым, што весьці то дэманстрацыю асабліва і не было куды. Ніхто не замінаў рухацца ў якім-небудзь накірунку, але з гэтага паходу, куды б ён ні ішоў, не праглядалася ніякага выйсьця. Людзей было забагата, каб вось так узяць і распусьціць іх па хатах. І людзей было замала, каб яны маглі паўплываць на нешта істотным чынам. У такі мароз не было шанцаў і для таго, каб людзі прастаялі на вуліцы нават адну ноч.

Вось такія думкі мільгалі ў мяне ў галаве падчас стаяньня на ганку Палаца прафсаюзаў.

Але вось адзін з выступоўцаў сказаў штосьці такое ў мегафон, што зрушыла бліжэйстаячую грамаду. Пачалося нейкае варушэньне, хістаньне, лёгкая таўхатніна, затым збой людзей адштурхнуўся ад прыступак ганка, як хваля ад гранітнага берага, і пакаціўся ў бок праспекта. Пачулася: "Ідзем! Ідзем!" І цяпер ужо маса людзей хістанулася і паплыла, усё бліжэй і бліжэй да праезджай часткі праспекта. Рэдкі ланцуг даішнікаў не мог, ды і не спра-

баваў стрымаць людское мора, якое выкацілася на прасьпект, заліло яго, спыняючы рух машынаў і аўтобусаў, і палілося скрозь па прасьпекце ў бок Дома ўрада.

Колькі разоў, пачынаючы з Чарнобыльскага шляху 1989 года, быў пройдзены гэты маршрут! Цэнтральны праспект Менска зручны не толькі для транспарту і пешаходаў, ён вельмі выгодны і для дэманстрацыяў. Калі савецкія архітэктары планавалі яго пасьля вайны, пэўна што яны ўлічвалі і такую ягоную функцыю. Праўда, тады яны і падумаць не маглі, што па гэтым прасьпекце будуць хадзіць дэманстрацыі ў падтрымку дэмакратыі і свабоды.

Колькі за гэтыя дваццаць гадоў ногі мае выхадзілі ў калонах дэманстрантаў! Гэта былі і рэдзенькія шэрагі, і шматтысячныя людскія рэкі. І зь песьнямі, і з барабанамі, і з абразамі, і са званамі, і з куляньнем міліцэйскіх машын, і з дубінкамі амапаўцаў, і з крывёю з разьсечаных галоваў. Колькі ні хадзілі туды-сюды па прасьпекце мае ногі, але ж пакуль ані свабоды, ані дэмакратыі не выхадзілі.

Пакуль грамада людзей, рухаючыся, выцягвалася ў калону, я знайшоў сваіх замежных сяброў. Мы вырушылі разам з дэманстрантамі, прайшлі ўнiверсам “Цэнтральны”, “Макдональдс”, ГУМ, каля банка на дарозе стаяў, спынены плыньню людзей, жоўты грэйдар. Вось нейкі хлопец заскочыў на дах кабіны і энергічна замахаў бел-чырвона-белым сьцягам. Ужо пазьней, падчас суду над “дзекабрыстамі”, калі прагучалі абвінавачваньні і эпізоды дзеяньняў, я даведаўся, што гэта быў Аляксандр Малчанаў. Кіроўца грэйдара сядзеў за рулём, маркотна апусьціўшы галаву. Відаць, што зьмірыўся з такой нечаканай “акупацыяй”.

Калі мы азірнуліся назад — скрозь, увесь прасьпект быў запоўнены людзьмі. І вось людская плынь вылілася на плошчу Незалежнасьці. Мы дабраліся да яе, калі ўжо большая частка дэманстрантаў была там. Я адчуваў адказнасьць за бясьпеку сваіх замежных калегаў, таму пра-

панаваў спыніцца бліжэй да будынка Менгарсавета: там было вальней і ў выпадку атакі амапаўцаў можна было адступіць у некалькіх накірунках.

На пастаменьце каля помніка Леніну наладзілі ўзмацняльную апаратуру, і распачаўся мітынг. Мароз між тым прыціскаў. І практычна адразу пасьля таго, як людская калона ўцягнулася на плошчу і стала зразумела, што далей руху не будзе, людскія ручайкі пацяклі назад, з плошчы. І гэтыя ручайкі ўзмацніліся, калі каля Дома ўрада зьявіліся атрады амапаўцаў. Мітынг у гэты час ішоў. У цемры выступоўцаў не было бачна.

Цікава было б зараз пачытаць зьмест гэтых выступаў — і ліхаманкава-ўзьнёслых, і строгіх палітычных, і хвалююча-лірычных. Натальля Каляда, адна з кіраўнічак “Свабоднага тэатра”, сказала мітынгоўцам, што “акторы Галівуду з вамі”. Штосьці сьмешна-сур’ёзнае сказаў таксама і Рыгор Костусеў. І гэтыя неабгабляваныя выказы, прамоўленыя ў стане звышчалавечай напругі фантануючых эмоцыяў, яшчэ болей падкрэсьлівалі незвычайнасьць і ўнікальнасьць сітуацыі. Вядучы добра вёў мітынг, даючы слова выступоўцам і адначасова імкнучыся каментаваць тое, што адбывалася на плошчы. З выступаў кандыдатаў у прэзідэнты стала зразумела, што яны дабіваюцца сустрэчы зь міністрамі-сілавікамі. Я разумеў, што пры сітуацыі, якая склалася на той момант, шанцаў на такую сустрэчу не было.

Тым часам мае сябры пачалі патроху замярзаць. Дзяўчаты дасталі з торбаў нейкія пакуначкі і паўсоўвалі іх у абутак. Аказалася, што пры націску гэтыя пакуначкі выдзялялі цяпло.

А бліжэй да ўваходу ў Дом урада пачаліся нейкія актыўныя рухі. Мы ўбачылі, як дзьве калоны “касманаўтаў”, як статкі зуброў, з левага і з правага флангаў фасада хутка...

## 22 жніўня 2012 г., Бабруйск

*Не дапісаў быў папярэдні ліст, бо сьпяшаўся на працу. Дык вось:*

...пабеглі насустрач адна адной. Усё, пачалося, падумаў я. Дзіўна яшчэ, што ад прыходу на плошчу і пачатку мітынгу была такая доўгая паўза. Ужо пазьней, пасля выступаў высокіх чыноўнікаў, а таксама амапаўцаў — сьведкаў у судох, стала зразумела, што пэўнае бязладзьдзе і разгубленасьць былі і ў кіраўнікоў АМАПа, сьцягнутага ў сталіцу з усяе краіны. Большая іхняя частка “абараняла” Адміністрацыю. І пакуль кіраўнікі зарыентаваліся, што дэманстранты сышлі, пакуль аддалі загад, пакуль АМАП зьняўся з раней занятых пазіцый, пагрузіўся ў аўтобусы, пераехаў да Дома ўрада, пакуль выгрузіўся, пашыхтаваўся — вось у гэты час прайшла дэманстрацыя-шэсьце і ладная частка мітынгу.

Мы са свайго месца не бачылі і не ведалі зусім пра тое, што рабілася каля ўваходу ў Дом урада, што была спроба некаторых гарачых галоваў адчыніць уваходныя дзьверы, што былі выбітыя шыбы ў дзьвярах і бліжэйшых вокнах. Гэта быў нейкі адчайны парыў абражаных фальсіфікацыямі выбараў людзей, на якi ніхто не аддаваў загад. Але мы не бачылі гэтага. Было відаць толькі атрады амапаўцаў, якія рухаліся туды-сюды ўздоўж фасада Дома ўрада. Неўзабаве каля нас зьявіліся дэманстранты, якія адыходзілі адтуль, зь першых радоў. Некаторыя зь іх былі выкаўзаныя ў сьнезе, аднаго хлопца з разьбітай галавою валаклі пад рукі. Колькасьць людзей, якія сыходзілі зь мітынгу, павялічылася. Сыходзілі ўжо вялікімі групамі па некалькі дзясяткаў чалавек. А вядучы мітынгу адчайна заклікаў людзей не разыходзіцца, тэлефанаваць сябрам і знаёмым, запрашаць стаяць уначы. Амапаўцы тым часам чамусьці адступілі ад фасада Дома ўрада, разьбегліся ў супрацьлеглыя бакі, адкуль былі і прыбеглі.

Пазьней ужо, аналізуючы падзеі, мы гаварылі, што надта дзіўна выглядалі дзеяньні АМАПа каля і ў Доме ўрада. Частка амапаўцаў сядзела ў сярэдзіне будынка, заваліўшы дзьверы і аконныя праёмы канцылярскай мэбляю. А перад уваходам нікога не было. Як быццам бы сьпецыяльна запрашалі пайсьці ламануць уваходныя дзьверы. А людзі ж ішлі на плошчу, бо хацелі "людзьмі звацца" і "не быць скотам", і несьлі яны на вуліцы і плошчы Менска "сваю крыўду".

Як распавядаў Уладзя Лабковіч, які разам са старшынёй Беларускага Хельсінкскага камітэта Алегам Гулаком стаяў зь левага боку фасада Дома ўрада непадалёк ад чыноў у пагонах, пасьля спробы купкі гарачых галоваў з дэманстрантаў адчыніць уваходныя дзьверы, калі пасыпалася разьбітае шкло, на іхніх тварах назіральнікі ўбачылі задаволеныя пахмылкі. Як быццам бы ад удзельнікаў пратэсту толькі і чакалі чагосьці падобнага. Міжволі напрошваецца думка: можа, таму і не было АМАПа каля ўваходу ў Дом урада, каб справакаваць гэты "штурм" і пасьля як мага больш жорстка пакараць найперш "зарваўшыхся" кандыдатаў у прэзідэнты, а таксама як найбольшую колькасьць дэманстрантаў.

Між тым пасьля адступленьня амапаўцаў голас вядучага павесялеў. "Стаім, пакуль не адбудуцца перамовы зь міністрамі-сілавікамі!" — гучала зь мікрафона. Але сілавікі перамаўляцца не жадалі. Ізноў цёмныя калоны "касманаўтаў" пайшлі насустрач адна адной паўз Дом урада, праз нейкія секунды ў цёмным марозным паветры замільгалі дубінкі. Амапаўцы, як завадныя механічныя лялькі, выбягалі і выбягалі з двух бакоў Дома ўрада. Людзі пачалі масава сыходзіць з плошчы. А дубінкі ўзьляталі і ўзьляталі, дзясяткі цапоў малацілі крывавы абмалот. Голас у мікрафоне з помніка Леніну набыў роспачнае гучаньне, вядучы заклікаў амапаўцаў не ўжываць супраць мірных дэманстрантаў гвалт, але вось замоўк і ён.

Прыйшоў час рэціравацца і нам. Я паказаў замежні-

кам у бок Ульянаўскай — адступайце туды, а сам застаўся яшчэ на некалькі хвілінаў. Падзеленыя на атрады амапаўцы займаліся сваёй працаю. Каля Дома ўрада былі бачныя вялізныя корабы мазаўскіх закаў, відаць, туды загружалі затрыманых дэманстрантаў. Іншыя ж атрады "касманаўтаў" вышыхтаваліся ў трайныя ланцугі і, падганяемыя афіцэрамі, выціскалі людзей, якія яшчэ заставаліся на плошчы, у розныя бакі. Па праезджай частцы прасьпекта стаялі калоны грузавікоў і ланцуг жаўнераў унутраных войскаў. Я адступаў адным з апошніх, гэтаксама ў бок Ульянаўскай, прайшоў скрозь ланцуг маладзенькіх жаўнераў. На іхніх тварах застыў выраз напружаньня і страху. За будынкам паштамта я зьвярнуў на Карла Маркса і дагнаў гурт маіх сяброў-замежнікаў.

Мы ішлі ў бок Кастрычніцкай плошчы, кожны з тэлефонам каля вуха, усе некуды тэлефанавалі, відаць, дзяліліся ўбачаным. Размаўляць нам паміж сабой не хацелася. І так усё было зразумела. Я тэлефанаваў сыну Адаму, ён таксама быў на плошчы. Ён адгукнуўся, быў ужо каля ёлкі на Кастрычніцкай плошчы. "Будзь асьцярожным", — папрасіў я яго.

## 25 жніўня 2012 г., Бабруйск

На офіс "Вясны" мы прыйшлі ўсёй сваёй інтэрнацыянальнай кампаніяй. Настрой ва ўсіх быў змрочны і падаўлены. Нягледзячы на прадчуваньні і перасьцярогі, усё ж у гэты год і гэтым разам хацелася верыць, што розум і логіка жыцьця ў краіне возьме гару. Хай не адразу, няхай праз галаву, але ж мы будзем рухацца ў бок цывілізаванага сьвету.

Наіўныя спадзяваньні. Колькі разоў ужо за апошнія шаснаццаць гадоў жыцьцё сурова вучыла і жорстка правучвала. І кожны раз расчараваньне і паняверка ахаплівалі душу. Мы не складаем рукі, мы не апускаем галовы,

бо верым у няўхільную перамогу дэмакратыі. Мы верым, што ў перспектыве мы мусім выйграць у гэтай зацягнутай у часе барацьбе. Мы вымотваем сілы апанентаў. Мы спрабуем рэалізавацца ў неспрыяльных умовах. Мы не зьязджаем, не затойваемся, мы не прыстасоўваемся і не капітулюем. Мы ствараем, наладжваем, аберагаем і разьвіваем. Мы жэнімся і абжываемся. Мы нараджаем і выхоўваем дзяцей. Мы ходзім на канцэрты, сварымся, разводзімся і нават паміраем, не дажыўшы да іншага часу. Мы жывём у эпосе, якая, верагодна, будзе менавацца прозьвішчам аднаго чалавека, яе галоўнага архітэктара, кансерватара і рэтраграда, толькі зь іншым канчаткам: -ізм. А зараз шаснаццаць гадоў нейкіх тактычных паразаў і адступленьняў, чарговых нястомных чапляньняў за наноў вырытыя акопы, умацаваныя рубяжы і фарты, і чарговае метадычнае іхняе зьнішчэньне і разбурэньне непрыяцелем.

На офісе ўсе былі прыбітыя і ўражаныя падзеямі, якія адбыліся каля Дома ўрада. Уладзя Лабковіч таксама дабраўся без прыгодаў. А вось Алегу Гулаку пакінуць плошчу самастойна не ўдалося. Дакладней сказаць, з плошчы то ён адступіў, дайшоў да сваёй машыны, прыпаркаванай за пару кварталаў ад плошчы, і тут вось яго і ўзялі пад белыя ручкі “таптуны” — хлопцы ў цывільнай вопратцы, якія адсачылі яго і вырашылі затрымаць.

Нягледзячы на настрой, работа кіпела. Інфармацыя пра вынікі назіраньня ішла ад нашых назіральнікаў з усяе краіны. І калі патрэбныя для аналізу лічбы рахавала падрыхтаваная загадзя камп’ютарная праграма, то факты парушэньняў, важныя і цікавыя эпізоды і выпадкі, зафіксаваныя назіральнікамі, апрацоўваліся ўручную і адразу выстаўляліся ў інтэрнэт. Туды ж, паралельна выбарчай інфармацыі, мы пачалі выстаўляць інфармацыю, датычную зьбіцьця дэманстрантаў ды іх затрыманьня. Тэлефон на офісе зьвінеў не змаўкаючы, сьпісы затрыманых папаўняліся і папаўняліся. Былі зьбітыя і затрыманыя кандыдаты ў прэзідэнты Андрэй Саньнікаў, Віталь

Рымашэўскі, Рыгор Костусеў, найбольшая колькасьць людзей затрымлівалася пасьля разгону мітынгу на прылеглых вуліцах, на прыпынках, на вакзале.

Аказалася, што мы яшчэ шчасьліва пакінулі плошчу і выйшлі з эпіцэнтра затрыманьняў па вуліцы Карла Маркса.

У 1997 годзе мне пашанцавала меней. Тады пасьля дэманстрацыі, якая прайшла па прасьпекце і была спыненая АМАПам перад плошчай Незалежнасьці, я таксама “адступіў” па Карла Маркса і быў затрыманы ў раёне беларускага гуманітарнага ліцэя, зараз будынка суда Цэнтральнага раёна. І хоць я паспрабаваў прыкінуцца выпадковым мінаком, але мне не паверылі. А на дэманстрацыю тады я выйшаў з васьмігадовым сынам Адасём, бо жонка зьехала на навучаньне, і, шчыра кажучы, зьбіраўся трохі пабыць і сысьці. Але не атрымалася. Адася я пакінуў “на гадзінку” пад апеку Паліны, маёй сяброўкі, а сам пачаў актыўнічаць. У выніку ноч я правёў у апорным пункце на вуліцы Леніна, у знакамітым доме, абвешаным памятнымі дошкамі, у якім месьціцца музей Петруся Броўкі. А Адась — у цёткі Паліны.

А гэтым разам вось абышлося. Мы сядзелі на варыўні, пілі гарбату, мае замежныя сябры безь перапынку перамаўляліся па тэлефонах. Журналісты са Швецыі і Нарвегіі тэлефанавалі ім, каб даведацца навіны зь першых рук. Нядоўгаю была “адліга”. На вачох у дзясяткаў замежных назіральнікаў і журналістаў мірная дэманстрацыя была разагнаная, многія людзі зьбітыя і затрыманыя, арыштаваныя кандыдаты ў прэзідэнты. Маскі згоды і міралюбства скінутыя, спалі лядашчыя белыя адзеньні, а пад імі аказаліся бліскучыя латы, і грозна клацнулі ваўчыныя зубы. А што яшчэ будзе?

Так мы прасядзелі зь дзьве гадзіны. Урэшце стомленыя госьці пачалі зьбірацца ў гатэль. Перад ад’ездам Берыт спыталася ў мяне: “Алесь, чым я магу дапамагчы?” — “Зараз нічым, — адказаў я. — Ідзі спаць, хутка і мы пойдзем, бо заўтра ж прэс-канферэнцыя”. — “Я перанес-

ла вылет на два дні”, — сказала Берыт. “Добра, — ухваліў я. — Твая прысутнасьць тут важная”. Я бачыў, як яна была ўзрушаная і ўсхваляваная. Яна вельмі хацела нечым дапамагчы, але чым тут можна дапамагчы, не ведалі ні яна, ні я. Берыт выклікала таксі, і нашыя госьці зьехалі.

Берыт была прыязджала і на выбары ў 2006 годзе. Усе дні і ночы, пакуль стаяў намётавы лагер на плошчы Каліноўскага, яна была ў Менску. Яна затэлефанавала мне на сотавы пад ранак і сказала мёртвым голасам: “Алесь, намёты акружыла міліцыя. Яны ўсіх пагрузілі ў машыны. Лагера больш няма”. Я тады падскочыў на ложку, як працяты токам. І ўжо так і не лёг спаць. Тады за плошчаю спынялі і Берыт. Але таптуноў уразіў яе нарвежскі пашпарт, і яе адпусьцілі.

Неўзабаве пасьля ад’езду сяброў мне патэлефанавала Валянціна Палевікова, былая старшыня жаночай партыі “Надзея”. Яна роспачліва крычала, што невядомыя ў масках ломяцца ў кватэру да старшыні Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі. “Я жыву побач, жонка Анатоля патэлефанавала мне. Я зараз стаю тут, каля пад’езда, што рабіць, Алесь?!” — лямантавала яна ў слухаўку. Што я мог дзельнага параіць ёй? Я быў бясьсільны. “Супакойцеся, Валянціна”, — сказаў я. А зь нявыключанага тэлефона чуў: “Што вы робіце?! Сволачы! Фашысты!” — “Што там, Валянціна?” — спытаўся я. “Яго вывалаклі з заламанымі рукамі і закінулі ў машыну”, — галосячы, адказала яна. “Трымайцеся”, — прамовіў я. Маё пажаданьне прагучала банальна і па-дурному. “Добра, Алесь, дзякуй”, — усхліпваючы, адказала Палевікова і адключыла тэлефон.

Бліжэй да трох ночы дзяўчаты-вясноўкі таксама выбраліся на таксі дадому. Зьбіраліся сыходзіць і мы, сёньняшні ўжо дзень абяцаўся быць не менш напружаным і цяжкім. Я сядзеў на варыўні, у кожным з двух пакояў нашага офіса працавалі вясноўцы, як раптам у калідоры-вітальні пачуўся нейкі грукат і тупат. “Міліцыя!” —

прагучала адтуль. Я вылецеў з варыўні: толькі гэтага не хапала! Аказалася, што, выходзячы з офіса, стомленыя і затлумленыя працаю дзяўчаты нікога не папярэдзілі і ўваходныя дзьверы ў наш офіс-кватэру былі незамкнёныя. Міліцыянты, якія, мабыць, чакалі пад вокнамі, бесьперашкодна ўвайшлі ў памяшканьне. Хлопцы павыскокvalі з пакояў: "Што вам тут трэба?" — і пачалі выпіхваць міліцыянтаў зь вітальні ва ўваходныя дзьверы. Тыя былі аж разгубіліся ад такога нахабства, але затым упёрліся і націск вытрымалі. "Хто гаспадар кватэры?" — узьвінчаным голасам, сапучы, пытаўся адзін зь іх. Я азваўся. "Вось пастанова на агляд кватэры!" — ён дастаў з папкі паперку. "Якая пастанова? Пофіг нам вашая пастанова!" — узарваўся яшчэ не астылы ад штурханіны адзін з маіх калегаў. Ён выхапіў паперку ў міліцыянта, падраў яе і кінуў на падлогу. Ізноў хлопцы закрычалі: "Вы хто такія?" — "Міліцыя! А вы хто такія?" — "Хто вам дазволіў сюды ўвайсьці?" — "У нас дазвол начальніка раённай міліцыі на агляд памяшканьня!" — "Дзе? Які дазвол? Пакажыце яго!" — "Дык вы ж яго падралі!" Енкі і лямант стаялі працяглы час. Але міліцыянтаў у вітальні станавілася ўсё болей і болей, іх набілася і ў форме, і ў цывільным, і нарад з аўтаматамі, у касках і бронекамізэльках, чалавек зь дзесяць. Стала зразумела, што ні выпхнуць, ні адгаварыцца ад іх не атрымаецца. Пачаліся перамовы.

Урэшце ў кватэры на час агляду засталіся я і Валянціна Сьвяцкая, а дванаццаць чалавек павезьлі "для ўдакладненьня асабістых дадзеных" у РУУС. Дзеля агляду прыйшлі панятыя: суседка з другога пад'езда, якую здолелі ўзьняць у такое раньне (з нашага пад'езда ніхто з суседзяў не пагадзіўся), і юрыст з гарвыканкама, з прапітым тварам, як аказалася, былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня, былы калега па ВС Сямдзянавай Галіны, якая актыўна назірала ў нашай грамадзянскай кампаніі.

І вось агляд распачаўся, ён нічым не адрозьніваўся ад

вобшуку. Нягледзячы на мае пратэсты, міліцыянты палезьлі і па шафах, і па скрынях, і па шуфлядках. Яны метадычна, адзін за адным пераглядалі, ператрушвалі ўсе пакоі. Найбольш іх цікавілі носьбіты інфармацыі: паперы, ноўтбукі, камп'ютары, дыскеты, флэшкі. У першым пакоі залезьлі яны і пад канапу, куды, калі барукаліся і цягаліся зь імі ў вітальні, адзін з нашых калегаў пасьпеў засунуць два ноўтбукі, і дасталі іх адтуль. Затым міліцыянты перайшлі ў іншы пакой, і, пакуль ад'ядноўвалі і запісвалі нумары працэсараў, я вярнуўся ў першы пакой, шкода было знойдзеных пад канапаю ноўтбукаў, тым больш што яны былі яшчэ не запісаныя, схапіў адзін з ноўтбукаў і зноў сунуў яго пад канапу. Затым я вярнуўся ў пакой, дзе праходзіў агляд, паклаў у кішэню сотавы тэлефон, забыты ў сьпешцы адным з калегаў, сказаў, што гэта мой, таксама засунуў у кішэню 3G-мадэм і флэшку. Усё іншае міліцыянты апісалі, запакавалі ў кардонныя скрынкі, у якіх у нас ляжалі ўлёткі з тэкстам "НЕ сьмяротнаму пакараньню!", вынесьлі і павезьлі ў РУУС. Усяго атрымалася, што забралі 17 камп'ютараў. Вынесьлі і відэаархіў, відэакасеты, якія я прынёс на офіс, каб іх перапісаць на дыскі. Забралі міліцыянты таксама і ворах малазначных папераў, якія валяліся ў нас па шуфлядках.

Агляд праходзіў каля дзьвюх гадзінаў. Валянціна таксама пасьпела прыхаваць свой нэтбук у торбе, зь якой звычайна хадзіла, міліцыянты не даглядалі асабістыя рэчы. Было зразумела, што прыход міліцыянтаў быў зьвязаны і з назіраньнем, якое мы праводзілі, і з разгонам дэманстрацыі, які адбыўся 19 сьнежня. Пэўна што загад правесьці гэты агляд, канфіскаваць камп'ютары і дакументы аддавалі з таго самага цэнтра, які меў дачыненьне да разгрому дэманстрацыі.

І гэта быў яшчэ адзін кепскі знак. У нашым офісе на гэтай кватэры мы знаходзіліся ўжо дзесяць гадоў, і ні разу справы не даходзілі да ўварваньня міліцыі і да канфіскацыі камп'ютараў. Былі трывожныя часы ў 2007 і

2008 гадах, калі па дзяржаўнай тэлевізіі паказвалі зьнятыя відэакамерай вокны нашай кватэры і “журналісты” паведамлялі: “У гэтай кватэры знаходзіцца офіс незарэгістраванай арганізацыі Куды глядзяць праваахоўныя органы?!” Гэта быў фактычна данос. Але і тады справы не даходзілі да ўварваньня ў кватэру.

Як толькі скончыўся агляд кватэры, нашых калегаў адпусьцілі. Нягледзячы на ўзрушанасьць, мы вырашылі разьехацца па хатах і трохі адпачыць перад прэс-канферэнцыяй. Арганізатары агляду і канфіскацыяў не ведалі, што апрацоўка дадзеных нашых назіральнікаў праводзіцца зусім у іншым месцы і што яшчэ да пачатку вобшуку-агляду апрацоўка дадзеных была ў асноўным ужо скончаная.

Тры чалавекі з затрыманых дванаццаці вярнуліся на офіс, бо вырашылі не матацца туды-сюды і паспаць на офісных канапах. Як толькі яны прыехалі з РУУСа, я адразу паехаў дадому.

## 26 жніўня 2012 г., Бабруйск

Пасьля шасьці гадзінаў раніцы, толькі я забыўся цяжкім сном пасьля мітынгу 19 сьнежня 2010 года, затым ягонага разгону, сьведкам якога я быў, і начнога агляду-вобшуку на офісе праваабарончага цэнтра “Вясна”, загудзеў мой сотавы тэлефон: “Алесь Віктаравіч, у дзьверы офіса званілі ў масках, а зараз спрабуюць адмычкаю адчыніць”, — ціха гаварыў у слухаўку адзін з маіх калегаў, які застаўся спаць на офісе. “Не адчыняйце, — сказаў я, — зараз прыеду”. Гэта ўжо выглядала значна сур’ёзьней за начны агляд. Калі ў іх ёсьць загад на мой арышт, то хавацца не было ніякага сэнсу, бо ўцякаць з краіны я не зьбіраўся.

Я разьвітаўся з жонкаю, бо адчуваў, што магу і не вярнуцца, тым болей, што ўначы па Менску пракацілася

хваля затрыманьняў. Я даехаў на метро, так было не марудней за таксі, якое трэба было выклікаць і чакаць, выйшаў на Акадэміі навук і пайшоў па прасьпекце наперад. Каля ўваходнай аркі з прасьпекта ў двор, дзе стаяў дом, у якім на першым паверсе і месьціўся наш офіс, стаяў высокі, са спартыўнай паставаю хлопец у джынсах і скураной куртцы. Што ў іх за мода такая: што ў міліцыянтаў, што ў кагэбэшнікаў — скураныя курткі насіць, ад Дзяржынскага ці што, падумаў я і спытаўся ў хлопца наўпрост: “Вашыя яшчэ тут?” Ён няпэўна кіўнуў і схапіўся за сотавы тэлефон. Каля нашага пад’езда стаялі двое гэткіх жа ж здаровых хлапцоў. Ужо разьвіднявала, і маскі яны закасалі ў чорныя шапачкі. Яны таксама былі ў скуранках. Я непрыкметна набраў па сотавым тэлефоне, шплікнуўшы кнопку “апошні выклік”, нумар калегі, які тэлефанаваў мне з офіса. “Я гаспадар кватэры, што вам трэба?” — спытаўся я. “Адчыніце кватэру”, — адазваўся адзін зь іх. “Ордар на вобшук у вас ёсьць?” — дзяжурна спытаўся я. Яны прамаўчалі. Пачуцьцё задавальненьня ахапіла мяне. Я ледзь не засьмяяўся. Ах, засранцы! Без ордара зьбіраліся ў кватэру залезьці! Значыць, справы мае не такія ўжо і паганыя. “Не, хлопцы, без ордара я вас у кватэру не пушчу”, — адказаў я і прыадчыніў уваходныя дзьверы ў пад’езд. Каля дзьвярэй у кватэру стаялі яшчэ двое хлопцаў у шапачках. Адзін зь іх калупаўся ў замку. “Вы хто? Прад’явіце вашыя дакументы! Што ці хто вам патрэбны?” — перайшоў я ў наступ. “Нам патрэбны Уладзімір Лабковіч”, — сказаў адзін зь іх. “Яго тут няма! Не ламайце замок! Прадстаўцеся!” — патрабаваў я. Уладзі на офісе сапраўды не было, ён пасьля міліцэйскага пастарунка паехаў спаць дадому. “Адчыніце дзьверы!” — патрабавалі яны. “Ага, так я вас і паслухаўся, можа, вы бандыты”, — адказаў я. “Былі б бандыты, мы б з вамі не размаўлялі”, — адказаў адзін зь іх, другі згодна хмыкнуў у адказ.

Гэтым часам на машыне да пад’езда пад’ехаў яшчэ адзін мой калега. Ён падышоў да нас, і цяпер мы ўдваіх

задавалі невядомым пытаньні. Але ні на воднае з іх не атрымалі адказу. Адзін з чарнашапачнікаў пагаварыў ціха па тэлефоне, затым закамандаваў сваім, каб адышлі ад дзьвярэй, і яны ўсёй чацьвёркаю, нічога не кажучы нам, пайшлі ў бок мікрааўтобуса зь цёмнымі шыбамі, які стаяў побач, заскочылі ў яго і зьехалі.

Мы зайшлі ў кватэру, убачылі напружаныя твары сваіх калегаў, якія перажылі гэтую спробу ўламаньня. Зараз мы ўжо ўвогуле перасталі зьдзіўляцца. Эпізод з ананімнаю камандаю чарнашапачнікаў здаўся лагічным працягам таго вар'яцтва, якое адбывалася ў горадзе з учорашняга вечара.

## 2 верасьня 2012 г., Бабруйск

Працягваю свой аповед. Пасьля візіту "масак" уранку 20 сьнежня 2010 года мы ўжо не разьязджаліся. Я патэлефанаваў дадому, што жывы, здаровы і на свабодзе, патэлефанаваў Уладзю, папярэдзіў, што яго шукалі невядомыя госьці, папрасіў, каб ён прыхаваўся і не мільгаў на людзях. З аднаго боку, не было прычынаў яго арыштоўваць, усю выбарчую кампанію ён, як і ўсе мы, адпрацаваў у назіраньні, і чаму тады шукалі і пыталіся пра яго, а не пра мяне ці Валянціна Стэфановіча? Але ён яшчэ сакратарнічаў у Фронце, можа, яго вырашылі падхапіць як ахвярную авечку ад БНФ. І хаця Костусева выпусьцілі, але хто іх ведае, гэтых вырашальнікаў лёсу многіх людзей у такі нервовы час.

Ужо мы ведалі пра хвалю арыштаў, якая пракацілася па кандыдатах у прэзідэнты і кіраўнікоў іхніх выбарчых штабоў. З бальніцы на коўдры ў "амерыканку" пацягнулі У. Някляева, былі арыштаваныя кандыдаты ў прэзідэнты М. Статкевіч, А. Міхалевіч, В. Рымашэўскі, А. Саньнікаў. Зьява нечуваная! Каб на наступны дзень пасьля выбараў пяцёра зь дзесяці кандыдатаў апынуліся

арыштаванымі! Гэта хіба што сусьветны рэкорд у гісторыі прэзідэнцкіх выбараў. Вартым жалю глядзеўся выступ па БТ кандыдата ў прэзідэнты Яраслава Раманчука. Яго псіхалагічна зламалі і паказалі народу, як паказвалі відных камуністаў — “ворагаў народа” ў 30-я гады.

Гэта ўсё было адной суцэльнай няпраўдаю, жахлівым трызьненьнем, зь якім трэба было неадкладна штосьці рабіць.

На офіс прыйшлі і нашыя замежныя сябры. Яны былі надзвычай устрывожаныя і ўсхваляваныя. “Чым мы можам дапамагчы?”— пыталіся Берыт і Роберт. “Будзьце з намі, — адказаў я, — нічым канкрэтным вы зараз не дапаможаце, але вашая прысутнасьць не зашкодзіць”. Па іх заклапочаных тварах было відаць, як блізка да сэрца яны прынялі ўбачанае ўчора і ў дадатак пачутае пра нашыя начныя прыгоды.

У офісе стаяў лёгкі вэрхал. Валяліся скінутыя ў кучу камп’ютарныя драты, на стале было вываленае ўначы падчас агляду зьмесьціва шуфлядак.

Нашая прэс-канферэнцыя прайшла спакойна і без эмоцыяў. Спакой быў мёртва-прыгнечаным, а эмоцыяў пасьля бурнай ночы і крытычнай раніцы ўжо не было. Выбары мы ахарактарызавалі як непразрыстыя, зачыненыя. Афіцыйныя вынікі, хоць і не былі яшчэ абвешчаныя, не выклікалі ніякага даверу. Нашым назіральнікам амаль на ўсіх участках, дзе яны назіралі, не далі ўбачыць, за каго ж насамрэч былі бюлетэні. Пры такім падліку галасоў, які праводзілі кантралюемыя выканаўчымі ўладамі камісіі, за кандыдата-фаварыта можна было атрымаць любыя працэнты “падтрымкі”. Падкрэсьліваю — любыя!

Празь дзьве гадзіны пасьля нашай сваю прэс-канферэнцыю правяла місія міжнародных назіральнікаў ад АБСЕ. Іхнія высновы практычна супадалі з нашымі.

Усё, што мы рабілі ў наступныя дні, тыдні і месяцы, апісаць немагчыма, бо гэта можа нашкодзіць працы праваабаронцаў у будучыні, таму спынюся толькі на некато-

рых эпізодах. Скажу толькі адно, што мы ўсе свае намаганьні, сувязі і ўплывы накіравалі на вызваленьне палітычных зьняволеных. Усе іншыя нашыя планы і праекты, у тым ліку і спадзяваньне на пасьлявыбарчы адпачынак пасьля напружанай працы ў назіраньні, адышлі на задні план. Бо нішто так не прыгнятае грамадскую атмасферу, як наяўнасьць у краіне палітзьняволеных. Як мы ні імкнуліся ў папярэднія два гады, пасьля выпуску з зоны Аляксандра Казуліна, умацаваць гэтую сітуацыю адноснай адсутнасьці палітычных зьняволеных, усё лопнула ўмомант. Грамадска-палітычная адліга ў краіне аказалася мыльнай бурбалкаю.

Дэманстранты былі абвінавачаныя ў спробе гвалтоўнага захопу ўлады. Па дзяржаўных тэлеканалах быў паказаны правакацыйны фільм “Жалезам па шкле”. У падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту абвінавачвалася большасьць кандыдатаў у прэзідэнты і сьцьвярджалася, што ў гэтым ім дапамагалі Германія і Польшча.

Брыдкаю была і публікацыя “За кулісамі адной змовы” (ад 15.01.2011) у газеце “Советская Белоруссия”, афіцыйным рупары уладаў. Напрыканцы ў гэтай публікацыі, сюжэтна аніяк не прывязаны, згадваўся і праваабарончы цэнтр “Вясна”. А менавіта, цытавалася вытрымка са скайпавай размовы мяне і аднаго з нашых польскіх сяброў. І калі праўдападобнасьць гэтай размовы выклікала сумнеў, то фотаздымкі дамовы аб супрацоўніцтве “Вясны” са шведскай арганізацыяй “Абаронцы грамадзянскіх правоў”, а таксама расьпіскі аб атрыманьні дапамогі адным з аштрафаваных уладамі актывістаў моцна насьцярожыла нас. Адразу прыгадаўся ўзлом невядомымі шуфлядак у нашым офісе. Гэтая распіска акурат і ляжала ў шуфлядцы. Прыгледзеўшыся да здымка, можна было зразумець, што зроблены ён быў уначы, бо збоку быў выразна бачны цень ад абажура настольнай лямпы. Відавочна, гэтыя “кампраметуючыя” здымкі ўставілі ў матэрыял чыста для построаху, бо яны зусім не мелі ніякага дачыненьня, як і вынятка са скайпавай размовы, ні да

выбараў, ні да дзейнасьці кандыдатаў у прэзідэнты. Відаць, што прынесьлі адпаведныя службы, тое і паставілі. Але ў любым выпадку гэта быў чарговы трывожны званок, які сьведчыў пра тое, што ўсе папярэднія месяцы адпаведныя службы вельмі ўважліва назіралі і адсочвалі дзейнасьць праваабаронцаў. Без сумневу, усе апошнія гады мы былі, як кажуць, пад каўпаком. Вялікага сюрпрызу ў гэтым не было. Але стала ясна, што мы апынуліся ў прыярытэтных аб'ектах для адсочваньня і ўвагі, як гэта было і з праваабаронцамі ў СССР. У мяне было такое адчуваньне, што гісторыя павярнула назад. Але мы не мелі ніякага права спыняцца, сьцішвацца. Мы проста павінныя былі ісьці далей.

Дзейнасьць па вызваленьні палітзьняволеных падзялялася на дзьве вялікія часткі. Першая — гэта тое, што рабілася ў самой краіне, і другая — што рабілася за яе межамі. Наш досьвед папярэдняй працы паказваў, што часта зьнешнія намаганьні былі больш эфектыўныя за ўнутраныя. Цяжка было дамагчыся разуменьня ў сваёй роднай краіне, дзе ўлады ўспрымалі любыя прапановы і меркаваньні праваабаронцаў як варожыя і небясьпечныя для самой улады.

Адразу пасьля Калядаў і Новага года, як толькі скончыліся сьвяты, мы ініцыявалі сустрэчу беларускіх праваабарончых арганізацыяў і нашых замежных сяброў праваабаронцаў. Напачатку мы распавялі пра агульную сітуацыю ў Беларусі пасьля выбараў. Карціна была сумная. Сядзелі і кандыдаты ў прэзідэнты, і актывісты іхніх штабоў, і лідары палітычных партыяў. Іх абвінавацілі ў "масавых беспарадках", што было крыху лягчэй за "падрыхтоўку дзяржаўнага перавароту", але ўсё роўна арганізатарам пагражала ад пяці да пятнаццаці гадоў зьняволеньня. Грамадска-палітычнае жыцьцё ў краіне было паралізаванае. Панавалі разгубленасьць і песімізм. Па вопыту папярэдніх выбараў я ведаў, што пасьлявыбарчы час, калі правядзеньне выбарчых кампаній прыводзіла да чарговай палітычнай паразы, наступаў час

упадку і паняверкі. І цягнуўся ён звычайна некалькі месяцаў, пакуль загойваліся раны, зьяўлялася новая актыўнасьць у дзеяньнях грамадскіх актывістаў. Але мы, праваабаронцы, не маглі сабе дазволіць апусьціць рукі. Пасьля брутальнага разгрому дэмакратычных палітычных сілаў менавіта праваабаронцы і дэмакратычныя журналісты апынуліся на пярэднім краі змаганьня за правы чалавека і дэмакратычныя правы ў нашай краіне. Зараз, калі палітычная воля дэмакратычных актывістаў была паралізаваная, на першы план мусілі выйсьці шырокія грамадскія дзеяньні падтрымкі і салідарнасьці з ахвярамі палітычных рэпрэсіяў.

Ад нашых замежных сяброў мы прасілі як мага хутчэй давесьці інфармацыю пра масавае парушэньне правоў чалавека ў Беларусі да сваіх грамадстваў і ўладаў краінаў. На наш погляд, рэакцыя дэмакратычных краінаў мусіла быць хуткай і жорсткай. Мы меркавалі, што толькі такая рэакцыя магла быць эфектыўным сродкам для вызваленьня палітзьняволеных. З нашага боку мы паабяцалі быць увесь час у кантакце і даваць усю неабходную інфармацыю па тым, як далей будуць разьвівацца падзеі.

На той сустрэчы мне запомнілася атмасфера спагады, заклапочанасьці і цеплыні. Моцна адчуваўся міжнародны кантэкст нашай працы. Мы былі сярод сяброў, размаўлялі зь сябрамі, я пераканаўся, што мы не застанемся з нашым клопатам сам-насам.

Мяне заўсёды ўражвала гэтая шчырая чалавечая адданасьць ідэям правоў чалавека праваабаронцаў з багатых і забясьпечаных краінаў. Можна зразумець, чаму грамадскія актывісты ў такіх краінах, як Беларусь, Азербайджан, Куба, займаюцца правамі чалавека, бо нам баліць за нашыя народы, за нашыя краіны, зблытаныя путамі карупцыі і няволі. Мы хочам, мы дабіваемся, каб жыцьцё ў нашых краінах было больш адкрытым, свабодным і справядлівым. А што змушае суперажываць беларусам, бірманцам, узьбекам людзей, якія маглі б спакой-

на жыць, рабіць пасьпяховыя кар'еры ў сваіх заможных і рацыянальна арганізаваных грамадствах?

Некалі я спытаўся ў майго знаёмага праваабаронцы са Швецыі, хаця там пра гэта і не прынята пытацца: "А колькі ты, як юрыст, атрымліваў бы, калі б працаваў не ў праваабарончай арганізацыі, а ў фірме?" — "Значна, значна болей, — адказаў ён. — Мае аднагрупнікі, з кім я вучыўся, амаль усе вельмі забясьпечаныя людзі".

Але кожны выбірае ў жыцьці сваю ўласную дарогу. Стан суперажываньня, жаданьне дапамагчы ў цяжкую хвіліну — такія натуральныя і простыя пачуцьці, закладзеныя ў аснову працы праваабарончых арганізацыяў. Дзясяткі і сотні тысячаў чалавек працуюць валанцёрамі, бясплатна ахвяруюць сваім асабістым часам, нервамі і грашыма. Гэтую людскую салідарнасьць зараз я адчуваю на сабе ў выглядзе дзясяткаў пікетаў, іншых акцыяў па ўсім сьвеце, у выглядзе лістоў і паштовак, якія пішуць мне самыя розныя незнаёмыя людзі з Францыі, Швецыі, Польшчы і Амерыкі. Штосьці ж закранула іх у маім лёсе, што прымусіла адарвацца ад штодзённых справаў, ад працы, сямейных клопатаў, адпачынку, узяцца за асадку і напісаць некалькі цёплых словаў. Сапраўды гэта так — чалавечая спагада і дабрыня не маюць межаў.

На другую частку віленскага спатканьня праваабаронцаў засталіся толькі беларусы. Мы пагаварылі пра свае абсягі працы. Трэба было неадкладна заняцца інфармаваньнем беларускага грамадства, давесьці да людзей наш пункт погляду на тое, што адбылося. Дзяржаўныя тэлеканалы і газеты лупілі з усіх калібраў па "злачынцах", якія арганізавалі і ўдзельнічалі ў "масавых беспарадках". Мы мусілі давесьці сваё бачаньне, зыходзячы з канстытуцыйных правоў і міжнародных нормаў. Тое, што адбылося 19 сьнежня і пасьля выбараў, не ўкладалася ні ў якія рамкі, меркавалі мы, і зьяўлялася грубейшым парушэньнем як беларускага, так і міжнароднага заканадаўства.

Трэба было арганізаваць дапамогу рэпрэсаваным. На

ўправе Фронту пачаўся стыхійны збор рэчаў: грошай для "сутачнікаў", бо былі затрыманыя і асуджаныя некалькі сотняў чалавек, а таксама для некалькіх дзясяткаў "крымінальшчыкаў". Дзеля таго, каб аддаць грошы і рэчы сядзельцам, ва ўправу некалькі дзён стаяла чарга людзей. На дапамогу былі сабраныя дзясяткі мільёнаў рублёў, эквівалентныя дзясяткам тысячам даляраў. Гэта быў добры знак. Урэшце лёс палітычных зьняволеных станавіўся клопатам не толькі іхніх сваякоў ды праваабаронцаў, да падтрымкі далучыліся тысячы людзей.

Трэба было забясьпечыць юрыдычную дапамогу, дапамагчы, наколькі магчыма, маральна і псіхалагічна сваякам. Трэба было сабраць матэрыялы і сьведчаньні, датычныя падзеяў падчас маніфэстацыі 19 сьнежня, якія маглі б скласьці аб'ектыўную карціну таго, што адбывалася ў той вечар у цэнтры Менска.

Мы вызначылі гэтыя дзеяньні і падзялілі, хто за што адказвае і хто чым будзе займацца.

Стасункі паміж рознымі беларускімі праваабарончымі арганізацыямі даўно ўжо моцна падмацаваныя сумеснай дзейнасьцю. Няма большага паразуменьня і яднаньня, якое ўзьнікае ў выніку супрацы. Мы разам працавалі ў дапамозе ахвярам палітычных рэпрэсіяў, у праваабарончай адукацыі, на міжнародных сустрэчах і форумах, у арганізацыі супольных грамадзянскіх кампаніяў, такіх, як "Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня", у назіраньні за выбарамі. Таму асабліва кагосьці ў чымсьці пераконваць не прыходзілася. Мы разумелі адзін аднаго з паўслова.

Як ехалі ўжо дадому, у Менск, я спрабаваў уладкаваць у галаве ўсё пачутае і намечанае. Урэшце, стомлены, падумаў: добра, што хоць увосень знайшоў час і пасьпеў пасадзіць купленыя ў Вільні цыбуліны кветак. Што б там ні было, а ўвесну дзівосныя галандскія цюльпаны і нарцысы расквітнеюць на маёй ракаўскай клумбе.

## 14 кастрычніка 2012 г., Бабруйск

Літаральна праз некалькі дзён пасьля катастрофы 19 сьнежня прыйшоў да нас на офіс "Вясны" расійскі праваабаронца Андрэй (Андрэй Юраў. — ***Рэд.***). Сам ён быў з Варонежа і ўзначальваў расійскі моладзевы праваабарончы рух, хаця яму ўжо гадоў каля 40 і называць яго маладым праваабаронцам ніяк не выпадае. Але ж гэта, мабыць, у нас, у Беларусі. А ў Расіі, дзе яшчэ актыўнічае і 70-гадовая і 80-гадовая праваабарончая гвардыя, такія легендарныя ўжо асобы, як Юры Арлоў, Людміла Аляксеева, Сяргей Кавалёў, то пэўна, што Андрэй быў яшчэ "маладым" праваабаронцам.

Беларускі ж праваабарончы рух не такі стары. Вось мне — 50, а я ўжо лічы што ветэран. А большая частка актыўных, вопытных і аўтарытэтных праваабаронцаў маладзейшая за мяне.

Андрэй займаўся ў асноўным праваабарончай адукацыяй, чытаў лекцыі на семінарах і для беларусаў, шчыльна супрацоўнічаў зь Вярхоўным камісарам па правах чалавека Рады Еўропы. Мы зь ім неаднаразова сустракаліся на праваабарончых імпрэзах у Варшаве, Вільні, Страсбургу. Андрэй, высакаваты і грузнаваты, у вечнай камізэльцы, з бакенбардамі, з крыху вальяжнымі манерамі, быў заўсёды добразычлівы і любіў пагаварыць.

Мы ўселіся на варыўні, пілі гарбату і размаўлялі. У гэты самы час ва ўсіх астатніх пакоях кіпела праца. Прыходзілі і выходзілі заплаканыя сваякі зьняволеных, удакладняліся і даваліся велізарныя сьпісы затрыманых, не змаўкалі, дзынкалі і сьпявалі тэлефоны. Андрэй прыйшоў параіцца, у чым бы расійскія, ды і не толькі, праваабаронцы маглі б у гэты час быць карыснымі для нас. "Мы ні ў якім разе не хочам вам замінаць", — казаў ён. Мы вызначыліся, што найважнейшай была б інфармацыя пра бягучыя падзеі ў Беларусі, якую яны рыхтавалі б як незалежныя назіральнікі для разнастайных расійскіх і міжнародных, замежных інстытуцыяў.

Неўзабаве быў кінуты заклік, і да расіянаў далучыліся праваабаронцы з Украіны, Арменіі. Некалькі дзясяткаў замежных праваабарончых арганізацыяў падтрымалі ідэю міжнароднага маніторынгу. Місія ператварылася ў міжнародную. І гэта была сапраўдная інтэрнацыянальная дапамога, карысная і патрэбная, бо ў беларускіх праваабаронцаў на ўсё на хапала рук.

Нашыя сябры рыхтавалі прэс-рэлізы па-руску і па-ангельску і шырока раскідвалі іх па Расіі, Еўропе і па ўсім сьвеце. Яны працавалі вахтавым метадам. На які тыдзень прыязджалі адныя і зьязджалі іншыя, так што ў Беларусі заўсёды знаходзілася група зь некалькіх чалавек. Малапрыкметныя, замяняльныя, назіральнікі нікуды асабліва не ўлазілі і не сьвяціліся надарэмна. Але яны заўсёды імкнуліся быць там, дзе штосьці адбывалася, ці дзе кагосьці затрымлівалі, ці ў каго праходзіў вобшук. А калі накапілася даволі фактаў, то міжнародная місія падрыхтавала некалькі бягучых аналітычных запісак, а праз колькі месяцаў і свой даклад. Амаль штодзень зьяўляліся бягучыя прэс-рэлізы па ацэнцы сітуацыі ў Беларусі.

Паралельна ў нетрах місіі ўзьнікалі розныя праваабарончыя ініцыятывы. Не ведаю, хто быў аўтарам гэтай ідэі, але даволі хутка сасьпела думка паспрабаваць у дачыненьні да Беларусі задзейнічаць Маскоўскі механізм АБСЕ. Мы, натуральна, падтрымалі гэтую ідэю.

Беларусь зьяўляецца сябрам АБСЕ. Гэтае сяброўства перайшло нам у спадчыну ад Савецкага Саюза. Менавіта ў час утварэньня АБСЕ, у 1975 годзе, краінамі-ўдзельніцамі былі падпісаныя Хельсінкскія пагадненьні, у рамках “разрадкі”, зьмякчэньня супрацьстаяньня Захаду і краінаў сацыялістычнага блока на чале з Савецкім Саюзам. Для праваабаронцаў жа Хельсінкскія пагадненьні былі каталізатарам для стварэньня шырокага міжнароднага праваабарончага руху.

Гэтаксама ў рамках АБСЕ былі прынятыя іншыя міжнародныя пагадненьні, адным зь якіх зьяўляецца і так званы Маскоўскі механізм, прыняты на нарадзе краі-

наў — удзельніц АБСЕ ў Маскве напачатку 90-х. Ягоны сэнс заключаецца ў тым, што ў пэўных выпадках, калі ў якой-небудзь краіне — сябры АБСЕ адбываецца штосьці надзвычайнае, тады па ініцыятыве дзесяці краінаў — удзельніц АБСЕ ствараецца група дасьледаваньня, ці маніторынгу, гэтага здарэньня ці зьявы. Гэты механізм надзвычайны, бо, як правіла, у дзейнасьці АБСЕ ўсе дакументы і рашэньні прымаюцца кансэнсусам. Апошні раз Маскоўскі механізм быў ужыты пры дасьледаваньні падзеяў, якія адбыліся ў Андзіжане, ва Узьбекістане ў 2006 годзе, дзе вайскоўцамі па загадзе ўладаў быў расстраляны мітынг і загінула больш за 500 чалавек, сярод якіх былі жанчыны і дзеці.

Мы меркавалі, што праца такой групы і падрыхтаваны ёю даклад па падзеях 19 сьнежня 2010 года будзе важкім фактам для аб’ектыўнай ацэнкі міжнароднай супольнасьці і прыняцьця адпаведных рашэньняў. Таксама мы спадзяваліся, што праца гэтай групы хоць у нейкай ступені паўплывае на будучыя крымінальныя працэсы над “дзекабрыстамі”, а таксама на іхні далейшы лёс.

З мэтаю прапанаваць запусьціць Маскоўскі механізм у студзені 2011 года адбылася сустрэча ў Вільні ў Міністэрстве замежных спраў Літвы. Чаму там? Бо ў 2011 годзе менавіта Літве пасьля Казахстана перайшло старшынства ў АБСЕ. Станоўчых момантаў для беларусаў, я маю на ўвазе дэмакратычную частку беларускага грамадства, было болей. Літоўская дзяржава, як сябра Еўрапейскага саюза, палітычна далучылася да судовай і жорсткай крытыкі беларускіх уладаў у сувязі з ламаньнем правоў чалавека і дэмакратычных свабодаў пасьля 19 сьнежня 2010 года. Літоўцы, як нашы суседзі, меркавалі адыграць прыкметную ролю ва ўрэгуляваньні гэтага міжнароднага палітычнага канфлікту. Літоўскія палітыкі і ўрад мелі дастаткова інфармацыі, каб уяўляць, што ж адбылося падчас прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Іхнія палітычныя эліты таксама добра памяталі савецкі таталітарны прыгнёт, а літоўскі народ адчуў усе яе “дасягненьні” на ўласнай скуры.

Але, зь іншага боку, менавіта суседнія Літва ды Латвія з краінаў ЕС хіба што найболей уцягнуліся ў гандаль зь Беларусьсю. Планы далейшага разьвіцьця супрацоўніцтва былі сур’ёзныя і вялікія. Таму пагаршэньне палітычных стасункаў, якое цягнула за сабой непазьбежнае пагаршэньне і эканамічных сувязяў, было малапрыемным сюрпрызам для літоўскіх палітыкаў і дыпламатаў.

У МЗС мы сустракаліся з чыноўнікам, адказным за старшынства Літвы ў АБСЕ. Гэта быў сталага веку, за 60 гадоў, маларухомы і інфантыльны, на першы погляд, дыпламат. Гледзячы і слухаючы яго, я падумаў, што жыцьцёвы досьвед прыносіць з сабой не толькі мудрасьць, але і стомленасьць.

Напачатку ён даволі скептычна паставіўся да нашых прапановаў. Ён павольна так, па-літоўску, разважаў, а ці знойдзецца неабходная колькасьць дзяржаваў для ініцыяцыі Маскоўскага механізма, ці ўдасца створанай групе сабраць дастаткова матэрыялаў для падрыхтоўкі якаснага даклада, ці пусьцяць, урэшце, групу ў Беларусь і як адрэагуюць беларускія ўлады на дзейнасьць гэтай групы і на падрыхтаваны ёю даклад. Мы спрабавалі адказваць на гэтыя пытаньні, разважалі, мадэлявалі розныя сітуацыі, і нашая размова хутчэй нагадвала не афіцыйную сустрэчу, а сяброўскую гутарку.

Зь ягоных словаў я зразумеў, што падзеі 19 сьнежня і паводзіны беларускіх уладаў былі поўнай нечаканасьцю для літоўцаў, бо яны, на думку літоўцаў, не мелі ніякай логікі і былі на шкоду самой уладзе. А вось мы, праваабаронцы, добра разумелі, што тое, што здавалася нелагічным і ненармальным для прызвычаеных ужо да цывілізаваных паводзінаў у палітыцы літоўцаў, насамрэч было вельмі натуральным для нашых уладаў. І разгон маніфестацыі 19 сьнежня 2010 года стаяў у адным шэрагу з разгонамі дэманстрацыяў у 1996, 1997, 1999, 2006 гадах. Мы, беларускія праваабаронцы, якія ўсе гэтыя гады адсочвалі і зьбіралі інфармацыю аб парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі, ведалі гэта лепей, чым

хто-небудзь. Штогод тысячы людзей перасьледаваліся самым розным чынам. За свае палітычныя перакананьні, за грамадскую і палітычную дзейнасьць.

Занадта даверлівымі і рацыянальнымі адначасова сталі літоўцы. Занадта рана яны пастараліся забыцца на тое, што такое аўтарытарны рэжым.

Урэшце, як мне падалося, мы крыху разварушылі літоўскага дыпламата. Падчас размовы стомленасьць у ягоным поглядзе зьнікла, і ён актыўна і неабыякава падтрымліваў гутарку.

Пасьля сустрэчы мы абмяняліся паміжсобку думкамі. Высновы былі такія: мо з гэтага рая што і будзе.

Пасьля гэтай сустрэчы мінула два з паловай месяцы, і 6 красавіка 2011 года Маскоўскі механізм у дачыненьні да Беларусі быў запушчаны. Яго падтрымалі 14 дзяржаў — сяброў АБСЕ.

У адзін з чарговых прыездаў Андрэя ў Беларусь, у групу міжнароднай назіральніцкай місіі, яго затрымалі міграцыйныя службы і паставілі ў ягоны расійскі пашпарт беларускі штэмпель, які забараняе ўезд у Беларусь, і выправадзілі зь Беларусі. Ён быў першым выкінутым зь Беларусі праваабаронцам зь міжнароднай назіральніцкай місіі, але не апошнім. Беларускія ўлады ўрэшце заўважылі місію нашых замежных калегаў і не пажадалі бачыць іх у Беларусі. Ім хапала клопату і са сваімі праваабаронцамі. Ад нашых сяброў зь міжнароднай назіральніцкай місіі атрымалі яны, між іншага, і Маскоўскі механізм АБСЕ па Беларусі.

Я, шчыра кажучы, быў моцна зьдзіўлены. Тое, што напачатку здавалася голай і нерэальнай ідэяй, на практыцы спрацавала. Гэтая ідэя з Маскоўскім механізмам была чыста няўрадавай ініцыятываю. І дзякуючы дзеяньням праваабаронцаў нам удалося запусьціць гэты механізм у патрэбным накірунку. Натуральна, што і пасьля гэтай сустрэчы ў МЗС Літвы былі яшчэ дзясяткі размоваў з палітыкамі, дыпламатамі розных краінаў — удзельніц АБСЕ, дзе мы ў розных месцах, пры розных

нагодах казалі адно і тое ж. Намі быў створаны і распаўсюджаны дакумент, у якім мы, прадстаўнікі беларускіх і замежных праваабарончых арганізацыяў, сцьвярджалі, што такі міжнародны інструмент, як Маскоўскі механізм, быў бы вельмі карысным для паляпшэньня сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

І вось знайшлася неабходная колькасьць дзяржаваў — сяброў АБСЕ, якія выступілі за актывізацыю Маскоўскага механізма ў дачыненьні да Беларусі.

У выніку працы групы дасьледчыкаў у чэрвені 2011 года быў падрыхтаваны даклад. Даклад атрымаўся крытычны. Беларускія ўлады крытыкаваліся за парушэньне міжнародных пагадненьняў па абароне грамадскіх і палітычных правоў, якія Беларусь мусіла выконваць як іх падпісант.

Дзякуючы ж сваёй актыўнай рабоце ў маніторынгу пасьлявыбарчай сітуацыі ў Беларусі нашыя калегі зь міжнароднай назіральніцкай місіі часта запрашаліся на розныя міжнародныя форумы ў якасьці эксьпертаў і вельмі дастойна там гаварылі пра існуючыя праблемы з правамі чалавека ў Беларусі.

На маю думку, праца міжнароднай назіральніцкай місіі ў Беларусі пасьля выбараў 2010 года была ўнікальнай зьяваю. І па маштабе салідарнасьці праваабаронцаў з розных краінаў зь беларускай грамадзянскай супольнасьцю, і па выніковасьці і эфектыўнасьці працы. За паўгода, а прыкладна столькі пратрымалася амаль безь перапынку міжнародная назіральніцкая місія ў Беларусі, была праробленая вялікая і прафесійная праца, напісаныя дзясяткі прэс-рэлізаў, падрыхтаваны даклад.

Падчас суду нада мной сябры-калегі зь місіі гэтаксама знаходзіліся ў судовай зале, тыя зь іх, хто мог уехаць у Беларусь. Нягледзячы на забарону, зьбіраўся прыехаць у Менск і Андрэй, але яго адгаварылі, папрасілі не ехаць, бо яго, расійскага грамадзяніна, чакаў тут немінучы арышт.

## 18 кастрычніка 2012 г., Бабруйск

У Варшаву за першую палову 2011 года я езьдзіў тройчы. Першая паездка была на канферэнцыю, зладжаную найбольш уплывовай на той час партыяй Грамадзянская платформа, 13 студзеня. І прэм'ер-міністр, і прэзідэнт, і большасьць міністраў — прадстаўнікі гэтай партыі. Усе значныя палітычныя сілы ў Польшчы, як бы яны ні канкуравалі паміж сабой, маюць кансалідаваную пазіцыю па Беларусі. Усе яны выступаюць за падтрымку дэмакратыі, свабоды слова і правоў чалавека ў Беларусі.

Такая пазіцыя палякаў склалася ў выніку перажытага імі перыяду камуністычнай дыктатуры і шматгадовага змаганьня за сваю свабоду і дэмакратычны лад. Палякі першыя на пачатку 80-х гадоў стварылі магутны масавы рух, незалежны прафсаюз працоўных "Салідарнасьць", і ўзарвалі, здавалася б, непарушны бастыён дзяржаў прасавецкага камуністычнага блока. І нягледзячы на шматлікія рэпрэсіі і ахвяры, у канцы 80-х гадоў яны першыя скінулі ненавісную ім камуністычную дыктатуру. Таму ў сучаснай палітычнай культуры польскіх грамадскіх і палітычных элітаў прысутнічаюць поўнае разуменьне, што такое дыктатура і аўтарытарны рэжым, непрыняцьце падаўленьня правоў чалавека ў любых формах, шчырая спагада і жаданьне дапамагчы іншым паняволеным народам. Менавіта польскія палітыкі зьяўляюцца пасьлядоўнымі ініцыятарамі падтрымкі дэмакратыі, правоў чалавека як у межах Еўрасаюза, так і праз уласнапольскія праграмы і ініцыятывы. У значнай ступені яны накіраваныя на суседнія з Польшчай дзяржавы — Беларусь, Украіну, Малдову, але таксама і на далёкія краіны, такія, як Бірма, Куба, дзе адчуваецца дэфіцыт дэмакратыі.

Дык вось гэтая канферэнцыя была прысьвечана бягучай сітуацыі ў Беларусі. Праходзіла яна ў адным з урадавых памяшканьняў. Прыйшло багата палітыкаў, прадстаўнікоў няўрадавых арганізацыяў, журналістаў. Было,

можа, каля 200 асобаў. Цікавасьць да таго, што ў нас адбылося 19 сьнежня і што адбывалася пасьля, спагада, жаданьне дапамагчы былі велізарнымі.

Не ўсе запрошаныя зь беларускага боку здолелі патрапіць на канферэнцыю. Шэраг выпрабаваньняў і прыгодаў чакалі жонку кандыдата ў прэзідэнты палітычнага зьняволенага Алеся Міхалевіча. Спачатку перад самым ад'ездам у іхняй кватэры ў Менску арганізавалі вобшук. Падчас вобшуку яе папярэдзілі, што лепей ёй гэтым разам нікуды не езьдзіць і сядзець удома. У выніку яна спазьнілася на цягнік, але ўсё ж паехала на машыне. Машыну спынілі на трасе каля Баранавічаў, у Міланы "для праверкі" забралі пашпарт, і на канферэнцыю яна так і не патрапіла.

Усе астатнія ўдзельнікі зь Беларусі, у тым ліку і я, даехалі без праблемаў. І тым больш было незразумела тады, навошта было перасьледаваць бедную Мілану і чаму менавіта яе. Лагічнага адказу ў мяне няма і дасюль. Можна было б зразумець, калі б адлоўлівалі і не пускалі ўсіх беларускіх удзельнікаў канферэнцыі ці самых "важных" і "небясьпечных". А так усе даехалі, можна сказаць, камфортна. А Мілане адной дасталося за ўсіх. І яе непрыезд яшчэ больш падкрэсьліў і вылучыў усю непрывабнасьць і абсурднасьць сітуацыі ў Беларусі.

На канферэнцыі зь беларускага боку выступілі: жанчына, зьбітая дубінкамі на плошчы Незалежнасьці каля Дома ўрада, актывіст каманды аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты, якога шукалі пасьля плошчы сьпецслужбы і які, апасаючыся арышту, зьехаў у Польшчу. Таксама выступалі адзін з назіральнікаў палітычнай партыі, якая брала ўдзел у выбарах, і я. Я казаў пра тое, што, на погляд праваабаронцаў, нічога нечаканага ў краіне не адбылося. Так, можа, хто ў Беларусі і за яе межамі і меў ілюзіі наконт магчымых паступовых пазітыўных зьменаў у краіне, але зараз, паралельна зь пераасэнсаваньнем сітуацыі, патрэбна як мага хутчэй арганізаваць да-

памогу дэмакратычнай супольнасьці Беларусі па ўсіх неабходных накірунках.

Здаецца, сваю місію мы выканалі. Далі агульную аб'ектыўную карціну таго, што адбывалася ў краіне пасьля выбараў, як для шырокай грамадскасьці, так і для палітыкаў Польшчы. І ўжо падчас канферэнцыі была агучаная і ўхваленая ідэя правядзеньня наступнай шырокай канферэнцыі з удзелам краінаў-донараў, якія былі б гатовыя вылучыць фінансавыя сродкі на падтрымку ахвяраў палітычных рэпрэсіяў і дэмакратычнай супольнасьці ў Беларусі ў гэтыя няпростыя і цяжкія часы.

## 7 траўня 2013 г., Бабруйск

17 студзеня 2011 года быў звычайны працоўны дзень, з тых "звычайных" студзеньскіх дзён, запоўненых бягучымі справамі, зьвязанымі са сьнежаньскай трагедыяй. У агульнай атмасферы страху і паняверкі офіс "Вясны" выглядаў як мурашнік, дзе мы, як тыя працавітыя мурашы, няўтомна арганізоўвалі дапамогу ахвярам па ўсіх магчымых накірунках.

Зранку я ўжо быў на працы, калі патэлефанаваў сын Адам і сказаў сонным голасам, што ў дзьверы хтосьці званіў. Ён вучыўся ў магістратуры Акадэміі мастацтваў і звычайна працаваў за камп'ютарам па начох, а днём адсыпаўся. Таму, калі пачуў званок у дзьверы, прачнуўся, падышоў, паглядзеў на экран відэадамафона, убачыў там каля дзьвярэй трох незнаёмых мужыкоў і не стаў адчыняць. Ён патэлефанаваў мне, затым маёй жонцы, а сваёй маці, якая таксама была на працы, і пайшоў спаць далей.

Тацьцяна ўжо апісвала падзеі гэтага дня ў кніжцы Валера Каліноўскага, бо на яго якраз прыпадае яе дзень нараджэньня. Але я тым не менш паўтаруся за ёй, бо ў кожнага з нас, тых, хто быў тым днём на офісе "Вясны", — свае ўспаміны.

Амаль месяц ужо як мы працавалі ў надзвычайным рэжыме, без выходных і праходных, а калі да іх яшчэ дадаць чатыры месяцы назіраньня за выбарамі, дык можна сабе ўявіць стан агульнай стомленасьці і зморы. Я нават не памятаю, ці зьбіраліся мы адзначаць дзень нараджэньня Тацьцяны, уручыць ёй які-небудзь сімвалічны падарунак ды выпіць па шклянцы віна, як звычайна мы рабілі, — наўрад ці. Не да дня нараджэньня нам тады было.

Пасьля званка Адама я пайшоў у іншы пакой, дзе працавалі нашыя юрысты, і сказаў ім пра гэты дзіўны візіт незнаёмых мужыкоў да мяне на кватэру. Юрысты выслухалі, шматзначна паківалі галовамі, і гэта была ўся іхняя рэакцыя. Урэшце я таксама не ўзяў да галавы гэты клопат. Затым патэлефанавала ўсхваляваная жонка, я адно што сказаў ёй: “Будзь пільнай і асьцярожнай”.

У гэты час на офіс прыйшла адная наша знаёмая маладзіца з чатырохгадовай дачкой, пабыла ў нас з паўгадзіны і зазьбіралася дадому. Дачка ў яе была не па гадах сур’ёзная, кемлівая, вельмі любіла салодкае, але ёй не падабалася нудзіцца на офісе. Не пасьпелі яны выйсьці, як адразу ж вярнуліся назад, і да нас у пакой убег узрушаны юрыст, які выгукнуў, што маладзіца гэтая ўбачыла каля нашага пад’езда падазроных асобаў у цывільным. Таму яна вярнулася, каб папярэдзіць нас. Зараз толькі да мяне дайшло, што гэта ж, мабыць, тыя самыя людзі, якія спрабавалі знайсьці мяне ўдома.

Жанчына гэтая з дачкой ціхенька выйшла ізноў, я зазірнуў ва ўсе пакоі офіса, а ў нас людзей — поўна! У кожным з трох пакояў па некалькі чалавек — працуюць на аднаўленых пасьля канфіскацыі, прыцягнутых з дома і падораных нам камп’ютарах, штосьці пішуць, кожны заняты сваёй справаю. Я ўсіх папярэдзіў, што чакаем няпрошаных гасьцей. Як казала мая бабуля, з поля вецер, з сракі госьці.

Уваходныя дзьверы адразу зачынілі на ўсе замкі, камп’ютары павыключалі, сьвятло патушылі. І літаральна

праз пару хвілінаў ужо быў званок у дзьверы. Я ізноў прайшоў па пакоях, было зразумела, што будзе хутчэй за ўсё вобшук, і пайшоў да свайго стала, набраў розных прыватных папераў, якія не хацеў каб бачылі чужыя цікаўныя вочы, і пайшоў у прыбіральню — драць іх і змываць. У гэты час у пакоях ліхаманкава раскручваліся працэсары і даставаліся са стацыянарных камп'ютараў блокі памяці.

Перыядычна ў дзьверы званілі і грукалі, у прыбіральні змывалася вада, а ў пакоі стаяў ціхі шэлест і шоргат. Хтосьці з вясноўцаў ужо тэлефанаваў журналістам і нашым калегам зь іншых праваабарончых арганізацыяў.

Я ўсё яшчэ парадкаваў паперы, як з пакоя прыбег узбуджаны Сяржук і запытаўся пра ключ ад замка, якім у нас замыкаліся аконныя краты на варыўні. Усе вокны ў офісе былі закратаваныя, бо нашая кватэра знаходзілася на першым паверсе, а на кухні-варыўні краты на акне былі на завесах і зачыненыя на замок. Мы зрабілі гэтак у мэтах пажарнай бясьпекі. “Пашукай у шуфлядках сталоў, — параіў я яму, — дзесьці там я бачыў гэты ключ”. Адарвацца ад прыбіральні я яшчэ не мог. Сталоў у нас было багата, і дзесьці хвілінаў празь пяць ціха падбег на дыбачках, каб не рыпеў паркет, яшчэ больш узрушаны Сяржук. Ён знайшоў ключ!

## 8 траўня 2013 г., Бабруйск

Вось жа, калі Сяржук адшукаў закінуты ў шуфлядку аднаго са сталоў ключ, я сказаў яму: “Ідзі на варыўню і паспрабуй адчыніць замок на кратах. І паглядзі, калі ласка, ці ёсьць там хто пад вокнамі. Толькі асьцярожна”. Акно з варыўні выходзіла на тыльны бок дома. Хто яго ведае, можа, гэтыя невядомыя хлопцы ў цывільным, якія так настойліва тарабанілі ў дзьвярны званок, і не дадумаліся стаць пад усімі вокнамі кватэры, можа, яны і

не ведаюць, якія зь іх нашыя, а якія — не, падумаў я. А сам працягваў драць паперы і змываць іх у прыбіральні.

Яшчэ праз некалькі хвілінаў у мяне зазваніў тэлефон. Вызначальнік званкоў паказаў, што тэлефануе Сяржук. “Што там?” — спытаўся я ў яго. “Я ўжо выбраўся, — паведаміў ён, — тут нікога няма”. Вось табе і безнадзейная сітуацыя. Небясьпека ўключыла ўсе выратавальныя інстынкты, і выйсьце знайшлося.

Тут я ўжо кінуў драць свае паперы і пабег па пакоях. Ліхаманкава была сабраная наступная партыя вясноўцаў. Неўзабаве з ноўтбукамі ў пляцаках, з камп’ютарнымі блокамі памяці за пазухай яны былі гатовыя. Першымі дэсантуюцца з акна хлопцы. Ад падваконьніка да долу крыху меней за два метры, амаль на паўметра ляжыць сьнег. Затым мы падсаджваем на падваконьнік дзяўчатаў, ссаджваем іх з падваконьніка на вуліцу, а хлопцы прымаюць іх унізе пад акном. Так сыходзіць і другая партыя. У дзьверы, як і раней, бесьперапынна звоняць і грукаюць. Але дзьверы ў нас моцныя, жалезныя, на рыгельным замку, з тоўстымі сталёвымі пальцамі-стрыжнямі ва ўсе чатыры бакі. Такія так проста не возьмеш, іх трэба выбіваць жалезнай кувалдаю ці разразаць аўтагенам. Таму час у нас яшчэ быў. Засталася ў кватэры Тацьцяна — імяніньніца, Ірына ды мы з Валянцінам. Дзяўчаты паглядзелі з акна — завагаліся. Ірына сказала: “Высока, я скакаць не ўмею і баюся”. Я супакойваю іх і прысьпешваю: “Там сьнег, не бойцеся, калі і ўпадзяцеся, дык не паб’яцеся, а мы ж вас трымаць будзем”. Тацьцяна і са сьмехам, і са скрухаю лямантуе: “Гэта ж трэба! Дажыць да такіх гадоў і ў свой дзень нараджэньня з акна скакаць!” — “Давайце, давайце, — угаворваю я дзяўчат, — часу мала, мы тут самі неяк рады дамо”. Урэшце яны пагаджаюцца, і мы ссаджваем іх у акно.

У дзьверы ўсё працягваюць званіць і грукаць. У кватэры-офісе нязвыкла пуста. Упершыню за апошні месяц удзень тут апроч нас дваіх нікога няма! Паўгадзіны таму пачалася асада нашага офіса. Дзяўчаты з хлопцамі патэ-

лефанавалі, яны ўсе выйшлі з-за дома без клопату. Хлопцы ў цывільным, якіх паболела каля пад'езда, не зьвярнулі на іх увагі.

Урэшце мы з Валянцінам адчыняем уваходныя дзьверы. На лесьвічнай пляцоўцы стаіць цэлая гурма людзей. Тут і хлапцы ў скуранках, і два міліцыянты ў форме, і два амапаўцы ў бронекамізэльках, тут і знаёмыя калегі-праваабаронцы з журналістамі разам. І ўсе яны са зьдзіўленьнем паглядаюць на нас.

Пра тое, як адчыніліся дзьверы, і пра першыя хвіліны заходу ў офіс хлапцоў у цывільным ёсьць цікавы відэаролік, які здолеў зьняць журналіст БелаПАН. Не пасьпеў я адчыніць дзьверы і пакуль высьвятляў паўнамоцтвы хлопцаў у цывільным, як гэты напорысты журналіст зь відэакамерай першым заскочыў у кватэру і добрасумленна зазьняў усе нашыя перамовы.

Размаўляў я са спадаром з даволі распаўсюджаным прозьвішчам. Ён прадставіўся, адпусьціў нарад АМАПа з жэсаўскім сьлесарам, якога выклікалі ўзломваць дзьверы, і паказаў мне пастанову на вобшук. У санкцыі пракурора было напісана, што вобшук будзе праводзіцца ў рамках крымінальнай справы № 10011110362, узбуджанай па масавых беспарадках. Ну вось, падумаў я, так можна пасьля гэтага вобшуку і ў "амерыканцы" апынуцца. Да нас даходзілі некаторыя зьвесткі, што кантора глыбокага бурэньня, якая валодала гэтым "гатэлем", апошнім часам актыўна праводзіла пошукавыя працы ў накірунку "Вясны".

## Бабруйск (15.05.2013 па штэмпелі)

Хлопцы ў цывільным з чырвонымі пасьведчаньнямі прайшліся па пакоях. Яны былі відавочна разгубленыя, бо чакалі ўбачыць тут плойму народу. Затым яны са спрэчкамі выставілі з кватэры праваабаронцаў і журналістаў,

запрасілі панятых. Галоўны хлопец у цывільным зазірнуў у прыбіральню, убачыў у стульчаку разьмяклы папяровы камяк, бо не ўсё з таго, што я драў, змылася. Ён чмыхнуў, але ў стульчак не палез. Падумаў, штосьці зьмікіціў і закамандаваў іншаму хлопцу ў цывільным праверыць вокны. Той убачыў на варыўні, што краты адчыняюцца, вярнуўся і буркнуў пра гэта. Галоўны хлопец у цывільным чмыхнуў яшчэ раз. Позна, усьміхнуўся я сам сабе.

Пачаўся вобшук. Бліжэйшыя суседзі з пад'езда панятымі не пайшлі, паадмаўляліся, праявілі негалосную салідарнасьць. Сядзелі незнаёмыя людзі зь іншых пад'ездаў нашага дома і спачувалі. Галоўны хлопец у цывільным патэлефанаваў, мабыць, свайму начальніку і даклаў: "Пакуль яны зачыненыя сядзелі, "мурзілкі" ўсе падралі і змылі ў туалет, а ноўтбукі натоўп вынес, які ў кватэру зайшоў". Я ізноў пасьміхнуўся сам сабе. Маніць галоўны хлопец яшчэ галоўнейшаму, не хоча прызнавацца, што дапусьцілі нядбайнасьць, пра акно на варыўні яны не дадумаліся. І сказаў жа як: "мурзілкі". Тут, дзе я зараз знаходжуся, гэтае слова мае вельмі канкрэтны сэнс, але тады я яго яшчэ не ведаў.

Вобшук ідзе па знаёмай мне ўжо схеме, як было гэта месяц таму, — пакой за пакоем. Просяць мяне адчыніць усе верхнія шуфлядкі сталоў, зачыненыя на замочкі. Я шукаю ключыкі, якія валяюцца ў пісьмовых прыборах сярод змацовак і прысьцебак ды іншай канцылярскай дробязі, знаходжу іх і адчыняю. У адным пакоі забіраюць з шуфлядкі стала нейкія неістотныя паперы. У другім пакоі знаходзяць ноўтбук у канапе, які туды схавала адная з вясновак. Яна пайшла з офіса яшчэ да асады, і мы нават не ведалі, што гэты стары, цяжкі ноўтбук ляжыць у шуфлядзе пад канапаю. Мне зусім не шкода яго.

Хлопцы ў цывільным ніякім чынам не выказваюць сваіх эмоцыяў. Проста працуюць, будзённа, метадычна і наспрактыкавана. Яны шукаюць паперы, флэшкі, дыскі, усялякія носьбіты інфармацыі. Тварамі іхнія засяроджа-

ныя і заклапочаныя. Старэйшы хлопец спрабуе жартаваць і хахміць. Я ніяк не рэагую на ягоныя прапановы сустрэцца ў больш спакойнай атмасферы і паразмаўляць, “папіць чайку”. Я пільна назіраю за тымі, хто праводзіць вобшук, каб, не дай Бог, нічога не падкінулі. Хаця, мабыць, калі б захацелі, дык падкінулі б, і маё пільнаваньне не дапамагло б. У чымсьці яны робяць ляпы, а ў нечым — прафесіяналы.

Урэшце вобшук сканчаецца, мне на рукі аддаюць акт зь пералікам забраных паперак і ноўтбука. Але яны не сыходзяць проста так. “Праедземце з намі”, — гаворыць галоўны хлопец у цывільным. “Куды?” — пытаюся я. “Ва ўправу”, — адказвае ён і пасьміхаецца. Мабыць, на допыт, думаю я, няўжо затрымаюць? Пустая справа. Пустая, як наш бедны офіс.

Асада кватэры пачалася дзесьці пасьля чатырох, каля пяці яны ўвайшлі ў офіс, зараз было дзесьці каля сямі гадзінаў вечара.

Мы выйшлі на вуліцу. Было ўжо цёмна. У студзені дзень зусім кароткі. На вуліцы чакалі журналісты і калегі-праваабаронцы. Я сказаў сваім вясноўцам, што мяне вязуць ва ўправу, мабыць на допыт. Мы сядаем у машыну, і яна кіруе… на плошчу Перамогі. Па дарозе мне паказваюць іншы ордар на вобшук кватэры, дзе я жыву з жонкаю і сынам.

## Бабруйск (15.05.2013 па штэмпелі)

*Заканчваю сваю гісторыю.*

Калі праходзіла асада нашага офіса, я патэлефанаваў жонцы і коратка паведаміў ёй. Яна ў той час яшчэ працавала. Вось жа мы пад’ехалі да нашага дома. Я сказаў, што ключоў ад кватэры не маю (схітрыў, вядома. Ключы ляжалі ў мяне ў кішэні). Галоўны хлопец у цывільным

званіць да некага з суседзяў і просіць, каб адчынілі дзьверы ў пад'езд. Мы ўзьнімаемся на трэці паверх, падыходзім да дзьвярэй і звонім. Цішыня. Ніхто не адчыняе. "Жонка на працы, а сын недзе ходзіць", — тлумачу я, гаворачы палову праўды. Сын у гэты час быў удома.

Адам потым распавёў, што падышоў і паглядзеў на экран відэадамафона, убачыў там мяне разам зь некалькімі незнаёмымі мужыкамі і зноў, як і ўранку, вырашыў не адчыняць, пайшоў спаць далей. "Ну ў цябе і нервы, Адам!" — пазайздросьціў яму я.

Мы з хлопцамі ў цывільным тым часам пайшлі ад кватэры ў дол лесьвіцы. Яны вырашылі, што стаяць пад дзьвярыма — марна губляць час. Толькі мы падышлі да пад'езных дзьвярэй, як яны адчыніліся і ў пад'езд зайшла... мая жонка. Я знарок гучна кажу штосьці сваім суправаджальнікам і раблю выгляд, што не пазнаю яе. Жонка, убачыўшы са мной цэлы натоўп мужыкоў у скуранках, а іх было чалавек сем, адразу зразумела, у чым справа. Мы, як дасьведчаныя падпольшчыкі, праходзім адзін паўз аднаго, адвярнуўшы галовы, і нашая гурма мужыкоў выходзіць-вывальваецца з пад'езда.

Пазьней Натальля распавядала, што адзін з тых, хто выходзіў апошнім, сказаў другому: "Можа, гэта яна?" Яны нават троху прытармазілі. І яна пайшла па лесьвіцы ўгору, на паверх вышэй за нашую кватэру, знарок гучна цокаючы абцасамі па бетонных прыступках. Калі мы ўсё ж выйшлі з пад'езда, яна спусьцілася, адчыніла дзьверы і ўвайшла ў кватэру. Адам спаў.

У гэты час на вуліцы хлапцы ў цывільным раіліся, што рабіць далей: "Ну што, будзем чакаць?" — "Паедзем у вёску". І яны паказалі мне трэці за сёньня ордар на вобшук у нашай вясковай хаце. "Ключы ад хаты ў вас ёсьць?" — запыталіся ў мяне хлопцы ў цывільным. Я, пару секунд падумаўшы і прыкінуўшы, што вялікага сэнсу затрымліваць вобшук на вёсцы няма, адказаў: "Ёсьць". — "Тады паехалі".

Мы пераселі са старой машыны, на якой мяне былі

прывезьлі ад офіса да дома, на нейкую новую порсткую іншамарку з таніраваным шклом. Двое хлопцаў селі пабапал мяне, на заднім сядзеньні, а трэці — за рулём, і мы пакацілі ў Ракаў.

Надвор'е прыкметна псуецца, ідзе нейкі дождж зь лёдам, вось табе і студзень. Выезд па гродзенскай шашы хоць і шырокі і зручны, але дарога кепска праглядаецца, і кіроўца то дае газу так, што нас аж уціскае ў мяккую сьпінку сядзеньня, то рэзка скідвае, і мы рукамі ўпіраемся ў пярэднія сядзеньні. Машына дазваляе ехаць хутка, і хлопец-кіроўца не пазбаўляе сябе асалоды лішні раз газануць.

Па дарозе мы размаўляем. Я ім кажу, што дарэмна яны ўлазяць у такія справы. Гэта не дадае ім ані лішніх балаў, ані павагі ў грамадстве, а наадварот. Хлопцы ў цывільным часам перамаўляюцца паміж сабой, і з урыўкаў іхніх размоваў я даведваюся, што іхняя група — зборная, з усяе краіны.

Урэшце мы прыязджаем у Ракаў. Там нас ужо чакае яшчэ адная машынка. У вёсцы рана кладуцца спаць, і стаіць ужо глухая студзеньская ноч. Хлопцы шукаюць панятых. Большасьць хатаў зь цёмнымі вокнамі, усё ж знаходзяць суседзяў на другім баку вуліцы. Уяўляю сабе, што тыя думаюць. Сюды, мабыць, такія хлопцы не прыязджалі зь 50-х гадоў.

На ганку нашай хаты ляжыць прыблудны сабака па мянушцы Воўк, кудлаты, як два ваўкі разам, бяскрыўдны і мала здатны да аховы. На чужых людзей ён то брэша, то маўчыць, пад свой настрой. Але зараз уначы ён выглядае пагрозьліва. Хлопцы ў цывільным яго апасаюцца. Ён ляжыць пад ганкавым дашком проста каля дзьвярэй. Нагрэў там сабе кілімчык, лянуецца, не хоча ісьці пад дождж, так што я зь цяжкасьцю сьпіхваю яго. Я адчыняю дзьверы, і мы ўваходзім.

Ізноў вобшук пачынаецца са стандартнай фразы добраахвотна выдаць усе рэчы, зброю, каштоўнасьці, захоўваньне якіх незаконнае. Суседка-панятая гучна гаворыць

хлопцам у цывільным зь яўнаю падтрымкаю мяне: "Суседзі ў нас добрыя!" А тым усё роўна, якія тут у суседзяў суседзі. Вобшук ідзе. Забіраюць некалькі старых квіткоў на аплату адвакацкай дапамогі. Старэйшы хлопец гаворыць, што пасьля гэтага вобшуку вернемся на плошчу Перамогі і вобшук працягнецца ў кватэры. Мой сотавы тэлефон па іхнім загадзе выключаны. Я прапаноўваю патэлефанаваць жонцы, якая ўжо, мусібыць, удома, з тым, каб там правялі вобшук без нас. Хлопцы ў цывільным раяцца і пагаджаюцца. Я тэлефаную жонцы і кажу, каб запусьціла іншую каманду хлопцаў у цывільным на вобшук. Я прашу, каб яна з сынам пільна назірала за імі. Ужо каля дзесяці вечара. Сваім хлопцам я паведамляю: няхай іхнія калегі звоняць у дзьверы, жонка ўжо ўдома.

Дзесьці праз гадзіну мы едзем назад. Вынікі вобшуку ў вёсцы нулявыя.

Галоўны хлопец у дарозе ўсё жартуе: "Прыходзьце пасьля, пагаворым, спакойна, за гарбатаю". Хоць і кажа жартаўлівым тонам, але відаць, што фразы гэтыя завучаныя на памяць і паўтараліся не раз. Я адказваю яму пытаньнем на прапанову: "Вы ведаеце, калі мяне ўпершыню іншы дзядзька ў цывільным запрашаў на гарбату? У 87-м годзе. Вы тады яшчэ ў школу хадзілі". Ён ніякавата замаўкае. Ягоныя калегі коратка гагочуць.

Мы ўязджаем у Менск. З боку гродзенскай шашы Менск хутка забудоўваецца. Паўз магістраль дамоў нарасло на вачах за апошнія гады, як грыбоў. Цяпер я ўжо з хлопцаў у цывільным знушчаюся: "Жывяце на ўсім гатовым, ні пра што не дбаеце. Дзяржава вас усім забясьпечвае". І патрапіў у балючую кропку. Устрапянуліся і загаварылі ўрэшце чалавечымі галасамі: "Ды дзе там! Па пятнаццаць гадоў служым, а жытла свайго дасюль яшчэ няма!" Калі столькі служаць, значыць, маёры, раблю выснову я.

Мы пад'ехалі пад самы дом. Прыемная навіна — мяне адпускаюць. Я ўзьнімаюся ў кватэру. Вобшук там толькі

як скончыўся. Два нашыя камп'ютары стаялі зламаныя, без памяці. А болей і забіраць не было чаго. "Фу, — гідзіцца жонка, — усю бялізну перапаролі, прыйдзецца ўсё перамываць".

На гадзіньніку ўжо каля дванаццаці. Спаць зусім не хочацца. Жонка распавядае, што, калі хлопцы ў цывільным заходзілі на вобшук, Адам змусіў усіх прадстаўляцца. У выніку зь пяці ў кватэру зайшлі толькі двое. Астатнія засталіся чакаць на лесьвічнай пляцоўцы, не захацелі засьвечвацца.

Падыходзяць, нягледзячы на позьні час, калегі. Мы сядзім на варыўні, адчыняем пляшку і выпіваем яе. Усе ўзбуджаныя пасьля сёньняшняга доўгага дня. Здаецца, што зусім побач з намі прайшоў-прагрукатаў цягнік і нас пагрозьліва хістанула хваляй гарачага паветра. Але не зачапіла.

Дык што ж робім далей? Радзімся. Вырашаем: працуем далей! Бо няма каму болей. Як у той казцы ў Аркадзя Гайдара. Прыйшоў час і на мальчыша-кібальчыша, а ў нашым выпадку — на праваабаронцаў.

## Бабруйск, 12.09.12 (па штэмпелі)

Наступныя месяцы прайшлі ў вельмі напружанай працы. Ніколі яшчэ мы не працавалі так інтэнсіўна і зладжана. Набыты за гады працы вопыт давёў нашыя дзеяньні да адточанага прафесіяналізму. Праваабарончы цэнтр "Вясна" працаваў, як хранометр. Мы дзейнічалі практычна па ўсіх вызначаных на віленскім спатканьні кірунках. Першае, што мы зрабілі, дык гэта склалі вясноўскую заяву, дзе сьцісла апісалі вынікі выбарчай кампаніі 19 сьнежня 2010 года ў Менску, маштабы рэпрэсіяў уладаў, зафіксавалі існуючую сітуацыю і выклалі свае патрабаваньні і прапановы да ўладаў, беларускага дэмакратычнага грамадства і міжнароднай супольнасьці,

у зьвязку з масавым парушэньнем правоў чалавека ў краіне.

Значную частку майго часу займалі міжнародныя кантакты і сустрэчы. Усе папярэднія гады я абмяжоўваў свае замежныя паездкі і сыходзіў з прынцыпу карысьці, наколькі гэтыя паездкі патрэбныя і неабходныя. Замежныя паездкі зьяўляюцца часткаю беларускай і міжнароднай праваабарончай працы. Моц праваабаронцаў — у міжнародных кантактах і міжнароднай салідарнасьці. На гэтыя кантакты мы маем права, замацаванае ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ды іншых міжнародных дакументах. Правы чалавека даўно ўжо не зьяўляюцца чыста ўнутранай справаю асобных дзяржаў, яны маюць універсальны і паўсюдны характар. А праваабаронцы зьяўляюцца тымі часьцінкамі, якія разносяць кісларод свабоды па арганізме ўсяго чалавецтва.

Ты выбіраешся на форум ці іншую якую імпрэзу, дзе мусіш сустракацца з важнымі персонамі: дэпутатамі, чыноўнікамі, прадстаўнікамі нацыянальных уладаў і міжнародных структураў, з журналістамі, сваімі замежнымі калегамі. Там ты мусіш знайсьці менавіта тыя словы, якія за некалькі выдзеленых табе хвілінаў павінны данесьці да людзей, якія часта вельмі прыблізна арыентуюцца ў тым, што робіцца ў Беларусі, тваю думку і твой пасыл.

Я заўсёды адчуваю вялікую адказнасьць падчас такіх выступаў, заўсёды імкнуся прааналізаваць аўдыторыю, перад якой мушу выступаць, і ў залежнасьці ад гэтага пабудаваць свой выступ, падабраць менавіта тыя довады і аргументы, якія спрацуюць найлепш. Звычайна я рыхтуюся да выступу загадзя, запісваю думкі, якія хацеў бы агучыць, складаю план выступу. Затым абдумваю пункты гэтага плана, спрабую перастаўляць іх у розных варыянтах. Раблю я гэтую падрыхтоўчую працу часткова ў Менску, перад паездкаю, а часткова ў той невялікі вольны час, які ёсьць перад самім мерапрыемствам, падчас сьняданку ці вячэры або прачнуўшыся раней у ложку з

асадкаю і нататнікам ці нэтбукам у руках. Я імкнуся не чытаць выступ па паперцы, я гляджу слухачам у вочы і выкладаюся падчас выступу, як спрынтар на стаметроўцы. Часта пасьля выступу я адказваю на пытаньні, тлумачу, рупна выпраўляю недаробкі і агрэхі на засеяным маімі думкамі полі.

Увесь гэты працэс вельмі няпросты, а часам нервовы, цяжкі і пакутлівы. Ён патрабуе багата ўнутранай энергіі і высілкаў, ён займае амаль увесь час паездкі. Гэта напружаная інтэлектуальная і псіхалагічная праца. Таму ў маіх паездках я прымушаю сябе расплюшчваць вочы і глядзець навокал, каб расслабіць засяроджанасьць і зьняць нервовае напружаньне. Але ўсё роўна гэта зусім не тое, чым калі ты едзеш у адпачынак ці ў вандроўку, і адпачываеш там напоўніцу, і ніякія клопаты не турбуюць цябе.

Я апісваю гэта так падрабязна, каб не ўзьнікла ўражаньня, што праваабаронцы толькі і робяць, што гойсаюць па замежжы, як турысты, і катаюцца там як сыр у масьле. Вядома, гэта цікава — пабываць і там і сям, але пасьля кожнай такой паездкі я вяртаюся дадому як выціснуты лімон.

Вось жа з пачатку 2011 года я вырашыў, што буду езьдзіць столькі, колькі трэба. У нашай сітуацыі, калі ўлады бачылі ў праваабаронцах, дэмакратычных актывістах, журналістах толькі ворагаў, “пятую калону” і мы ніяк не маглі паўплываць на паляпшэньне сітуацыі, фактар замежнага ўплыву, адпаведных дзеяньняў і ціску станавіўся надзвычай важным.

У канцы сьнежня — пачатку студзеня выпусьцілі асуджаных сутачнікаў. Але нічога не было вядома пра тых зьняволеных, каго абвінавацілі ў “масавых беспарадках” і трымалі ў “амерыканцы”. Ні лісты туды не даходзілі, ні адвакатаў туды не пускалі. Адвакаты днямі сядзелі і чакалі, пакуль вызваляцца два пакойчыкі, вылучаныя ў “амерыканцы” для спатканьняў зь вязьнямі. Пакойчыкі

так і не вызваляліся. Жахлівая сітуацыя была ў Андрэя Саньнікава, жонка якога Ірына Халіп таксама была зьняволена. Органы апекі спрабавалі забраць у бацькоў Ірыны чатырохгадовага сына Андрэя і Ірыны, як дзіцёнка, які застаўся без бацькоўскага догляду. Невядома што адбывалася з Уладзімерам Някляевым, які быў моцна зьбіты падчас затрыманьня. Да нас на офіс прыходзіла ягоная жонка Вольга, утрапёная, зь сінякамі пад вачыма. Па горадзе прайшлі чуткі, што ён не вытрымаў зьбіцьця і памёр. Можна сабе ўявіць, што яна перажыла ў гэтыя дні, напоўненыя страхамі і невядомасьцю.

Мы за два дні аднавілі працу на офісе "Вясны" пасьля канфіскацыі аргтэхнікі, папрыцягвалі старыя камп'ютарныя блокі, ноўтбукі, нашыя калегі перадалі нам і некалькі новых. Мы дамовіліся, па магчымасьці, прыносіць нэтбукі і ноўтбукі на працу і забіраць іх з сабой у канцы дня. У выгоднейшай сітуацыі апынуліся тыя, хто меў нэтбук. Ён быў лягчэйшы, і яго можна было хаваць у невялікай торбе ці пляцаку. Працоўныя дні сталі беспамернымі, некуды зьніклі і выходныя.

Аднойчы ў лютым 2011 года мне пазваніў мой калега з офіса і сказаў, што мяне шукаюць з Генеральнай пракуратуры. Калі я зьявіўся на офісе, топератэлефанаваў па запісаным нумары. Мужчынскі голас запрасіў мяне прыйсьці ў Генпракуратуру. "Зь якой нагоды?" — пацікавіўся я. "Неабходна з вамі паразмаўляць", — абцякальна і няпэўна патлумачыў мужчынскі голас. "Дасылайце позву, — адказаў я, — без позвы не атрымаецца". — "Добра, — пагадзіўся мужчынскі голас, — заўтра я яе дашлю, пасьлязаўтра вы атрымаеце, а на наступны дзень тады давайце і сустрэнемся". — "Я падыду", — запэўніў я.

Позва сапраўды прыйшла пасьлязаўтра, і на наступны дзень (16 лютага) я адправіўся ў Генпракуратуру. У холе пракуратуры я паказаў дзяжурнаму позву, той патэлефанаваў, і празь пяць хвілінаў зь ліфта выйшаў высакаваты, адкормлены, гадоў трыццаці пяці мужчына ў сінім пракурорскім мундзіры. Ён прадставіўся і папрасіў

мяне паехаць разам зь ім. Мы ўзьняліся ў ліфце на патрэбны паверх і зайшлі ў кабінет, дзе ў пракурорскага работніка быў свой стол з камп'ютарам. Ён прапанаваў мне прысесьці і паведаміў, што ў пракуратуру паступіла інфармацыя аб дзейнасьці незарэгістраванай грамадскай арганізацыі "Праваабарончы цэнтр "Вясна" і пра маё дачыненьне да гэтай дзейнасьці. У сувязі з гэтым ён мусіць задаць мне некалькі пытаньняў.

Я пацьвердзіў свае пашпартныя дадзеныя і на наступныя пытаньні, датычныя "Вясны", спаслаўшыся на артыкул 27 Канстытуцыі, адказваць адмовіўся.

Гадоў пяць таму сюды ж выклікаў мяне іншы пракурорскі работнік Новікаў. Тады ён распытваў у мяне наконт асамблееўскага часопіса, увесь наклад якога былі канфіскавалі, калі яго спрабавалі разаслаць па пошце. Я спаслаўся на 27-ы артыкул Канстытуцыі і нічога яму не сказаў. Новікаў тады паабяцаў пагрозьлівым голасам, выпісваючы мне пропуск на выхад: "Мы з вамі яшчэ ўбачымся". І вось Новікаў ужо, мабыць, на пенсіі, а іншы ягоны калега выконвае ягоную пагрозу, спрабуе дапытаць мяне.

Між тым пракурорскі работнік убіў у пратакол мае лаканічныя — адмовіўся, адмовіўся, адмовіўся, даў мне прачытаць і падпісаць пратакол, а потым паведаміў, што я афіцыйна папярэджаны Генеральнай пракуратураю за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, і ўручыў мне загадзя падрыхтаваную паперку. Я быў спакойны, не зьдзівіўся і не ўзьнерваваўся. Папярэджаньне дык папярэджаньне.

Пасьля афіцыйнай часткі сустрэчы, ужо з пропускам у руках, я меў і кароткую нефармальную размову. "Гэта вас хто, Мінюст нацкаваў?" — спытаўся я ў пракурорскага работніка. Той няпэўна пацiснуў плячыма і пасьміхнуўся, з чаго можна было зрабіць выснову, што так.

Прыкладна за тыдзень перад гэтым, у адным са сваіх шматлікіх каментароў, я рэзка адмоўна адгукнуўся аб Міністэрстве юстыцыі ў сувязі з рэпрэсіямі, якія Мінюст

абваліў на адвакатаў, што абараняюць ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Гэтую публікацыю з інтэрнэту, як доказ маёй пазапраўнай дзейнасьці, і паказваў мне пракурорскі работнік.

Сітуацыя была вельмі подлай і брыдкай. Адвакатаў перасьледавалі за іхнюю прафесійную дзейнасьць, за тое, што менавіта ад іх упершыню грамадскасьць даведалася пра катаваньні і нечалавечае абыходжаньне з палітзьняволенымі ў “амерыканцы”. Пасьля чаго можна меркаваць, што Мінюст атрымаў загад з адпаведных структураў заткнуць адвакатам рот. Пачаліся масавыя праверкі дзейнасьці адвакатаў, пошукі фармальных прычынаў, каб пакараць нязручных адвакатаў і такім чынам запалохаць усіх іншых.

Усё гэта да болю было знаёма з крымінальных працэсаў над дысідэнтамі яшчэ ў савецкія часы, а затым зь перасьледу “нядобранадзейных” адвакатаў ужо ў беларускай дзяржаве: Гары Паганяйлы, Веры Страмкоўскай, Сяргея Цурко. Але такога беспардоннага, адкрытага і нахабнага ціску на кіраўніка Менскай гарадской пракуратуры, на сяброў прэзідыума, дасьведчаных і паважаных адвакатаў, які ішоў у гэтыя дні, яшчэ не было. Вось таму я і раскрытыкаваў Мінюст, а той не знайшоў нічога лепшага, як зьвярнуцца ў Генпракуратуру з патрабаваньнем пакараць мяне.

“Дарэмна вы гэта робіце, — упікнуў я пракурорскага, — такой адказнасьці няма нідзе ў Еўропе. З вас усе будуць кпіць і тыкаць у вас пальцамі”. — “Ну, не ўсё ў нас так дрэнна, — адказаў пракурорскі, — вось, 19 сьнежня ж сьпецтэхніку, вадамёты не ўжывалі”. Ён паўтарыў тое, што ўжо было ў дзяржаўным друку і падавалася як праява гуманнасьці беларускіх уладаў у параўнаньні з тым, як разганяюцца дэманстрацыі на Захадзе. “Яшчэ чаго не хапала, — адказаў я, — гэта толькі фашысты аблівалі генерала Карбышава вадою на марозе”.

Пракурорскі сумеўся, не знайшоў што адказаць. На тым мы і разьвіталіся.

На выхадзе з пракуратуры мяне чакалі трое маладых людзей зь міжнароднай назіральніцкай місіі. Яны цікавіліся, як усё прайшло. Я запрасіў іх у недалёкую кавярню, бо на вуліцы мне размаўляць не хацелася. Мы сядзелі, пілі гарбату. Я паказаў афіцыйнае папярэджаньне, распавёў, што адбылося. А сам падумаў, што наступны крок — гэта ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць мяне. Ізноў, як некалі ў 1996-м і ў 2007-м, пагрозьлівы потых уладаў адчуваўся зусім-зусім блізка.

## Бабруйск, 25.10.12 (па штэмпелі)

Ужо ў студзені 2011 года, занепакоеная сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, міжнародная праваабарончая арганізацыя “Human Rights Watch” прыслала ў Менск кіраўнічку свайго маскоўскага офіса для напісаньня адмысловага дакладу. Расійская грамадзянка, яна без праблемаў ціха сустракалася з колам цікавых ёй людзей з палітычных партыяў, няўрадавых арганізацыяў, са сваякамі палітзьняволеных і ахвярамі рэпрэсій. Такая сустрэча адбылася і ў нас зь ёй на офісе “Вясны”.

Спатканьне было пункцірным. Да нас бясконца, плыньню, ішлі людзі — родныя палітычных зьняволеных ці самі сутачнікі. Мы пісалі скаргі, прымалі ад пацярпелых заявы, тлумачылі сваякам, што рабіць, ці проста размаўлялі, выслухоўвалі і супакойвалі. Былі і яшчэ разнастайныя пільныя праблемы, таму я ўвесь час падхопліваўся падчас нашай размовы і сыходзіў то ў пакой да юрыстаў, то на варыўню, каб там перакінуцца парай словаў зь іншымі людзьмі. А яшчэ хапаўся за тэлефон, калі бачыў там нейкія пільныя званкі. Адным словам, яна патрапіла ў самы цэнтр вэрхалу, зьвязанага з арганізацыяй дапамогі ахвярам рэпрэсіяў. Тым не менш я распавёў ёй і пра тое, што, на мой погляд, адбывалася ў краіне ў гэтыя тыдні, і найбольш важныя, як мне падавалася, факты і падзеі. Гэтаксама сьпехам паразмаўлялі

зь ёю і вясноўскія юрысты. У прынцыпе, збольшага мы перадалі ёй усю інфармацыю, якая цікавіла яе.

"Human Rights Watch" зьяўляецца адной з самых аўтарытэтных праваабарончых арганізацыяў у сьвеце. Штаб-кватэра яе знаходзіцца ў Нью-Ёрку, а шматлікія прадстаўніцтвы разьмешчаныя ў некалькіх дзясятках краінаў сьвету. Працуюць у іх зазвычай высокапрафесійныя юрысты-праваабаронцы, якія адсочваюць сітуацыю і рыхтуюць даклады па найбольш вострых праблемах з правамі чалавека ў краінах свету. У Расіі "Human Rights Watch" вядомая па дакладах, якія тычыліся парушэньня правоў чалавека падчас першай і другой войнаў у Чачні. У дакладах расійскія ўлады былі востра скрытыкаваныя за масавыя парушэньні правоў мірнага насельніцтва Чачні. Пасьля гэтага дзейнасьць "Human Rights Watch" у Расіі ўспрымаецца расійскімі ўладамі варожа і непрыхільна.

Сістэмна працаваць па Беларусі ў "Human Rights Watch" не хапала сілаў. Але арганізацыя перыядычна адгукалася на найбольш вострыя падзеі ў краіне, публікавала заявы, прэс-рэлізы. Было зразумела, што зьяўленьне незалежнага даклада па выбарчых падзеях у Менску будзе мець важнае значэньне для выпрацоўкі агульнай пазіцыі міжнароднай супольнасьці. Бо ў цывілізаваным сьвеце зважаюць на меркаваньні праваабарончых арганізацыяў, да іх прыслухоўваюцца і іхняя эксьпертная думка мае вялікую вагу.

Празь нейкі час пасьля гэтай сустрэчы мы з кіраўнічкаю маскоўскага офіса "Human Rights Watch" выступілі разам у якасьці эксьпертаў у Жэневе падчас абмеркаваньня ідэі прыняцьця адмысловай заявы па Беларусі на Радзе па правах чалавека ААН. Вось там, у Жэневе, яна запрасіла мяне на прэзентацыю падрыхтаванага ёй даклада па Беларусі ў Маскву. Я пагадзіўся.

І вось праз два тыдні зранку я вылецеў з Менска ў Маскву. Лёту атрымліваецца каля гадзіны часу. 20 хвілінаў самалёт узьлятае і набірае вышыню, 20 хвілінаў

ляціць і 20 хвілінаў зьніжаецца і сядае. Праз гадзіну я ўжо ў Маскве, у “Шарамецева-1”. Арганізатары абяцаліся мяне сустрэць. Прайшло 20 хвілінаў, паўгадзіны — нікога не было. Я меў адрас правядзеньня прэс-канферэнцыі і мапу цэнтра Масквы, дзе знаходзілася патрэбная мне вуліца. Таму не стаў далей чакаць, сеў на аўтобус і паехаў да станцыі метро. Звычайна, прыляцеўшы ў Маскву ў ранейшыя прыезды, я дабіраўся да станцыі метро “Рачны вакзал”. Гэтым разам на маршрутнай шыльдзе аўтобуса была ўказаная іншая станцыя метро. Якая розьніца, падумаў я, часу да канферэнцыі яшчэ багата, можна і пакатацца. Квіток каштаваў 30 расейскіх рублёў, у мяне ж была адная тысячная паперка. Рэшты ў кіроўцы не было, і ён кіўнуў галавою — пралазь праз турнікет. У аўтобусе ў Маскве заходзяць у пярэднія дзьверы праз турнікет, у кіроўцы ты можаш купіць квіток і скасаваць яго ў кампосьцеры на круцёлцы, тады яна паварочваецца і прапускае цябе. З рэчаў у мяне быў адзін пляцачок, таму я лёгка праціснуўся паўз турнікет, сеў сьпераду, і аўтобус павёз нас у Маскву.

Паехалі мы нейкім іншым, чым звычайна, шляхам. Аўтобус доўга аб’язджаў бясконцыя маскоўскія раёны. Мне гэта было за бясплатную экскурсію. Мабыць, калі б я пажыў даўжэйшы час у Маскве, я прызвычаіўся б да яе, а так, бываючы ў “белакаменнай” гады ў рады, кожны раз на яе прасторах я адчуваю сябе маленькай і слабенькай кузуркаю. Масква насьцярожвае і трымае ў напрузе. Але гэта толькі першыя дні. Затым паступова прызвычайваешся і да бясконцых вераніцаў аўто, і да чалавечага мурашніка ў глыбокім падзямельлі метро, і да пярэстай прывакзальнай мітусьні. А яшчэ праз колькі дзён прыходзіць раўнавага і спакой чалавека, які жыве ў мегаполісе. Такое самае адчуваньне ў мяне было ў Нью-Ёрку і ў Парыжы, вялізных сусьветных гарадах, дзе людзей жыве столькі багата, што ты ў гэтай сваёй згубленасьці і адзіноце ўрэшце знаходзіш вольнасьць і самадастатковасьць.

Мае думкі перарваў званок тэлефона, высьвеціўся маскоўскі нумар. Я адказаў. Мяне шукаў кіроўца, які спазьніўся ў аэрапорт. Я падзякаваў і адказаў, што дабяруся сам. Адно ўдакладніў, на якой станцыі метро мне лепей выйсьці. Я ехаў далей і далей. І дзівіўся той грунтоўнейшай мадэрнізацыі, якую перажывае Масква. Новыя аграмадныя кварталы на ўскраінах замяніліся даўнімі ўжо кварталамі, забудаванымі ў 70–80-я гады. Але і там паўсюль былі ўстаўленыя новыя будынкі крамаў, кавярняў, офісаў. Відавочна было, што ў Маскву былі ўкладзеныя мільярды і мільярды даляраў.

Урэшце мне падказалі, што наступны прыпынак — гэта і будзе метро. Але ўвайшоў кантралёр. Я патлумачыў яму, чаму еду без квітка, і памахаў тысячнай купюраю. Кіроўца пацьвердзіў, што сам прапусьціў мяне, і кантралёр выпусьціў мяне безь пярэчаньняў. Яшчэ не хапала беларускаму праваабаронцу быць аштрафаваным у Маскве за бесквітковы праезд.

Праз гадзіну, даехаўшы на метро, я быў на вуліцы, пазначанай у запрашэньні. Я шукаю патрэбны мне будынак. У маскоўскіх адрасах ёсьць не толькі вуліцы, дамы і кватэры, але існуюць і “проезды” і “строения”, па-нашаму “пабудовы”. Чым дом на гарадской вуліцы адрозьніваецца ад пабудовы, я не ведаю. Можа, тым, што гэтая пабудова стаіць у дварах і гэта як нашыя карпусы? А можа, тым, што ў пабудовах няма жылых кватэраў, а толькі службовыя памяшканьні? Спытаць няма ў каго, і я шукаю мудрагелістую дом-пабудову, дзе знаходзіцца памяшканьне для правядзеньня прэс-канферэнцыяў. Гэта даволі зручна — мець у горадзе памяшканьне, дзе кожны жадаючы можа правесьці прэс-канферэнцыю і калі ўсе журналісты ведаюць гэтае месца. Звычайна такія залы маюць прэс-цэнтры ці незалежныя журналісцкія арганізацыі. Я бачыў такія памяшканьні ў Бялградзе і Бішкеку, а зараз вось шукаю яго ў Маскве.

З вуліцы па гэтым адрасе ў доме з карункавым цагляным фасадам, пабудаваным у стылі расійскага мадэрну,

шыльды, якая казала б пра існаваньне прэс-цэнтра, няма. У мяне ёсьць яшчэ вольнага часу, і я іду па вуліцы, разглядаючы дамы. У адным зь іх, старым барскім палацы, месьціцца Акадэмія мастацтваў Расіі. У вокнах відаць гіпсавыя бюсты і фігуры. У іншым будынку — рэстаран, а перад ім стаіць швейцар у гарнітуры з чырвонага сукна зь цяжкімі шнурамі залатых аксельбантаў на грудзях і ў сіняй фуражцы. Ён запрашае ўсіх мінакоў зайсьці ўсярэдзіну і адабедаць. Я праходжу далей. На вуліцы захавалася багата старых дамоў XIX стагодзьдзя цікавай архітэктуры. Але на некаторых пляцах — навабуды. Навабуды — сімвал новай капіталістычнай Масквы, горада-мегаполіса, які заселены зараз вялікай інтэрнацыянальнай грамадою.

Я вяртаюся назад. Да ганка пазначанага ў запрашэньні будынка падыходзяць дзьве жанчынкі замежнага выгляду. Зьзяе яркае веснавое сонца, ручаі з расталага сьнегу цякуць па вуліцы, сонечныя зайцы адбіваюцца ад аконных шыбаў і скачуць па машынах, па людзях, робячы іх больш сьвяточнымі і весялейшымі. Мы вітаемся. Гэта аказваюцца дыпламаткі зь фінскай амбасады, якія цікавяцца Беларусьсю. Фінскай амбасады ў Менску няма, і беларускімі справамі фіны цікавяцца зь Вільні і Масквы. Фінскія дыпламаткі таксама ўпершыню прыйшлі па гэтым адрасе і гэтаксама не ведаюць дакладнага месца, дзе будзе адбывацца прэс-канферэнцыя.

Я набіраю нумар маёй знаёмай з “Human Rights Watch”, і яна скіроўвае нас па тэлефоне. Мы абыходзім будынак зьлева, уваходзім у арку. Маладыя смуглявыя і чырванашчокія кіргізы ў вайсковых бушлатах раскідаюць-растрасаюць у двары сьнег. Яны разразаюць зьляжалыя вогкія сумёты бляшанымі шуфлямі і адкідаюць сьнежныя і ледзяныя глыжы на сонца. Патрэбныя нам дзьверы знаходзяцца справа. Мы ўзьнімаемся па зваранай з арматурных прутоў лесьвіцы на ўзровень першага паверха, які вышэйшы за цокаль дома, і заходзім усярэдзіну. У памяшканьні ўжо ёсьць журналісты — каля

20 чалавек і тры здымачныя групы. Мне гавораць, што для Масквы, дзе ўвесь час штосьці адбываецца, такая колькасьць журналістаў — гэта вельмі добра.

Першаю выступіла аўтарка даклада з “Human Rights Watch”. Затым выказаліся я і расійскі праваабаронца Валянцін Гефтар. Каб не зануджваць журналістаў, мы пастараліся ўкласьціся ў гадзіну. Я быў задаволены. Праз інфармацыйныя агенцтвы, тэлеканалы, праз газеты голас беларускіх праваабаронцаў, нашая ацэнка падзеяў 19 сьнежня ў Менску будзе пачутая і ў Расіі. Апроч таго з гэтай хвіліны даклад “Human Rights Watch” па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі стаў інфармацыйнай зьяваю. Багата хто з зацікаўленых асобаў прачытае яго.

Нечаканы розгалас атрымаў выступ Валянціна Гефтара. Ён гаварыў коратка, мо якіх пяць хвілінаў, імкнучыся ўвесьці ў кантэкст таго, што адбываецца ў Беларусі, і журналістаў, і верагоднага чытача-гледача. Ён сказаў, што катаваньні беларускіх вязьняў, пра якія ідзе размова, вядома, нельга параўнаць з тым, што адбываецца ў Расіі, у Чачні, Інгушэціі і на астатнім Каўказе, дзе катуюць да сьмерці ці да калецтва. Але ж гэта ўсё роўна парушэньне правоў чалавека.

Я разумею, чаму так сказаў Валянцін, бо казаў ён для расійскіх журналістаў, якія сапраўды багата чаго бачылі ў сваіх гарачых кропках. Але тым не менш я, адказваючы на пытаньні журналістаў, яшчэ раз падкрэсьліў, што, згодна са сьведчаньнямі вязьняў “амерыканкі”, да іх ужываліся катаваньні. І што ацэньваць тое, што адбывалася ў “амерыканцы” зь беларускімі вязьнямі, варта сыходзячы зь міжнародных стандартаў. Валянцін Гефтар, вядома, пагадзіўся са мной.

Ужо пасьля канферэнцыі “Human Rights Watch” разьмясьціла запіс нашых выступаў у інтэрнэце. І там “сумневы” Гефтара наконт катаваньняў у “амерыканцы” прагучалі літаральна. Тады беларускі журналіст і драматург, паплечнік і сябра кандыдата ў прэзідэнты А. Саньнікава Мікалай Халезін, які, асьцерагаючыся рэпрэсіяў,

вымушаны быў пасьля 19 сьнежня зьехаць зь Беларусі, рэзка раскрытыкаваў Валянціна Гефтара на сайце "Хартыі". Не ведаю, ці чытаў яго аўтар непаразуменьня Валянцін Гефтар, але "Вясна" з гэтай нагоды прыняла заяву, дзе мы адназначна сьцьвярджалі, што ўтрыманьне палітычных вязьняў у "амерыканцы" мы расцэньваем як нечалавечнае абыходжаньне і катаваньне.

Але гэтае высьвятленьне пазіцыяў адбывалася ўжо ў наступныя тыдні пасьля майго вяртаньня з Масквы. А ў гэты дзень правядзеньня прэс-канферэнцыі мы, выступоўцы і арганізатары, прайшліся разам у бок метро, бо Валянцін, як заўсёды, некуды сьпяшаўся. Зайшлі ў прыметроўскую кавярню, ссунулі два столікі і ўселіся паразмаўляць яшчэ раз сваёй невялікаю кампаніяй. Мы выпілі кавы, зьелі блінчыкаў з сырам. Затым Валянцін пабег па сваіх справах, а мяне на офіс "Human Rights Watch" павяла маладая дзяўчына, напалову француженка, напалову руская, якая жыла і вучылася ў парыжскай Сарбоне, а прыехала ў Маскву на некалькі месяцаў на практыку працаваць валанцёркаю ў офісе "Human Rights Watch".

Яна завяла мяне на офіс, які знаходзіўся гэтаксама на кватэры, як і офіс праваабарончага цэнтра "Вясна". Але ж наколькі адрозьніваўся стыль працы нашых арганізацыяў! У нас гэта была пляцоўка, куды вечна то ўваходзілі, то выходзілі плоймы і вераніцы людзей: ахвяры палітычных рэпрэсіяў і іхныя сваякі, праваабаронцы зь іншых арганізацыяў, журналісты, актывісты з інакшых няўрадавых арганізацыяў, моладзь ды ўсялякі розны народ. А тут — кодавы замок з кодам "для сваіх", некалькі супрацоўнікаў і амаль падпольная, насьцярожаная цішыня. Абмежавальны і аскетычны рэжым працы маскоўскага офіса "Human Rights Watch" сьведчыў, што яны працуюць у неспрыяльнай для арганізацыі атмасферы, у прыхаваным рэжыме. Квіток на самалёт да Масквы я купляў у Менску за беларускія рублі, мне аддалі грошы за квіток у расійскіх рублях.

Я выйшаў з офіса "Human Rights Watch" на веснавую

маскоўскую вуліцу. Сонца прыпякала на ўсю моц. Я зьлятаў у Менск увечары і яшчэ меў крыху часу, каб зайсьці ў кнігарню. Кнігарня была і гарбатняю, усярэдзіне смачна пахла зёлкамі і рознымі гатункамі гарбаты. Я купіў “Круты маршрут” Яўгеніі Гінзбург, успаміны рэпрэсаванай у 30-я гады выкладчыцы. Яна запомніла і апісала свой шлях у пекле сталінскіх турмаў і лагераў. Аўтарка пасьля перажытага стала антысталіністкаю, а яе сын, таленавіты расійскі пісьменьнік Васілій Аксёнаў, пайшоў яшчэ далей. Ён быў “антысавецкім” пісьменьнікам, дысідэнтам і ў часы СССР вымушаны быў эміграваць на Захад.

Затым я паехаў у аэрапорт і паляцеў у Менск.

5 жніўня, на наступны дзень пасьля арышту, мяне прывезьлі з “абязьяньніка” Савецкага РУУС ізноў у Сьледчы камітэт у ДФР на вуліцу Глебкі на допыт. Пасьля допыту, перад адпраўкаю ў СІЗА на Валадарку, мне дазволілі забраць у жонкі перадачу зь неабходнымі рэчамі. Калі я забраў торбу, то сярод адзеньня, туалетнай паперы і харчоў убачыў тоўсты том Яўгеніі Гінзбург “Круты маршрут”, прывезены мной з Масквы. “Гэта табе, каб не было сумна”, — адказала на мой запытальны погляд жонка. Хоць я пасьпеў ужо прачытаць гэтую кніжку, я быў удзячны. “Круты маршрут” прапусьцілі ў СІЗА на Валадарскага, і я перачытаў яе. У камеры № 15 засталася гэтая кніга пасьля майго этапаваньня ў Жодзінскае СІЗА.

## 21 кастрычніка 2012 г., Бабруйск

Другая паездка ў Варшаву 2 лютага 2011 года была зьвязаная з правядзеньнем канферэнцыі краінаў-донараў для дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў і дэмакратычнай грамадзянскай супольнасьці. Як я ўжо згадваў, ідэя такой канферэнцыі належала польскаму міністэр-

ству замежных спраў, падштурхнутаму да актыўнасьці тонам і зьместам заяваў беларускіх уладаў. Тыя ж усіх сабак за падзеі 19 сьнежня вырашылі павесіць на "пятую калону" — беларускую апазіцыю, а таксама на зьнешніх "ворагаў" — Польшчу і Германію.

Парадаксальнасьць гэтых абвінавачваньняў была ў тым, што якраз Польшча і Германія перад 19 сьнежня і былі прамоўтарамі новай палітыкі ў дачыненьні да беларускага рэжыму. Тактыка гэтай палітыкі заключалася ў актывізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і паступовым уцягваньні Беларусі ў сумесныя палітычныя праекты, самым буйным зь якіх зьяўлялася Усходняе партнёрства. Еўрапейскія ідэолагі супрацы зь беларускімі ўладамі сьцьвярджалі, што ўсе папярэднія гады міжнародная ізаляцыя не дала чаканых вынікаў. Яны былі ўпэўненыя, што беларускія ўлады не здолеюць адмовіцца ад выгодных варыянтаў такой супрацы. Вось жа з гэтымі абяцанкамі-цацанкамі ў Менск прыязджалі розныя міністры замежных спраў, у тым ліку і міністры Польшчы і Германіі Сікорскі і Вестэрвэле. А ў выніку яны і аказаліся галоўнымі "ворагамі" беларускай палітычнай стабільнасьці. Бо для поўнай карціны змовы былі патрэбныя не толькі ўнутраныя змоўшчыкі, але і замежныя.

Якіх толькі эпітэтаў не атрымаў у свой бок Сікорскі! Да ягонага гонару, ён даволі хутка здолеў ацаніць маштаб той палітычнай катастрофы, якая адбылася ў Беларусі пасьля 19 сьнежня, і адпаведным чынам зьмяніць і сваю рыторыку, і свае дзеяньні.

Канферэнцыя мела хутчэй міждзяржаўны характар. Яе паўнавартаснымі ўдзельнікамі былі прадстаўнікі краін, гатовых фінансава падтрымаць дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі. Прадстаўнікі беларускай грамадзянскай супольнасьці, у тым ліку і я, былі запрошаныя ў якасьці кансультантаў і рэпрэзентатараў гэтай самай супольнасьці.

Такога плану канферэнцыя па Беларусі праводзілася ўпершыню. Многія краіны Еўрасаюза, а таксама ЗША і

Канада адгукнуліся на гэтае запрашэньне. Гэта паказвала ўзровень устрывожанасьці і заклапочанасьці, якія панавалі ва ўрадах еўраатлантычных дзяржаў у дачыненьні да сітуацыі ў Беларусі.

Распачалася канферэнцыя эфектным агульным выступам Радаслава Сікорскага. Пасьля яго пачаліся даклады прадстаўнікоў розных краінаў. Іх было цікава слухаць, бо выступоўцы называлі тыя прыярытэты, якія былі гатовыя падтрымліваць, а таксама сумы, якія іхнія ўрады гатовыя былі тэрмінова выдзеліць на такога роду дапамогу.

Размова не ішла пра падтрымку дзейнасьці палітычных партыяў ці іншых палітычных арганізацыяў. Як правіла, такая падтрымка палітычных арганізацыяў за мяжою забаронена заканадаўствам краінаў. Дэкларавалася падтрымка праваабарончым, інфармацыйным, адукацыйным ды іншым ініцыятывам і праграмам падобнага кшталту, накіраваным на ўмацаваньне грамадзянскай супольнасьці Беларусі.

Такая тэорыя і практыка не аднойчы выклікалі нараканьні з боку беларускіх дэмакратычных апазіцыйных партыяў. Але палітычная барацьба лічыцца ў міжнародных стасунках унутранай справаю краінаў і народаў. Ніхто сёньня не бярэцца займацца “экспартам рэвалюцый”. А вось дапамога дэмакратычным памкненьням, фармаваньню дэмакратычнага сьветапогляду шырокіх слаёў грамадства мае легальную і законную моц. Яна базуецца на міжнародных дамовах і пагадненьнях, падпісаных у тым ліку і Беларусьсю, дзе наша краіна абавязалася падтрымліваць прынцыпы дэмакратыі і правоў чалавека. Гэтыя прынцыпы ўжо даўно перасталі мець унутраны характар, абмежаваны граніцамі адной краіны. Яны набылі агульны, міжнародны, універсальны характар. Я так падрабязна тлумачу гэта, каб паказаць абгрунтаванасьць і легальнасьць міжнароднай фінансавай дапамогі ў такіх краінах, як наша сёньняшняя Беларусь.

Розныя краіны выступалі па-рознаму. І калі тая ж Польшча, Швецыя, Германія даўно заангажаваныя ў разнастайныя праграмы падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі, то былі і не зусім звычайныя выступы. Так, прадстаўніца адной зь еўрапейскіх мікракраінаў паведаміла, што іхні ўрад знайшоў магчымасьць тэрмінова выдзеліць 10 тысячаў еўра на падтрымку беларускага незалежнага радыё. Як кажуць, і за гэта дзякуй.

Запомніўся выступ кіраўніцы канадскай дэлегацыі, дэпутаткі канадскага парламента, беларускі па паходжаньні, бацькі якой пасьля вайны апынуліся ў Канадзе. Вось жа яна, дачка бедных эмігрантаў, зрабіла там бліскучую палітычную кар'еру. Яна выступала і як беларуска, якая перажывала за сваю далёкую Бацькаўшчыну, і як прадстаўніца дзяржавы-спонсара. Канада вылучыла на адукацыйныя праграмы амаль мільён канадскіх даляраў.

Цікавы быў і выступ кіраўніка малдоўскай дэлегацыі. Выступаў стары такі чыноўнік, савецкага тыпу дзядзька. Ён доўга мяўся і мармытаў штосьці агульнае пра правы чалавека, а потым сказаў, што Малдова — бедная краіна, для якой вельмі важныя гандлёвыя стасункі зь Беларусьсю. І што грошай Малдова даць не можа, а ўсё, што яна можа, — маральна падтрымліваць дэмакратыю ў Беларусі. І з гэтай нагоды ён і прысутнічае на канферэнцыі. Іншыя ўдзельнікі шчыра пляскалі яму.

Я вяртаўся з канферэнцыі з пачуцьцём, што мы, беларусы, у гэтай надзвычай складанай сітуацыі не застанемся адныя. Вядома, што гэтая прадэкляраваная дапамога не зьявіцца лекамі ад усіх нашых бедаў. Але гэта яшчэ адзін відавочны знак таго, што сям'я еўрапейскіх краінаў разглядае Беларусь як частку Еўропы, як еўрапейскую краіну, народ якой апынуўся часова ў бядзе і нядолі і якая патрабуе разнастайнай дапамогі. Для мяне было ясна зразумела, што ні палітычныя вязьні, ані іхныя сем'і, ані студэнты, выгнаныя з вучобы за грамадскую дзейнасьць, не застануцца без дапамогі.

## 6 верасьня 2012 г., Бабруйск

У лютым 2011 года праходзіла Рада па правах чалавека ААН. Некалькі нацыянальных дэлегацыяў сяброў Рады, заклапочаныя сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, меркавалі прыняць асобную рэзалюцыю па Беларусі. У якасьці экспертаў на нараду па гэтай рэзалюцыі запрасілі мяне і жанчыну з маскоўскага офіса праваабарончай арганізацыі “Human Rights Watch”. Яна не так даўно прыязджала ў Менск і зьбірала матэрыялы для даклада.

Пасьля падзеяў у Менску 19 сьнежня некаторыя сябры Рады па правах чалавека ААН прапанавалі беларускаму прадстаўніцтву ў ААН правесьці брыфінг і патлумачыць пазіцыю беларускага ўрада — што здарылася, чаму і зь якімі скуткамі. Беларуская дэлегацыя “пакрыўдзілася” і ніяк не адказала на гэтую прапанову. Тады і ўзьнікла ідэя прыняць адмысловую рэзалюцыю. Меркавалася правесьці папярэднюю сустрэчу, каб прагаварыць лепшыя шляхі прыняцьця рэзалюцыі.

Сустрэча праходзіла ў офісе нарвежскага прадстаўніцтва ў ААН. Прыйшлі прадстаўнікі краінаў Еўрапейскага саюза, а таксама Лацінскай Амерыкі. Вось жа пераважна для іх, мала абазнаных, і рыхтаваў я выступ. Трэба было распавесьці пра вынікі выбараў, што адбылося 19 сьнежня 2010 года ў Менску і якія былі наступствы. Таксама я распавёў пра самыя апошнія на той час навіны. Карціна, як для краіны, якая прэтэндуе быць “цэнтрам Еўропы”, выглядала непрывабнай і змрочнай. Ды ці ж была ў гэтым нашая віна? Выказаліся і задалі пытаньні прадстаўнікі розных нацыянальных дэлегацыяў. Больш экспрэсіўныя жанчыны-дыпламаткі жаласьліваківалі галовамі.

Затым адбылося абмеркаваньне, зь якога вынікала, што шанцаў на прыняцьце асобнай рэзалюцыі на Радзе па правах чалавека мала. Падобныя дакументы прымаліся, як правіла, кансэнсусам, з агульнае згоды. А дэле-

гацыя Расіі, саюзьнікі беларускага рэжыму, ніколі не пагодзіцца на яе прыняцьце. Таму спроба вынесьці на абмеркаваньне непрахадны дакумент была б тактычна няслушнай. Тады вырашылі пусьціць падрыхтаваны дакумент для індывідуальнага подпісу. Гэта быў максімум, які можна было зрабіць у сёньняшняй сітуацыі. І ў гэтым выпадку беларускаму прадстаўніцтву ў ААН будзе цяжка зрабіць выгляд, што нічога не адбылося.

Як задумалі, так і зрабілі. Праз два тыдні даволі жорсткая рэзалюцыя з патрабаваньнем да беларускіх уладаў спыніць палітычныя рэпрэсіі ў краіне і вызваліць палітычных зьняволеных была падпісаная значнай часткаю дэлегацыяў з краінаў, якія ўваходзілі ў Раду па правах чалавека ААН. Гэта ўжо было зроблена без нас, як вынік нашага спатканьня.

Што я адзначыў пасьля гэтай сустрэчы, дык гэта чыста чалавечую спагаду ў выказваньнях дыпламатаў, якія прадстаўлялі розныя краіны. Ужо пасьля сустрэчы яны вельмі непасрэдна і эмацыйна размаўлялі са мной і перадавалі свае спачуваньні сем’ям рэпрэсаваных і ўсім беларусам, якія апынуліся закладнікамі палітыкі ўрада. Так звычайна спачуваюць суседзям, у якіх здарылася нейкае гора.

Праграма перабываньня ў Жэневе на гэтым не скончылася. Назаўтра быў запланаваны сумесны брыфінг сьпецыяльнага прадстаўніка Генеральнага сакратара ААН па правах чалавека, мяне і юрыста-праваабаронцы з Калумбіі. У Жэневе пастаянна працуе Рада па правах чалавека ААН, таксама разьмешчаныя іншыя аанаўскія інстытуцыі, якія займаюцца правамі чалавека, у тым ліку офіс Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека. Таму мы, праваабаронцы з усяго сьвету, частыя госьці ў гэтым невялікім, утульным швейцарскім гарадку. Тут разглядаюцца і індывідуальныя скаргі па правах чалавека, тут мы прысутнічаем на сесіях Рады па правах чалавека, калі абмяркоўваюцца краінавыя даклады па правах чалавека, тут мы праводзім паралельныя брыфінгі, прэс-канферэнцыі і сустрэчы.

А сёньня я меў яшчэ некалькі вольных гадзінаў і вырашыў пахадзіць, пагуляць па Жэневе. Я люблю хадзіць па ўзьбярэжжы Жэнеўскага возера, падалей ад цэнтра, дзе людна і шустрыя напарстачнікі-албанцы абдурваюць даверлівых турыстаў. Але гэтым разам я перайшоў мост, перакінуты праз вусьце Роны, дзе яна ўпадае ў возера, прайшоў паўз невялікі будынак першай гідраэлектрастанцыі ў Жэневе, дзе зараз знаходзіцца музей і існуе ўрачысты запіс пра тое, што кантон Жэнева абвешчаны тэрыторыяй, дзе не выпрадукоўваецца і не выкарыстоўваецца ядзерная энергія. Вось так, “дурныя” жэнеўцы адмовіліся ад ядзернай энергіі, а “хітрыя” беларусы вырашылі зацугляць і пакатацца на ядзерным кані.

Я іду ўгору, вышэй, у жылыя кварталы, дзе раней ніколі не хадзіў. Стары горад, выбудаваны ў стылі строгай ашчаднай кальвінісцкай архітэктуры, застаўся справа. Я прайшоў паўз гарадскі музей, дзе вісіць у экспазіцыі і карціна віцебскага перыяду Марка Шагала, затым паўзь невялікую праваслаўную царкву. І вось я патрапіў у квартал эканом-класа. Тарцом да вуліцы стаялі ў рад чырвоныя шматпавярховікі. Усе з жалюзі на вокнах і з падземнымі гаражамі. Паміж дамамі ў дварах расьлі вялікія бярозы, сосны і клёны. Кожнае дрэва было дагледжанае, відавочна, што ўтыркнутае-пасаджанае некалі не абы-як. Паміж дрэваў зелянела акуратна падстрыжаная трава. Стаяў канец лютага, і ў Жэневе ўжо пачыналася раньняя вясна.

Я прайшоў наскрозь адзін такі двор, убачыўшы за домам большую купу дрэваў. Асфальтавая сьцежка нечакана вывела мяне да каменнага шкілета старой гатычнай вежы, складзенай зь белага абчасанага каменю. За вежаю праз некалькі метраў уніз ішоў абрыў, зарослы дрэвамі і кустоўем. Пад абрывам бегла па камянях плыткая, але шырокая рэчка.

Я стаў на абрывістым схоне, а далей на дзясяткі кіламетраў раскінулася роўнядзь швейцарскай зямлі. Далё-

ка справа бялеў сьнежнай шапкаю Манблан. Сотні гадоў таму пільныя вочы замкавых ратнікаў паглядалі ў дол на статкі адкормленай гавяды, што пасьвілася на зялёных лугах, на жняцоў з кароткімі косамі ў руках, на кавалькаду вершнікаў і карэту, якая пыліла па дарозе. А зараз я гляджу на асфальтавыя ніткі дарогаў, па якіх рухаюцца-бягуць, як цацачныя, машынкі, на бетонныя электрычныя слупы, на белы хвост ад самалёта ў небе. Штосьці зьмянілася на гэтай зямлі. Штосьці моцна зьмянілася на гэтай зямлі.

Я вярнуўся на вуліцу і пайшоў далей. Прайшоў два кварталы аднолькавых дамоў эканом-класа і патрапіў у квартал, забудаваны старымі стагадовымі віламі са скацістымі, хвалепадобнымі чырвонымі дахамі. Вілы былі абгароджаныя непафарбаваным драўляным штыкетам. У кожным дворыку каля будынкаў расьлі велічэзныя, зь пяціпавярховы гмах вышынёй, разлапістыя, дрымучыя хвоі.

Хто захаваў гэтыя дамы, хто іх не разваліў, не раздалбаў, не сьпілаваў гэтыя невыгодныя дрэвы і не паставіў які-небудзь элітны гмах на такой каштоўнай жэнеўскай зямлі? І ў мяне зашчымела сэрца. На маіх вачох разбурылі вілу-дом Купаліхі, так звалі зь любоўю знаёмыя жонку Янкі Купалы Уладзіславу. Ён стаяў па вуліцы Румянцава, у двары майго дома на плошчы Перамогі. Вокны нашай кватэры якраз выходзілі на яго, а за ім — на будынак польскай амбасады. Увосень, калі аблятала лістота ў зарослым старымі дрэвамі садзе вакол вілы Купаліхі, тады станавіўся бачны чырвона-белы штандар на двары польскай амбасады. І колькі разоў, зьнянацку паглядзеўшы ў той бок, я мроіў наш бел-чырвона-белы сьцяг.

Мая жонка зьбірала подпісы жыхароў нашага двара супраць пабудовы новага гмаха на месцы дамка-вілы, пабудаванага сьпецыяльна пасьля вайны для Уладзіславы Луцэвіч, дзе першыя гады месьціўся музей Янкі Купалы, куды прыходзілі практычна ўсе не дабітыя падчас

сталіншчыны і вайны беларускія літаратары. Ды і сама Уладзіслава Францаўна была легендарнаю і заслужанаю перад беларускай культураю асобаю. Подпісы не дапамаглі. Дом-вілу Купаліхі развалілі на маіх вачох. Згоду на ягонае разбурэньне як будынка, які не ўяўляе гісторыка-архітэктурнай каштоўнасьці, даў мой былы сябра, а зараз чыноўнік Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі. І чаму я тады не выйшаў у свой двор з плакатам і не запратэставаў?

Памёр мэр Паўлаў, памёр галоўны архітэктар Менска Белагорцаў — адэпты ўшчыльненьня Менска, вілу разбурылі, высеклі сад і паставілі бязьлікую скрынку з падземным гаражом. І дом Купаліхі ўжо не аднавіць. Маладзейшыя менчукі і ведаць не будуць, што тут нешта стаяла, зьвязанае зь беларускай культураю. Не, відаць, я ўсё ж не змаладушнічаў, а вырашыў не ўвязвацца яшчэ ў адну бойку, паралельную асноўнай. Бо нельга ж быць да кожнай бочкі заткалам — і там, і там, і там. Сілаў не хопіць і заламаешся. Але дамка Купаліхі няма, засталася вось толькі шчымлівая памяць.

Вяртаўся я ў гатэль іншым шляхам паўз дваровы стадыён, дзе падлеткі гулялі ў футбол. Па сьцежцы наўкол поля, пад соснамі, мамы ў вазках выгульвалі сваіх немаўлятаў.

Вуліца ізноў прывяла мяне да музея. Тут, з узгорку, можна было паглядзець на возера, на высокі струмень фантана і ўявіць сабе, што гэта вялікі кіт ляжыць на дне возера і выплёўвае са сваіх лёгкіх азёрную ваду.

Назаўтра зранку мы прыйшлі ў Палац Нацыяў, дзе праходзяць сесіі Рады па правах чалавека ААН, а таксама іншыя разнастайныя імпрэзы праваабарончага накірунку. На брыфінг, прысьвечаны сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі і Калумбіі, сабралася некалькі дзясяткаў чалавек, што даволі багата для такога роду мерапрыемстваў. Звычайна на брыфінгі прыходзіць вельмі розны народ — і дыпламаты, і аанаўскія чыноўнікі, і журналісты, і прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў.

Вазе нашага брыфінгу спрыяў удзел у ім сьпецыяльнага прадстаўніка Генеральнага сакратара ААН па праваабаронцах Маргарэт Секагіі. Сярод прысутных я ўбачыў Аню з нарвежскага фонду Дамоў правоў чалавека, сваю даўнюю сяброўку, якая шмат што зрабіла для таго, каб запрацаваў Беларускі Дом правоў чалавека ў Вільні. Аня гаворыць па-руску, грае на альце ў аркестры ў Осла, багата часу праводзіць у Закаўказьзі, дзе мае сумесныя праекты з тамтэйшымі праваабаронцамі. Мы разам зь ёй і Берыт назіралі за парламенцкімі выбарамі ў 2005 годзе ў Азербайджане. Там я навучыў яе есьці хурму, сакавітую і духмяную хурму з такой тонкай і пяшчотнай скуркай, што да яе і дакрануцца немагчыма, адразу лопаецца. З таго часу, бываючы ўвосень у Баку, яна заўсёды пісала мне эсэмэскі: “Я ў Баку, ем хурму”. Пры сустрэчах ці ў Осла, ці ў Варшаве, ці ў Вільні мы любім зь ёй паразмаўляць, пасьмяяцца.

Першай на брыфінгу выступіла сьпецпрадстаўніца генсека ААН. Гаварыла яна толькі пра Калумбію і ні слова пра Беларусь, што крыху засмуціла мяне. Затым выступіў калумбійскі юрыст. Сітуацыя ў Калумбіі была няпростай. Забойствы грамадскіх актывістаў, праваабаронцаў, прафсаюзных дзеячаў, левыя партызаны ў джунглях, правыя эскадроны сьмерці. Я крыху ведаў пра гэта ад Луіса, праваабаронцы з Калумбіі, генеральнага сакратара FIDH, які пяць гадоў пражыў як палітычны эмігрант у Бельгіі, а год таму ўсё ж вярнуўся на радзіму, нягледзячы на тое, што перад гэтым яго некалькі разоў спрабавалі забіць.

Выступаць пасьля двух сьпікераў, якія гаварылі на адну тэму, цяжка. Складана пераключыць увагу на іншы кантынент. Але я стараўся. У выступе, між іншага, папрасіў спадарыню сьпецпрадстаўніцу па праваабаронцах зьвярнуць большую ўвагу на становішча з праваабаронцамі ў Беларусі, якія з-за сваёй актыўнасьці і бескампраміснасьці апынуліся ў першых радах барацьбы за дэмакратыю і правы чалавека ў краіне. Таксама я папрасіў яе

зьвярнуцца да беларускага ўрада з прапановаю наведаць Беларусь. Яна міла пасьміхнулася мне ў адказ, але нічога канкрэтнага не паабяцала.

Пасьля нашых выступаў быў час на дыскусію з удзелам усіх прысутных. У зале ўзьняла руку і выступіла Аня. Яна гаварыла пра беларускія праблемы і яшчэ раз паўтарыла мае прапановы да спадарыні сьпецпрадстаўніцы. Тая ўжо не ўсьміхалася. Здаецца, яна зразумела, што заклапочанасьць лёсам беларускіх праваабаронцаў і правамі чалавека ў краіне мае міжнародны рэзананс і ад яе так проста не адмахнешся.

Пасьля заканчэньня брыфінгу я падзякаваў Ані за падтрымку. Затым мы пайшлі ў кавярню Палаца, знакамітую кавярню, дзе адбываюцца ўсе нефармальныя сустрэчы і перамовы. І там я, на сваю радасьць, убачыў Суэр Белхасен, прэзідэнта FIDH. Суэр уся сьвяцілася ад шчасьця. Толькі-толькі як у яе родным Тунісе адбылася "глогавая рэвалюцыя". Народ паўстаў, і аўтарытарны прэзідэнт Бен Алі вымушаны быў уцячы з краіны. Гэтая рэвалюцыя была зусім нечаканай і для інтэлектуальнай эліты Туніса, і для палітыкаў Еўрасаюза, і для Францыі, моцна зьвязанай з Тунісам культурна і гістарычна. Тым выдатнейшым быў гэты сюрпрыз, які паказаў нястрымную прагу туніскага народа да свабоды.

Мы абняліся. Я быў шчыра рады за Суэр, бо ўрэшце адбылося тое, пра што яна марыла і дзеля чаго працавала багата гадоў. У 2007 годзе Суэр прыязджала ў Беларусь па запрашэньні "Вясны". У размове са мною перад ад'ездам яна некалькі разоў паўтарыла: тое, што яна ўбачыла ў нас, ёй вельмі нагадвае тое, што ёсьць у Тунісе.

Мы селі паразмаўляць за столік. Я распавёў ёй пра вынікі сваёй паездкі, пра сітуацыю ў Беларусі. А яна прапанавала мне праз два тыдні паехаць у... Туніс. Там меркавалася вялікая канферэнцыя лідараў туніскіх няўрадавых арганізацыяў, першая пасьля рэвалюцыі, з удзелам урада і старшыні Еўрапарламента Ежы Бузэка.

Я пагадзіўся. Я быў гатовы ехаць у Туніс і выступіць там на канферэнцыі.

## Бабруйск, 11.09.12 (па штэмпелі)

Пасьля сустрэчы з Суэр у Жэневе я вярнуўся ў Менск. А праз два тыдні, 15 сакавіка я дабіраўся зь Менска ў Вену, зь Вены ў Парыж і з Парыжа ў Туніс. Сталіца краіны Туніс гэтаксама называецца Туніс. Канферэнцыя, у якой я меў браць удзел, называлася “Пераход да дэмакратыі ў Тунісе”. На ёй зьбіраліся абмяркоўваць шляхі гэтага пераходу і магчымыя перамогі і паразы. З замежнікаў пра “перамогі” зьбіраліся распавядаць палякі, а пра “паразы”, гаворачы пра Беларусь, я.

У Менску на газонах яшчэ ляжаў сьнег, а ў Тунісе стаяла позьняя вясна, днём было плюс 22. У гэтай невялікай арабскай міжземнаморскай краіне пры ранейшым рэжыме амаль адсутнічалі незалежныя СМІ, праходзілі зрэжысіраваныя ўладамі “выбары”, актывісты зь няўрадавых арганізацыяў знаходзіліся пад пастаянным прэсінгам, найперш сілавых ведамстваў. Ранейшыя ўлады Туніса, нягледзячы на аўтарытарны рэжым, адсутнасьць у краіне грамадскіх і палітычных свабодаў, тым не менш мелі неблагія стасункі зь Еўрасаюзам, палохаючы еўрапейскіх палітыкаў радыкальнымі ісламістамі. Калі не хочаце мець справу з намі, сьцьвярджалі яны, будзеце тады мець справы з ісламістамі. Тым не менш культурныя, грамадскія, цывілізацыйныя кантакты найперш з Францыяй кшталтавалі туніскія дэмакратычныя эліты. Яны былі даволі шматлікімі, арыентаванымі на еўрапейскія каштоўнасьці і няблага падрыхтаванымі для дэмакратычных зьменаў. Тысячы маладых тунісцаў вучыліся ў Францыі і Італіі, французская мова багата для каго была другой моваю. Нездарма прэзідэнтам FIDH стала журналістка, старшыня туніскай Лігі правоў чалавека

Суэр Белхасен. І духоўна, і прафесійна яна была цалкам падрыхтаваная, каб стаць на чале федэрацыі, якая аб'яднала каля 200 праваабарончых арганізацыяў з усяго сьвету. Шырыня яе поглядаў, энергія, інтэлект, востры розум і ўменьне глядзець наперад далі добры імпульс для разьвіцьця FIDH у апошнія гады.

І вось мы сядзім у вялікай зале, запоўненай грамадскімі актывістамі, якія сабраліся з усіх куткоў краіны Туніс. Тут і праваабаронцы, і актывісткі жаночых арганізацыяў, і прафсаюзьнікі, і блогеры — разнастайны народ. Аўдыторыя сваім складам нагадала мне форумы нашай Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. Я ўважліва ўглядаўся ў іхнія твары, лавіў тон іхніх размоваў. Тутэйшыя перакладчыкі, двое мужчынаў, якія па чарзе перакладалі мне з арабскай мовы на рускую, губляліся, бо ў іхнім ранейшым перакладчыцкім лексіконе не знаходзілася адпаведных словаў, якія гучалі ў прамовах выступоўцаў.

Але дзьве асноўныя эмоцыі прачытаў я ў вачах і прыкмеціў у паводзінах удзельнікаў канферэнцыі. Па-першае, яны яшчэ не звыкліся з тым, што перамаглі. І гэтая напрацаваная за дзесяцігодзьдзі стрыманасьць у сумоўі, асьцярожнасьць у рухах, абачлівасьць у паводзінах прабіваліся ў грамадзе то там, то сям. Па-другое, зусім супрацьлеглае — надзвычайны запал і эмацыйнасьць у выступах, як быццам бы яны толькі прыйшлі з дэманстрацыяў і мітынгаў і яшчэ не астыглі, не суцішыліся. Гэтае дзіўнае спалучэньне яшчэ больш падкрэсьлівала тое, што зьмены толькі як адбыліся.

П'янкое віно перамогі плёскалася ў вачох выступоўцаў, яны гаварылі пра пільныя і важныя праблемы, якія неабходна было тэрмінова вырашаць. Гэта і падрыхтоўка новай Канстытуцыі, і праблемы з правасудзьдзем, і неабходнасьць зьменаў у кансерватыўных колах вайскоўцаў і сілавых службаў, і эканамічная сітуацыя ў краіне, дзеля чаго была і пачалася рэвалюцыя, і жаданьні розных слаёў насельніцтва ў сувязі са зьменамі.

Я падпаў пад уплыў гэтай салодкай як мёд атмасферы зьменаў і выступаў эмацыйна і разьняволена. Прамаўляў, як засякла на гадзіньніку мая сяброўка Аляксандра, шаснаццаць хвілінаў. Гэта доўга, але зала слухала ўважліва. Я казаў пра тое, што ім, грамадскім лідарам і актывістам, няма чаго спачываць на лаўрах, бо дэмакратычныя зьмены і пераўтварэньні не прыходзяць самі па сабе, а здабываюцца ў выніку цяжкай штодзённай працы. І што гэтую працу павінныя рабіць яны самі, бо ніхто за іх яе не зробіць. Вы павінныя, сказаў я ім, забыцца на сон і адпачынак і працаваць круглыя суткі. Бо інакш рэакцыя можа вярнуцца. Я распавёў ім пра сумны гістарычны досьвед, які атрымалі беларусы за апошнія дваццаць гадоў. Беларусь стала незалежнаю, але дэмакратычныя рэформы на пачатку 90-х гадоў былі нясьмелымі і палавіністымі, яны не набылі незваротнасьць. Кансерватыўная частка былога кіраўніцтва краіны здолела перагрупавацца і аб’яднацца зь іншым лідарам. І адбыўся адкат ад дэмакратычных зьменаў, які працягваецца ўжо болей за паўтара дзесяцігодзьдзі. А ўсё таму, што дэмакратычныя сілы расслабіліся, шмат хто думаў, што зьмены ўжо незваротныя, і памыліўся.

Зразумела, што казаў я даволі схематычна, для людзей, якія мала што ці нічога не ведалі пра Беларусь, але свой пасыл — заклік быць пільнымі, працаваць, не супакойвацца — я, здаецца, перадаў. Яшчэ я параіў з халоднай галавою і ясным розумам разабрацца, разгледзець усе выпадкі парушэньняў правоў чалавека пры былым рэжыме, колькі б гэта часу і высілкаў ні каштавала. Справядлівасьць мусіць узяць гару, мусяць быць названыя і героі, і каты, і пакутнікі, і здраднікі. Гэта будзе адной з падставаў невяртаньня людзей са старой сістэмы да ўлады. Пасьля выступу ўдзельнікі канферэнцыі дружна пляскалі ў ладкі.

Была ў мяне яшчэ адна задума, якую я спадзяваўся зьдзейсьніць у Тунісе на гэтай канферэнцыі. У першы ж дзень прылёту, размаўляючы з Суэр, я папрасіў яе пага-

варыць з арганізатарамі з просьбаю ад мяне прыняць зварот да беларускага народа ад імя ўдзельнікаў канферэнцыі. Я меркаваў, што такі зварот у час агульнай паняверкі і ўтрапеньня ў Беларусі быў бы вельмі дарэчным. Суэр з разуменьнем выслухала мяне і паабяцала паруліцца.

І вось на канферэнцыі выступае невысокая мілавідная жанчына. Саша распавяла, што гэта адна зь непрымірымых праціўніц былога рэжыму Бен Алі, грамадская дзяячка, якая сядзела ў турме. У Францыі FIDH была арганізаваная кампанія па яе вызваленьні. Зараз яна — сябра камісіі па падрыхтоўцы новай Канстытуцыі Туніса, і яшчэ яна будзе прапаноўваць прыняць зварот да беларусаў.

Жанчына казала пра бягучыя праблемы Туніса, пра тое, як важна, каб не зьніклі і захаваліся архівы сьпецслужбаў, а потым сказала і пра Беларусь. Выступала яна эмацыйна, цьвёрда, прапанавала зваротам ад удзельнікаў канферэнцыі падтрымаць дэмакратычныя слаі беларускага грамадства, сказала, што гэта быў бы вельмі важны і сімвалічны жэст з боку перамогшай аўтарытарны рэжым маладой туніскай дэмакратыі. Пад канец выступу яна патэтычна заявіла, што “Алесь, які зараз знаходзіцца з намі, там, у Беларусі, працуе ў небясьпецы. І калі беларускія ўлады будуць перасьледаваць Алеся, то тады Туніс рашуча заступіцца за яго”.

У тую хвіліну, калі мне пераклалі гэты сказ, я заўсьміхаўся. Усё ў гэтым яе выказваньні выглядала эмацыйна-перавялічаным. Але зараз вось я думаю, што, гледзячы на мяне, яна штосьці прадчула, убачыла маю недалёкую будучыню сваім набітым вокам нядаўняй зэчкі.

Зварот прынялі пад бурныя воплескі аднагалосна.

Падчас канферэнцыі адбыліся яшчэ дзьве цікавыя сустрэчы. Першая, кароткая, была са старшынёй Еўрапарламента Ежы Бузекам. Прадставіў мяне яму польскі амбасадар у Тунісе, зь якім мы ў перапынку пазнаёміліся і крыху паразмаўлялі наконт беларускай сітуацыі. Ежы Бузек — стары салідарнасьцёвец, абазнаны і вопытны

палітык, які добра арыентаваўся ў беларускіх праблемах. Размаўлялі мы літаральна некалькі хвілінаў перад ягоным выступам на канферэнцыі. Я сказаў, што дэмакратычная грамадскасьць у Беларусі чакае дапамогі ад Еўрасаюза. І я пачуў, што Еўрасаюз настроены рашуча падтрымліваць правы чалавека ў Беларусі. І гэта было самае істотнае.

Я ніколі не саромеўся прасіць дапамогі для падтрымкі грамадскіх і палітычных правоў у Беларусі. Бо, па-першае, я прашу гэтую дапамогу не для сябе асабіста. Па-другое, трэба ведаць, што дэмакратычныя краіны ў межах міжнародных дамоў дэкларавалі гатоўнасьць аказваць такую дапамогу краінам і супольнасьцям ва ўсім сьвеце, хто мае ў ёй патрэбу. Па-трэцяе, у міжнародных стасунках яно так, што сёньня дапамагаюць вам, а заўтра будзеце дапамагаць вы. Бо гэтая дапамога спрыяе даверу паміж народамі, міжнароднай стабільнасьці, адкрытасьці і, урэшце, узроўню чалавечага вымярэньня ў краіне-донары. Палякі, якія перанесьлі дзесяцігодзьдзі прыгнёту ад камуністычнай таталітарнай улады, вельмі добра разумеюць каштоўнасьць міжнароднай салідарнасьці. Таму штосьці асабліва ім тлумачыць не выпадае.

Другая сустрэча прайшла ў наступны дзень канферэнцыі. І адбылася яна зь міністрам замежных спраў Туніса. Ізноў жа падчас перапынку Суэр падвяла мяне да яго, інтэлігентнага, усьмешлівага, з роўнай паставаю для сваіх сталых гадоў дыпламата. Ён, аказваецца, быў даўнім сябрам Суэр, размаўляў па-руску, бо некалі, яшчэ ў часы Савецкага Саюза, быў амбасадарам Туніса ў Маскве. Затым яго звольнілі зь Міністэрства замежных справаў за надта ліберальныя погляды. Моўнага бар’еру ў нас не было, за дзесяць хвілінаў размовы мы пасьпелі багата пра што паразмаўляць. Я прасіў міністра аказваць ціск на беларускія ўлады з патрабаваньнем выконваць міжнародныя абавязкі ў галіне правоў чалавека найперш у ААН. Я рэкамендаваў туніскаму МЗС прытрымлівацца ў дачыненьнях зь Беларусьсю пазіцыі, выпраца-

ванай Еўрасаюзам. Рэкамендацыя была зразумелай, бо ЕС зьяўляўся найбуйнейшым стратэгічным партнёрам Туніса. Міністр пагадзіўся і паабяцаў. Я пажадаў ягонаму народу посьпехаў у пабудове дэмакратычнага грамадства. Бо кожны станоўчы вынік трансфармацыі аўтарытарнага рэжыму зьяўляецца добрым прыкладам для іншых паднявольных народаў. Мы зь ім цёпла разьвіталіся.

У гэтай сустрэчы зь міністрам замежных спраў быў працяг. Праз два месяцы ў Туніс з афіцыйным візітам прыехаў Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун. У размове зь ім міністр згадаў нашую сустрэчу і спытаўся ў Генеральнага сакратара ААН, а ці дастаткова той робіць для спыненьня рэпрэсіяў і парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. Мабыць, Пан Гі Мун быў крыху азадачаны. Але пытаньне прагучала сур’ёзна, і ён мусіў сур’ёзна адказваць на яго.

Падчас абеду ў другі дзень канферэнцыі было крыху часу выйсьці навонкі і абгледзецца. Гатэль, дзе адбывалася канферэнцыя, стаяў на ўзгорку, удалечыні сінела мора. Сьвяціла гарачае сонца, лёгкія аблокі гулялі па небе. Я прайшоў па зьвілістай сьцяжынцы па прыгатэльным садзе. Цьвілі рознымі колерамі, ужо адцьвіталі цюльпаны, сьвежай чысьцінёю бялелі нарцысы. Я выйшаў да пляцоўкі невялікага амфітэатра, побач ляжалі і стаялі кавалкі антычных калонаў, якія стваралі мастацкую інсталяцыю і нагадвалі пра старажытную гісторыю Туніса. Непадалёк ад сучаснага Туніса знаходзіўся старажытны горад Карфаген, сталіца Паўночнай Афрыкі і зьлейшы вораг Рыма. Адсюль знакаміты Ганібал дзесяцігодзьдзямі назаляў Рымскай імперыі, і ў гэты бок, празь Міжземнае мора, крычаў рымскі сенатар Катон Старэйшы, заклікаючы рымлянаў: “Карфаген павінен быць разбураны!”. З гэтай зямлі паходзіць знакаміты хрысьціянскі тэолаг Аўгусьцін.

Але, на жаль, паглядзець на ўсё ж такі разбураны рымлянамі Карфаген часу ў нас не было. Адзінае што,

дык гэтага назаўтра ў мяне былі тры гадзіны вольнага часу, і пасьля абеду я не ўседзеў і выбраўся з гатэля, у якім мы жылі, у бок старога горада. Спачатку я прайшоў некалькі кварталаў, забудаваных напачатку XX стагодзьдзя ў мараканскім стылі ўзорчата-вітых формаў, а затым убачыў муры старога горада. Я ўвайшоў у цёмную змрочную браму і празь яе патрапіў у стары горад. Адразу за брамаю пачынаўся гарадскі базар, усе першыя паверхі дамоў былі занятыя невялікімі крамкамі з самым разнастайным таварам, аўтадэталямі, мэбляю, кілімамі, біжутэрыяй, адзеньнем і абуткам. Яткі з садавіною і гароднінаю стаялі доўгімі радамі пасярэдзіне вуліцаў.

Вось я ўбачыў ганчарную лаўку, зайшоў і набыў гліняны глечык формы, якая нагадвала старажытную амфару. Затым я спыніўся каля кавярні і зьеў булку з катлетаю і цыбуляю, залітую востраю падліваю. Затым прайшоў яшчэ троху і выпіў шклянку апельсінавага соку, які выціснулі ў мяне на вачах. “Ты адкуль?” — запыталася ў мяне дзяўчына, спрытна ўпраўляючыся з апельсінамі. “Зь Беларусі”, — адказаў я. “Менск?” — спыталася яна. “Так, так, Менск”, — заўсьміхаўся я ёй. Адкуль простая гандлярка са старога Туніса ведае горад, дзе я жыву? Яна шчыра ўсьміхнулася мне ў адказ. Усьмешка сьведчыць пра твае намеры, пра твой настрой, усьмешка — гэта як пароль у стасунках паміж людзьмі. Беларусы — стрыманы народ і рэдка пасьміхаюцца першымі. А дарэмна.

На вузкіх вуліцах старога горада зусім не было турыстаў, мабыць, гэта нядаўняя рэвалюцыя распалохала іх. Я быў ці не адзіным турыстам-зявакам, як той першы шпак, які прыляцеў на засьнежаную яшчэ суровую зямлю, і людзі зь цікаўнасьцю паглядалі на мяне… Я пасьміхаўся ім. Сваёй усьмешкаю я вітаў туніскі народ, які зьдзейсьніў вось гэткі цуд — “глогавую” ці “язьмінавую” рэвалюцыю. Гэты ціхмяны і нясьмелы народ, які, як казала мне Суэр, вельмі падобны да беларусаў.

## 9 верасьня 2012 г., Бабруйск

Пасьля выступу на палітычным камітэце Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы ў нас былі сустрэчы з групамі парламетарыяў па краінах. Я папрасіў калегаў трымацца такога ж сцэнару нашых выступаў. Адно што мы скарацілі працягласьць сваіх прамоваў да 4–5 хвілінаў, каб змаглі выступіць усе ўдзельнікі нашай групы. Мы зьбіраліся акцэнтаваць увагу на тым, каб Рада Еўропы больш актыўна выкарыстоўвала свае магчымасьці ў працы зь Беларусьсю і каардынавала свае дзеяньні зь іншымі міжнароднымі структурамі. Праўрадавы палітолаг, які быў у нашай дэлегацыі, быў задаўлены колькасьцю крытычных выступаў, і ягоны голас зводзіўся да аднаго: ну не ўсё ж так дрэнна ў Беларусі.

Да вечара было пяць сустрэчаў у нацыянальных групах, і мы пад канец дня былі моцна стомленыя. Гаварылі адное і тое ж, і толькі другая частка гэтых сустрэчаў, там, дзе былі пытаньні, была адрознаю. Пасьля апошняй сустрэчы мы сядзелі, змучаныя, у невялікай сьветлай залцы і моўчкі пілі каву і мінералку. “Яшчэ адзін дзень такіх сустрэчаў — і я не буду сябе любіць”, — паскардзілася праваабаронка. “А што зробіш, — падбадзёрваў я калегаў, — гэта нашая праца. Будзем хоць сто разоў паўтараць адно і тое ж. Галоўнае, каб быў плён”.

Назаўтра апроч такіх самых сустрэчаў з нацыянальнымі дэлегацыямі парламентарыяў у нас былі запланаваныя дзьве сустрэчы з групамі дэпутатаў, якія працавалі на Беларусі. У першую групу, якая традыцыйна займалася Беларусьсю, уваходзілі ў асноўным дэпутаты з польскага, літоўскага і нямецкага парламентаў. Ачольвала групу нямецкая дэпутатка. Мы размаўлялі больш глыбока і падрабязна, чым з нацыянальнымі дэлегацыямі. Мы больш поўна абгаворвалі розныя варыянты магчымых дзеяньняў Рады Еўропы ў справе вызваленьня палітзьняволеных.

Сустрэча была плённаю, усе пайшлі з кабінета на на-

ступную сустрэчу. Мяне кіраўнічка групы папрасіла затрымацца. “Мы атрымліваем ад вас інфармацыю, — сказала яна. — Далей мы тут, на міжнародным узроўні прымаем адпаведныя захады, размаўляем з вашымі ўладамі і не баімся, што нас за гэта пасадзяць у турму. А вось вас у Беларусі могуць пасадзіць за такую дзейнасьць, за вашую актыўнасьць. Вы павінныя быць больш разважлівымі і асьцярожнымі. Бярыце прыклад з “Amnesty International”, — працягвала яна. Я адказаў, што “Вясна”, гэтаксама як і “Amnesty”, зьяўляецца самастойнай праваабарончай арганізацыяй і самастойна вызначае тактыку і стратэгію сваіх дзеяньняў. “Вас пасадзяць у турму, а мы застанемся без інфармацыі”, — працягвала яна. “Мы не будзем сядзець склаўшы рукі, — адказваў я. — Значыць, такі наш лёс”. На гэтым нашая размова скончылася. Мы былі абое незадаволеныя ёй.

Пасьля абеду адбылася сустрэча з групаю дэпутатаў па расьсьледаваньні падзеяў 19 сьнежня. На яе прыйшоў старшыня групы дэпутат з Чэхіі і польскі дэпутат з сацыял-дэмакратаў. Размова зь імі была яшчэ больш расчаравальнай. Мы намаўлялі іх, каб яны як мага хутчэй, бо мінула ўжо амаль чатыры месяцы, падрыхтавалі свой даклад па 19 сьнежня, каб яны каардынавалі сваю дзейнасьць зь іншай групаю па расьсьледаваньні падзеяў 19 сьнежня, створаную ў рамках Маскоўскага механізма АБСЕ. Мы ж, са свайго боку, абяцалі даць ім усю патрэбную інфармацыю і ўсе неабходныя для збору фактаў кантакты.

Але дэпутаты былі непад’ёмнымі. А ці здолеем мы падрыхтаваць такі даклад без згоды беларускіх уладаў, а ці пусьцяць яны нас у Беларусь, а ці зьбяром мы неабходную інфармацыю, і ўрэшце — а ці не нашкодзіць наш даклад беларускай грамадзянскай супольнасьці. Мы іх цярпліва пераконвалі ў патрэбе такога даклада і падпіхвалі іх да дзейнасьці, як маглі. Урэшце нам гэта надакучыла, і мы, абмяняўшыся міжсобку красамоўнымі поглядамі, замоўклі. Так, памаўчаўшы некалькі хвілінаў,

мы разышліся. “Навошта было ствараць такую групу, якая нічога не робіць?” — абуралася жонка палітзьняволенага. Я нічога не мог адказаць ёй на яе пытаньне.

А ўвечары я пайшоў да Кірыла (Кірыл Карацееў. — ***Рэд.***) у госьці. Кірыл — малады, высокі, з шапкаю кучараў на галаве, юрыст-міжнароднік. Ён расіянін, выкладчык Страсбургскага ўніверсітэта, актывіст і эксперт FIDH, быў падрыхтаваў некалькі скаргаў расійскіх грамадзянаў да міжнароднага суда па правах чалавека, таксама ён браў удзел у некалькіх дасьледчых місіях FIDH. У 2007 годзе ён разам з Суэр Белхасен, прэзідэнтам FIDH, прыязджаў у Беларусь, у выніку чаго зьявіўся даклад “Умовы ўтрыманьня пад вартай у Рэспубліцы Беларусь”. Улетку 2010 года мы разам зь ім і яшчэ адным дасьледчыкам французам езьдзілі ў дасьледчыцкую місію ў Кіргізію, пра якую я ўжо пісаў.

Месяц таму, у сакавіку, Кірыл па нашым запрашэньні прыязджаў у Беларусь у якасьці дасьледчыка па падрыхтоўцы чарговага даклада FIDH, прысьвечанага аналізу сітуацыі падчас і пасьля выбараў. Апроч абавязковых падчас беларускіх місіяў сустрэчаў, збору матэрыялаў, Кірыл, між іншага, за гэтыя дзьве паездкі засвоіў канструкцыю беларускай мовы, нанізаў на яе, колькі змог, засвоенай лексікі і ў выніку мог даволі ўдала зьвязаць колькі неабходных для сумоўя фразаў па-беларуску. На добрым узроўні ён ведаў усе асноўныя еўрапейскія мовы, размаўляў і чытаў на іх розную прававую літаратуру, кодэксы, законы, судовыя выпадкі. Ён адчуваў сябе ў еўрапейскай юрыспрудэнцыі як рыба ў вадзе.

У Парыжы, дарэчы, у сядзібе FIDH былі сумневы, ці варта рабіць даклад па падзеях у Беларусі, калі ўжо быў падрыхтаваны даклад “Human Rights Watch”. Але я пераканаў супрацоўнікаў парыжскага офіса ў тым, што такі даклад будзе зусім не лішнім, ён будзе чарговым замерам сітуацыі, якая хутка зьмянялася, і таму будзе мець адметную каштоўнасьць.

Місія ў Беларусь адбылася. І калі мяне запрасілі ў

гэтую паездку ў Страсбург, то я сьпісаўся з Кірылам, і мы дамовіліся зь ім сустрэцца, каб у тым ліку паразмаўляць і пра даклад місіі, які рыхтаваўся ў гэты час.

Кватэра, якую ён здымаў разам са сваёй жонкаю, аказалася ў дваццаці хвілінах хады ад будынкаў Рады Еўропы. Гэта быў ужо прыгарад Страсбурга, таксама як і тая вёсачка, дзе я здымаў гатэль, дагледжаны спальны раён, прыстасаваны і ўладкаваны для ўтульнага жыцьця, са стагадовымі двух- і трохпавярховымі адрэстаўраванымі дамамі, зь зялёнымі, няпраўдападобна дагледжанымі газонамі і старым касьцёлам у цэнтры колішняй прыстрасбургскай вёскі. Кватэра была аднапакаёваю, з маленькай варыўняю, шырокай канапаю, кніжным сталом, музычным цэнтрам, гітараю і ноўтбукамі, такое тыповае моладзевае жытло, заваленае юрыдычнымі кодэксамі на розных мовах. Я падарыў Кірылу “Шалом” ад Артура Клінава, якую браў сам прачытаць, ды не пасьпеў, — няхай практыкуецца. Кірыл адварыў белыя нямецкія сасіскі, дастаў піва зь лядоўні, і мы паселі ў крэслах, п’ючы піва і абмяркоўваючы розныя навіны. А праваабаронцам, нават калі розьніца ва ўзросьце ў іх у 20 гадоў, ёсьць заўсёды пра што пагаварыць. Неўзабаве прыйшла ягоная жонка і далучылася да нашай кампаніі.

Сваю частку даклада Кірыл ужо завяршыў і распытваўся ў мяне пра апошнія навіны ці факты, якія яго цікавілі і маглі б штосьці дадаць у даклад. А пасьля мы яшчэ паразмаўлялі пра тое, што ў яго сканчаецца кантракт са Страсбургскім універсітэтам і ён жадаў бы быць больш далучаным да беларускіх справаў. Кірыл распытваўся пра Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт у Вільні, ці можна было б яму паспрабаваць уладкавацца туды і пачытаць курс лекцыяў. Вядома, што я падтрымаў ягоную ідэю. Кірыл быў выдатным юрыстам-міжнароднікам і адначасова праваабаронцам, і ягоны ўзровень ведаў і практычны вопыт, нягледзячы на маладосьць, былі б карыснымі для беларускіх студэнтаў. Кірыл нават па-

абяцаў, што калі атрымаецца ўладкавацца, то ён будзе гатовы выкладаць па-беларуску.

Мы засядзеліся, гамонячы, дапазна. І ў гатэль я вяртаўся на таксоўцы.

Назаўтра зранку, прыйшоўшы пешшу да будынка Рады Еўропы, на ганку я сустрэўся з калегамі, якія распавялі, хто ўчора выступаў. І ён (Лукашэнка. — ***Рэд.***) нервова і раздражнёна, калі не з пагрозаю ў голасе, адгукнуўся аб прадстаўніках радыкальнай апазіцыі, якія ў той час, калі ў краіне жалоба і смутак па загінулых падчас тэракту ў метро, займаюцца паклёпніцтвам і наладзілі ў Страсбургу танцы на касьцях. Гэтае выказваньне ўчора некалькі разоў круцілі падчас навінаў па ўсіх дзяржаўных тэлевізійных каналах. І яно адносілася менавіта да нас. Наш страсбургскі апякун Пітэр быў устрывожаны гэтай інфармацыяй.

У гэты дзень было ізноў некалькі сустрэчаў. Відавочна, што Пітэр са швейцарскай педантычнасьцю вырашыў выціснуць з нашай паездкі і з нас па-максімуму. Мы крахталі, але цярпелі, усе пагаджаліся, што не гуляць жа мы сюды прыехалі.

Найбольш цікаваю была сустрэча зь Венецыянскай камісіяй, да якой мы спрабавалі дагрукацца аж з 2006 года. Інтарэс беларускіх праваабаронцаў быў у тым, каб гэтая камісія пры Радзе Еўропы, складзеная з аўтарытэтных юрыстаў, дасьледавала і зрабіла сваё заключэньне па артыкуле Крымінальнага кодэкса Беларусі, які прадугледжвае адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Менавіта па гэтым артыкуле 193[2] у 2006 годзе судзілі актывістаў "Партнёрства" — арганізацыі, якая спрабавала наладзіць назіраньне за папярэднімі прэзідэнцкімі выбарамі. Па ім жа былі асуджаныя некалькі актывістаў "Маладога Фронту".

У выпадку прызнаньня Венецыянскай камісіяй гэтага артыкула неадпавядальным міжнародным нормам беларускія ўлады апынуліся б у даволі непрыемнай сітуацыі. Тады, на добры лад, трэба было б прыбіраць гэты

рэпрэсіўны артыкул з Крымінальнага кодэкса, а справядлівасьць асуджэньня па гэтым артыкуле мела б яшчэ большы сумнеў.

Згодна з існуючымі працэдурамі, ініцыяваць такі разгляд у Венецыянскай камісіі могуць дэпутаты Рады Эўропы. Таму ва ўсе папярэднія сустрэчы мы настойліва прасілі дэпутатаў выступіць з такой ініцыятываю.

З адной з выканаўчых супрацоўніц Венецыянскай камісіі ў нас і адбылася размова. Нас цікавілі перспектывы такога разгляду, ягоныя магчымыя тэрміны. Яна пацьвердзіла, што гэта магчыма, і распавяла аб працэдуры такога разгляду і прыняцьця рашэньня. Сустрэчаю мы засталіся задаволеныя. Калі намоўленыя дэпутаты не падвядуць нас, то неўзабаве такі зварот зьявіцца ў Венецыянскай камісіі і на працягу года па ім будзе прынятае юрыдычнае заключэньне.

У гэты ж дзень адбылася яшчэ адная памятная і прыкметная сустрэча з Генеральным сакратаром Парламенцкай асамблеі Рады Эўропы (ПАРЕ). Мы сядзелі ў кабінеце, чакалі яго і размаўлялі зь ягоным дарадцам і памочнікам, хлопцам гадоў 35, расіянінам. Генсек затрымліваўся, дарадца-расіянін частаваў нас каваю, мы гаварылі пра магчымасьці далейшага супрацоўніцтва Беларусі і Рады Эўропы. Прагнозы і ў яго, і ў нас былі песімістычнымі. Толькі як быццам бы наладзіліся нейкія працоўныя стасункі, адчыніўся інфармацыйны цэнтр Рады Эўропы ў Менску, пайшлі сумесныя семінары, паездкі — і вось, такі адкат пасьля 19 сьнежня. Эўрапейскія палітыкі, казаў ён, стаміліся распрацоўваць планы, пабудаваныя на аптымізме, бо беларускі бок перакрэсьлівае гэтыя планы і яны ляцяць у кош. Прасьцей заняць выразную негатыўную пазіцыю і чакаць, пакуль у самой Беларусі не пачне штосьці сур’ёзна мяняцца.

Так, пагаджаліся мы, толькі зьмены ў самой Беларусі могуць зьмяніць сітуацыю. Мы ж, праваабаронцы, зацікаўленыя ў тым, каб еўрапейскія палітыкі і чыноўнікі не ўжывалі да Беларусі двайныя стандарты. Бо нішто

так не падрывае веру ў справядлівасьць дэмакратычнага грамадства, нішто так не дэмаралізуе яго, як розны падыход і розная ацэнка адных і тых жа зьяваў і падзеяў. Калі Беларусь пазіцыянуецца і галасна абвяшчаецца еўрапейскай дзяржаваю, то і падыход да яе павінен быць, як да еўрапейскай дзяржавы.

Дарадца Генсека пагадзіўся. “Так, — сказаў ён, — калі бываеш у Менску, дык адчуваеш, што гэта еўрапейскі горад. У мяне ёсьць знаёмыя беларусы, — працягваў ён, — адукаваныя і прасунутыя людзі. Праўда, у апошнія гады зьявілася непрыемная рыса ў нашых размовах. Здаецца, усе мы выйшлі з Савецкага Саюза, а вось пачынаеш зь імі размаўляць у нефармальных абставінах, за півам, і ўсе беларусы, як адзін, крытыкуюць Расію. І тое ў Расіі пагана, і гэта”.

Мы пераглянуліся і прамаўчалі.

Урэшце прыйшоў Генсек ПАРЕ. Ён быў узрушаны і ўстрывожаны крытычнымі выказваньнямі ў наш бок і сказаў, што выступіць з заяваю і сустрэнецца зь беларускімі прадстаўнікамі пры Радзе Еўропы, каб папярэдзіць іх пра недапушчальнасьць нашага перасьледу.

А ўвечары Пітэр запрасіў нас да сябе дадому ў госьці. У гэты дзень ён прыехаў на працу на арандаваным мінівэне. Пасьля ўсіх сустрэчаў мы пагрузіліся ў яго і паехалі ў прыгараднае сяло, дзе Пітэр зь сям’ёй арандаваў для жытла дом. Дом быў невялікі, але ўтульны, з прасторнай варыўняю і гасьцёўняю на першым паверсе, спальнямі на мансардзе і адкрытай верандаю з мангалам. Дворык быў невялікі, мо зь якіх дзьве соткі, адгароджаны ад суседзяў жываплотам, на ім быў газон, расла трава. Жонка ў Пітэра была славенкаю, удома ў сябе працавала ў праваабарончай арганізацыі, пакуль не выйшла замуж, у іх было двое сыноў. Зь дзецьмі яны размаўлялі на швейцарскім дыялекце нямецкай мовы.

Вось табе і зьліцьцё моваў, думаў я. Людзі ў цэнтры Еўропы берагуць свае дыялекты, не саромеюцца іх, не забываюць, вучаць размаўляць на іх дзяцей. Бо яны ша-

нуюць роднае слова, адчуваюць ягоную значнасьць для ўласнай самаідэнтыфікацыі. А мы, беларусы, не тое што дыялекты пакідаем, дык і самую літаратурную мову занядбалі.

Нас частавалі чыпсамі, гарэшкамі, смажанымі на мангале сасіскамі і антрэкотамі зь півам. Заўтра быў адлёт, нашая праграма візіту скончылася. Пітэр, запінаючыся, выбачаўся за тое, што наш візіт паставіў нас пад пагрозу, а потым сказаў, што калі хто з нас хоча перачакаць гэты напружаны час, то можна застацца ў іх удома на месяц і пажыць тут. Мы са сьмехам і жартамі шчыра падзякавалі яму. Ніхто з нас не зьбіраўся здаваць квіткі.

Увечары ў гатэль на сотавы патэлефанаваў мой калега і сябар зь "Вясны" і сказаў, што будзе сустракаць мяне ў аэрапорце.

Калі на наступны дзень я прыляцеў у менскі аэрапорт, то без праблемаў прайшоў мяжу і мытню. Мае калегі-праваабаронцы сустрэлі мяне. "Мы апасаліся, што цябе могуць арыштаваць проста ў аэрапорце", — казалі яны. Мне быў прыемны іхні клопат. Відаць, час для арышту яшчэ не наступіў.

## 20 лістапада 2012 г., Бабруйск

Увесну 2011 года споўнілася 15 гадоў ад стварэньня "Вясны". Я ўжо двойчы пісаў пра гэта яшчэ будучы на волі, і кожны раз мне падаецца, што я не ўсё сказаў, што забыўся на штосьці істотнае, самае галоўнае. Напісанае на паперы закранае нейкія ўрыўкі, фрагменты, успаміны абставінаў і жаданьняў. З апісанага высклізвае дух "Вясны". Я расчароўваюся, бо я не здольны перадаць атмасферу яе зачацьця. Зрабіць аказалася прасьцей, чым перадаць той уздым і віхор эмоцыяў і пачуцьцяў, які прывёў да нараджэньня "Вясны". А зьява ж адбывалася важная і знакавая для мяне асабіста ды сотняў вясноў-

цаў, для іншых людзей, хто ў большай ці меншай ступені дачыніліся да праваабарончай дзейнасьці ў "Вясьне", зь "Вясною" і каля "Вясны". Важнай была і застаецца праца па дапамозе, па зборы і распаўсюду інфармацыі, па навучаньні. А яшчэ больш важнае і значнае сімвалічнае, духоўнае значэньне гэтага дзіцяці, якое было зачата на Чарнобыльскім шляху ў Менску ў 1996 годзе падчас зьбіцьця дэманстрантаў і масавых арыштаў. І не пасьпела "Вясна" ўпэўнена стаць на ногі, як была пазбаўлена Мінюстам законных правоў на існаваньне ў 2003 годзе. Але ж не памерла, акрыяла і ярасна і весела чаплялася за жыцьцё і жыла напоўніцу ўсе наступныя нялёгкія гады.

Тое, што "Вясна" ў такіх жахліва неспрыяльных умовах праіснавала, пражыла 15 гадоў, ды як пражыла, стала найбольш актыўнай, крэатыўнай, найбольш уплывовай і пазнавальнай з праваабарончых суполак, — гэта можна назваць цудам. Найбольшы цуд, аснова "Вясны" — гэта людзі, якія былі ў ёй ад пачатку, якія стваралі "Вясну" ў яе яркасьці і адметнасьці, а тыповасьць — у тым, што, дзякуй Богу, не толькі адная "Вясна" можа ганарыцца 15-гадовым узростам і гісторыяй. Дзясяткі, а то і сотні іншых беларускіх няўрадавых арганізацыяў маюць таксама некароткі і багаты на падзеі жыцьцёвы шлях. "Вясна" — роўная іншым, і "Вясна" — у авангардзе, у першых радох, там, дзе і мусіць быць па сваёй ідэі, па сваёй задуме і пакліканьні. За гэты час мы не аслабелі, не змадзелі, не змаргіналізаваліся. Наадварот, мы сталі больш вопытнымі, жыцьцяздольнымі, крэатыўнымі.

Усе гэтыя думкі апаноўвалі мяне напярэдадні юбілею "Вясны". Яшчэ ў 2010 годзе ў гамонках і абмеркаваньнях выкрышталізоўвалася некалькі пунктаў, якія хацелася б нам зрабіць да юбілею, да красавіка 2011 года. Кніжку інтэрв'ю актывістаў "Вясны", кніжку эсэ і ўспамінаў пра жыцьцё "Вясны", пра нашую праваабарончую дзейнасьць, фотавыставу, шэраг вечарынаў і сустрэчаў.

Ідэя падрыхтаваць і выдаць кніжкі была маёй. Бо,

стоячы ля вытокаў стварэньня “Вясны”, я, як ніхто хіба, адчуваў хуткаплыннасьць часу. Гэтыя 15 гадоў прамільгнулі, як 15 дзён. Я адчуваў пільную патрэбу зафіксаваць пераажытае і нажытае за гэтыя гады ў “Вясьне”.

Праца над запісам інтэрв’ю пачалася яшчэ ў 2010 годзе. Але потым падзеі 19 сьнежня 2010 года замарудзілі стварэньне кніжак. А вось фотавыставу за 15 гадоў жыцьця і дзейнасьці мы разьмясьцілі на сьценах свайго офіса ў вялікім фармаце, у прыгожых асадах. Яе адкрыцьцё мы сумясьцілі з прыёмам дыпламатаў і журналістаў, зладжаным намі ў зьвязку зь 15-мі ўгодкамі “Вясны”. Прыйшлі пяцёра амбасадараў і яшчэ дыпламатычныя работнікі іншага рангу замест амбасадараў, якія прыйсьці не здолелі.

Я сьціслa, хаця атрымалася не зусім коратка, распавёў пра шлях разьвіцьця праваабарончай думкі, ідэяў і руху праваабаронцаў у Беларусі. І пачаў з другой паловы XVIII стагодзьдзя. Вялікае Княства Літоўскае, дзяржава беларусаў і літоўцаў, у той час у саюзе з Польшчаю ўтварала Рэч Паспалітую. У нашай шматнацыянальнай, з рознымі веравызнаньнямі краіне, несумненна еўрапейскай дзяржаве існавала надзвычай багатая і перадавая як на той час філасофія, была разьвітая грамадска-палітычная думка.

У тыя часы ў Беларусі поўным ходам ішло асэнсаваньне чалавечага “я”, праваабарончых каштоўнасьцяў у сучасным іх разуменьні. Зьяўляліся тэарэтычныя філасофскія трактаты, прысьвечаныя роўнасьці людзей, разглядаліся іншыя фундаментальныя чалавечыя правы, прапаноўваліся тэорыі і планы больш справядлівага ўладкаваньня грамадства. Часта заканадаўцамі грамадзянскай, духоўнай і палітычнай думкі выступалі сьвятары, натхнёныя ідэямі чалавечай роўнасьці, якія прапаведавала еўрапейскае хрысьціянства. Таксама роўнасьць чалавека падтрымлівалі прадстаўнікі вышэйшага стану, якія атрымалі адукацыю ў Еўропе. Больш таго, у духу асьветніцтва і рэфарматарства, новых эканамічных тэорыяў право-

дзіліся зьмены ў эканоміцы, адукацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Слабасьць каралеўскай улады моцна спрыяла разьвіцьцю талерантнасьці і вальнадумства.

Па разуменьні свабодаў, каштоўнасьці правоў чалавека, актыўнай прапагандзе новых ідэяў і іх распаўсюдзе ў шырокіх колах адукаванага грамадства, а праз адукаваных людзей — яшчэ глыбей і шырэй Вялікае Княства Літоўскае, як частка Рэчы Паспалітай, ішло літаральна сьлед у сьлед за Францыяй, дзе адбылася дэмакратычная рэвалюцыя і была прынятая і абвешчаная Дэкларацыя правоў чалавека.

У Рэчы Паспалітай і ВКЛ “заразу” вальнадумства прыдушылі суседнія абсалютысцкія, таталітарныя дзяржавы — Расія, Прусія і Аўстрыя. Менавіта з-за боязі распаўсюду вальнадумства з Рэчы Паспалітай гэтая дзяржава была разарваная на тры часткі, у выніку чаго Вялікае Княства Літоўскае было акупаванае Расійскай імперыяй. Гэта падзея карэнным чынам зьмяніла накірунак разьвіцьця Беларусі і ўцягнула яе ў бясконцую чараду стратаў і трагедыяў.

Усе паўстаньні, якія адбываліся ў Беларусі ў 1794, 1830, 1863 гадах, мелі вызвольны і дэмакратычны характар. Ужо ў 1796 годзе галоўнакамандуючы паўстанцкім войскам у Вялікім Княстве Літоўскім Якуб Ясінскі літаральна праз пару тыдняў пасьля захопу ўлады ў Вільні абвясьціў гістарычны акт — вызваленьне сялянаў Беларусі і Літвы ад прыгону. Дзякуючы гэтаму акту, які не пасьпеў запрацаваць напоўніцу, палова ягонага насьпех сабранага войска складалася зь сялянаў-касінераў, якія ішлі біцца з маскалямі, адстойваць у прамым, літаральным сэнсе сваю свабоду. Такім чынам, адмена прыгону ў Беларусі першы раз адбылася на 65 гадоў раней за паўторную адмену, якая прайшла ў межах Расійскай імперыі.

А знакамітыя словы Кастуся Каліноўскага, якія ён выгукнуў у 1864 годзе, стоячы пад пятлёй. Калі ў прысудзе яго назвалі “дваранінам Каліноўскім”, ён паправіў:

“У нас няма дваранаў. У нас усе роўныя!” Грамадзянская і палітычная роўнасьць, валоданьне правамі чалавека ўсімі без выключэньня жыхарамі Вялікага Княства Літоўскага — гэта тое, чаго дабіваліся паўстанцы 1863 года для ўсяго беларускага народа.

І ў XX стагодзьдзі беларусы працягвалі змагацца за роўнасьць і правы чалавека. Ва Устаўных граматах Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай у 1918 годзе, дзяржава гарантавала ў межах пражываньня беларускага народа захаваньне асноўных грамадзянскіх і палітычных правоў. У 30-я гады ў Заходняй Беларусі беларускія палітычныя партыі ў сваіх палітычных праграмах афіцыйна выступалі супраць сьмяротнага пакараньня. У пасьляваенныя гады беларускія моладзевыя падпольныя арганізацыі мелі на мэце пабудову незалежнай дэмакратычнай Беларусі. У 1968 годзе беларускія дысідэнты выступілі супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію.

У выніку змаганьня за правы чалавека ў пасьляваенны час сотні беларусаў пацярпелі ад таталітарных камуністычных уладаў, былі асуджаныя, сасланыя, перасьледаваліся іншым чынам. Так, беларускі дысідэнт, праваабаронца Міхась Кукабака адсядзеў у псіхушках і лагерах 18 гадоў і быў апошнім вязьнем сумленьня, які ў 1989 годзе быў вызвалены з лагераў.

У 1988 годзе ў Менску была створаная першая беларуская праваабарончая арганізацыя “Мартыралог Беларусі”. А ў 90-я гады зьявіўся цэлы шэраг праваабарончых арганізацыяў. Таму зьяўленьне і праца “Вясны” мае лагічны гістарычны кантэкст. А яе актуальнасьць абумоўленая вялікаю патрэбаю, якая ўзьнікла ў беларускім грамадстве ў такой арганізацыі пасьля 1994 года.

Мой выступ перад замежнымі амбасадарамі быў пункцірным, але канцэптуальным. Інфармацыя была для іх малавядомай, таму, хоць і гаварыў я даўгавата, хвілінаў з 20, госьці не занудзіліся і слухалі ўважліва. Мы самі ведаць не ведаем, наколькі ў свой час беларусы былі ўклю-

чаныя, інтэграваныя ў агульнаеўрапейскія працэсы. Тым больш пра гэта не ведаюць іншыя. Такім чынам распачалося сьвяткаваньне 15-х угодкаў “Вясны”.

Увесну 2011 года мы пасьпелі сабрацца і адсьвяткаваць наш юбілей разам з рэгіянальнымі актывістамі. А вось сустрэчу з калегамі-праваабаронцамі ў Менску зладзіць не пасьпелі, хоць і планавалі яе. Як не пасьпелі выдаць і дзьве кнігі, пра якія я пісаў вышэй. Урэшце кніга інтэрв’ю актывістаў вясны выйшла ў 2012 годзе, да наступных, 16-х угодкаў.

Але хіба што самай яркай падзеяй, якая сімвалічна падвяла рысу пад 15-гадовай гісторыяй “Вясны”, была гісторыя, зьвязаная з маім арыштам. Гэтая падзея намі зусім не планавалася, але яна стала своеасаблівым вынікам, вяршыняю нашай дзейнасьці. Слабых не чапаюць. Гісторыя “Вясны” яшчэ не скончаная, яна працягваецца далей.

## Бабруйск, 29.10.12 (па штэмпелі)

У траўні 2011 года была яшчэ адна паездка ў Маскву. Маскоўская Хельсінкская група 12 траўня адзначала свае 35-я ўгодкі. Утварылася яна пасьля падпісаньня ў 1975 годзе СССР і Заходнім сьветам Хельсінкскіх пагадненьняў і пасьля стварэньня АБСЕ. Кожны з бакоў гэтых пагадненьняў меў свой інтарэс. Для Саветаў было важным прызнаньне пасьляваенных межаў і зьніжэньне накалу гонкі ўзбраеньняў, бо эканоміка не вытрымлівала зададзеных Амерыкай шалёных тэмпаў. Еўропа ж фактычна пагаджалася з акупацыяй Прыбалтыкі і часткі Фінляндыі, зьдзейсьненых Саюзам у 1940 годзе. А наўзамен Еўропа атрымлівала большую бясьпеку і спакой у стасунках з узброеным да зубоў СССР. Дэмакратычная Еўропа баялася камуністычнай чумы. Супрацьстаяньне блока НАТА і блока гэтак званых “сацыялістычных краі-

наў” на чале з СССР мела высокі ўзровень і ў любы момант магло перайсьці ва ўзброены канфлікт. Адная толькі дэталь, пра якую я даведаўся з радыё, пішучы гэтыя радкі, відавочна сьведчыла пра няўпэўненасьць і боязь еўрапейскіх краінаў. Залаты запас ФРГ захоўваўся ў банках Англіі і ЗША. Трымаць яго ў Германіі заходнія немцы лічылі небясьпечным.

Таму Хельсінкскія пагадненьні былі неабходным кампрамісам паміж дзвюма палітычнымі сістэмамі. Але выкарысталі гэтыя пагадненьні і праваабаронцы. Ідэя наладзіць грамадзянскі кантроль за выкананьнем абавязкаў у галіне грамадзянскіх і палітычных правоў, дзяжурна запісаных у Хельсінкскіх пагадненьнях, належала расійскаму дысідэнту, доктару фізіка-матэматычных навук Юрыю Арлову. Гэта была адная са шматлікіх ідэяў, якія нараджаліся і працягваюць нараджацца ў кулуарных праваабарончых асяродках. Колькі такіх ініцыятываў па кантролі за выкананьнем Канстытуцыі СССР, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ды іншых міжнародных дамоваў было абмеркавана і запачаткавана дагэтуль! Увесь час праваабаронцы шукаюць сродкі і шляхі, як цяпер кажуць, інструменты барацьбы за дэмакратычныя правы і свабоды, дабіваюцца іх выкананьня дзяржавамі і ўладамі. Ідэя ж Юрыя Арлова мела выключна важнае значэньне. Ёй быў наканаваны больш удалы, наўрад ці тут падыходзіць слова “шчасьлівы”, лёс. Гэтая форма праваабарончага кантролю за дзеяньнямі ўрада, сумешчаная ў тагачасных умовах зь яскравымі праявамі мірнага супраціву, знайшла шырокі водгук і падтрымку як у дысідэнтаў СССР, так і ў Еўропе. Неўзабаве Хельсінкскія камітэты былі створаныя ў Расіі, Літве, Грузіі, Арменіі, Украіне і ў еўрапейскіх краінах. У Еўропе яны паўтвараліся ў асноўным з мэтаю аказаньня салідарнай дапамогі дысідэнтам у СССР ды іншых “сацыялістычных” краінах.

Сябры Хельсінкскіх камітэтаў у СССР сурова перасьледаваліся ўладамі. Амаль усе яны прайшлі праз тур-

мы, зоны, ссылкі. Хтосьці быў кінуты ў псіхушку, нехта быў вымушаны эміграваць. Сем гадоў лагераў і ссылкі адбыў заснавальнік Маскоўскай Хельсінкскай групы Юры Арлоў. Вымушана была эміграваць Людміла Аляксеева. І Арлоў, і Аляксеева, сёньняшняя кіраўніца МХГ, напісалі выдатныя кнігі пра тыя часы драматычнага і, здавалася б, бесьперсьпектыўнага змаганьня жменькі адчайных і безразважных сьмельчакоў з магутнаю агрэсіўнаю дзяржаўнаю сістэмаю. Іх я раю прачытаць кожнаму, хто цікавіцца гісторыяй мірнага антыкамуністычнага супраціву ў 60–80-я гады ХХ стагодзьдзя.

Тагачасныя стваральнікі і актывісты МХГ Юры Арлоў і Людміла Аляксеева запрасілі некалькіх праваабаронцаў зь Беларусі ўзяць удзел у сьвяткаваньні 35-х угодкаў МХГ.

У нас добрыя сяброўскія стасункі з расійскімі праваабаронцамі, таму мы, вядома ж, пагадзіліся. На юбілейнай канферэнцыі можна было б сустрэцца і пагутарыць зь сябрамі зь міжнароднай праваабарончай назіральніцкай місіі, якіх улады выкінулі зь Беларусі і забаранілі ім уезд у краіну на некалькі гадоў.

На юбілейную імпрэзу, якая праходзіла ў гатэлі “Космас”, сабраліся праваабаронцы з усяе Расіі, было багата замежных гасьцей. Выступаў Юры Арлоў, невялікага росту дзядзечка зь сьветлым розумам і добрай памяцьцю. Яму было ўжо за 80. Мяне гэта ўразіла з добрага боку. У свае вялікія гады яны не сядзелі склаўшы рукі, а і далей, наколькі хапала энергіі і здароўя, працягвалі сваю праваабарончую працу.

Расклад канферэнцыі прадугледжваў круглы стол па Беларусі. На гэты круглы стол сабраліся зацікаўленыя журналісты, праваабаронцы зь іншых краінаў. Мы, выступоўцы, распавялі пра апошнія навіны і падзякавалі расійскім праваабаронцам за салідарнасьць зь беларускім народам у цяжкую гадзіну. А салідарнасьць жа сапраўды была адчувальнай.

Там жа, на канферэнцыі, сустрэўся я зь дзвюма жан-

чынамі з расійскіх рэгіянальных праваабарончых арганізацыяў, зь якімі апошні раз мы бачыліся ў Менску. Мы цёпла прывіталіся. Нашае спатканьне ў Менску было больш драматычным. Гэта быў пятнічны травеньскі дзень. Увечары я быў удома ў Менску і пасьпеў выпіць падчас вячэры кілішак каньяку. І добра, што не болей, бо патэлефанавала мая каляжанка зь "Вясны" і паведаміла, што недалёка ад майго дома на вуліцы Чырвонай АМАП ломіцца ў кватэру, у якой зачыніліся трое жанчынаў, назіральніцаў зь міжнароднай назіральніцкай місіі. Яны апасаюцца адчыняць дзверы і просяць, каб мы падказалі, што ім рабіць у такой сітуацыі. "Добра, — адказаў я, — празь пятнаццаць хвілінаў буду". Я схапіў пачак жуйкі дзеля таго, каб перабіць пах каньяку, памацаў кішэню, ці ляжыць там пашпарт, і подбегам вырушыў на Чырвоную.

Калі я падышоў да ўказанага мне дома, то ўбачыў каля пад'езда двух амапаўцаў. Стоячы каля іх, я набраў нумар расійскіх калегаў, якія сядзелі ў асадзе, і запытаўся, як у іх справы. "Нам адключылі сьвятло, — паскардзіліся яны, — і пагражаюць, што неўзабаве выб'юць дзьверы". Я пэратэлефанаваў сваймy вясноўскаму калегу і хутка параіўся, што мы тут можам зрабіць. Выглядала, што небагата, улічваючы, што ніякіх асаблівых дакументаў у мяне не было і я фармальна прадстаўляў толькі сам сябе. Трэба пастарацца папрысутнічаць пры разьбіральніцтве расійскіх праваабаронцаў зь міліцыяй настолькі доўга, наколькі гэта будзе магчыма, вырашыў я. Мая прысутнасьць будзе пэўным стрымліваючым фактарам для міліцыянтаў.

Між тым, слухаючы мае перамовы па тэлефоне, якія я знарок вёў пры іх, амапаўцы пацікавіліся ў мяне: "А вы хто?" — "Праваабаронца, — цьвёрдым упэўненым голасам адказаў я. — Іхні калега, — я тыцнуў пальцам у пад'езд. — Толькі мясцовы, тутэйшы".

Я працягваў размову і ў загадным ладзе: "Скажыце вашаму галоўнаму, што я перагаворшчык".

Амапаўцы пераглянуліся і сказалі мне: “Не хочуць адчыняць дзьверы міліцыі вашыя калегі”. Перагаварылі па рацыі і, атрымаўшы згоду, адчынілі дзьверы ў пад’езд. Там на лесьвічных пралётах ужо туліліся чалавек зь дзесяць і ў форме, і ў штацкім. “Хто гэта?” — спытаўся, па ўсім відаць, старшы групы ў амапаўцаў, якія прапускалі мяне. “Перагаворшчык”, — адказаў адзін з іх. “Перагаворшчык, перагаворшчык”, — паўтаралі адзін аднаму мужыкі ў пад’езьдзе і расступаліся, давалі мне дарогу.

Адкуль я ўзяў гэтае “перагаворшчык”? Мабыць, з аднаго з амерыканскіх баевікоў. І міліцыянты, мусібыць, таксама глядзелі тыя самыя фільмы. А выбіваць дзьверы, усчыняць у пятнічны вечар вэрхал ім не надта хацелася. Вось і ўчапіліся яны ў гэтае маё “перагаворшчык”. Я пайшоў да дзьвярэй, загадаў, каб уключылі электрычнасьць, бо без току не працаваў дзьвярны званок. Затым пазваніў і адначасова па тэлефоне сказаў асаджаным у кватэры калегам, што я стаю тут, каля дзьвярэй, яны могуць пераканацца, паглядзець у вочка і ўрэшце адчыняць. Жанчынкі паглядзелі ў дзьвярное вочка, затым залязгатаў замок і дзьверы адчыніліся. Не губляючы ні секунды, я першым увайшоў у кватэру. За мной ужо завалілі некалькі міліцыянтаў. Адзін зь іх у форме прадставіўся супрацоўнікам міграцыйнага адзьдзела раённага РУУС і прапанаваў праваабаронкам праехаць зь ім у раённае адзьдзяленьне міліцыі разам з рэчамі. Назіральніцы былі не першыя, з кім адбываліся гэткія прыгоды. Было зразумела, што ў РУУС ім паведамяць пра забарону на ўезд у Беларусь і адправяць у Расію. Жанчыны сабралі рэчы, і мы выйшлі з пад’езда.

Два амапаўцы, якія так і стаялі каля пад’езда, чамусьці праявілі ініцыятыву і вырашылі праверыць у мяне дакументы. Можа, таксама западозрылі ўва мне расійскага грамадзяніна, бо гаварыў я неяк нязвыкла, па-беларуску. Я, упэўнены, палез у кішэню кашулі і выцягнуў адтуль замест пашпарта чырвонае пасьведчаньне Беларус-

кай асацыяцыі журналістаў... Па памерах яно такое ж, як і пашпарт, і я быў прыняў адзін дакумент за другі. А што яшчэ непрыемней, дык тое, што ў свой час я быў не заклеіў тэкст зь пячаткаю ўсярэдзіне ліпкім празрыстым укладышам і ў выніку і тэкст, і пячатка аблезьлі так, што зараз нічога нельга было расчытаць.

“Отлично! — з пагрозьлівым аптымізмам у голасе сказаў амапавец. — Прыйдзецца вам праехаць з намі”. — “Прыйдзецца, дык прыйдзецца”, — адказаў я, шукаючы ў кішэні чарговую жуйку. Не хапала яшчэ, каб амапаўцы ўнюхалі пах каньяку. Што-небудзь даказваць у гэтай сітуацыі двум здаравенным амапаўцам я не бачыў ніякага сэнсу. Але тут адзін з мужчынаў у цывільным махнуў амапаўцам рукою, і яны, аддаўшы мне аблезлае бажаўскае пасьведчаньне, адразу адчапіліся. У мяне ж гэты чалавек у цывільным спытаўся: “Што, Алесь Віктаравіч, 15-годзьдзе “Вясны” сьвяткуеце?” — “Так, — адказаў я, міжволі пасьміхаючыся. — А вы што, наш сайт гледзіце?” — “Так, рэгулярна”, — адказаў чалавек у цывільным.

Між тым расійскіх праваабаронак ужо вывелі з двара на вуліцу і пасадзілі ў аўтобус. Туды ж палезлі і амапаўцы. Я энергічна махаў ім рукамі. Яны пасьміхаліся і памахвалі далонькамі мне ў адказ. Амапаўцы паглядалі на мяне, як злосныя аўчары, здавалася, што яны шкадавалі: ох, патрапіўся б ты нам хоць бы на час дарогі да РУУС — хапіла б. “Не хвалюйцеся за іх”, — сказаў мне чалавек у цывільным. “Калі што — званіце адразу, мы будзем назіраць за вамі!” — гукнуў я расійскім калегам. Аўтобус паехаў, я пайшоў дадому, абдумваючы гэтую сустрэчу з чалавекам у цывільным. Мне вельмі не падабалася ягоная абазнанасьць. Лепей бы мяне забралі амапаўцы, чым вось так быць адпушчаным па ўладным руху рукі невядомага чалавека ў цывільным.

Вось з гэтымі адважнымі праваабаронкамі мы і сустрэліся ў Маскве на юбілейнай вечарыне Маскоўскай Хельсінкскай групы. Іх тады ў Менску адпусьцілі позна ўве-

чары са штэмпелямі ў пашпартах пра забарону ўезду ў Беларусь, і яны, пераначаваўшы на сваёй “кансьпіратыўнай” кватэры, назаўтра на цягніку выехалі ў Маскву.

Мы пасядзелі, паўспаміналі іхныя менскія прыгоды. “Трэба вярнуцца да вас, каб мяне арыштавалі, асудзілі, пасадзілі, тады я змагу падрыхтаваць якасны даклад пра ўмовы ўтрыманьня ў беларускай жаночай калоніі”, — выказалася адная зь іх. “Вох, не трэба”, — папрасіў я.

Прабылі мы ў Маскве два няпоўныя дні. На другі дзень увечары мы мусілі вяртацца ў Менск.

На званую вячэру, дзе мы хутка перакусвалі перад ад’ездам у аэрапорт, прыйшла галоўная рэдактарка сайта “Хартыі” Натальля Радзіна. Гэта быў сюрпрыз для нас. Натальля зьнікла зь Беларусі, паехала з Кобрына, дзе сядзела пад падпіскаю, у Менск на допыт і не даехала. Як аказалася, зьехала яна ў Маскву і перахоўвалася тут. Але ёй так хацелася пабачыцца зь беларусамі, што яна не пабаялася прыйсьці на канферэнцыю, каб сустрэцца са знаёмымі. Але праз некалькі хвілінаў мы мусілі ўжо разьвітвацца і зьязджаць. Мы, натуральна, маўчалі пра нашую сустрэчу, бо ведалі, што беларускія ўлады неаднаразова дабіваліся дазволу на затрыманьне беларускіх грамадзянаў у Расіі. Як гэта было з анархістам Аліневічам — фактычна выкралі яго ў Маскве і прывезьлі ў Беларусь. Натальлі ж пазьней урэшце ўдалося з Масквы перабрацца ў Літву, дзе яна магла пачуваць сябе ў адносным спакоі.

Вяртаючыся дадому, я думаю, што, нягледзячы на ўсе праблемы, якія ёсьць у Расіі з правамі чалавека, усё ж для працы грамадскіх арганізацыяў, і праваабаронцаў у тым ліку, у іх існуюць лепшыя ўмовы. А ў нас, у Беларусі, у адрозьненьне ад Расіі, не было ні войнаў, ні геапалітычных канфліктаў. Няма ў Беларусі і імперскіх амбіцыяў, якія ёсьць у расійскай палітычнай эліты. І ўсё роўна і юбілейныя сходы яны праводзяць вольна, і праваабарончыя арганізацыі ў іх зарэгістраваныя, і тая ж Людміла Аляксеева ўваходзіць у грамадскую раду па правах

чалавека пры прэзідэнце. Хаця гэта даволі спрэчнае рашэньне, можа, ёй зь яе біяграфіяй і не варта было туды ўваходзіць. Але важна, што ў расійскіх праваабаронцаў мелася такая магчымасьць выбару — быць у гэтай радзе ці не. Вось таму і Натальля Радзіна пэўны час хавалася ў Расіі.

Хаця, шчыра кажучы, і там праваабаронцам не соладка. Ім пагражаюць, іх зьбіваюць і, што самае жахлівае, — забіваюць. Натальля Эсьцімірава ў Чачні, адвакат Станіслаў Маркелаў у Маскве дый іншыя, іншыя.

Але ўсё роўна мне было крыўдна за Беларусь. Ну што ж ты, дарагая мая, такая нясьмелая, запалоханая і затурканая? Што ж ты за феномен такі еўрапейскі? Ці лунаеш ты па-за еўрапейскім сьветам, ва ўтрапеньні, у постсавецкай прастрацыі, краіна і народ безь мінулага і будучага з пацыфісцкім лозунгам у душы і сэрцы: “абы не было вайны”? Цяжкімі і змрочнымі былі мае думкі.

Душою адпачываў я, седзячы ў аэрапорце і зьвяраючы ў нэтбуку не вядомыя яшчэ нікому вершы майго памерлага сябра, геніяльнага паэта Анатоля Сыса.

## 30 кастрычніка 2012 г., Бабруйск

Я ўжо пісаў пра нашую паездку 9 траўня 2011 года ў Гарошкаў, але ў іншым кантэксьце. Таму вяртаюся да яе яшчэ раз. Такім чынам, 9 траўня 2011 года мы з маім сябрам беларускім паэтам Едрусем Акуліным выбраліся ў вёску Гарошкаў, якая стаіць на Дняпры ў Рэчыцкім раёне, на бацькаўшчыну нашага сябра Анатоля Сыса на сустрэчу зь ягонай сястрою Тамарай.

Яшчэ ўвосень 2010 года, у канцы кастрычніка, у першую нядзелю пасьля дня народзінаў Анатоля Сыса ў двары ягонай сядзібы ладзілася традыцыйнае сьвята паэзіі, прысьвечанае яму. Традыцыйнае, бо яно праводзілася штогод з 2005 года — года сьмерці Анатоля.

Прыдумаў гэтае сьвята і адпачатку быў ягоным рухавіком Едрусь. Агульнымі намаганьнямі сьведамых беларусаў, прыхільнікаў творчасьці А. Сыса, былі сабраныя грошы і пастаўлены адметны помнік на ягонай магіле, а на хаце зьявілася мемарыяльная шыльда. Штогод на паэтычнае сьвята зьязджаюцца сябры Анатоля, аматары ягонага паэтычнага таленту зь Менска, Гомеля, Рэчыцы ды іншых мясьцінаў.

Сьвята ладзіцца чыста на грамадскай аснове. Аніразу на ім не было прадстаўнікоў улады. Адпаведна не было ад уладаў і ніякай падтрымкі. Толькі міліцэйскія машынкі ды маўклівыя людзі ў скуранках зьяўляюцца ў Гарошкаве па перыметры вёскі ў гэты дзень.

У 2010 годзе Едрусь прыхварэў, кепска пачуваўся, таму ў Гарошкаў паехаць не змог. Зь Менска былі прыехалі паэт і журналіст Сяргей Сыс, аднафамілец і зямляк Анатоля Сыса, таксама наш сябра зь юнацкіх гадоў. Яшчэ напачатку 80-х гадоў усе мы: і Анатоль Сыс, і Едрусь Акулін, і Сяржук Сыс, і я — разам вучыліся ў Гомельскім унівэрсітэце на філалагічным факультэце. Сяржук, Едрусь і я на адным курсе, а Анатоль на два курсы старэй за нас.

Мы сябравалі і трымаліся адзін аднаго. Нашае сяброўства грунтавалася на любові да Беларусі, да прыгожага пісьменства, да беларускага слова. Усе трое маіх сяброў — паэты. Але на памятнай шыльдзе Анатолю Сысу напісана — геніяльны паэт. І гэта сапраўды, без усялякіх авансаў, так. Анатоль Сыс — геніяльны беларускі паэт канца XX стагодзьдзя. Ён здолеў годна працягнуць традыцыі класікаў беларускай паэзіі, творча ўзбагаціць і разьвіць іх. Ён здолеў узьняцца на недасягальную вышыню паэта-прарока, які прамаўляе ад імя беларускага народа пра найбольш важныя і балючыя праблемы народнага жыцьця. Ягоныя вершы і паэмы — глыбокамастацкія і грамадзянскія. Творчасьць Анатоля Сыса зьяўляецца сімвалам і адлюстраваньнем новай хвалі беларускага адраджэньня 80–90-х гадоў XX стагодзьдзя. Тады,

калі, здавалася б, за папярэднія дзесяцігодзьдзі камуністычны лад канчаткова абяскровіў і спустошыў беларусаў, прымусіў іх забыцца на ўласную нацыянальную годнасьць, на сваю гісторыю і мінуўшчыну, калі, здавалася б, канчаткова ператварыў іх у савецкіх манкуртаў, новае пакаленьне маладых беларусаў актыўна, імпэтна і таленавіта заявіла пра сябе ў беларускім жыцьці: і ў прыгожым пісьменстве, і ў мастацтве, і ў навуцы, і ў палітыцы. Анатоль быў найталенавіцейшым паэтычным голасам нашага пакаленьня. Таму з такой пашанаю і піетэтам мы, і не толькі мы, ставімся да ягонай творчай спадчыны і памяці аб ім. У 47 гадоў ён сышоў з жыцьця. Мы, маладзейшыя за яго, ужо пераглі гэты век.

Дык вось у тым кастрычніку 2010 года пасьля паэтычнага фэсту на падворку хаты Сысоў сястра Анатоля Тамара адважылася паказаць нам некаторыя неразабраныя паперы. Былі там аркушы з выдрукаванымі вершамі, быў і сшытак зь вершаванымі чарнавікамі. Зазірнуўшы ў сшытак, а затым хутка перагартаўшы аркушы з друкапісамі, я ўпаў ва ўтрапеньне. Гэта была наймацнейшая неспадзяванка. Бо ў руках я трымаў стос аркушаў зь невядомымі юнацкімі вершамі Анатоля! Мае пачуцьці і эмоцыі можна параўнаць хіба з пачуцьцямі археолага, які знайшоў залаты скарб, ці з эмоцыямі мастацтвазнаўцы, які адшукаў невядомую дагэтуль карціну знакамітага мастака.

Адкуль яны ўзяліся і як маглі захавацца? Бо неаднойчы, жывучы ўжо ў Менску, Анатоль казаў, што ён спаліў, зьнішчыў свае вершы. Я яму верыў, бо на маіх вачах ён рваў і выкідваў аркушы зь няўдалымі, на ягоны погляд, вершамі. А тут па некаторых памятных мною яшчэ зь юнацтва радках можна было зразумець, што гэта ягоныя вершы яшчэ з гомельскай студэнцкай пары.

Прыгаломшаны ўбачаным, я ў двух словах патлумачыў Сержуку, зь якімі паперамі мы маем справу. Бо першая думка, якая прыйшла да мяне пасьля шоку ад знаходкі, была такой: яны могуць зьнікнуць! Тым болей,

што Тамара, добрая і мілая сястрыца Анатоля, падчас нашага прагляду папераў распавяла, што ўжо зьнік ягоны сшытак з чарнавікамі вершаў. І не дзіва, бо ўсе паперы ляжалі ў звычайнай хатняй старэнькай тумбачцы незачыненыя і ніяк не абароненыя ад аматараў паэтычных рарытэтаў.

Я папрасіў Сержука паразмаўляць зь сёстрамі Анатоля Тамараю і Валянцінаю. Яны ведалі яго лепей за мяне. Сяржук скрушна ўздыхнуў і пагадзіўся. Мы распачалі гутарку: "Гэта, хутчэй за ўсё, вершы Анатоля", — пачаў я. "Іх трэба друкаваць", — працягнуў Сяржук. "Яны тут, не захаваныя, могуць зьнікнуць", — сказаў я. Мы пераконвалі сясьцёр перадаць вершы нам з умоваю іхняга вяртаньня пасьля публікацыі. Тамара і Валя завагаліся. Перад тым як паказаць нам паперы, яны не былі ўпэўненыя, што гэта вершы Анатоля. Урэшце, троху паразважаўшы, пахадзіўшы па хаце, Тамара вынесла вырак: аддам, калі будзе Едрусь Акулін. Яна давярала яму. Ну што ж, падумалі мы, так дык так. Тады прыедзем яшчэ раз ужо знарок па вершы разам зь Едрусем.

Калі, прыехаўшы з Гарошкава, я распавёў пра невядомы архіў Анатоля Едрусю, той напачатку не даў веры. Ён, як і я, быў перакананы, што студэнцкія вершы Анатоля, апроч тых, якія ён выдрукаваў у тагачаснай перыёдыцы, не захаваліся. Анатоль — артыст у жыцьці — пастаянна кагосьці разыгрываў. Ствараў разнастайныя пастановачныя жыцьцёвыя сітуацыі. Да вершаў іншых паэтаў, асабліва аднагодкаў, ставіўся падкрэсьлена жорстка, з апломбам заяўляючы, што ўсе свае раньнія вершы ён спаліў.

"А ці гэта дакладна ягоныя вершы?" — асьцярожна перапытаўся Едрусь. "Так, — адказаў я. — На сто адсоткаў. Іх там багата, ляжаць у тумбачцы разам зь іншымі паперамі". Я гэтаксама распавёў яму пра ўмову Тамары. Яна гатовая перадаць вершы толькі ў ягонай прысутнасьці.

Едрусь паверыў. Ён патэлефанаваў Тамары, і яны дамовіліся на сустрэчу.

Выбрацца мы змаглі толькі праз паўгода, бо да Калядаў не атрымлівалася, а потым абвалілася мне на галаву мая занятасьць пасьля 19 сьнежня, і ў Едруся былі свае клопаты, ён актыўна езьдзіць па краіне і выступае са сваімі вершамі і песьнямі. Мы дамовіліся, пакуль не зьездзім і не паглядзім на вершы больш уважліва і пакуль не падрыхтуем першую публікацыю, нічога асабліва не казаць пра знаходку. Я, па-шчырасьці, апасаўся, што як толькі штосьці стане вядомым пра неапублікаваныя вершы Анатоля Сыса, то яны могуць зьнікнуць.

Вось так паўгода з гэтай прыемнаю таямніцаю і з боязьзю, каб чаго паганага не зрабілася, я і жыў. Гэтая акалічнасьць моцна турбавала мяне. Я адчуваў, што са мной можа што-небудзь здарыцца, а там то ў хлопцаў часу не знойдзецца, ці яшчэ якая халера надарыцца — і вершы могуць выпарыцца, зьнікнуць, як бы іх і не было. Хоць і кажуць, што рукапісы не гараць, але ж яны гараць, ды яшчэ і як. Да прыкладу, згарэлі ж рукапісы беларускіх пісьменьнікаў, рэпрэсаваных у 30-я гады. Іх паліла НКВД. Ці вось жа згарэў архіў Янкі Купалы ў першыя дні вайны, бо ў ягоную хату патрапіла нямецкая бомба. Пэўна, што ён і сам багата чаго напаліў, паніш-чыў у передваенныя дзесяцігодзьдзі, баючыся. Бо ж вайна зь ім пачалася ў савецкай улады значна раней. А што сам не спаліў, то фашысты дапалілі. Вось так кадэбісты і фашысты пусьцілі попелам на вецер мастацкія творы, інтэлектуальны набытак сотняў сыноў беларускага народа. А дзе полацкі летапіс? Дзе сотні беларускіх кніжак і рукапісаў сярэднявечча, ад якіх пазаставаліся адныя назвы, а то і назваў не захавалася?

Я ведаю крохкасьць і неабароненасьць рукапісаў, таму вельмі выразна адчуваў, што калі, не дай Божа, зьнікнуць гэтыя бачаныя намі вершы нашага сябра Анатоля Сыса з-за нашай непаваротлівасьці ці нядбайнасьці, то я тады ніколі не дарую сабе гэтага. Занадта вялікае значэньне яны маюць для беларускай культуры.

І вось зоркі склаліся на 9 траўня, акурат на дзень, у

які памёр Анатоль. Я нікуды не зьязджаў, у Едруся не было выступаў, Тамара была згодная пад’ехаць з Рэчыцы ў Гарошкаў. Сяржук Сыс не мог выбрацца, але ён раіў нам ехаць безь яго.

Былі ў нас праблемы з транспартам. Едрусева машына была не на хаду, рамантавалася, але тут прыдаўся мой “сітраэн”, які фармальна належаў мне, але меў правы і езьдзіў на ім мой сын Адам. У мяне ж і правоў не было ніколі, апрача як на самаходную гармату ці цягач, якія я атрымаў у войску. Вось на гэтым “сітраэне”, Едрусь за рулём, а я побач, мы і паехалі з самага ранку ў Гарошкаў. Адась, даведаўшыся, што мы сабраліся за дзень праехаць 600 кіламетраў, сумняваўся, ці даедзе машына. Узімку ён, пачынаючы кіроўца, пасьпеў адбіць на ёй бампер, і той быў прывязаны да машыны нейкай аборкаю. “А тае бяды! — сказаў я. — Па лясных калдобінах і выбоінах нам не ехаць, дарулім як-небудзь”. І мы выбраліся ў дарогу.

## 30 кастрычніка 2012 г., Бабруйск

Не перадаць прыгажосьць беларускіх краявідаў увесну. Травень апрануў зямлю ў сьвежыя зялёныя колеры розных адценьняў, упрыгожыў блакітнае неба статкам кучаравых бялявых аблокаў. Дарога зь Менска на паўднёвы ўсход на Гомельшчыну ідзе па раўніне, сярод бяскрайніх палёў і густых лясоў. Ад Асіповічаў хіба пачынаецца Палесьсе — вялізныя лясныя абшары і не да канца спляжаныя балоты. Усё менш сустракаецца елка і ўсё больш у лесе маладой зеляніны лістоўных дрэваў: бярозы, дубы, таполі — ды іншага чарналесься.

Падарожжа на машыне дае неперадавальныя адчуваньні, зусім не вядомыя нашым дзядам-прадзедам. Так шыбка яны не ездзілі і такіх дарог, як зараз, не мелі. Разнастайныя краявіды плаўна і хутка зьмяняюцца за

аўтамабільным шклом. У салоне машыны цёпла, гучыць музыка, ты сядзіш як у тэатры, дзе замест сцэны з дэкарацыямі ў цябе перад вачыма разгортваюцца мілыя твайму сэрцу і душы краявіды роднай зямлі. Адноўленая вясною, вымытая цёплымі і густымі травеньскімі дажджамі беларуская зямля. У дзясяткаў пакаленьняў маіх продкаў, якія тут жылі, біліся, баранілі цябе, глядзелі за табой, выклікала ты гэткія ж пачуцьці, якія перапаўняюць маю душу падчас нашай паездкі. І надзейна прыгарнула ты іхнія целы, зьліліся яны душамі з табой. І ў адвечным шматгалосьсі астральнага звону чую я іхнія слабыя галасы.

9 траўня — Дзень Перамогі, сьвяточны выходны дзень. Машынаў на дарозе было небагата. За Парычамі мы пад'ехалі да Кургана Славы, традыцыйнага для Сьветлагорска памятнага месца. Раней, не ведаю, як зараз, да кургана са Сьветлагорска прыязджалі з кветкамі пакланіцца ўсе вясельлі. У царкву за Саветамі браць шлюб ішла не кожная пара, было боязна, бо маглі пакараць улады, а вось сюды, да насыпанага капца зямлі зь зялёнай самаходкаю на пастаменце, зь ветрыкам, поездам зь некалькіх машынаў, за трыццаць кіламетраў ад горада — абавязкова. І было ў гэтым адведваньні "бога вайны" чагосьці паганскага і забабоннага, не зьвязанага ані з прамінулай вайною, ані з ушанаваньнем безыменных герояў, валам наваленых на гэтай зямлі, на гэтых метрах і кіламетрах асушаных балотаў і лясоў.

Менавіта тут пачыналася ў вайну ў 1944 годзе вялізная франтавая аперацыя "Багратыён", і жывымі, дыхаючымі, слабымі людскімі целамі была праломленая глыбокаэшаланаваная абарона фашыстаў. Баі былі нябачна крывавыя і жорсткія, і нішто не магло спыніць сотні тысячаў байцоў, якія прадраліся празь нямецкі вал і пакаціліся далей ужо амаль няспынна на захад, аж да Берліна.

А тут, на гэтай пакалечанай вайною зямлі, засталіся вялізныя брацкія магілы-капцы, ці не пры кожнай бела-

рускай вёсцы і ў мястэчках — у Парычах, у Шацілках, якія "будаўнікі камунізму" перайменавалі ў Сьветлагорск. А на плітах — сотні і сотні прозьвішчаў ці проста трохзначныя лічбы перад прозьвішчамі. А колькі тысячаў забітых салдатаў засталося ляжаць у зямлі, прысыпаныя, але не пахаваныя па-людску, безыменныя закладнікі вайны. Ніколі жыцьцё чалавека на гэтай зямлі не было такім малазначным і танным, як у ХХ стагодзьдзі. У дзяцінстве мяне заўсёды зьдзіўляла і ўражвала, як на такіх маленькіх лапіках зямлі, як брацкія магілы ў тым жа Сьветлагорску ці каля вёскі Стужкі, можна пахаваць столькі багата людзей. Як на адной сотцы можна пахаваць паўтары тысячы чалавек? І якая згушчанасьць адчаю, болю, сьмерці, людскіх душаў існавала і існуе ў тых месцах...

Каля Кургана Славы на ўзбочыне нешырокай тут дарогі стаяла некалькі аўтобусаў, мабыць, сьветлагорскія кіраўнікі і партгаспактыў прыехалі ўскласьці вянкі. Даішнікі рэгулявалі дарожны рух, па чарзе прапускаючы сустрэчныя машыны. Нас прыпынілі. Мы пачакалі, пакуль праедзе некалькі машынаў нам насустрач, затым далі дарогу нам, і мы павольна праехалі паўз курган. Кінуліся ў вочы бабулькі ў хустках у кветку і хвартухах, якія нясьпешна ішлі-калываліся да кургана з суседняе вёскі. Вось для каго гэтае ўшанаваньне сапраўды не для галачкі. Вось для каго вайна, а яны тады былі дзецьмі, была жахлівым выпрабаваньнем. Недалёка адсюль, мо ў якіх дваццаці кіламетрах у бок Калінкавічаў, каля Азарычаў знаходзіўся адзін з найбольш жахлівых цывільных лагераў сьмерці, куды на балота, папярэдне заразіўшы тыфам, зганялі мясцовых жыхароў, у асноўным жанчын і дзяцей, дзе тысячамі яны і паміралі ад хваробаў, голаду і холаду. Гэтая зямля, здаецца, уся прапітана крывёю і сьлязьмі.

Мы едзем далей, заязджаем у Рэчыцу, каб купіць кветак Анатолю на магілу. Я згадваю, як у 1986 годзе быў у войску і Едрусь напісаў мне ліст, што ў Рэчыцы, а

ён тады настаўнічаў у вёсцы Дуброва Рэчыцкага раёна, ён сустрэў Толіка Сыса. Той купляў вянок на пахаваньне свайго вясковага сябра Дзедзіля. Рослага, моцнага Дзедзіля, які часта прыходзіў да Толіка ў Гомелі ў студэнцкі інтэрнат у госьці. Яго забілі дзесь у Расіі, дзе ён быў на заробках. А было яму тады 26 гадоў. Зараз на гарошкаўскіх могілках, як ісьці да помніка Толіку, праходзіш помнік Дзедзілю. Празь дзевятнаццаць гадоў яны сустрэліся цяпер назаўсёды пад белымі бярозамі.

Мы купляем кветкі, аглядаем машыну. Бампер усёткі адышоў, асеў крыху, аб дарожны асфальт прадзёрлася пластмасавая падкладка. Мы шукаем, чым падвязаць бампер. Просім якую дзяжку ў кіёску, нам даюць, Едрусь прывязвае бампер панадзейней, як быццам падцягвае супонь на хамуце, і мы рулім у Гарошкаў.

9 траўня 2005 года, у Дзень Перамогі, памёр Анатоль Сыс. Я думаю, ці ёсьць у гэтым нейкі сімвалізм, ці ёсьць нейкае супадзеньне, і не магу адказаць. 22 чэрвеня пачалася вайна і памёр Васіль Быкаў, 9 траўня вайна скончылася і памёр Анатоль Сыс.

Мы найперш заязджаем на могілкі, кладзём кветкі да каменя-помніка зь ягоным абліччам, выразаным на граніце прыяцелем Анатоля скульптарам Гэнікам Лойкам. Могілкі ў Гарошкаве прыгожыя, спрэс засаджаныя высокімі беластвольнымі бярозамі. Атрымліваюцца могілкі ў бярозавым гаі. Мы хвіліну маўчым і едзем далей у вёску.

Тамара ўжо чакае нас у хаце. Яна прыехала ў Гарошкаў зь сяброўкаю-суседкаю. Жанчыны хуценька накрываюць на стол. “Пазьней, — гаворым мы, — напачатку паглядзім паперы”. Ідзём у чыстую хату, Тамара адчыняе тумбачку і дастае стос дакументаў, сшыткаў, рукапісаў. Мы ўважліва ўчытваемся ў радкі вершаў. Без сумненьня, гэта Толікавы вершы, некаторыя зь якіх памятныя нам з унівэрсітэцкіх часоў. Усё ж увосень я не памыліўся, і мы не дарэмна прыехалі сёньня ў Гарошкаў.

Я ўкладаў зборнік выбраных вершаў Анатоля Сыса

“Алаіза” да 50-х угодкаў з дня яго нараджэньня, выбіраў туды лепшыя вершы, імкнуўся выбудаваць унутраную структуру зборнічка, каб ён гучаў, як гучыць суладна настроенае фартэпіяна. Мне здаецца, што мне гэта ўдалося. Але што я сабе прыкмеціў, чаго, можа, і не заўважыць чытач, дык гэта тое, што ў Анатоля было даволі мала вершаў, выдрукаваных ім у юнацкія гады. Са свайго першага зборніка Анатоль Сыс вырастае як сфармаваны, сьмелы і дасканалы паэт. “Агмень” — яго першы зборнік — складзены з моцных вершаў і яшчэ больш моцнай паэмы “Алаіза”. Таму ўзьнікае пэўная недавыказанасьць. А што ж было, што пісалася перад “Агменем”?

У “Выбраным” жа хацелася паказаць і ягоныя раньнія вершы, каб больш зразумелым стаў шлях разьвіцьця ягонай творчасьці, этапы ягонага паэтычнага росту, які ўрэшце прывёў яго да геніяльнасьці. А раньніх вершаў Анатоля Сыса было вобмаль.

Тут жа, зараз, у Гарошкаве, мы перабіралі ягоныя вершы, складзеныя ў юнацкія гады. Мы дамовіліся з Тамараю, што забяром не толькі вершы, але і іншыя дакументы, паперы, якія маглі быць важнымі і цікавымі для разуменьня творчага і жыцьцёвага шляху Анатоля.

Мы забралі і курсавую працу, напісаную Анатолем падчас вучобы ва ўнівэрсітэце, прысьвечаную паэтыцы санета. Некалі, яшчэ ва ўнівэрсітэце, Анатоль даваў нам чытаць сваю працу. Мы пахвалілі, але нас насьмяшыў адзін сказ-пытаньне ў ёй. “Дык у чым жа соль санету?” — пафасна пытаўся ў курсавой працы Анатоль, спрабуючы затым паказаць гэтую санетную “соль”. Мы доўга затым прыгадвалі яму гэтае выказваньне.

Таксама мы забралі з сабой ягоныя школьныя пахвальныя граматы, школьны нататнік з самымі першымі, хіба яшчэ дзіцячымі вершамі, афішу тэатральнай пастаноўкі ў Гомелі, куды ён хадзіў, ды і іншыя папяровыя памяткі Анатолевага жыцьця. “Адскануем і аддамо”, — запэўнілі мы.

Дзіўна і вусьцішна было перабіраць гэтыя пажоўк-

лыя вільгатнаватыя паперкі. Некалі ён зьбіраў гэтыя цэтлікі, кветкі, газетныя выразкі, афішкі, дакументы, і яны былі важнымі для яго, як пэўныя вехі жыцьця, закладкі для памяці да мінулых і пагаслых эмоцый, за кожнай зь якіх стаялі ўспаміны, пачуцьці. І вось яго ўжо няма. А гэтыя паперкі, цэтлікі, папяровыя граматы засталіся як бескарысныя ключы да назаўсёды згаслай разам зь ім памяці.

Усё было, і гэта ўсё адышло, "з вадой сплыло", як пісаў некалі Максім Багдановіч, які імкнуўся, спрабаваў ухапіць і занатаваць гэтае шчымлівае пачуцьцё адчуваньня незваротнасьці часу.

Спрадвек пісьменьнікі, паэты, мастакі, музыкі толькі і займаліся гэтым, жадалі ўхапіць жар-птушку часу і быцьця і затрымаць яе, пасяліць у сваіх творах ці хоць адбіць на імгненьне яе вобраз. Камусьці гэта ўдалося. І гэтыя спробы будуць заўсёды, пакуль ёсьць людзі на сьвеце. Нават у апошнюю хвіліну існаваньня чалавецтва, назіраючы ў жаху шырока расплюшчанымі вачыма за сваім сконам, людзі будуць імкнуцца асэнсаваць, адлюстраваць гэтую катастрофу ў нейкіх, можа, і невядомых нам зараз відах мастацтва. Маюць рацыю тыя, хто гавораць: мастацтва вечнае! Яно будзе жыць роўна столькі, колькі будзе існаваць чалавецтва. І мастацтва зьнікне, загіне, памрэ — скульптуры Мікеланджэла, музыка Чайкоўскага, тысячагадовая архітэктура, карціны, якія зараз каштуюць мільёны даляраў, перастануць быць мастацтвам, калі не застанецца таго, хто будзе здольны ўсьвядоміць ягоную сутнасьць.

Анатоль адчуваў ці ведаў гэта. Ён бачыў сваю творчасьць толькі ў кантэксьце існаваньня беларускага народа, беларускай мовы, беларускай культурнай цывілізацыі. Ён — наш сучасны беларускі геній. Не дарэмна ён забараніў перакладаць свае вершы на рускую мову, бо ведаў — гэта бессэнсоўна і марна. Сапраўдная паэзія не перакладаецца.

Спакаваўшы паперы, мы перакусілі, выпілі з Тама-

раю па чарцы. Едрусь быў за рулём, ён не піў. Мы вярталіся назад, каля Кургана Славы ў Сьветлагорскім раёне мерапрыемства ўжо скончылася. У бок вёскі перайшлі нам дарогу, хістаючыся, абняўшыся, дзьве маладзіцы ў каляровых летніх сукенках. Насьвяткаваліся. Я зусім не асуджаў іх. Гэта ж так слушна — адзначаць перамогу.

## Бабруйск

У зьвязку з 15-мі ўгодкамі "Вясны" варта згадаць яшчэ пра адную падзею. Увесну 2011 года мне прыйшоў электронны ліст з ЗША, у якім нам паведамлялі, што Еўраатлантычны форум вырашыў узнагародзіць "Вясну" прызам за выдатную і ахвярную грамадскую і праваабарончую дзейнасьць. Гэтаксама як і "Вясна", былі ўзнагароджаныя Беларуская асацыяцыя журналістаў, Свабодны тэатр і малдоўскі прэм'ер-міністр, а таксама польскі міністр замежных спраў, амерыканскі сенатар Джон Макейн і егіпецкая блогерка. Каго ўзнагароджвалі за працу на карысьць дэмакратыі ў цяжкіх умовах, а каго — за перамогу. Пасьля выбараў у Малдове камуністы былі адсунутыя ад улады, а прыйшлі ліберальныя дэмакраты.

У інтэрнэце я паглядзеў гісторыю форуму. Ён зьяўляўся шырокай пляцоўкаю для абмену думкамі паміж палітыкамі і грамадскімі дзеячамі ЗША і Еўропы, праходзіў раз на год. Першыя сустрэчы адбываліся ў ЗША. Леташні форум праходзіў у Польшчы, ва Уроцлаве. Сёлетні меркавалася правесьці тамсама. Планаваўся ўдзел сотняў запрошаных гасьцей, высокіх чыноўнікаў, эксprэзідэнтаў, міністраў, бізнесменаў. Узнагароду форуму быў атрымліваў Біл Клінтан, а вось цяпер чарга дайшла і да "Вясны". Можна было зразумець выбар лаўрэатаў прыза: і Беларусь, і Малдова знаходзіліся недалёка ад Польшчы. Такім чынам палітыкі і грамадскія дзеячы ЗША і краінаў Еўразьвязу хацелі выказаць сваю ўвагу

да краінаў, якія ляжаць на ўсход ад Еўразьвязу, і да тых драматычных падзеяў, якія адбыліся ў нас у сьнежні 2010 года.

Хоць гэтая ўзнагарода і была цалкам нечаканай, але цяжкая і ўпартая праца “Вясны” набывала прызнаньне і павагу. Урэшце, гэта і было самым істотным, бо мы ўсё ж працуем не дзеля прызоў і ўзнагародаў. Уручэньне такой прэміі было відавочным і выразным сігналам да беларускіх уладаў: трымайцеся правоў чалавека! Праваабарончыя арганізацыі ў краінах, дзе шануюцца правы чалавека, амаль не атрымліваюць узнагародаў. А вось для “Вясны” і вясноўцаў гэта ўжо была шостая ўзнагарода, і, як паказалі падзеі наступнага года, далёка не апошняя. Таму атрымліваеш такія прызы заўсёды і з радасьцю за “Вясну”, і з горыччу за краіну.

Гэты прыз форуму прыцягваў увагу да сітуацыі з існаваньнем вялікай колькасьці палітычных вязьняў у Беларусі.

Форум праходзіў з 9 па 11 чэрвеня 2011 года. Да гэтага я ніколі не быў ва Уроцлаве. Мы прыехалі на цягніку з Варшавы і прайшлі пешшу ад вакзала да цэнтра старога горада. Там знаходзіўся гатэль, куды нас засялілі гаспадары форуму. Затым мы выйшлі агледзецца. Архітэктура, якая захавалася ў старым горадзе, мела нямецкія рысы. Строгая готыка, сьціплае, стрыманае барока, сьпічастыя вузкія камяніцы былых бюргераў. Уроцлаў стаіць на “землях адзысканых”, немцы адсюль пасьля вайны былі выселеныя пагалоўна. Прыехала сюды багата перасяленцаў з Заходняй Беларусі і Украіны, якія ў 50-я гады ўцякалі куды вочы глядзяць з савецкага “раю”.

Уроцлаў быў зялёным, чыстым горадам. Дамінантамі ў горадзе ўзвышаліся гатычныя касьцёлы з чырвонай, аж чорнай ад часу, цэглы. Стары горад добра захаваўся, зь велізарнай цэнтральнай плошчай і ратушай. Рэстараны расставілі пластыкавыя крэслы, столікі пад вялікімі парасонамі проста на бруку плошчы. Было багата турыстаў. А польскае піва па смаку не саступае ні нямецкаму,

ані чэшскаму. Выдатная і польская кухня, вельмі падобная на беларускую, але пазбаўленая лішкаў тлушчу.

Знайшлі мы і краму. Тут купіў я сабе сьветлыя джынсы і лагодна-чырвоную кашулю. У гэтай вопратцы, так сталася, увосень, праз некалькі месяцаў, буду я сядзець на судзе.

Праграма форуму была шырокай і разнастайнай. Прыз нам мусілі ўручыць увечары на другі дзень. На трэці дзень была запланаваная беларуская панэль, у якой апроч мяне і старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанны Літвіной меркаваўся ўдзел Станіслава Шушкевіча і Аляксандра Мілінкевіча. Прымаў форум мэр Уроцлава, высокі, усьмешлівы і актыўны дзядзька. Відаць было, што ён жадаў выкарыстаць нагоду правядзеньня форуму для ўзьняцьця прэстыжу Уроцлава на ўзроўні як Польшчы, так і цэлай Еўропы, дэкляраваньня інтэлектуальных і эканамічных дасягненьняў горада. Як мы даведаліся, Уроцлаў быў адным з найбольш дынамічна разьвівальных гарадоў у Польшчы.

У першы дзень форуму пасьля абеду ў мэрыі адбыўся прыём. На яго запрасілі і мяне. Там я пазнаёміўся з рэдактарам найвялікшай па накладзе “Газеты выборчай” Адамам Міхнікам. Дагэтуль я ведаў яго толькі завочна па фотаздымках і хроніцы часоў вайсковага стану ў Польшчы, часоў “Салідарнасьці”. Прозьвішча Міхнік часта гучала ў савецкай прэсе побач з Валенсам, Буекам. Яго лічылі адным з ідэолагаў “Салідарнасьці” і ворагам савецкай сістэмы. Міхнік пастарэў, выглядаў вельмі пасвойску, быў апрануты ў мешкаватыя джынсы і сьветлакарычневы штодзённы пінжак, са шклянкаю віскі ў руцэ. Відаць, што так ён хадзіў і ў рэдакцыі, і паўсюль, куды яго запрашалі. Ён, як жывы гістарычны выкапень, мог сабе такое дазволіць.

Мы стаялі ўчатырох, у невялікім коле зь ягонымі сябрамі, таксама, відаць, старымі грамадскімі дзеячамі, гаварыў Міхнік мала, але было відаць, што ён добра арыентаваўся ў беларускай сітуацыі. Ён адкрыта сімпатыза-

ваў беларускай дэмакратыі. А потым заўважна замітусілася ахова, выйшаў у хол мэр Уроцлава і стаў у чаканьні. Урэшце ўвайшоў міністр замежных спраў Радаслаў Сікорскі. Ён павітаўся з мэрам, зь іншымі ўроцлаўскімі чыноўнікамі, відаць, перакінуўся дзяжурнымі вітальнымі словамі і, убачыўшы Міхніка, падышоў да нас. Тут мяне Міхнік прадставіў яму. Сікорскі выглядаў молада, быў апрануты афіцыйна, у касьцюм пад гальштукам, але без асаблівага шыку і бляску. Яны размаўлялі на ім вядомыя тэмы і акалічнасьці, размова мела, я б сказаў, сяброўскі характар.

Хачу адзначыць дзьве акалічнасьці, якія я прыкмеціў. Адчувалася пераемнасьць палітычных пакаленьняў. Я бачыў рэакцыю Сікорскага на выказваньне аднаго зь ветэранаў-суразмоўцаў. Сікорскі ўважліва слухаў яго. Не было ні пыхі, ні самаўпэўненасьці зь яго боку. Хаця ён быў дзейны міністр, а яны ўжо, мабыць, пеньсіянеры. Ён стаяў і слухаў, як слухаюць старэйшых калегаў. І другое — моц аргументаў і энергія, якая адчувалася ў выказваньнях Сікорскага. Відаць было, што палітыка для яго была сутнасьцю ягонага жыцьця.

Затым нас паклікалі да грамады, былі выступы, былі нефармальныя размовы, запрошаныя стаялі з напоямі ў руках, пераходзілі ад аднаго кола размоўцаў да іншага, адбываўся такі, здавалася б, неарганізаваны броўнаўскі рух. Але я ведаю, што менавіта падчас такіх нефармальных гутарак часта прымаюцца важныя рашэньні. У канцы прыёму, калі наступіў летні змрок, у гонар гасьцей форуму быў запушчаны салют. Стралялі гарматы, узьляталі каляровыя шары і плаўна рассыпаліся ў небе на тысячы зорак. Адчуваньне было нязвыклым. Я чамусьці згадаў, што і ў нас, у Міры, калі туды прыязджаў апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Панятоўскі, то магнат і ўладальнік Мірскага замка Радзівіл ладзіў у ягоны гонар салют. І тады, і цяпер сэнс ягоны быў адзін — ушанаваць гасьцей і паказаць упэўненасьць і рэспектабельнасьць гаспадароў.

У наступны дзень на ўганаравальную вечарыну, дзе нам мусілі ўручыць прыз, я напісаў сьпецыяльную прамову. Але калі мы ўвечары прыйшлі ў залу і я ўбачыў сталы зь віном і закускамі, я зразумеў, што фармат імпрэзы патрабуе іншага выступу, іншых слоў.

Удзельнікаў вечара рассаджвалі па сьпісах. На круглых сталах, сэрвіраваных прыкладна на восем персон, стаялі шыльдачкі з нумарамі, а кожны госьць напярэдадні атрымаў запрашэньне з указаньнем месца. Мяне пасадзілі разам з прэм'ер-міністрам Малдовы і ягонай жонкаю. Насупраць мяне сядзеў былы прэм'ер-міністр Польшчы па прозьвішчы Бялецкі. Размаўляць праз увесь стол было нязручна, таму я проста прыглядваўся да яго, сівога, коратка стрыжанага з моцнай галавою дзядзькі, гадоў шасьцідзесяці пяці, з разумным чэпкім поглядам вачэй. А ён прыглядаўся да мяне. Адрозьненьне ў нашых прозьвішчах было ўсяго ў адну літару.

Прозьвішча Бяляцкі не рэдкае ў Беларусі. Толькі ў Менску абаненцкая база “Вэлкама”, я некалі глядзеў, выдавала больш за сто Бяляцкіх. Найбольш іх сустракаецца на Магілёўшчыне, ёсьць на Віцебшчыне, Гомельшчыне, Смаленшчыне, адным словам, на землях уласна Беларусі. А ў гістарычных дакументах Бяляцкія фігуруюць з пачатку XVIII стагодзьдзя ў Мсьціслаўскім ваяводстве, дзе былі і дарожнымі і падчашымі. Бялецкіх у Беларусі таксама нямала. У Менску нават вуліца ёсьць — Бялецкага, на якой жыве такі featured-free рознабаковы чалавек, як Аляксандр Фядута.

З жонкаю прэм'ера Малдовы мы сядзелі разам і трохі паразмаўлялі, па-руску. Прыз форуму ўручалі, як я пісаў ужо, і малдоўскаму прэм'ер-міністру. Было відаць, як ягоная жонка падтрымлівае, перажывае за яго і ганарыцца ім. Выступаючы, прэм'ер сказаў, што ніколі не думаў, што стане на чале ўрада Малдовы, што ім удасца перамагчы сваіх камуністаў. Ён у канцы прамовы падзякаваў сваёй жонцы, сказаў, што яна моцна падтрымлівала яго і верыла ў ягоную перамогу болей, чым ён сам.

Калі ён казаў гэтыя словы, ягоная жонка засаромелася. Гэта была такая натуральная жаноцкая рэакцыя кабеты, якая яшчэ не прызвычаілася да свайго новага становішча і яшчэ не навучылася хаваць свае пачуцьці.

Паміж размовай зь ёю я тэзісна перапісаў свой выступ. А жонцы прэм'ера сказаў, што тое, што Малдова зрабіла адназначны еўрапейскі выбар, гэта вельмі важна і для Беларусі. Чым меней былыя постсавецкія рэспублікі арыентуюцца на Расію, як былую метраполію, тым меней застаецца аргументаў у беларускіх галовах на карысьць усходняга геапалітычнага і цывілізацыйнага выбару. Яна цалкам пагадзілася са мною.

І вось прыйшоў час гаварыць мне. Выступаў я эмацыйна, як для беларуса, без паперкі, паглядаючы толькі на запісаныя пункты, якія хацеў выказаць. Пашанцавала яшчэ, што дзяўчаты-перакладчыцы былі беларускамі. Таму я мог гаварыць па-беларуску. Значна прасьцей было фармуляваць свае думкі. Ды і хацелася, каб прысутная польская палітычная эліта, журналісты і прыехаўшыя амерыканцы пачулі жывую беларускую мову. А яна ж, магу заверыць беларусаў, якія, часта так бывае, не цэняць свайго, для замежнага вуха гучыць, скажам так, прыемна і мілагучна. Цьвёрдае "ч", але не такое выбуховае, як у польскай мове, і мяккае "сь", значна мякчэйшае, чым у рускай мове, ствараюць дзіўныя тонавыя гукавыя пераходы, і гэтага няма, прынамсі, ні ў адной еўрапейскай мове. Калі мілагучнасьць раманскіх моваў — французскай, італьянскай — дасягаецца дзякуючы частым санорным — *л, м, н*, то ў беларускай мове ёсьць свае разынкі. Я гэта ведаю, бо неаднойчы правяраў на разнамоўных замежніках і пераканаўся ў гэтым сам. І ніводзін з маіх замежных суразмоўцаў не сказаў: фу, як брыдка гучыць! Затое такія выказваньні даводзілася мне чуць ад саміх беларусаў.

Вось жа і зараз — усе слухалі. Амерыканцы з навушнікамі, многія з палякаў — без навушнікаў, ужывую. Я імкнуўся гаварыць павольна і выразна, каб можна было

зразумець, пра што я кажу. Збольшага, мабыць, зразумелі, бо пляскалі доўга і шчыра. Атрымліваць прыз таксама выйшлі мае калегі-вясноўцы. Мне было вельмі прыемна, што на ўзвышшы-подыуме я быў не адзін.

Кіраўнікі “Свабоднага тэатра”, якія на той час зьехалі ў Англію, асьцерагаючыся перасьледу, з-за праблемаў з шэнгенскімі візамі на форум патрапіць не здолелі. Таму прыслалі відэазапіс выступу Натальлі Каляды. Зроблены ён быў адметна: запісалі яе на вуліцы, пад трывожны гул ветру, які варушыў яе валасы. Вецер часам аж заглушаў голас Натальлі і надаваў яе выступу пэўнае напружаньне і драматызм. Прамаўляла яна на бездакорнай ангельскай мове. Зала слухала яе ў поўнай цішыні.

Калі я вярнуўся за мой столік, то былы прэм’ер Польшчы Бялецкі кіўнуў мне, прыязна пасьміхнуўшыся. Сэнс яго кіўка я зразумеў так: “Трымайся, амаль цёзка”. Я адказаў яму таксама пасьміхнуўшыся і кіўнуўшы. І сэнс майго кіўка азначаў: “Буду трымацца, а куды ж падзенешся”. Прэм’ер жа Малдовы сказаў наступнае: “Калі ў вас будуць праблемы — знайдзіце мяне”. Я зноў ужо весела пасьміхнуўся яму. Сэнс маёй усьмешкі быў такі: “Дзякуй за падтрымку, але ж як я цябе знайду, ды і навошта? Дайце рады сваім праблемам, і тады ваш посьпех будзе і нашым посьпехам”.

Назаўтра была беларуская панэль, на якой не раз гучала пытаньне да беларускіх удзельнікаў: чым вам, беларускім грамадзянам, можа дапамагчы Еўрапейскі саюз, Польшча?

Мы задаволеныя зьязджалі з Уроцлава. Такая маральная падтрымка праваабаронцаў і салідарнасьць зь беларускім народам багата што значылі. І нашая ўзнагарода была намі заслужаная.

У Варшаве мы перасядалі на цягнік да Менска. Зайшлі ў супермаркет каля вакзала, каб набыць чаго паесьці ў дарогу. Я ўбачыў і купіў пляшку балгарскага каньяку “Сонечны бераг”, памятнага мне смакам яшчэ са студэнцкіх часоў. І там, у краме, сустрэў знаёмага мастака і

пісьменьніка Артура Клінава. Ён сказаў, што рыхтуе нумар часопіса “Партызан”, рэдактарам якога ён быў, па-польску, адмыслова для палякаў. І ці не мог бы я напісаць для гэтага нумара артыкул па гісторыі беларускага праваабарончага руху. Я пагадзіўся. Напісаў і пераслаў Артуру. Але самога часопіса я ўжо не ўбачыў, бо сядзеў за кратамі.

## 24 студзеня 2013 г., Бабруйск

Напрыканцы чэрвеня 2011 года Рада Еўропы праводзіла выязное паседжаньне дэпутатаў у Осла. Адное з пытаньняў, якое хацелі абмеркаваць дэпутаты, было прысьвечана Беларусі. Нарвежскі Хельсінкскі камітэт удзельнічаў у гэтым паседжаньні, па іх прапанове запрашаліся эксьперты. Таму, калі сябры з НХК прапанавалі прыехаць і выступіць, я пагадзіўся. Яшчэ адным эксьпертам па сітуацыі з правамі чалавека ў Расіі быў вядомы расійскі праваабаронца Юры Джыбладзэ.

Я выступіў перад дэпутатамі ў невялікай сьціплай зале. Прысутнічала каля пяцідзесяці дэпутатаў, добрая палова якіх былі з суседніх скандынаўскіх краінаў і Фінляндыі. І гэта было добра. Бо сітуацыя з правамі чалавека ў постсавецкай Беларусі, якую амаль не трэба тлумачыць дэпутатам з былых сацыялістычных краінаў і Прыбалтыкі, патрабавала асаблівай расшыфроўкі для дэпутатаў з Нарвегіі, Швецыі, Даніі, Фінляндыі. Бо ў іх павага да правоў чалавека зьяўляецца ледзь не нацыянальнай рысаю і багата якія рэчы, якія здараюцца ў нас, яны проста не разумеюць.

З разьліку на іхнюю прысутнасьць я і будаваў свой выступ. Выступаўшы за апошнія паўгода ўжо дзясяткі разоў на розных форумах па тэме бягучай сітуацыі з правамі чалавека, я адшліфаваў свае аргументы і рэкамендацыі да аўтаматызму. Яны не былі ўласна маімі, а зья-

віліся ў выніку доўгіх і працяглых абмеркаваньняў з калегамі, беларускімі праваабаронцамі. Усе апошнія месяцы я ўпарта праводзіў адную думку, што размаўляць з уладамі трэба на такой мове, якую яны разумеюць і зь якой лічацца, інакш не дабіцца жадаемага выніку. Для кагосьці гэтая пазіцыя магла падацца занадта жорсткай і бескампраміснай. Насамрэч яна была ўзважанаю і адпаведнаю той сітуацыі, якая ўтварылася. А вынік усе мы чакалі адзін — вызваленьне ўсіх палітычных зьняволеных.

На сустрэчы была і спадарыня Луіза Бэк, нямецкая дэпутатка, зь якой у нас была не надта прыемная размова ў красавіку ў Страсбургу.

Я выступіў. Прадстаўленая мною карціна была яснаю. Пасьля выступу запанавала цішыня. Гэта быў адзін з маіх самых бясспрэчных і доказных выступаў. Крыху пазьней выказаліся дэпутаты. Усе каментары польскіх, літоўскіх, нямецкіх дэпутатаў гучалі ва ўнісон з маім выступам. Даволі добра выступіла і Луіза Бэк. Урэшце яна пагадзілася і падтрымала мой пункт погляду.

Праца парламентарыяў была запланаваная да 15 гадзінаў. У 16 дэпутатам прапаноўвалася прагулка на экскурсійным караблiку. На яе былі запрошаныя і мы, эксьперты. Я прыйшоў на ўзьбярэжную Осла хвілінаў на 20 раней. Было пахмурна, зрэдку крапаў дожджык, і час ад часу я хаваўся пад парасонам. З мора дзьмуў сьвежы вецер. Мы ўселіся на лаўку разам з Юрыем Джыбладзэ, сядзелі, куталіся ў курткі, чакалі дэпутатаў, караблік, глядзелі на мора, грэбні хваляў якога мелі металічна-шэры колер. Мы размаўлялі пра тое, што нарабілася ў Беларусі. Юры ўваходзіў у міжнародную назіральную місію і зьбіраўся прыехаць у Беларусь.

Горад на беразе вялікай вады — гэта заўсёды штосьці асаблівае. Нью-Ёрк, Гавана, Стакгольм, Лісабон, Адэса, Стамбул, Баку — гарады, у якіх я пабываў і якія прадзьмуваюцца сьвежым марскім брызам наскрозь. Гэты сьвежы марскі ці акіянскі няспынны вецер выдзьмувае

гарадскі смурод, ачышчае паветра і аўру горада. За нашымі сьпінамі стаялі канструктывісцкія будынкі з чырвонае цэглы. Яны выглядалі на змрочныя атлантычныя караблі, прычаленыя да гарадского пірса. Проста насупраць, на камяністым рагу, з другога боку бухты віднеліся старыя муры крэпасьці-замка. Справа цягнулася ўзьбярэжная вуліца, па якой заўсёды ходзяць турысты, а яшчэ далей, нябачны ад нас, быў музей трысьняговага плыта “Кон-Цікі”, на якім нарвежац Тур Хеердал праплыў па акіяне тысячы кіламетраў. Зьлева ад крэпасьці, якая зачыняла-ахоўвала бухту і горад, на скалістых берагох расьлі цёмныя паўночныя сосны. Вельмі адметны краявід паўночнай сталіцы, які можна ўбачыць толькі тут.

Пяць гадоў таму, калі я быў у Осла ўзімку, нас завезьлі ў метро на самую высокую станцыю. Мы выйшлі навонкі спаміж вялізных гранітных камянёў, зялёных соснаў і шэрага хмызьняку, падышлі да спадзістага схілу вялікага пагорка, на вяршыне якога мы апынуліся, і ўвесь цэнтральны Осла: марская бухта, мора, выспы — аказаліся ў нас пад нагамі. Горад выглядаў сьціплым і невялікім у параўнаньні з вадою, скаламі і чорным здалёк, суровым хваёвым лесам, зацярушаным белым сьнегам. Было бачна, што чалавек у Нарвегіі, у Осла — не цар прыроды, а сьціплы жыхар, які шануе і аберагае яе.

Я распавёў Юрыю пра сваю сітуацыю і пра магчымыя наступствы. Ён слухаў і нічога не раіў. Пэўна што, я ўжо такі дарослы, што далей няма куды, і здольны прымаць самастойныя рашэньні.

Урэшце падплыў наш прагулачны караблік. І дэпутаты, хто зь іх пажадаў, і мы пайшлі на ўзьбярэжную, на пірс. Мы зайшлі на карабель. Там была адна суцэльная каюта з драўлянымі лаўкамі паабапал прахода. Мы расьселіся, завуркатаў матор, і мы, павольна хістаючыся, адплылі ад пірса. Стоячы каля ўвахода, наперадзе, гід пачала распавядаць пра тыя памяткі і цікавосткі, якія віднеліся на ўзьбярэжжы.

Мы плылі ад узьбярэжнай налева, па нейкіх пралі-

вах і паміж выспамі. Горад стаяў зьлева ад нас, справа ж ляжалі зусім блізкія, зарослыя хвояй выспы з высокімі гранітнымі берагамі. Такое спалучэньне сучаснай цывілізацыі і прыроды мне вельмі падабалася. Неяк не верылася, што побач быў цэнтр горада, сталіца дзяржавы. Неўзабаве, праз некалькі тыдняў, на адной з такіх выспаў "бравы" Брэйвік, апантаны расісцкімі вар'яцкімі ідэямі, расстраляе амаль сто чалавек.

Часам на выспах мы бачылі невялікія акуратныя хаткі, пафарбаваныя ў традыцыйны для Скандынавіі і Фінляндыі карычневы колер. І толькі рамы вокнаў і дзвярныя вушакі былі белымі. Яна нагадвалі больш лецішчы. Каля кожнай хаткі трапятаў на ветры нарвежскі сьцяг. "Гэта вельмі дарагія дамкі, — пракаментавала маё пытаньне нарвежка Аня, — бо тут блізка ад цэнтра горада". — "Колькі прыкладна каштуе такі дамок?" — пацікавіўся я. "Не скажу дакладна, — адказала Аня, — але ў іх жывуць багатыя людзі, мільянеры". — "А сьцягі? Чаму так?" — запытаўся я. "Нарвежцы вельмі патрыятычны народ, — адказала Аня. — Яшчэ сто гадоў таму з Нарвегіі была вялікая эміграцыя ў Амерыку, бо мы былі маладой, беднай краінай. А зараз нарвежцы нікуды не зьязджаюць, нікуды не эмігруюць, жывуць удома, а за межы краіны едуць працаваць часова ў вялікіх транснацыянальных кампаніях, але потым усё роўна вяртаюцца".

Неўзабаве караблік разьвярнуўся, і мы паплылі назад. Заўтра зранку мяне чакаў самалёт, які ляцеў на маю радзіму, у Беларусь.

## 18 лістапада 2012 г., Бабруйск

У чэрвені 2011 года прыехалі ў Менск нашыя калегі-сябры з Осла: Берыт, Іна і Вольга. Дакладней сказаць, зьбіраліся прыехаць. У менскім аэрапорце памежнікі

прапусьцілі толькі Берыт зь яе нарвежскім пашпартам. А Іну, якая мела расійскі пашпарт з двухгаловым арлом, і Вольгу з украінскім пашпартам з трызубцам разьвярнулі назад. У Беларусь іх не пусьцілі. Можа, апасаліся, што яны далучацца да міжнароднай назіральніцкай місіі праваабаронцаў. Сяброў гэтай місіі — і расіянаў, і ўкраінцаў — шукалі і выдалялі зь Беларусі. А можа, яшчэ з-за нейкіх невядомых нам прычынаў ці беспрычынна. У такіх выпадках улады амаль ніколі не тлумачаць прычыны адмовы ва ўезьдзе. Дзяўчаты ноч прасядзелі ў аэрапорце на нейтральнай тэрыторыі, дзе няма ніякіх умоваў для такога начаваньня, а назаўтра зранку вылецелі назад у Нарвегію.

Берыт першым чынам зьявілася да нас. Яна была ўсхваляваная. Яе калегі з Нарвежскага Хельсінкскага камітэта з Осла, даведаўшыся пра сітуацыю, раілі ёй не рызыкаваць і неадкладна вяртацца назад. Берыт была ў нас паўгода таму, падчас выбараў, і бачыла, што адбывалася 19 сьнежня 2010 года на вуліцах і плошчах Менска. “Алесь, што мне рабіць?” — пыталася яна. Юрыстка па адукацыі зь міжнародным прызнаньнем, праваабаронца па пакліканьні, прыгожая, бялявая нарвежка з блакітнымі вачыма, маці траіх дзяцей, мая даўняя сяброўка Берыт запытальна глядзела на мяне. “Што табе хвалявацца? — адказаў я. — Калі цябе ўжо ўпусьцілі ў краіну, дык скарыстайся з гэтага”.

Берыт супакоілася. Урэшце, не першы раз за сваю праваабарончую дзейнасьць яна трапляла ў складаную і непрыемную сітуацыю. Мы сядзелі на варыўні, пілі гарбату з цукеркамі, якія Берыт прывезла нам у падарунак, як у яе зазваніў сотавы тэлефон. Гэта быў наш агульны знаёмы швед, які толькі як учора прыляцеў у Менск. Ён хацеў з намі сустрэцца, але ўжо ведаў пра прыгоды Іны і Вольгі на мяжы і моцна хваляваўся. Ісьці да нас на офіс ён засьцерагаўся і прасіў сустрэцца зь ім дзе-небудзь у горадзе. “Няхай скажа куды, і мы пад’едзем”, — сказаў я Берыт. Шведы і нарвежцы звычайна размаўляюць

міжсобку на сваіх мовах і добра разумеюць адзін аднаго, прыкладна так, як беларусы і ўкраінцы.

Яны дамовіліся сустрэцца каля метро "Кастрычніцкая" праз гадзіну, на праспекце Незалежнасьці, насупраць ГУМа.

Мы спакойна дапілі гарбату, крыху паразмаўлялі пра агульную сітуацыю ў Беларусі пасьля выбараў і праз паўгадзіны выбраліся на сустрэчу.

Калі мы зайшлі ў метро, аказалася, што цягнік на станцыі метро "Кастрычніцкая" не спыняецца... "Сёньня чарговая акцыя грамадзянскага непадпарадкаваньня, — патлумачыў я Берыт, — людзі зьбіраюцца і моўчкі ходзяць па праспекце Незалежнасьці, часам пляскаюць у ладкі". Папярэднія акцыі, абвешчаныя ў інтэрнэце, зьбіралі па некалькі соцень чалавек. У асноўным гэта была не заангажаваная раней у палітыцы моладзь. Гэтыя самаарганізаваныя акцыі былі вынікам страшэннай інфляцыі, абвалу беларускага рубля.

Мы даехалі да плошчы Перамогі, выйшлі зь метро і пайшлі пешшу па праспекце. Мы ішлі па правым баку праспекта, мінулі Кастрычніцкую плошчу. На ёй, бліжэй да ўніверсама "Цэнтральны", грамадзіўся народ. Людзей было, можа, зь дзьве тысячы асобаў, нязвыкла багата, як для такой віртуальна арганізаванай акцыі. Мы зь Берыт прайшлі скрозь грамаду. Людзі былі на эмацыйным пад'-ёме, пасьміхаліся, дружна пляскалі ў ладкі. Адразу неяк павесялелі і мы.

Нашага знаёмага мы знайшлі на аўтобусным прыпынку насупраць ГУМа на другім баку праспекта. Ён быў моцна ўстрывожаны. Называецца, прызначыў сустрэчу ў спакойным месцы — ходзіць поўна людзей, міліцыі, рухаюцца туды-сюды, пляскаюць у ладкі. Ён нічога не мог зразумець: куды ён патрапіў! Я патлумачыў яму, што адбываецца, і падбадзёрыў яго.

Мы адышліся падалей ад "маўклівых" пратэстантаў і паразмаўлялі. Затым я разьвітаўся зь Берыт, а напалоханы швед у гэты свой прыезд так замаскіраваўся, што

болей і не адгукнуўся. Берыт адправілася на іншыя сустрэчы, і мы дамовіліся: раптам што здарыцца, яна будзе неадкладна тэлефанаваць мне.

Але мне ў гэты дзень патэлефанавала іншая дзяўчына. Гэта была інсьпектар з падатковай інсьпекцыі Першамайскага раёна, дзе я стаяў на ўліку. Яна папрасіла мяне зайсьці ў інсьпекцыю. “А ў чым справа?” — пацікавіўся я. Яна сумелася, падбіраючы словы, потым сказала: “Падыдзіце, на месцы тут будзем размаўляць”. Хіба па дэкларацыі за мінулы год выклікае, падумаў я. Можа, нейкія ўдакладненьні. У 2008 годзе, калі падчас парламенцкіх выбараў мы арганізоўвалі і праводзілі кампанію “Праваабаронцы за свабодныя выбары”, мяне выклікалі ў падатковую, праверылі мае даходы-расходы ці не ад пачатку 90-х гадоў і паставілі на ўлік. Цяпер штогод я запаўняў дэкларацыю аб даходах.

Назаўтра зранку я быў у падатковай інсьпекцыі. Інсьпектар прапанавала мне прысесьці, а потым дрыжачым ад хваляваньня голасам паведаміла, што прыйшло ўказаньне міністэрства праверыць мае даходы. Адтуль у інсьпекцыю перадалі дакументы. Якое тлумачэньне я магу даць у зьвязку з гэтымі дакументамі? Яна паказала мне раздрукоўкі зь літоўскага банка. Тлумачэньні даваць я не пажадаў і папрасіў зрабіць мне копію раздруковак, каб падрыхтаваць удома абгрунтаваны адказ.

Інсьпектар надзіва хутка пагадзілася. У пакоі, дзе сядзелі яшчэ некалькі жанчынаў-інсьпектараў, застыла цішыня. У іхніх касых беглых позірках я бачыў спачуваньне. Было такое адчуваньне, што ў пакоі знаходзіцца нябожчык. Я забраў ксеракопіі і разьвітаўся з інсьпектаркаю. Я ўжо ведаў, што ў бліжэйшы час мне прыйдзецца яшчэ раз сустрэцца з падаткавікамі. Так, як выжлы, напаўшыя на сьлед, рэдка калі кідаюць яго.

Калі я прыйшоў на офіс, Берыт была ўжо там. Я паказаў паперы сваім калегам. Мне падалося, што я апынуўся ў прыёмным пакоі “хуткай дапамогі”. Яны кінуліся да камп’ютара, паглядзелі магчымыя санкцыі. Вы-

ходзіла да пяці гадоў “хіміі” ці ўзмоцнены рэжым ад трох да сямі гадоў, з канфіскацыяй маёмасьці альбо без канфіскацыі. Берыт разгублена глядзела на ўсю мітусьню, якая адбывалася вакол яе, шырока расплюшчанымі вачыма.

“Вось, Берыт, — сказаў я ёй, — як ты прыязджаеш, вечна што-небудзь у нас здараецца. Так было ў 2006 годзе, калі ты прыехала ў Менск і арыштавалі ўвесь намётавы гарадок, так было і 19 сьнежня 2010 года, калі разагналі маніфестацыю на плошчы Незалежнасьці, так і зараз. Вось ты прыехала, і падобна, што мяне пасадзяць”, — жартаўліва выгаворваў я ёй. “Але гэта не з-за мяне!” — шчыра запярэчыла Берыт, потым паглядзела на мяне, і мы дружна расьсьмяяліся. “Гэта, Алесь, усё вельмі сур’ёзна”, — сказаў мне мой калега юрыст. “Я зразумеў”, — адказаў я.

## 2 сьнежня 2012 г., Бабруйск

У канцы чэрвеня 2011 года было запланавана чарговае паседжаньне Міжнароднага праўленьня FIDH у Парыжы. Зазвычай праўленьне зьбіраецца тройчы на год. На гэтыя сустрэчы прыязджалі віцэ-прэзідэнты, сакратары федэрацыі з усіх краёў сьвету. На іх абмяркоўваліся бягучыя тактычныя пытаньні дзейнасьці федэрацыі, датычныя гарачых кропак у сьвеце, дзе нашыя калегі адчайна, часта з рызыкай для жыцьця, абаранялі правы мірнага насельніцтва. Таксама слухаліся і абмяркоўваліся рэгіянальныя агляды па сітуацыі з правамі чалавека — у Лацінскай Амерыцы, Афрыцы, Усходняй Еўропе. Разважалі мы і над стратэгічнымі накірункамі дзейнасьці Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, у якую ўваходзяць амаль 200 праваабарончых арганізацыяў з усяго сьвету. І дзеля таго, каб нашая дзейнасьць была выніковай і эфектыўнай, мы распрацоўвалі далёкасягальную

праграму: “FIDH праз 10 гадоў”. Ініцыятарам і маторам гэтай працы была прэзідэнт федэрацыі, туніская праваабаронца Суэр Белхасэн.

Гэтым разам асноўны акцэнт сустрэчы быў зьвязаны з падзеямі ў арабскіх краінах паўночнай Афрыкі, і найперш у Тунісе. Язьмінавая рэвалюцыя ў Тунісе была сусьветнай падзеяй гэтага года. Федэрацыю ў нашых асобах прымала мэрыя Парыжа. У фокусе нашага абмеркаваньня быў увесь рэгіён: Туніс, Егіпет, Лівія, Марока.

Паседжаньне міжнароднага бюро праходзіла проста ў будынку мэрыі, у адной зь яе гістарычных залаў. Вялізная зала, падзеленая аб’ёмнымі калонамі, была распісаная каляровымі фрэскамі і абвешаная вялікімі цёмнымі карцінамі з гістарычнымі сюжэтамі. Аркавыя вокны, пераплеценыя старымі ўзорыстымі пераплётамі, пачыналіся ад падлогі і цягнуліся ўгару аж да столі. У адным з вокнаў пераліваўся цёмным шклом каляровы вітраж. Ляпніна на столі і росьпіс столевых плафонаў нагадвалі сьвяточны торт, які вісеў у нас над галавой.

Сярод гэтай барокавай прыгажосьці былі пастаўленыя авалам сталы, кабінкі для перакладчыкаў, на дапаможным століку афіцыянты паставілі тэрмасы з каваю і гарбатаю, піроожныя, сокі і мінеральную ваду. Нашая шматнацыянальная, разнамоўная кампанія ўселася за стол, і пачалася праца. Абліччы старажытных парыжскіх палітыкаў са зьдзіўленьнем паглядалі на нас з партрэтаў. Хіба ж яны думалі, калі прымалі дэкларацыю аб правах чалавека для французскіх грамадзянаў, толькі пару гадоў як адмяніўшы прыгон, а затым абвясьціўшы ўсіх роўнымі і вольнымі, што гэтая “зараза” вальнадумства распаўсюдзіцца па ўсім сьвеце? І што змаганьне за свабоду, за свае правы стане ці не галоўнай сацыяльнай і грамадскай мэтаю ў сьвеце на наступныя 200 гадоў? І што гэтай свабоды, якую немагчыма памацаць рукамі, але якая разьлітая ў паветры, п’яніць галовы, будуць жадаць усе — і в’етнамец, і егіпцянін, і калумбіец.

Беларусы, якія ішлі ў тую асьветніцкую эпоху сьлед

у сьлед за французскімі мысьлярамі, за грамадскімі і палітычнымі пераўтварэньнямі, у выніку катастрофы — падзелу і акупацыі дзяржавы — апынуліся ў Расійскай імперыі. Мы былі адкінутыя і замарожаныя ў сваім разьвіцьці ў чымсьці на стагодзьдзе, а ў чымсьці і на два, панесьлі аграмадныя ахвяры і ўрэшце так і не дасягнулі яшчэ прымальных умоваў жыцьця. Чаму так сталася? На гэтае пытаньне, я мяркую, мы павінны пастаянна шукаць адказ. Можа быць, ацэньваючы старонкі мінулага жыцьця, мы змаглі б больш адказна ставіцца да жыцьця сучаснага і будучага.

Выступы туніскіх праваабаронцаў, адмыслова запрошаных на нашую сустрэчу, былі поўныя гонару за свой народ. Усе яны як адзін казалі, што не чакалі такога імклівага разьвіцьця падзеяў. Аўтарытарная ўлада, якая адбудоўвалася дзесяцігодзьдзямі, мела магутны рэпрэсіўны апарат, кантралявала сродкі масавай інфармацыі і, здавалася б, моцна трымала людзей у страху і падпарадкаваньні, вокамгненна ўпала, не вытрымала некалькіх хваляў народнага націску.

Разам з гонарам нашыя туніскія калегі выказвалі і насьцярогу. Яны былі ўстрывожаныя ростам ісламскага ўплыву, а разам зь ім і ўзрастаньнем нецярпімасьці ў грамадстве. Было багата і іншых праблемаў. Туніскае грамадства структурна перабудоўвалася, павылазілі балячкі, якія ранейшыя ўлады пры дапамозе гвалту і прымусу заганялі ўсярэдзіну. Але, гледзячы на іхнія адухоўленыя, поўныя энергіі аблічча, я па-добраму зайздросьціў ім.

Цікавым быў выступ лівійскага праваабаронцы. У гэты час у Лівіі ўжо ва ўсю ішла грамадзянская вайна. Ён выступаў яшчэ больш эмацыйна за туніcцаў. Распавядаў пра жахлівы тэрор лідара Джамахерыі, які катаваньнямі і забойствамі пераўтварыў людзей у маўклівы, запалоханы натоўп. І вось нянавісьць, якая капілася дзясяткі гадоў, вырвалася на волю. І зараз ідзе жорсткая, крывавая барацьба за дэмакратыю і правы чалавека са зброяй

у руках. У гэтай сітуацыі лівійская апазіцыя моцна разьлічвае на міжнародную дапамогу.

Ягоны выступ выклікаў неадназначную рэакцыю. Праваабаронцы з арабскіх краінаў падтрымлівалі свайго калегу. Еўрапейцы тактычна маўчалі ці казалі пра неабходнасьць вялікай асьцярогі ва ўжываньні зброі з боку еўрапейскіх саюзьнікаў лівійскай апазіцыі. Ужо было вядома пра ахвяры сярод мірнага насельніцтва пасьля бамбардзіровак зь еўрапейскіх самалётаў. Кідалі бомбы па лівійскім войску, а траплялі ў жанчынаў і дзяцей. Лацінаамерыканцы ж у адзін голас асуджалі вайсковую дапамогу і лічылі яе ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы суверэннай краіны. Так, выступіў Луіс (Генеральны сакратар FIDH Луіс-Гільерма Пэрэс. — ***Рэд.***) і сказаў, што калі б Калумбія знаходзілася ў падобнай сітуацыі, то лепей бы няхай яго забілі, але каб акупанты не бамбілі ягоны народ. Гаварыў ён не менш пафасна за лівійца.

Не, падумаў я, гэта не наш шлях. Не дарэмна 200 гадоў таму ў Менску сустракалі Напалеона хлебам-сольлю. Бо адступала, і, здавалася, назаўсёды, расійская тыранія, а разам з Напалеонам прыходзілі свабода, роўнасьць і братэрства. Амаль уся Лацінская Амерыка ў той час, дарэчы, усе калоніі Іспаніі здолелі тады адбіцца ад метраполіі і стаць незалежнымі. Яны выкарысталі перамогу Напалеона над Іспаніяй і замену ў зьвязку з гэтым каралеўскай дынастыі. Неўзабаве незалежнасьць атрымала і партугальская калонія ў Лацінскай Амерыцы, Бразілія, і выбрала свайго караля.

Але хіба ж маглі мы падтрымаць бамбардзіроўкі Лівіі, да чаго нас заклікаў лівійскі калега? Гэта была праблема, якая не мела яснага рашэньня і адказу. Ці каштавала свабода шасьцімільённага народа некалькіх дзясяткаў, ці сотняў, ці тысячаў выпадковых ахвяраў? І ці павінныя мы рабіць такі выбар? Мы, праваабаронцы, якія лічым каштоўнасьць чалавечага жыцьця асновай асноваў усёй сваёй дзейнасьці і ідэалогіі? Любы з нас асабіста гатовы ахвяраваць і ахвяруе багата чым: дабрабытам,

уладкаванасьцю, здароўем, свабодай, а некаторыя нават сваім жыцьцём. Але вось пастаў нас у сітуацыю, калі дзеля выратаваньня большай колькасьці людзей трэба ахвяраваць меншай ці нават адным жыцьцём, і я думаю, што выбар не будзе зроблены, а калі будзе, то гэта ўжо за межамі праваабароны.

Я чамусьці згадаў, як мая маці распавядала, што падчас вайны, калі яе цётка, а мая стрыечная бабуля, тады маладая яшчэ 25-гадовая жанчына, разам з жанкамі і дзецьмі хавалася ў жыце, куды яны ледзь пасьпелі выскачыць зь невялікай вёсачкі, якую прыйшлі паліць мадзяры, а знаёмы паліцыянт прыбег і папярэдзіў іх, дык яе гадавалы сын разравеўся ад ляку. “Задушы, бо ўсе загінем!” — загадалі суседкі. Яна не насьмелілася, не змагла, не ўзяла грэх на душу. І абышлося. Мадзяры не пачулі плачу дзіцёнка. А калі б пачулі?

Закранутая гэтая праблема і ў Бібліі. У дні, калі пішу гэты ліст, на швейцы, перад сканчэньнем працы, пакрыху перачытваючы Евангельле ад Яна (хтосьці прынёс і пакінуў у цэху Новы Запавет), я згадаў гэты прызабыты мной эпізод перасьледаваньня Хрыста. Галоўнай прычынаю, чаму першасьвятары і фарысеі хацелі забіць Хрыста, паводле Яна, была наступная: “Гэты чалавек багата цудаў робіць. Калі пакінем Яго так, дык усе паверацьу Яго — і прыйдуць рымляне, і завалодаюць і месцам нашым, і народам. Адзін жа ў іх, хтосьці Канафа, будучы на той год першасьвятаром, сказаў ім: вы нічога не ведаеце, і не падумайце, што лепей нам, каб адзін чалавек памёр за людзей, чым каб увесь народ загінуў” (Ян 11.47-50). Але першасьвятары і фарысеі ўсё ж “вырашылі забіць Яго” (Ян 11.53). Дык ці мелі яны рацыю, прыняўшы гэтае прадбачлівае палітычнае рашэньне для габрэйскага народа, для ўсяго сьвету?

Вось так, дзьве тысячы гадоў таму гэты Канафа, лічачы Хрыста за чалавека, паставіў пытаньне, на якое сьвет мучаецца і не можа адказаць дагэтуль. Урэшце, хтосьці мучаецца, а хто і не.

Дык вось, вяртаючыся ў парыжскую мэрыю. Дваццаць гадоў таму я, мабыць, зрабіў бы такі выбар. А зараз вось — не.

Наш лівійскі калега застаўся незадаволены вынікам абмеркаваньня і тэкстам рэзалюцыі, датычнай сітуацыі ў Лівіі, якую прыняло міжнароднае бюро.

Падчас перапынку я падышоў да Суэр, якая, як туніска, лепей арыентавалася ў тамтэйшай сітуацыі. “Суэр, — запытаўся я, — а ці былі праваабаронцы ў Лівіі да вайны?” Яна ўзьняла пальцы на адной руцэ, гэтым паказала — мала, вельмі мала. “Мы ведаем 2–3 прозьвішчы, — адказала яна, — і крыху болей у эміграцыі”. Гэта значна горш, чым у нас, падумаў я.

Пасьля афіцыйнага паседжаньня я паведаміў кіраўніцтву федэрацыі пра сваю праблему з падаткавай інсьпекцыяй і з тым, чым гэта можа для мяне скончыцца. Увечары ў мэрыі быў дадзены прыём у гонар туніскіх праваабаронцаў. Жанчыны апранулі прыгожыя ўборы, выступаў мэр, мы пілі французскае шампанскае.

Нашае бюро скончыла засядаць назаўтра ў абед. Саша (супрацоўніца Парыжскага бюро FIDH Аляксандра Кулаева. — ***Рэд.***) — вырашыла крыху павадзіць нас з нашым сябрам, праваабаронцам з Арменіі, сакратаром FIDH, Артакам, прагуляцца.

На гэтым пакуль закончу, а ў наступным лісьце працягну.

## 4 сьнежня 2012 г., Бабруйск

*Працягваю свой расповед пра паездку ў Парыж.*

Гарадская мэрыя знаходзіцца ў цэнтры Парыжа. Хаця панятак “цэнтр” у 15-мільённым горадзе — гэта зусім не тое, што цэнтр, напрыклад, у Менску ці Бабруйску. І вось мы выйшлі з мэрыі і пайшлі ў бок сабора Парыжскай

Божай Маці. Таго самага, які стаў цэнтрам падзеяў у рамане Віктора Гюго. Я як убачыў сабор першы раз, гадоў пяць таму, шчыра кажучы, быў крыху расчараваны. Пляцоўку вакол сабора засыпалі сьветлым жвірам, сам сабор адмылі ад куродыму стагодзьдзяў, і ён стаў турыстычным аб’ектам. Вось штосьці падобнае адбываецца і пры рэстаўрацыі ў Беларусі, калі ў казармах Брэсцкай крэпасьці ставяць шклопакеты, а каля Мірскага замка кладуць сучасную тратуарную плітку. Імкненьне мадэрнізаваць мінуўшчыну ўніверсальнае. А разам з рамонтам і паднаўленьнем зьнікае дух стагодзьдзяў.

Мы падыходзілі да сабора з тыльных завулкаў. Тут звычайна спыняліся начаваць парыжскія бамжы. І хоць выглядалі яны чысьцейшымі і апранутымі лепей за нашых і спалі звычайна ў спальніках, але ад закуткоў каля чыгуннай каванай агароджы патыхала чалавечымі экскрэментамі. Да сабора мы не дайшлі, а прыйшлі да ўваходу ў заапарк. Заапарк у Парыжы, папярэдзіла нас Саша, не такі вялікі, як у Берліне. Але нам усё роўна захацелася паглядзець на дзікіх жывёлаў. Каля касаў на ўваходзе было зусім мала людзей: мы ўтрох ды яшчэ нейкая заезджая пара турыстаў. У касе нас папярэдзілі, што праз гадзіну заапарк будзе зачыняцца і калі мы хочам зайсьці ўсярэдзіну, у нас толькі што і будзе, дык гэтая гадзіна.

Саша запытальна паглядзела на нас. Пойдзем, вырашылі мы. “Давайце я вам пакажу сям’ю арангутангаў, — прапанавала Саша, — яны тут страшэнна папулярныя”. Мы прайшлі праз вальеры нейкіх козаў, гнёзды птушак, падышлі да асобнага павільёна, зайшлі ўсярэдзіну і ўбачылі за шклом тры вялікія кублы арангутангаў, падвешаныя на канатах, як гамакі з накіданым усярэдзіну гольлем і лістотаю. Канаты, мабыць, замянялі лясныя ліяны. У кожным зь іх сядзела па арангутангу. Гэта была сям’я чалавекападобных малпаў, пузатыя і сісястыя каштанавыя сёстры і двое такіх сынкоў. Тату-арангутанга трымалі ад іх асобна. Ад аднаго, самага маленькага, памерам з чалавечага 3-гадовага дзіцёнка, ярка-рудзенька-

га са сьмешным кокам-пасмаю косаў на яйкападобнай галаве, маці была адмовілася. Багата парыжанаў перажывала за кінутага малога. Яго выгадавалі з пляшачкі з соскаю. Ён падрос, і ягоная цётка ўзялася яго даглядаць.

Арангутангі павольна гойдаліся ў сваіх кублах, вылазілі па адным, зьелі садавіну, па банану і пажавалі нейкай зяляніны, затым палезьлі ў дзірку, якая выходзіла ў дваровую вальеру. Выйшлі на вуліцу і мы, абышлі павільён, каб паглядзець, што яны будуць рабіць. Яны лена, з пачуцьцём годнасьці, не зьвяртаючы на нас увагі, гулялі і толькі зрэдку паглядалі на нас. Мы памахалі ім рукамі і троху нават паскакалі, як дзеці, хацелася неяк разварушыць гэтую нясьпешную сямейку. Цётка асабліва не рэагавала, а малы вырашыў троху пасвавольнічаць, палез на сетку, бліжэй да нас, пагайдаўся на руцэ, затым на назе з такімі ж пальчыкамі, як і на руках. Час ад часу ён паглядаў на нас: маўляў, бачыце, як я магу. Затым ён зачапіўся ўсімі чатырма рукамі і нагамі за сетку і прыліп сваімі тулавам да яе. Было сьмешна і цікава. Мы падбадзёрвалі яго бесклапотным сьмехам.

Мы прастаялі каля арангутангаў усю адпушчаную нам гадзіну, як у музеі з адным экспанатам. Дарэчы, год таму мы з Артакам так і зрабілі. Ізноў жа пасьля абеду ўжо, пасьля заканчэньня працы мы зь ім пасьпелі даехаць на метро да Луўра і заскочыць у апошнюю хвіліну перад закрыцьцём музея. Гэта быў бясплатны для наведваньня дзень. Уваход ва ўсе залы розных экспазіцыяў ужо быў зачынены, і мы адно пасьпелі прасьлізнуць у залы, дзе былі выстаўленыя мармуровыя статуі. Людзі выходзяць зь велізарнага Луўра доўга, мо з хвілінаў сорак. І за гэты ж час мы пасьпелі паглядзець выдатныя рэльефы і статуі старажытных егіпцянаў, грэкаў, рымлянаў, французаў. І спыніліся мы тады каля Венеры Мілоскай і доўга сталі каля яе ў натоўпе дробных японцаў.

Вось так і запомніўся тады паход у Луўр як паход да Венеры. І ў заапарк зараз мы прыйшлі, атрымалася, да арангутангаў. І ні кроплі не пашкадавалі пра гэта.

Урэшце нам прапанавалі выйсьці, і мы пайшлі некуды, забіраючы ўправа, па невядомых мне вулках Парыжа.

Я бываў у Парыжы неаднойчы, па справах FIDH, як віцэ-прэзідэнт. Па маіх назіраньнях, ды і не толькі маіх, большасьць старога горада забудаваная гмахамі XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Бясконцы ланцуг кварталаў, накінуты на зялёныя бульвары. І перарэзаны плошчамі і скверамі. Як патлумачыла Саша, адзін з імператараў ужо ў XIX стагодзьдзі, баючыся паўстаньняў і паўстанцаў, разбурыў цесныя і крывыя вулкі Парыжа і па-новаму спланаваў горад з шырокімі і роўнымі вуліцамі і бульварамі. Дзеля таго, каб па вуліцах можна было страляць па паўстанцах з артылерыі. Таму ўласна сярэдневяковага Парыжа засталося не так і багата. І трэба ведаць, дзе яго шукаць.

Гэтым разам Саша сказала, што яна вырашыла, калі мы не супраць, паказаць нам Парыж рымскай эпохі. Мы, вядома, пагадзіліся. Прайшлі некалькі кварталаў — і вось, паказала Саша, уздоўж вуліцы віднеліся таўшчэзныя цёмныя цагляныя муры нейкай руіны. Гэта былі рэшткі рымскіх тэрмаў, лазьняў. Мы глядзелі на гэты велічны будынак, на тое, што ад яго засталося, ва ўсе вочы. Відаць было, што спаруда была вялікаю. І гэта зразумела, бо лазьні ў рымлянаў выконвалі да ўсяго ролю гарадскога клуба. Сюды прыходзілі не толькі памыцца, але і павырашаць жыцьцёвыя праблемы. “Вось тут, у першай палове, — паказала Саша, — была халодная і летняя вада, а вось тут, — яна паказала на парэшткі нейкіх купеляў, — былі гарачыя ванны”.

Дзіўна было глядзець на гэтыя вялізныя, як на мой погляд, тэрмы, астаткі побыту і культуры магутнай рымскай цывілізацыі, якая існавала ў тыя часы, калі нашыя продкі, славяне-протабеларусы, яшчэ не прыйшлі ў Беларусь, а жылі ніжэй, паўднёвей Прыпяці. А амаль па ўсёй Беларусі жылі балты-протабеларусы. І нашыя продкі славяне жылі тады ў невялічкіх хатках-куранях, на метр

закапаных-углыбленых у зямлю. Ад гэтых паўзямлянак да нашага часу дайшла завядзёнка засыпаць першыя вянцы ў хатах звонку пяском, рабіць падпёртыя дошкамі заваліны-прызбы. І яшчэ наперадзе быў час зьмяшаньня славянскай і блізкай па роднасьці да славянаў балцкай крыві, у выніку чаго і атрымаўся такі адметны нацыянальны сплаў, як беларусы.

А гэтыя тэрмы перажылі, перастаялі нараджэньне нашага ды і багата якіх іншых народаў. Ад людзей, якія абпальвалі і ўкладалі гэтую цэглу, не засталося і праху. І Беларусь нарадзілася, перажыла залаты век і, магчыма, зьнікне, а тэрмы будуць стаяць і далей.

Хаця хто яго ведае, думаў я. Усё сваё жыцьцё я штосьці раблю, каб гэтага не адбылося, каб Беларусь не зьнікла. І, дзякуй Богу, я не першы і не апошні, і я — не адзін.

Затым мы пайшлі далей. Мы збочылі з вуліцы, прайшлі дварамі і выйшлі на вялікае гала. Дамы, якія стаялі з аднаго боку гэтага скверу, былі разьвернутыя да яго тыльнымі бакамі. І вось пасярэдзіне гэтага скверу, які спадаў крыху ўдол, стаяла практычна цэлая старажытнарымская арэна! Гэта была першая арэна, якую мне давялося бачыць у жыцьці. Таму не магу сказаць, якая яна — вялікая ці малая. Хутчэй за ўсё малая. Бо Парыж быў тады далёкай правінцыяй, ускраінай Рымскай імперыі, і не так багата ў ім жыло людзей. Хаця на схілах арэны, на мой погляд, магло памясьціцца дзьве-тры тысячы гледачоў. Трыбуны, загоны для жывёлаў, пакойчыкі для гладыятараў, муры круглай арэны выкладзеныя зь белых, пашарэлых крыху ад часу каменных блокаў цьвёрдага пясчаніку. Проста неверагодна, як усё гэта магло захавацца такой якасьці.

“Пасьля рымлянаў тут была вялізная парыжская сьметніца, — распавяла Саша, — і сьмецьцем парыжане ў старажытнасьці проста засыпалі арэну і ўсе збудаваньні каля яе. Побач пабудавалі дамы, і таму з тога краю арэны немагчыма правесьці раскопкі, частка комплексу яшчэ

схаваная і дагэтуль. Арэну раскапалі ўсяго пяцьдзясят гадоў таму, ужо пасьля вайны. Зьбіраліся штосьці будаваць на гэтым месцы і проста наткнуліся на яе".

Я абышоў арэну па перыметры, зазірнуў у загончыкі для жывёлаў, адкуль іх выпускалі на круглы пляц, з холадам па скуры агледзеў невялікія распранальні для гладыятараў. Адсюль яны выходзілі пад роў гледачоў, каб перамагчы ці памерці. Паглядзеў на шырокі ўезд на арэну, кудою заязджалі калясьніцы і вершнікі. Я не мог утрымацца і некалькі разоў дакрануўся да шурпатых камянёў арэны, як быццам бы спадзяваўся, што яны перададуць мне энергію тых часоў.

Зараз арэна была засыпаная сьветлым жвірам. На ёй стаяла футбольная брама і дзеці гулялі ў футбол. На каменных лаўках-прыступках сядзела featuresнакаляровая французская моладзь і пра штосьці весела шчабятала паміж сабой. Сонца заходзіла і лагодна грэла і сьвяціла. Я выйшаў у цэнтр арэны і ўскінуў руку са сьціснутым кулаком. Але ж не, не вярнуць ужо ніколі прамінулыя часы. "Ave, Caesar, morituri te salutant!" ("Няхай жыве Цэзар! Йдучыя на сьмерць вітаюць цябе!") Саша сфатаграфавала мяне, ужо беларускага дзядзьку, які зьбіраўся вяртацца да сябе на радзіму, дзе яго чакаў не перасьлед вялікага князя і не інквізіцыя, а ўсяго толькі падатковая інсьпекцыя Першамайскага раёна. А кантора, якая стаяла за ёй, вельмі спадзявалася, што ён (я) застанецца ў Вільні, ці то ў Варшаве, ці ў Парыжы, і зьнікне з сарамліва-сьціплых акварэльных беларускіх даляглядаў.

Усе гэтыя дні перабываньня ў Парыжы я бегаў кожную раніцу. І калі ў мае ранейшыя прыезды я бегаў у бок плошчы Бастыліі, выбягаў на яе па вуліцы Сьвятога Антуана, на вялікую круглую плошчу зь велічнай калонаю-слупом і залатым Апалонам на ёй, прабягаў пад схаванымі пад асфальтам падмуркамі Бастыліі (іх зараз відаць у метро, якое ідзе пад плошчаю) і бег паўз канал, які перасякаў плошчу, то апошнім разам Саша паказала мне

іншы маршрут. “Алесь, — сказала яна, — насупраць вуліцы, дзе стаіць ваш гатэль, калі прайсьці з кіламетр па перпендыкулярнай вуліцы, то можна патрапіць на былы чыгуначны віядук (інжынернае збудаваньне ў форме моста, якое злучае месцы з аднолькавай вышынёй. — ***Рэд.***). Чыгункі даўно ўжо там няма, а па віядуку ідзе вельмі прывабная сьцяжына. Некалі мы з мужам і дачкою ў вазочку гулялі па ёй. Яна цягнецца доўга-доўга, і мы прайшлі кіламетраў дзесяць. Паглядзіце, пацікаўцеся, можа, яна прыдасца вам для вашых прабежак”.

І ў першую раніцу ў гэты прыезд я пабег падзівіцца на віядук. Вуліцы ў Парыжы зранку ціхія і сонныя. Зь нізкіх гідрантаў каля бардзюраў льецца, булькоча вада. Прыбіральшчыкі падключаюць да іх свае шлангі і змываюць засьмечаныя за ноч ходнікі. Усю ноч на іх кіпела жыцьцё. Малыя кавярні, мікраскапічныя бары, невялікія рэстараны — імі літаральна нашпігаваны Парыж. Ёсьць сьпецыялізаваныя — рокерскія, для геяў, для аматараў паэтычных чытаньняў, ёсьць в’етнамскія, алжырскія, італьянскія. Народ сыходзіць з вуліц толькі пад ранак.

Я бягу па вузкіх ходніках, прамінаю заспаную чарнаскурую жанчыну, якая, відаць, цягнецца на працу, дзяцей, ідучых з ранцамі ў школу, і выбягаю да віядука з чырвонай цэглы. Ён даволі масіўны, грунтоўны, вышынёю ў два-тры паверхі. У паўкруглых нішах абсталяваныя розныя крамкі і салоны — мэбля, карціны, рамкі і люстры. Я шукаю пад’ёму, бягу паўзь віядук, бачу лесьвіцу ў два пралёты, узьбягаю па ёй. Пляскатая паверхня віядука пасярэдзіне мае заасфальтаваную сьцяжыну, паабапал якой насыпаная зямля і высаджаныя разнастайныя расьліны. Позьнія рознакаляровыя цюльпаны, жоўтыя і белыя з далікатнымі алымі палоскамі нарцысы, кусты з розным адценьнем зеляніны, ад ледзь зеленаватых сьветла-бляклых лісьцікаў да бліскучага цёмна-зялёнага, аж чорнага колеру мясістых лістоў. Высаджаныя

нават дрэвы, якія, мабыць, выкопваюць, калі яны вырастаюць, і замяняюць на новыя, маладзейшыя і меншыя.

Даўно няма ні калёснага мазуту, ані паравознага чаду, ані прыкалейнага сьмецьця, адно кветкі, кусты, дрэвы, птушкі, якія корпаюцца ў зарасьцях кустоў. Гэтыя "вісячыя сады" цягнуцца на ўзроўні вокнаў другога-трэцяга паверха дамоў. Але яшчэ рана, і вокны зачыненыя рабрыстымі аканіцамі.

Я бягу наперад, зрэдку сустракаючы гэткіх жа самых бегуноў. Мы ўсьміхаемся адзін аднаму, так, як пасьміхаюцца людзі, якія ведаюць штосьці такое, што ведама адно толькі ім. Ранішняе сонца з-за дахаў дамоў пускае свае лагодныя косы. Я паглядаю туды, на ўсход, дзе ляжыць лапік, бязьмежнае раздольле маёй роднай зямлі, куды наканавана мне вяртацца пасьля кожнай паездкі.

## 16 сьнежня 2012 г., Бабруйск

Вось ужо некалькі гадоў штогод у канцы чэрвеня ў нас пачынаюцца моладзевыя праваабарончыя школы. Чаму яны праходзяць толькі ўлетку і за мяжою, у Вільні, гэта асобная гісторыя. Праваабарончыя школы — асаблівая, унікальная старонка дзейнасьці беларускіх праваабаронцаў. Дзіцё некалькіх беларускіх праваабарончых арганізацыяў, школы напачатку меркаваліся ў Беларусі. Але пасьля зрыву па вядомых прычынах падобнай школы, якую ладзіла Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў, за суткі да яе пачатку, мы вырашылі не рызыкаваць ані сваімі нервамі, ані рэпутацыяй і перамясьцілі іх за мяжу.

Самая першая школа прайшла пад Кіевам, другая ў Чарнігаве, а ўсе наступныя мы ладзілі ўжо ў будынку Беларускага Дома правоў чалавека ў Вільні.

Да мінусаў віленскага навучаньня можна аднесьці патрэбу кожны раз рабіць шэнгенскія візы для лектараў

і ўдзельнікаў школ. Але вольная, п'янкая атмасфера летняй расьпешчанай гарачынёй Вільні з каптуром пераважала ўсе мінусы. За некалькі гадоў існаваньня школы была адпрацаваная яе праграма. Лектарамі ў школе выступалі вопытныя і абазнаныя праваабаронцы. І хаця тэмы, якія выкладаюцца і абмяркоўваюцца падчас заняткаў, даволі агульныя, у асноўным у іх разглядаюцца нацыянальныя і міжнародныя механізмы абароны правоў чалавека, гісторыя і філасофія правоў чалавека, але інтэнсіўнасьць, насычанасьць, інтэрактыўнасьць заняткаў, дадатковыя веды, датычныя беларускай гісторыі Вільні, жыцьцё навучэнцаў усе гэтыя дні адным калектывам ствараюць неперадавальную атмасферу нашых школаў і робяць іх не падобнымі ні на якія іншыя.

Я таксама быў далучыўся да стварэньня школаў, меў выклады, распавядаў пра гісторыю правоў чалавека ў Беларусі. За лета ў Вільні праходзіла некалькі школаў, і я звычайна прыязджаў у дні сваіх заняткаў, а затым зьязджаў дадому. Так было і гэтым разам, хаця падатковая інсьпекцыя ўжо пачала сваё расьсьледаваньне. На яе прэтэнзіі пры дапамозе адваката я падрыхтаваў і адаслаў адказ. Заставалася толькі чакаць вынік разгляду. Прагнозы былі песімістычнымі. У выпадку, калі мае аргументы былі б адхіленыя падатковай інсьпекцыяй, тады ў гульню мусіў уступіць Дэпартамент фінансавых расьсьледаваньняў.

Між тым я паехаў на першую школку. Я быў ужо ў цягніку, калі патэлефанавала мая каляжанка і сказала, што ў дзьверы нашай кватэры-офіса звоніць участковы міліцыянт. Я разьнерваваўся: “Не адчыняйце яму! Скажыце, што гаспадара няма, а безь яго ён забараніў адчыняць каму б там ні было. І яшчэ скажыце, што ў нас ужо пабывалі ўсе, хто толькі хацеў, і што яму няма чаго там рабіць!” Мая каляжанка так і зрабіла.

Затым я вярнуўся ў Менск, а праз паўтара тыдня ізноў паехаў у Вільню на другую моладзевую праваабарончую школку. І я ўжо не зьдзівіўся, калі ізноў патэлефанавала

мая каляжанка і сказала: “Алесь, у нас на офісе міліцыя!”— “Спытайся, калі ласка, адкуль яны, няхай прадставяцца”, — папрасіў я. Я чуў па тэлефоне, як яна казала некаму: “Вось на тэлефоне гаспадар кватэры. Вы хочаце зь ім паразмаўляць?” Міліцыянт узяў тэлефон. “Я гаспадар кватэры! Што вы там робіце?” — “Я такі і такі, — прадставіўся міліцыянт, — зь міграцыйнага адзьдзела Першамайскага РУУС. Мы мусім зрабіць у вас агляд, бо на кватэру заносілі падазроныя скрынкі”. Голас яго быў ціхі і ў нечым нават вінаваты. “Якія скрынкі? — ледзь не крычаў я ў трубку. — Перадайце трубку жанчыне!” — “Я тут”, — адказала каляжанка. “Гані іх адтуль! Няхай глядзяць, што там іх цікавіць, і выганяй іх!” — “Алесь, — адказала яна, — я тут пакуль што адна, але праз паўгадзіны ў нас будзе прэс-канферэнцыя. Таму і дзьверы ў кватэру былі адчыненыя”. — “Вось жа, зараза, — непакоіўся я, — а яны што хочуць?” — “Буду разьбірацца”, — адказала яна. “Трымайся і патэлефануй, калі ласка, нашым юрыстам”, — папрасіў я яе.

За акном цягніка мільгала ўжо Заслаўе. Пасьля гэтай размовы мне стала зразумелай мэта візіту міліцыянтаў зь міграцыйнай службы. Прэс-канферэнцыю ў нас на офісе мусіла праводзіць міжнародная назіральная група. Яна зьбіралася прадставіць вынікі назіраньня за ўвесь перыяд ад пачатку працы місіі. Каардынатарамі місіі быў падрыхтаваны выніковы даклад. На сустрэчу былі запрошаныя журналісты. Але вось замест іх загадзя зьявіліся міліцыянты. Я ізноў патэлефанаваў маёй адважнай каляжанцы, запытаўся, дзе няпрошаныя госьці. Яны былі яшчэ ў офісе. Я папрасіў яе папярэдзіць удзельнікаў прэс-канферэнцыі.

Такім чынам, нічым асабліва не адметная прэс-канферэнцыя міжнароднай назіральніцкай місіі набыла скандальнае адценьне. У выніку яе ўдзельнікі, расійскія і ўкраінскія праваабаронцы, раздавалі журналістам свае каментары проста на вуліцы непадалёк ад офіса. Міліцыя ж, патаптаўшыся ў офісе з гадзіну, сышла. І ўвесь гэты

час мая бедная каляжанка праводзіла зь імі перамовы. "Алесь, — сказала яна па тэлефоне, калі міліцыянты ўрэшце сышлі, — у мяне трашчыць галава". — "Ты малайчынка, — адказаў я ёй, — у мяне проста няма слоў". У мяне сапраўды не было слоў. Усе апошнія месяцы разыгрываўся, як падавалася, нейкі ненатуральны фарс. Толькі замест актораў тэатра ў ім удзельнічалі сур'ёзныя пахмурныя дзядзькі і мы.

Я ехаў у Вільню, пазіраючы ў акно на навакольныя краявіды і не бачачы, не заўважаючы іх. Гэта ж трэба так усхваляваццa і разьнервавацца! А дарога ж зь Менска ў Вільню па чыгунцы — адная з найпрыгажэйшых дарог у Беларусі.

Багата разоў праязджаючы ў гэтым накірунку зь Менска да Краснага, дабіраючыся да Ракуцёўшчыны, дзе знаходзілася філія музея М. Багдановіча, дырэктарам якога я быў, а ў апошнія гады часта езьдзячы ў Вільню, я кожны раз не мог наглядзецца на маляўнічыя пейзажы мілай Радзімы. Цяжка мне ўтрымацца ад словаў захапленьня і неперадавальнага словамі сентыментальнага пачуцьця, якія кожны раз ахопліваюць мяне, калі я паглядаю на гэтыя ўзгоркі, лагчыны, пералескі і палі, на сіняе ў белых аблоках неба. І беларускія драўляныя хаты, размаляваныя традыцыйна ў зялёны, жоўты і блакітны колеры, і касьцёлы і цэрквы ў Заслаўі, Плябані, Красным і Солах, і нейкая асаблівая дагледжанасьць і палеткаў, і сялібаў, і няяркі каларыт беларускай прыроды, які так адпавядае нацыянальнаму характару беларусаў. Я кожны раз імкнуўся запомніць убачанае, насыціць свой неспатолены погляд, і не магу. Не стамляюся глядзець ізноў і ізноў, адкрываючы для сябе ўсё новыя і новыя рыскі і сюжэты, не заўважаныя раней. Ды і ці магчыма гэта, калі ў кожны месяц, у кожную пару года нават знаёмыя відарысы выглядаюць зусім па-іншаму. І я сквапна паглядаю, проста ўбіраю ў сябе ўбачанае, як быццам бы змагу забраць усё з сабою, калі прыйдзецца некалі сыходзіць з гэтай зямлі.

Вільня ўлетку поўная турыстаў. Яны прылятаюць з Англіі самалётамі папіць на выходныя літоўскага піва. Пералёт — танны, пражываньне і піва ў Вільні таксама недарагія. Вось і атрымліваецца для звычайнага ангельскага рабацягі: ці прасядзець выходныя ў суседнім з хатаю пабе, ці зьлётаць у Вільню выходзіць тое на тое.

Аўтобусамі прыязджаюць палякі, у асноўным пенсіянеры, ходзяць па гістарычных мясьцінах з экскурсаводам. У таго ў руках доўгая тычка са стужкаю на канцы. Ён уздымае яе, каб было відаць, дзе стаіць.

Ходзяць невялікімі купкамі, гучна галёкаюць расіяне. Мужыкі з барсеткамі на пузах, жанчыны зь яркім макіяжам. У іх, як правіла, сямейны адпачынак.

На ангельскі манер, купкамі ходзяць літоўскія дзяўчаты, у сьвяточных сукенках, з кветкамі ў руках, вяселяцца, сьмяюцца, абдымаюць адзінокіх мужчынаў. Так яны адзначаюць у дзявочай кампаніі апошні перад вясельлем дзень. Гэтаксама п’янаватымі гуртамі цягаюцца па віленскіх вулках і хлопцы. У гарнітурах пад гальштукамі, задзіраюць праходзячых дзяўчат, у руках у іх надзьмутыя шары ў выглядзе мужчынскіх чэлесаў. Усе мінакі ставяцца да іх прыязна, з разуменьнем. Гэта, відавочна, новая традыцыя, уплыў вялікай літоўскай эміграцыі за межы Літвы і вяртаньне яе назад. Пасьля ўступленьня ў Еўразьвяз Літва раскрылася на Захад. Літоўцы масава паехалі на заробкі ў Англію, Ірландыю, Бельгію, у тыя багатыя еўрапейскія краіны, дзе можна добра зарабіць. Але, без сумненьня, выхаваныя на сваёй гісторыі і ў любові да Радзімы, большасьць зь іх вернецца праз нейкі час, прывязуць грошы, кантакты, сувязі, якія канчаткова зьвяжуць, зьяднаюць адарваную Саветамі на паўстагодзьдзя Літву зь Еўропаю.

У цэнтры гістарычнай Вільні арганізаваных беларусаў не ўбачыш. Яны пэўна ж тут ёсьць, але нябачныя і нячутныя, расьсеяныя, замаскіраваныя і разбаўленыя іншымі.

Гурты супляменьнікаў можна заўважыць толькі каля

Віленскага Дома правоў чалавека, які арандуе будынак у цэнтры. Мабыць, паболей іх відаць каля будынкаў Еўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсітэта, студэнты ў якім — у асноўным моладзь зь Беларусі. Але ж найбольшая гушчыня беларусаў у Вільні — у супермаркетах. Асабліва багата землякоў у велізарнай краме “Акропаліс”, які нашыя дзяўчаты жартаўліва перайменавалі ў “Апакаліпсіс”. Вось там ты дакладна пачуеш “і звонкае “дзе”, і густое “чаго”. Расчырванелыя, узбуджаныя твары беларускіх кабетаў са зьзяючымі вачыма, зь вялікімі вазкамі, набітымі патэльнямі, адзеньнем, посудам, насеньнем, каваю, сокам, памперсамі, мясам, сырам, кілбасою і вяндлінамі, пральным парашком, туалетнай папераю, мяняючыя крэўныя даляры і еўра ў адзьдзяленьнях банка, якія знаходзяцца ў краме, на літы, ці ў адзьдзеле з алкаголем, разглядаючы і ажыўлена абмяркоўваючы віскі і тутэйшыя моцныя настойкі. Стайкі дзяцей, якія сьціпла хваляцца адзін аднаму купленымі дробязямі. Гэта ўсё — беларусы, і пошасьць спажывецтва мёртвай хваткаю трымае іх у сваіх пульхных руках.

## 24 сьнежня 2012 г., Бабруйск

Штодзённы цягнік зь Менска ў Вільню прыходзіць увечары, бліжэй да адзінаццаці. Ведаючы ўжо дарогу ледзь не навобмацак, я хуткім крокам іду ў Дом правоў чалавека. Праходжу даволі невыразную віленскую прывакзальную плошчу, іду паўзь сьпітых і абколатых віленскіх прастытутак, каля гарадскога рынку паварочваю налева. Мінаю бальнічку з машынамі хуткай дапамогі, затым на вулічных ростанях забіраю направа, даходжу да кавярні, паварочваю на вузкую забрукаваную вулку ў тры метры шырынёю і па ёй выходжу на гарадскі пляц да ратушы.

Віленская ратуша! Колькі людскіх жарсьцяў, дзяр-

жаўных рашэньняў і незвычайных учынкаў ты зьведала на сваім вяку! Зараз стаіш ты, як каменная кніга ў класічнай абгортцы і з мала каму зразумелым альфабэтам, падобна на ворах вугольля ад некалі ярка палаючага вогнішча, і стомлена паглядаеш на ўсё менш і менш зразумелы сьвет.

Я праходжу справа ад цябе, мінаю старадаўнюю праваслаўную цэркаўку, праходжу праз пляцык за ёй, дзе ўдзень разьвешваюць свае карціны вулічныя мастакі, і бяру яшчэ крыху правей, каб патрапіць на вуліцу Латаку, Шавецкую — так, здаецца, яна перакладаецца зь літоўскай. Некалі на ёй жылі шаўцы.

Перад сном у мяне ёсць троху часу, каб разьмясьцiцца, паслухаць сваіх калегаў, іхнія каментары і заўвагі наконт чарговай групы ўдзельнікаў нашай школы. Мае лекцыі — апошнія ў курсе лекцыяў. Яны падводзяць вынік працы школы. І кожны раз я са зьдзіўленьнем назіраю, як разрозьненыя, моцна індывідуальныя, амбітныя дзеці, яны для мяне ўжо ўсе — дзеці, у канцы дзевяцідзённага навучаньня пераўтвараюцца ў адзіны жывы калектыў, адную спаяную групу, ва ўнікальную супольнасьць. Гэтае стварэньне, нараджэньне адбываецца кожны раз. І кожная група не падобная на іншую.

Паездкі ў Вільню ў школку гэтым летам мелі для мяне лёгкую драматычную афарбоўку. Адвакат папярэдзіў мяне, што затрыманьне можа адбыцца ў любы дзень. Не забуду выразу ягонага твару падчас гэтай размовы, задумлівага і сур’ёзна-спачувальнага. Падобны выраз я бачыў у дактароў, калі яны абвяшчалі пацыенту ці ягоным сваякам цяжкі, а то і невылечны дыягназ. Такая праніклівая і знарочыта сумная, мабыць папярэдне адпрацаваная ў адзіноце перад люстэркам, прафесійная маска на твары. Таму кожны раз, перасякаючы мяжу, я ўнутрана напружваўся: праеду — не праеду, ці скажуць, што выезд забаронены з прычыны распачатай справы, ці адразу затрымаюць па загадзе сьледчых, а затым перададуць ім. І ўздыхаў з палёгкаю, калі праміна ў мяжу. Як

бы ні склаўся мой далейшы лёс, а лекцыі на нашых школках мне хацелася дачытаць.

Не ведаю, якое ўражаньне пакідалі мае лекцыі, але калі меркаваць па анкетах, дзе таксама ўказвалася і ацэнка працы лектараў, дык нармальнае. Па беларускай аўдыторыі, якой штосьці даводзіцца распавядаць, вельмі цяжка зразумець узровень якасьці свайго выступу. Ты атрымліваеш і адчуваеш мінімальную рэакцыю. Мяне гэта некалі вельмі бянтэжыла, калі я ўпершыню сутыкнуўся з гэтым. А потым я звыкся, зразумеў, што і ў гэтай рэакцыі слухачоў на лектара схавана рыса беларускага характару.

Я пачуваюся неяк дзіўна, чытаючы лекцыі маладым людзям, распавядаючы пра пачаткі новага беларускага адраджэньня ў 80-х гадох, у якім я браў удзел. Пра тое, як мы імкнуліся зьмяніць сітуацыю зь незалежнасьцю, з дэмакратыяй і правамі чалавека ў Савецкай Беларусі да лепшага. Усё гэта ўжо гучыць амаль так, як некалі ў юнацтве мы слухалі аповеды ветэранаў пра вайну. Час няўмольна сплыў, вырасла новае пакаленьне, і мне падчас лекцыяў прыходзіцца напружвацца, каб наблізіць да моладзі тое, што некалі было мне зразумелым і блізкім, было проста часткаю майго штодзённага жыцьця.

Падчас нашых школаў улетку ў Вільні адбываецца багата розных вулічных імпрэзаў: канцэртаў, выставаў, выступаў, шоу, фэстаў. Атмасфера вольнага нясьпешнага жыцьця проста разьлітая ў віленскім паветры, і нашая моладзь сквапна насычаецца ёю.

Я ж у кожны свой прыезд у Вільню імкнуся абавязкова прайсьці праз Вострую Браму, пад абразом Маці Божай Вастрабрамскай. Гэта ўжо амаль рытуальнае дзейства. Я падыходжу да Вострай Брамы зь сярэдзіны горада, ад Ратушы. За паўсотні метраў у вялікім унутраным брамным акне ўжо відаць самы значны абраз для беларусаў. Блішчыць золатам і срэбрам аклад, бачны воблік Божай Маці, абраз вялікі і добра праглядаецца здалёк. Узрастае ўнутранае напружаньне. Гэтая вулка, гэтыя

муры, гэтыя абрысы будынкаў — тут усё прасякнута Нашай гісторыяй. Па гэтай вузкай вуліцы, гэтым самым шляхам, пад гэтай брамаю прайшлі амаль усе вядомыя асобы, зьвязаныя з нашым народам. Тут хадзілі і нашыя вялікія князі, і магнаты, і шляхта, і асьветнікі: і Францішак Скарына, і Леў Сапега, і Адам Міцкевіч, і Кастусь Каліноўскі, і Янка Купала. Гэтая кропка, гэты пункт, гэты фокус на тысячах кіламетраў нашай зямлі, дзе дакладна праходзілі ўсе, хто жыў і дзеяў да 1920 года, — і вядомыя, і малавядомыя, і забытыя. Яны праходзілі так, як зараз іду і праходжу я. І гэтак жа ж, як я, яны здымалі шапку пад Божай Маці ў Вострай Браме. І можа, гэтак жа ж, як і я, яны некалі адчувалі штосьці падобнае, што адчуваю зараз я.

Вось я выходжу з-пад яе і пераводжу дых. Я — маленькая кропка, часьцінка свайго народа ў часе і прасторы. Я прайшоў праз Вострую Браму, праз гэтае беларускае Ігольнае Вушка, празь якое мусіць прайсьці кожны беларус.

Звычайна дадому я вяртаюся на аўтобусе. Так зручней. Аўтобус выходзіць зь Вільні пасьля абеду. Заўсёдныя пасажыркі ў ім ашмянскія кабеты, якія маюць літоўскія пашпарты і гамоняць на добрай сакавітай беларускай мове. Яны яшчэ ўмеюць гаварыць на ёй і робяць гэта не саромеючыся, не ламаючы язык. Цёткі вязуць у Ашмяны розную драбязу, голасна перажываюць, каб патрапіўся лагодны мытнік і каб не зьвярнуў увагу на лішнюю пару якога там трыкатажу.

Амаль у кожным рэйсавым аўтобусе сустракаюцца знаёмыя. Вось едзе юрыстка, якая працуе ў юрыдычнай канторы, а да ўсяго яшчэ зьяўляецца актывісткаю хрысьціянскай дэмакратыі. Вось едуць грамадскія актывісткі, сярод іх — маці Паўла Севярынца Таццяна. Павел ужо на хіміі ў Купліне, мы размаўляем пра яго. А наступным рэйсам я еду разам з паэтам і журналістам, маім старым прыяцелем па Таварыстве маладых літаратараў “Тутэй-

шыя" Міхасём Скоблам. Тады ён быў студэнтам, а зараз — намесьнік старшыні Саюза беларускіх пісьменьнікаў.

Аўтамабільны шлях зь Вільні да Менска не менш маляўнічы за чыгуначны. Назвы вёсак як рэха мінулых дзён. Крэва — тут, у гэтай лагчыне ракі Крэўлянкі, тварылася гісторыя нашай дзяржавы 600 гадоў таму. Вялікая Дайнава, Малая Дайнава — толькі назвы вёсак засталіся да летапіснага літоўскага племені, якое існавала яшчэ 600 гадоў таму, а затым зьнікла, распусьцілася ў беларускім моры.

Часам аўтобус выязджае на высокі пагорак і відаць краявіды на дзясяткі кіламетраў у розныя бакі. Паабапал дарогі стаяць адзінокія хаты закінутых хутароў у зьдзічэлых садах. Справа застаецца Валожын — былая сталіца старажытнага Валожынскага княства, а зараз ціхі правінцыйны гарадок. І ўрэшце аўтобус вырульвае на трасу Гародня—Менск. Недзе праз 20 кіламетраў язды за лесам справа ад трасы выплывае Ракаў. У мяне ёсьць выбар. Я магу выйсьці тут, на зьезьдзе з трасы на Ракаў, і празь 15 хвілінаў я буду ў нашай вясковай хаце, а магу ехаць да Менска. Улетку амаль заўсёды я выбіраю першы варыянт. У агародзе і на панадворку заўжды ёсьць работа. Касьба травы, праполка градаў, догляд кветак, кустоў і дрэваў. Я з задавальненьнем займаюся гэтай работаю, скідваю напругу, аднаўляю энергію, якую патраціў падчас выкладаў. Тут я знаходжу ўнутраную раўнавагу і спакой.

## 9 сакавіка 2013 г., Бабруйск

*Працягваю сваю гісторыю разьвітаньня з цывільным жыцьцём.*

Сын Адам слухаў пра ўсе гэтыя мае мітрэнгі ў паўвуха. У яго былі свае праблемы, ды ўрэшце ўжо і сваё жыцьцё. Ён вучыўся ў магістратуры ў Акадэміі мастацт-

ваў, часам дадаткова здымаў невялікія сюжэты для “Белсату”, і грошай, атрыманых за іх, яму хапала, каб забясьпечваць свае бягучыя расходы. Але падзеі сьнежня 2010 года, відаць, закранулі і яго. 19 сьнежня ён быў са сваімі сябрамі і на Кастрычніцкай плошчы, і затым на плошчы Незалежнасьці. У той вечар яны шчасьліва пазьбегнулі арышту.

Увесну, зазіраючы ў сацыяльныя сеткі, ён неяк самастойна пранікся і маўклівымі акцыямі, а затым і кампаніяй “Стоп-бензін!”, якія арганізоўвалі і праводзілі незадаволеныя коштамі на паліва кіроўцы.

Адам пасьлядоўна браў у іх удзел. Адзінае, пра што я прасіў яго тым летам, — не хадзіць на акцыі падчас здачы іспытаў, бо хацелася, каб ён усё ж скончыў сваю магістратуру. Ён слухаўся і пару разоў не ўдзельнічаў, але пераймаўся дзеля гэтага.

Удзел у гэтых акцыях прыводзіў часам яго да моцных эмацыйных сітуацый. Так, аднойчы, ідучы ў шэрагах “маўклівых” і пляскаючы ў ладкі, ён убачыў побач аднагрупніка з Акадэміі мастацтваў, свайго добрага прыяцеля і сябра, які здымаў удзельнікаў акцыі на відэакамеру. Адам, натуральна, падышоў да яго і спытаў: “А ты што тут робіш?” Той пасьля вучобы адслужыў год у брыгадзе сьпецназу ва Уруччы і месяц як дэмабілізаваўся. Ён адказаў Адаму, што яму пасьля службы ў войску прапанавалі пайсьці на іншую службу, у міліцыю, быць відэааператарам падчас розных такіх акцыяў і здарэньняў. І таму ён зараз тут здымае па службе...

Адам у той раз пасьпяхова сышоў з акцыі, яго не затрымалі. Але ж як моцна ён быў уражаны гэтай сустрэчаю з аднагрупнікам. За гады іхняй вучобы той неаднойчы бываў і ў нас удома.

Затым, калі пачаліся акцыі “Стоп-бензін!”, Адам таксама актыўна падключыўся да іх. Калі ДАІ большасьць машынаў не пускала на прасьпект Незалежнасьці, разварочваючы іх на іншыя магістралі, ён выгнаў наш “сітраэн” з двара на плошчы Перамогі, бесьперашкодна выехаў

на прасьпект і першым спыніў яго насупраць цырка. Затым выставіў аварыйны знак. За ім паспыняліся і іншыя машыны.

Гэта была ўдалая сацыяльная акцыя пратэсту, калі аўтааматарам удалося такім масавым аварыйным спынам аўтамабіляў паралізаваць рух на прасьпекце амаль на гадзіну і ўрэшце дабіцца хаця б часовага спыненьня росту коштаў на паліва.

Чаму я ведаю, што першай спынілася нашая машына, бо ў інтэрнэце на сайце "Нашай Нівы" быў фотарэпартаж з гэтых падзеяў. І адзін са здымкаў з адпаведным подпісам быў з нашым шэрым "сітраэнам" і з Адамам, які стаіць каля яго з падкрэсьлена заклапочаным выглядам.

Тады, як Адам распавядаў нам з Натальляй, да яго некалькі разоў падбягалі гаёвыя, патрабавалі, каб ён адагнаў машыну з праезджай часткі, пагражалі. Але ён "уключыў дурня", прасіў іх паказаць дакументы, задаваў розныя пытаньні — адным словам, цягнуў ката за хвост. Адам выкарыстоўваў навыкі навучаньня акторскаму майстэрству.

Затым паспыняліся іншыя машыны, і гаёвым стала не да яго. І ён пасьпяхова зьехаў пасьля акцыі. Праўда, нумар машыны гаёвыя запісалі і праз некалькі дзён да мяне тэлефанаваў участковы, высьвятляў — хто быў за рулём зарэгістраванай на мяне машыны. Але так і не высьветліў.

І ўжо седзячы на Валадарцы, з газетаў я даведаўся, што навыкі акторскага майстэрства Адаму падчас чарговай акцыі "Стоп-бензін!" не дапамаглі. Яго затрымалі, а машыну з прасьпекта эвакуатарам адцягнулі на стаянку. Адама, пакуль везьлі ў пастарунак, як пазьней напісаў ён у лісьце, зьбілі, ноч пратрымалі на Акрэсьціна, а назаўтра судзілі і аштрафавалі.

Вось каго я востра пашкадаваў, прачытаўшы гэтую інфармацыю, дык гэта Натальлю. Мала што мужа пасадзілі, дык яшчэ і сына...

Нашую машыну з адной стаянкі перагналі на іншую, адкуль, па рашэньні суда па маёй справе, яна была сканфіскаваная. Шкада. Добрая машына была. Я сам езьдзіў зь перагоншчыкамі машынаў па яе ў Літву перад тым, як Беларусь упёрлася ў мытны саюз. Хлопцы-перагоншчыкі дапамаглі выбраць яе, зь люксембургскімі нумарамі, з падбітай, цокнутай левай фараю і зьмятай з боку кіроўцы дзьверкаю, запыленую і нявідную на першы погляд. Але да Менска "сітраэн" даехаў сваім ходам, Адам заняўся яго рамонтам, і ўрэшце вымыты, з новай дзьверкаю і фараю "сітраэн" набыў прысутны яму раней французскі лоск.

Год машына пабыла ў нас і пайшла. Адам магістратуру ўсё ж скончыў і атрымаў дыплом.

## 10 сакавіка 2013 г., Бабруйск

Зь сябрамі ж, калегамі-праваабаронцамі, размовы ішлі пра працяг працы ў маю адсутнасьць. Размовы былі і агульныя, і канкрэтныя. Мы яшчэ ніколі не перажывалі падобную сітуацыю. Для мяне было важна, каб "Вясна" выстаяла і не расьцерушылася пад сіберным ветрам. Было зразумела, што ў выпадку майго арышту гэта будзе выпрабаваньне для ўсіх нас. І кожны, мабыць, неаднаразова пытаўся ў сябе, а ці вытрымае ён, ці не адступіць, ці не адыдзе.

Мы, якія адпрацавалі разам не адзін год і заўсёды падтрымлівалі вясёлую, нязмушаную атмасферу, пры гэтых размовах былі засяроджанымі і сур'ёзнымі.

***

Раней я ўжо згадваў пра мае сустрэчы з далейшымі сябрамі. Саша вадзіла мяне па Парыжы, з Марыяй з Нарвежскага Дома правоў чалавека мы сустрэліся ў Вільні падчас праваабарончай школы. І хоць размаўлялі мы

падчас гэтых сустрэчаў пра розныя рэчы, не датычныя маёй сітуацыі, але ў іхняй інтанацыі голасу я чуў трывогу і спачуваньне.

Найбольш умацавала мяне ў рашэньні застацца і спаткаць небясьпеку, гледзячы ёй у вочы, сустрэча з Л. Адбывалася яна ў Варшаве, куды я прыехаў, каб атрымаць паперу ад аднаго з фондаў, якая сьведчыла, што грошы, пераведзеныя на мой рахунак, былі прызначаныя для праваабарончай дзейнасьці. Гэта параіў зрабіць мне адвакат, паруліцца пра неабходныя для абароны паперы загадзя, пакуль я на свабодзе. Бо са зьняволеньня, тлумачыў ён, гэтыя папяровыя справы будзе рабіць складаней. Ён меў рацыю.

У Варшаве, атрымаўшы неабходнае пацьверджаньне, я меў гутарку з Л. Ён спытаўся наўпрост, без недагаворак: што я зьбіраюся рабіць у бліжэйшы час, ведаючы, што мяне могуць арыштаваць? Ці зьбіраюся я зьязджаць за мяжу? “Не, — адказаў я, — я зьбіраюся застацца. Бо мой ад’езд будзе адназначна патрактаваны ўладамі як тое, што я сапраўды вінаваты ў злачынстве. Даказаць сваю праўду з-за мяжы будзе немагчыма. Раз уцёк — значыць, сапраўды штосьці было. Мяне хочуць выпацкаць у брудзе і выставіць злодзеем. Нездарма ж мяне так лёгка зараз выпускаюць за мяжу. Мае ўцёкі былі б выгодныя для ўладаў. Але я такога задавальненьня ім не зраблю”.

“Ты слушна робіш, Алесь, — сказаў Л., — ты вядомы праваабаронца, вось і заставайся ім, нават калі цябе засадзяць у астрог”. І ў ягоным голасе было столькі перакананасьці і ўпэўненасьці, што ў мяне проста камень зваліўся з душы.

Сапраўды, падумаў я, самым выніковым супрацьдзеяньнем у гэтай хітрамудрай камбінацыі, складзенай з інфармацыі супраць мяне, здабытай падатковай інсьпекцыяй немаведама якім чынам, з пагрозаў і відавочных намёкаў на эміграцыю, будзе мая простая і ясная пазіцыя. І чым меней я буду таргацца, віхляць, шукаць ней-

кія абыходныя шляхі, тым цяжэй мяне будзе абылгаць і скампраметаваць.

Урэшце я канчаткова вызначыўся. Я буду простым і нязручным, як вясковая старая скрыня, як куфар без ручак. Няхай як хочуць, так і тралююць. Я ім не памочнік. Ехаў я з Варшавы зь лёгкай душою. Урэшце ўсё ў маёй галаве ўклалася на сваё месца.

## 10 сакавіка 2013 г., Бабруйск

*Стаўся ахвяраю недасланьня мне асадак, таму пішу чым папала. Вось, знайшоў малы стрыжань, усунуў у яго запалку і пішу.*

Улетку 2011 года скончыліся паўнамоцтвы ў Часовага Паверанага ў справах ЕС у Беларусі Жана-Эрыка Хольцапфеля. Ён быў першым прадстаўніком Еўразьвязу ў Беларусі. Памятаю, як гадоў зь дзесяць таму грамадскія і палітычныя актывісты ўздымалі пытаньне адкрыцьця прадстаўніцтва ЕС у Беларусі. З Бруселя спачатку скептычна глядзелі на гэтую ініцыятыву. Беларускія ўлады таксама былі не ў захапленьні ад яе. Але паступова справы неяк пайшлі. Паспрыяла гэтаму далучэньне да Еўразьвязу нашых суседзяў — Польшчы, Літвы і Латвіі, з аднаго боку, і зацікаўленасьць у крэдытах, эканамічнай дапамозе, спадзяваньне на дарэмшчыну — з другога.

Праца французскага дыпламата, які прадстаўляў Еўразьвяз у Беларусі, была няпростая. На ягоную кадэнцыю прыпаў час пошукаў шляхоў да супрацы, затым перыяд пацяпленьня ў стасунках паміж Еўразьвязам і Беларусьсю ў 2009–2010 гадах і перыяд рэзкага пагаршэньня адносінаў, зьвязаны з выбарамі ў сьнежні 2010 года. Гэты перыяд скончыўся непрызнаньнем выбараў з боку ЕС, зьяўленьнем палітзьняволеных, вялікім сьпісам неўязных у Еўразьвяз беларускіх чыноўнікаў,

гнеўнымі абвінавачваньнямі, якія гучалі з абодвух бакоў. Усе гэтыя хістаньні і ваганьні адбыліся літаральна за тры гады.

Разьвітальная сустрэча з Часовым Паверaным у справах ЕС у Беларусі праходзіла ў Доме дружбы на Захарава. На ёй былі прадстаўнікі афіцыйных уладаў, палітычнай апазіцыі, няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў і журналісты. Як заўсёды, на такога кшталту сустрэчах запрошаная беларуская публіка была падзелена на дзьве часткі. З аднаго боку групаваўся афіцыёз, з другога — дэмакраты. Пераходным зьвяном паміж імі былі прадстаўнікі культуры ды дыпламаты розных замежных краінаў, якія з прафесійным уменьнем размаўлялі і з аднымі, і з другімі.

Афіцыйная частка — разьвітальнае слова Жана-Эрыка Хольцапфеля і прамова некага з намесьнікаў міністра замежных спраў Беларусі — прайшла ў вялікай зале прыёмаў. Затым нефармальная частка сустрэчы перамясьцілася ў дворык Дома дружбы, на газон зь зялёнай травою, дзе можна было што-небудзь зьесьці, а самае істотнае — сустрэцца і паразмаўляць з тымі, да каго сьпецыяльна не дайшоў дзеля занятасьці. Мае калегі з іншых няўрадавых арганізацыяў ужо былі ў курсе маіх праблемаў. “Як у цябе справы?” — пацікавіўся адзін вядомы сацыёлаг. “Яшчэ на свабодзе”, — адказаў я. “Гм”, — няпэўна гмыкнуў ён. “Алесік, — спыталася добрая мая прыяцелька Жанна, — скажы, чым мы табе можам дапамагчы?” — “Я вельмі люблю сухафрукты, — адказаў я, — курагу, разынкі, чарнасьліў, і гарэшкі таксама перадавайце”. Мы пасьмяяліся.

## 6 лютага 2013 г., Бабруйск

У ліпені 2011 года мяне запрасілі ў Брусель. Еўрапейскі парламент зьбіраўся на апошняе паседжаньне пе-

рад летнімі адпачынкамі. Адное з пытаньняў, якое парламентарыі зьбіраліся разгледзець, было прысьвечанае сітуацыі ў Беларусі. 12 ліпеня я мусіў ляцець у Брусель, 13-га былі запланаваныя слуханьні па Беларусі, і 14-га я вяртаўся назад.

Усе летнія паездкі за мяжу былі магчымыя толькі ў тым выпадку, калі яны не пярэчылі графіку лекцыяў у праваабарончай школе ў Вільні. Такое правіла, каб не зрываць працу, мы ўстанавілі з самага пачатку існаваньня школы. У мяне гэтым разам усё атрымлівалася. Паездка прыпадала на незанятыя ў школе дні.

У Брусэлі пасьля прылёту і засяленьня ў гатэль я сустрэўся з прадстаўнічкай Нарвежскага Хельсінкскага камітэта. Мы сядзелі ў класічнай бельгійскай кавярні з інтэр'ерам, выкананым яшчэ, мабыць, у перадваенныя гады, з вылінялымі ад часу старымі афішамі на сьценах, венскімі крэсламі і нязручнымі маленькімі круглымі столікамі, на якія апроч кавы і піроэнага цяжка было яшчэ што-небудзь разьмясьціць. Барная стойка была старамодная, масіўная, зробленая зь цёмна-бурштынавага арэху. Кавярня знаходзілася недалёка ад Еўрапарламента. Сучасныя, са шкла і металу будынкі, у якіх разьмяшчаюцца розныя еўрапейскія структуры, суседнічаюць са старамоднымі цаглянымі, зь ляпнінай, дамамі XIX — пачатку XX стагодзьдзя, на першых паверхах якіх працуюць дробныя крамкі і кавярні.

Марыя, так звалі маю новую знаёмую, апекавалася маім удзелам у заўтрашнім паседжаньні. Мы абмеркавалі фармат выступу і розныя тэхнічныя дробязі: калі заўтра мне трэба быць сабраным і чакаць яе ў фае гатэля, працягласьць выступу па часе, мова выступу і гэтак далей. У прынцыпе ўсё было зразумела. Апроч мяне мусілі выступаць яшчэ некалькі асобаў, сярод якіх былі старшыня парламенцкай групы па Беларусі Еўрапарламента, прадстаўнік грамадскай камісіі пры АБСЕ, якая займалася дасьледаваньнем падзеяў 19 сьнежня 2010 года і падрыхтавала па выніках гэтага дасьледаваньня свой дак-

лад. Фактычна мы мусілі падвесьці вынікі працы розных міжнародных інстытуцыяў і праваабарончых арганізацыяў за апошнія паўгода па сітуацыі, якая склалася ў Беларусі пасьля выбараў і тых падзеяў, якія яны выклікалі.

Пасьля высьвятленьня ўсіх нюансаў, якія цікавілі мяне, Марыя крыху распавяла пра сябе. Яна была родам з Бразіліі. Я зьдзівіўся, бо яна выглядала на звычайную еўрапейскую студэнтку. “Бразілія — вялізная краіна, — патлумачыла яна, — там ёсьць цэлыя штаты, заселеныя пераважна эмігрантамі зь Еўропы. Мае дзядуля і бабуля прыехалі ў Бразілію пасьля Другой сусьветнай вайны з Італіі. Таму я, па італьянскіх законах, мела права атрымаць італьянскае грамадзянства. Зараз у мяне два пашпарты — бразільскі і італьянскі. Я скончыла ўнiверсітэт у Бразіліі і прыехала давучвацца ў Еўропу. У Бельгіі мне вельмі падабаецца. У Бразіліі ў мяне засталіся бацькі і брат”.

“Колькі ты ведаеш моваў?” — пацікавіўся я. Марыя палічыла: партугальскую, іспанскую, італьянскую, ангельскую, французскую. Мне заставалася толькі ўздыхнуць.

Назаўтра ў адной з галоўных залаў Еўрапарламента сабралася некалькі дзясяткаў дэпутатаў. На слуханьні прыходзілі тыя, каго цікавіла і хвалявала заяўленая тэма. Выступоўцы, хоць кожны і казаў са свайго пункту гледжання, усе гаварылі ва ўнісон. Пазіцыі ААН, Рады Еўропы, АБСЕ, Еўрапейскага саюза і праваабарончых арганізацыяў па Беларусі былі вызначаныя і ясна акрэсьленыя. Усе міжнародныя арганізацыі і структуры пагадзіліся, што ў краіне адбылося масавае парушэньне правоў чалавека, і патрабавалі вызвалення палітычных зьняволеных, а таксама правядзеньня ў краіне дэмакратычных пераўтварэньняў.

У мяне пасьля выступу было адчуваньне выкананага агромністага кавалка працы. У бясконцых паездках, сустрэчах, кансультацыях, перамовах за апошнія паўгода

нам, беларускім праваабаронцам, супольна з нашымі калегамі зь іншых краінаў удалося задзейнічаць розныя міжнародныя механізмы і структуры. Нам удалося напачатку ўзгадніць між сабой, а затым замацаваць наш супольны пункт погляду на існуючы ў Беларусі стан спраў. У той час, калі палітычныя актывісты, удзельнікі выбарчай кампаніі, вобразна кажучы, залізвалі раны, мы ўпарта і з усіх сілаў працавалі на тое, каб мінімізаваць тыя страты, якія панесла ўсё беларускае грамадства. Так атрымалася, што пасьля 19 сьнежня беларускія праваабаронцы і журналісты апынуліся на пярэдняй лініі змаганьня за дэмакратыю і правы чалавека.

І вось там, у зале парламента Еўрапейскага саюза, я адчуў, што мы зрабілі амаль усё магчымае, што маглі зрабіць у такой сітуацыі. Перад дэпутатамі Еўрапарламента, у асноўнай зале, дзе звычайна адбываюцца ўсе паседжаньні парламента, мне давялося выступаць упершыню. Гэта было і адказна, і пачэсна. У зале сядзеў і браў удзел у спрэчках пасьля нашых выступаў бацька незалежнасьці нашай суседкі Літвы, экс-прэзідэнт, а зараз еўрадэпутат Вітаўтас Ландсбергіс.

Там, у Брусэлі, падчас гэтай паездкі я зразумеў, што падвялася рыса пад пэўным этапам майго жыцьця, жыцьця беларускіх праваабаронцаў, этапам гісторыі нашай краіны. Далей пачынаўся новы этап. Я гэта адчуваў, але я яшчэ не ведаў, якім ён будзе.

# СУСТРЭЧЫ САЛІДАРНАСЬЦІ

## 26 траўня 2012 г., Бабруйск

Як быццам бы зараз згадаў я сваю паездку ў Кыргызстан, якая адбылася адразу пасьля саміту АБСЕ ў Астане, напачатку сьнежня 2010 года. І ў самой Беларусі ў той час было багата справаў. Бо гэта былі апошнія тыдні перад выбарамі. Было багата працы, зьвязанай зь незалежным назіраньнем, якое мы праводзілі ў рамках грамадзянскай кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары". Але так супала, што ў канцы лістапада ў Парыжы праходзіла Міжнароднае бюро FIDH, на якім я як віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека мусіў быць. Затым у Астане некалькі дзясяткаў няўрадавых арганізацыяў краінаў — удзельніцаў АБСЕ вырашылі правесьці сваю паралельную афіцыйнаму саміту сустрэчу. Праваабарончы цэнтр "Вясна" і зноў жа ўся FIDH былі аднымі зь яе ініцыятараў. Сэнс гэтай сустрэчы быў у тым, каб сьвежым вокам паглядзець на тыя абавязкі ў галіне правоў чалавека і дэмакратычных свабодаў, якія панабіралі на сябе за гады існаваньня АБСЕ яе краіны-ўдзельніцы. Тым болей што афіцыйны саміт АБСЕ абяцаўся быць вельмі прадстаўнічым і гучным. Ідэя правядзеньня паралельнай нефармальнай сустрэчы НДА належала казахстанскаму праваабаронцу Яўгену Жоўцісу, які тады знаходзіўся ў зьняволеньні ў калоніі-пасяленьні. І ўжо быў падрыхтаваны даклад FIDH па выніках праваабарончай місіі, якая праходзіла ў чэрвені 2010 года, адразу пасьля міжнацыянальнага канфлікту на поўдні Кыргызстана, у Ошы, і ў якой я браў удзел. FIDH мелася прэзентаваць гэты даклад у сталіцы Кыргызстана. У Бішкек зьбіралася прэзідэнт FIDH Суэр Белхасен, прасілі таксама, каб туды паехаў і я як адзін з аўтараў даклада. Такім чынам, у канцы лістапада 2010 года я вылецеў зь Менска ў Парыж, на Міжнарод-

нае бюро FIDH, затым адтуль праз два дні — у Астану на сустрэчу няўрадавых арганізацыяў краінаў — удзельніцаў АБСЕ, а яшчэ праз тры дні — з Астаны праз Алма-Ату ў Бішкек, бо гэта было “побач”. Дарэчы, сустрэча ў Астане, апроч фундаментальных мэтаў, мела і яшчэ адну вельмі канкрэтную — выказаць казахскім уладам свой пратэст супраць зьняволеньня Яўгена Жоўціса. Сустрэча НДА ў Астане, як мне падаецца, прайшла пасьпяхова. Імёны зьняволеных праваабаронцаў — Яўгена Жоўціса, узьбекскіх вязьняў, а таксама кыргызскага грамадзяніна і ўзьбека па нацыянальнасьці Азімжона Аскарава — гучалі там практычна ўвесь час. Даволі важнымі і поўнымі былі рэзалюцыі і пастановы, прынятыя прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў. Шмат таксама гаварылі пра палітычных зьняволеных зь іншых краінаў. Асноўны пасыл прынятых дакументаў быў такі: у многіх краінах — удзельніцах АБСЕ пастаянна парушаюцца правы чалавека. Улады сьвядома не выконваюць узятыя на сябе абавязкі. І грамадзянская супольнасьць гэтых краінаў павінна праводзіць маніторынг выкананьня міжнародных пагадненьняў у галіне правоў чалавека, а таксама актыўна дабівацца іхняга выкананьня.

Пры адлёце з Астаны надвор’е рэзка зьмянілася. Два дні перад гэтым у горадзе ішоў сьцюдзёны, позьнявосеньскі дождж, ён падаў яшчэ і зраніцы ў дзень ад’езду, а ўвечары, калі мы садзіліся ў самалёт, па аэрадромным бетонным полі мяла сухая халодная мяцеліца і хвалі-зьмеі сухога сьнегу імгненна замяталі аэрапорт.

У будынку ж аэрапорта пры пашпартным кантролі са мной адбыўся дзіўны выпадак. Ужо паставіўшы штэмпель мне ў пашпарт, памежнік выйшаў з кабінкі і папрасіў перадаць у Менск, ягоным сваякам, агароднiннае насеньне. Поштаю доўга і дорага — угаворваў ён мяне. Я, вядома ж, адмовіўся. Зразумела, якое “насеньне” возяць з тых краёў. Застаецца толькі гадаць, чыя гэта была ініцыятыва.

*Ну а што было далей, напішу ў наступным лісьце.*

## 28 траўня 2012 г., Бабруйск

*Працягваю свой аповед пра Азімжона Аскарава.*

Дык вось. У Бішкек мы з Ванэсай, супрацоўніцай Парыжскага выканаўчага бюро FIDH, прыляцелі, як я пісаў ужо, напачатку сьнежня з Астаны праз Алма-Ату. У Астане, калі мы вылязталі, было дзесьці мінус дзесяць. У Алма-Аце, якая знаходзіцца паўднёвей і жывапісна разьмешчана ля высокіх засьнежаных хрыбтоў Алатау (здаецца, так называюцца гэтыя прыгожыя вялізныя горы), быў невялікі плюс. А калі прыляцелі ў Бішкек (ад Алма-Аты гэта менш за гадзіну лёту, але праз горны хрыбет), то там ужо было плюс дзесяць, яшчэ стаяла позьняя спакойная восень. На наступныя суткі ў Бішкек з Парыжа мусіла прыляцець прэзідэнт FIDH Суэр Белхасен. Бішкек быў паспакайнелы і палагаднелы. Ён быў зусім не падобны на той чэрвеньскі Бішкек, напоўнены трывожнымі чуткамі і містычным страхам, які апаноўвае прыфрантавыя гарады. У горадзе было шмат вайскоўцаў, у Ош адлятаоі вайсковыя транспартныя самалёты зь ветэранамі-афганцамі, якія пайшлі ў апалчэньне, назад яны прывозілі параненых, жанчын і дзяцей.

Прызнаюся, што я люблю Бішкек, гэты былы фарпост расійскіх каланіяльных войскаў у кыргызскіх стэпах і перадгор'ях, які затым стаў правінцыйнай сталіцай савецкай Кіргізіі і цяпер, займеўшы прэзідэнцкі палац і гатэль "Хаят", паступова перамяняецца ў сталіцу незалежнай дзяржавы. Прызнаюся таксама, што я ўпадабаў кыргызскі народ. Ціхія і спакойныя кыргызы, амаль зрусіфікаваныя за Саветамі, нагадваюць мне беларусаў. Гэтыя ўсьмешлівыя і мілыя дзяўчаты з бліскучымі чорнымі раскосымі вачамі і лёгкім румянцам на смуглявай скуры. Гэтыя хлопцы, якія паселі ў кола проста на сталічных газонах, штосьці абмяркоўваюць і сплёўваюць карычневы насвай. Гэтыя старэйшыя кабеты ў доўгіх глухіх сукенках і вялікіх хустках, гэтыя дзядзькі і дзяды, у

цывільных гарнітурах і ў высокіх белых святочна расшытых каўпаках. Але яшчэ сто гадоў таму гэта быў спрэс качавы народ, які не меў ні гарадоў, ні вёсак і жыцьцё якога заключалася ў бясконцай вандроўцы. Сталымі і нерухомымі ў іх былі толькі могілкі. І ў гэтым — карэннае адрозьненьне кыргызаў ад беларусаў. Неўтаймаваную прагу да волі кыргызаў-качэўнікаў не змаглі закілзаць ні царскія ўлады, ні Саветы. І калі яна прабіваецца напаверх, тады разьлятаюцца агароджы, ірвуцца путы і кыргызаў не спыніць.

Я меў час адаспацца пасьля Астаны. Затым мы сустрэлі Суэр, якая прыляцела ўначы, а на наступны дзень ужо зранку пайшлі сустрэчы з кыргызскімі праваабаронцамі, затым была прэс-канферэнцыя, дзе мы прадставілі свой даклад, які быў адным зь першых падрыхтаваных міжнародных дакументаў. У гэты ж дзень, пасьля абеду, у нас была запланаваная сустрэча зь вязьнем праваабаронцам Азімжонам Аскаравым, які быў асуджаны пажыцьцёва і знаходзіўся ў зоне ў Бішкеку, у турэмнай бальніцы.

І тут, мабыць, трэба троху распавесьці пра наш даклад. Зьяўленьне ягонае было нечаканым. І адразу планаваўся зусім іншы даклад, мы зьбіраліся пісаць пра красавіцкія падзеі 2010 года ў Кыргызстане, якія прывялі да сутычак паміж войскам, міліцыяй і народам і ўрэшце да зусім нечаканай зьмены ўлады. Тады падчас штурму прэзідэнцкага палаца загінула амаль сто чалавек. Было шмат пытаньняў, на якія мы спадзяваліся знайсьці адказы. Але ў той час, пакуль рыхтавалася місія і шукаліся грошы на нашую паездку, выбухнуў міжнацыянальны канфлікт на поўдні Кыргызстана, у Ошы, Джалал-Абадзе, дробных раённых гарадах, дзе разам з кыргызамі жылі і ўзьбекі. Мы вырашылі не адмяняць сваю місію, але тэматыка нашых дасьледаваньняў і будучага даклада цалкам зьмянілася. У сярэдзіне чэрвеня ў Бішкек мы прыляцелі ўтрох: француз, рускі і беларус. Каманда нашая была align=рознабаковая: француз быў навукоўцам, расі-

янін — юрыстам-міжнароднікам, а я — чыстым праваабаронцам. Прапрацаваўшы разам у Бішкеку пару дзён, падчас якіх мы сустракаліся і з амбудсмэнам па правах чалавека, і з рознымі няўрадавымі арганізацыямі, і з вэтэранамі воінамі-афганцамі, і з прадстаўнікамі палітычных партыяў, затым мы падзяліліся. Мае малодшыя калегі засталіся ў Бішкеку, а я выбраўся ў эпіцэнтр толькі як затухшага канфлікту, у Ош.

Я не буду зараз падрабязна распавядаць пра вытокі і акалічнасьці гэтага канфлікту, скажу толькі тое, што ён мае гістарычныя карані. Дваццаць год перад гэтым, яшчэ пры Саюзе, там ужо выбухала. Недахоп зямлі, беднота, адсутнасьць працы, адсутнасьць рэальных праграмаў па сумесным пражываньні, і ўсё гэта наклалася на нестабільную палітычную сітуацыю ў Кыргызстане, зьвязаную з красавіцкімі падзеямі і зьменай улады. Палітычная актыўнасьць узьбекаў на поўдні палохала кыргызскія ўлады, якія асьцерагаліся развалу краіны, бяднейшыя кыргызскія гарадкі і аілы зайздросьцілі адносна багатым Ошу і Джалал-Абаду, дзе дробная прамысловасьць, гандаль у асноўным належалі ўзьбекам. Кажуць, што да гэтага выбуху міжусобіцы і ўзаемнай нянавісьці мела дачыненьне таксама жаданьне адных перахапіць наркатрафік, які ішоў з Узьбекістана, Таджыкістана і Афганістана праз Кіргізію і Казахстан у Расію і далей, у Еўропу. І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ. Бо ляхнула з-за звычайнай бытавой бойкі паміж моладзьдзю, якая імгненна перарасла ў міжнацыянальныя сутыкненьні па ўсім поўдні з усімі жахлівымі наступствамі, якія не паддаюцца апісаньню. Жыўцом гарэлі людзі, гвалт і сьмерць залілі рэгіён. Зброі ў кіргізскага насельніцтва было болей. Выглядае, што ім дапамагла армія і паліцыя, у асноўным кыргызская, монаэтнічная па сваім складзе. Таму ўзьбекі пацярпелі больш.

*Ну вось, у наступным лісьце працягну сваю сумную гісторыю пра Аскарава.*

## 8 траўня 2012 г., Бабруйск

Я прыляцеў у Ош зь Бішкека на старым АНе, дапатопным вінтавым самалёціку — такім старым, што ў яго на ілюмінатарах былі яшчэ не заслонкі, а фіранкі. Ош ад Бішкека адзьдзяляюць горы. Дарога на машыне ідзе праз перавал і займае ўвесь дзень. Калі мы выйшлі з самалёта, то ў наступнага самалёта, які прызямляўся ўсьлед за намі, з матораў валіў страшны чорны дым (ён паласой цягнуўся за самалётам, як быццам бы той падбілі), то я падумаў, што нашая старая развалюха яшчэ не самы горшы варыянт. Аэрапорт быў блакіраваны вайскоўцамі. Было горача. Яны хадзілі ў расшпіленых гімнасьцёрках, у касках, ссунутых набакір, з аўтаматамі, якія боўталіся на баку, і ў прыспушчаных, адцягнутых падсумкамі з аўтаматнымі магазінамі папругах. На выезьдзе з аэрапорта ляжалі бетонныя блокі, мяхі зь пяском і стаяў бранiраваны цягач з буйнакаліберным кулямётам, эмтээлбэшка, на якой яшчэ мне ў 80-я гады давялося служыць у войску.

Сустрэла мяне мая старая знаёмая, Талекан Ісмаілава, кіраўнічка кыргызскай праваабарончай арганізацыі “Грамадзяне супраць карупцыі”. Мы разьмясьціліся ў прыватным гатэльчыку, які належаў кыргызскай сям’і. Вады ў гэты дзень у гатэлі не было. У вадасховішчы, дзе горад бярэ ваду, адкрылі шлюзы, спусьцілі ваду і дастаюць трупы загінулых людзей, як патлумачыла гаспадыня — вада будзе заўтра. Літаральна праз гадзіну мяне завезьлі на мясцовыя могілкі, якія знаходзіліся на краі жылога квартала, заселенага ўзьбекамі, так званага махаля. Там улады праводзілі эксгумацыю безыменных магілаў, дзе былі пахаваныя загінулыя падчас сутычак людзі. Безыменныя капцы, а іх было тры ці чатыры, раскопвалі жаўнеры. Журналістаў і цывільных на могілкі не пускалі. Але пахаваньні былі недалёка ад бетоннага плота могілак, і, узьлезшы на купу зямлі, з вуліцы можна было бачыць, што там робіцца. Тэмпература была за трыццаць гарачыні. У паветры стаяў нясьцерпны труп-

ны пах, які ўсё ўзмацняўся. Вось пад рукі вывелі аднаго з раскопшчыкаў, яму стала блага, ён абапёрся на бетонны слуп, і яго зблажыла. Затым з могілак выехала невялікая вайсковая машына з брызентавым верхам, у яе навалам згрузілі трупы і павезьлі некуды на судмедэкспертызу. Усяго з магілак дасталі ці не дзевяць загінулых жанчынаў. Гэта былі ўзьбечкі. Назаўтра, нам распавялі, іх прывезьлі і закапалі назад. Сваякі не адгукнуліся, іх не апазналі. Большая частка ўзьбекаў з Оша яшчэ былі ў лагерах бежанцаў ці на тэрыторыі Узьбекістана, да якога ад Оша не так далёка, ці ў іншых узьбекскіх гарадах і махалях. Да канца дня зь мяне ніяк не выветрываўся трупны пах. У наступны дзень мы паехалі ў горад. Ён выглядаў як пасьля вайны. Людзей на вуліцах не было. Былі выпаленыя цэлыя кварталы дамоў, махалі, дзе жылі ўзьбекі. Вузкія бакавыя вулкі былі заваленыя сьпілаванымі дрэвамі, перакуленымі машынамі, розным друзам. Такім чынам жыхары-ўзьбекі перашкаджалі праходу вайсковых бронетранспарцёраў углыб махалёў. На ўзьбекскіх дамах, крамах, кавярнях фарбаю былі намаляваныя вялікія літары SOS. А на кыргызскіх — кыргыз. Мы напаткалі ўзьбекскую сям’ю, якая на папялішчы свайго дома забірала недагарэлыя косткі дзьвюх сваіх родных жанчын. У кацялок складвалі кавалкі чэрапа, зубы і дробныя костачкі. Сцэнар зьнішчэньня, як нам распавялі пагарэльцы, быў прыкладна аднолькавы. На вуліцу ўязджаў бронетранспарцёр, зь якога па дамах бесьперапынна страляў кулямёт, а за ім ішоў узброены аўтаматамі, іншай стралковай зброяю цывільны натоўп, у асноўным моладзь. Яны білі, гвалтавалі, забівалі, выносілі з дамоў усю вартую маёмасьць, а затым хаты палілі. Варожасьць была абаюднай. Палілі і дамы кіргізаў, якія стаялі ў атачэньні махалёў. Суседзі, якія жылі дзесяцігодзьдзямі побач, быццам бы павар’яцелі. Але былі і іншыя выпадкі. Ляпёшкаю ў сваім доме частавала нас старая кыргызка, якая схавала ў сябе суседскія сем’і ўзьбекаў, усяго больш за 50 чалавек, і не пусьціла разь-

ятраных, ап’янелых ад крыві пагромшчыкаў на парог свайго дома.

Усе ўцалелыя ў горадзе кавяранькі былі зачыненыя, і нас кармілі ва ўзьбекскіх і кыргызскіх дамах чым маглі, бо і большасьць крамаў не працавала таксама. Увечары гаспадыня гатэльчыка прыгатавала нам вячэру. Мы вячэралі моўчкі, прыдаўленыя гнётам убачанага і пачутага, у горадзе зрэдку, у вячэрняй цішы, было чуваць стрэлы.

На наступны дзень у нас была сустрэча з прадстаўнікамі ошскіх няўрадавых арганізацыяў. Здавалася, што яны самі не верылі ў тое, што адбылося ў Ошы за апошнія два тыдні. У некаторых зь іх загінулі сваякі, некаторыя самі выратаваліся цудам. Сабраліся ў асноўным жанчыны. (Мужчыны яшчэ асьцерагаліся паказвацца на вуліцах і сядзелі ў сховах.) Яны абмяркоўвалі, што ў першую чаргу няўрадавыя арганізацыі могуць зрабіць дзеля бежанцаў. Затым мы езьдзілі ў прыошскія аілы. І ў адным зь іх, пакуль мы сядзелі і размаўлялі са старэйшымі кыргызамі, пілі зялёную гарбату і шчыкалі ляпёшкі, нам у машыне пашкодзілі пракрутку кола. І яно адляцела, калі мы ўжо выехалі з горнага серпанціна на роўную дарогу ў даліну. Выглядала, што кола адкруцілі дзеля адважных кыргызак Талекан і Азізы. Гэта яны прыляцелі ў Ош яшчэ ў разгар сутыкненняў на вайсковым транспартным самалёце. Гэта яны першыя дамаўляліся на правоз у асаджаныя махалі хлеба і вады. Гэта яны, дазваніўшыся да прэзідэнта Розы Атунбаевай, спынілі пацыфікацыю аднаго з махалёў, падчас якой вайскоўцы пачалі страляць па жыхарах, забіўшы і параніўшы некалькі чалавек. Я дзівіўся і захапляўся сьмеласьцю гэтых жанчынаў, якія рызыкавалі ўласным жыцьцём. Вось ім і спрабавалі арганізаваць “няшчасны выпадак”. А мы з расійскай журналісткаю Аксанай Чэлышавай ужо апынуліся ў машыне заадно. Да ўсяго ўвечары мы сустракаліся з узьбечкаю, якую згвалтавалі паліцыянты. Яна была ва ўтрапеньні, плакала і енчыла, побач ляжаў зьбіты да непрытомнасьці яе родны брат, маці зь вяліз-

ным сіняком на бядры ад аўтамата, моўчкі сядзелі яе сын і дачка. А яна празь енкі і плач распавядала нам, як усё адбылося. І вось тады я адчуў поўнае сваё бясьсільле. Ціха плакала Талекан і супакойвала згвалтаваную ўзьбечку, гладзячы яе па галаве. А назаўтра Талекан і Азізу выклікалі ў абласную пракуратуру, разьвялі па розных кабінетах і ўчынілі ім допыт. Мы з Аксанаю назвоньвалі па тэлефонах у Маскву і Парыж. Як распавяла потым Талекан, мабыць, нашая прысутнасьць, тэлефанаваньне і тое, што інфармацыя аб допыце імгненна зьявілася на сайтах, прыпыніла намер пракурорскіх супрацоўнікаў арыштаваць жанчын-праваабаронцаў. Вось з такім грузам убачанага і пачутага я вярнуўся ў Бішкек. Зразумелыя былі і высновы падрыхтаванага намі даклада. Яны былі несуцяшальнымі для кыргызскіх уладаў. І адна з рэкамендацыяў, на якой мы настойвалі, была — вызваліць неабгрунтавана затрыманых грамадзянаў, у асноўным узьбекскай нацыянальнасьці, і спаміж іх — праваабаронцу, калегу Талекан Ісмаілавай па працы ў праваабарончай арганізацыі "Грамадзяне супраць карупцыі", узьбека Азімжона Аскарава.

*Ну вось, я ўсё бліжэй падбіраюся да нашага наведваньня Азімжона.*

## 31 траўня 2012 г., Бабруйск

Я даволі доўга і падрабязна ў папярэдніх лістах апісваў, што адбылося на поўдні Кыргызстана ў чэрвені 2010 года і які даклад мы прывезьлі ў Бішкек у сьнежні таго ж года, каб ты троху адчула тую атмасферу, якая панавала тады ў Кыргызстане.

Азімжон Аскараў — праваабаронца зь невялікага паўднёвага гарадка Базар-Каргана, яму было ўжо за 60 гадоў. Ён сябра рэгіянальнага адзьдзяленьня праваба-

рончай арганізацыі Талекан “Грамадзяне супраць карупцыі” і, адпаведна, як мясцовы праваабаронца, змагаўся-даставаў мясцовыя ўлады Базар-Каргана з прычыны гэтай самай карупцыі ды іншых непарадкаў, якіх у правінцыі хапае. Звычайна хадзіў ён з нататнікам, фотаздымачом і дыктафонам, пісаў шмат скаргаў, зваротаў, допісаў. (Ёсьць і ў нас у Беларусі такія няўрымсьлівыя праваабаронцы, да якіх жыхары зьвяртаюцца з розных прычынаў і на якіх улады і праваахоўнікі за гады іхняй актыўнасьці маюць зуб.) Трэба дадаць, што жыхары ў Базар-Каргане пераважна былі ўзьбекамі, а адміністрацыя і паліцыя у асноўным былі кыргызы. І калі пачаліся міжнацыянальныя сутычкі ў чэрвені, начальніка раённай міліцыі замардаваў разьюшаны натоўп. Пахапалі мяркуемых злачынцаў, а заадно і Азімжона Аскарава, які, дарэчы, пісьмова перад гэтым папярэджваў улады пра эскалацыю напружанасьці ў стасунках паміж кыргызамі і ўзьбекамі і прасіў прыняць меры, якія перадухілілі б выбух. Яго, які бегаў па Базар-Каргану і здымаў на фотаздымач, як палаюць-гараць дамы ўзьбекаў, абвінавацілі ва ўдзеле ў забойстве міліцыянта і ў завадатарстве ў крывавых сутыкненьнях, у распальваньні міжнацыянальнай розьні і арганізацыі масавых беспарадкаў. Сьведкі “знайшліся” з кыргызаў-паліцыянтаў. У выніку яго асудзілі да пажыцьцёвага зьняволеньня. Такім чынам мясцовыя ўлады вырашылі прыбраць няўрымсьлівага праваабаронцу. Талекан дабілася нашай сустрэчы зь ім. Прычым мы прасілі, каб гэтая сустрэча адбывалася перад нашай наступнаю сустрэчаю ў адміністрацыі кыргызскага прэзідэнта, дзе мы мусілі прэзентаваць свой даклад. І вось мы ехалі ў таксоўцы: прэзідэнт FIDH Суэр, я, Ванэса і юрыстка з арганізацыі Талекан Аіда — у турму, на сустрэчу з Азімжонам. Па дарозе ў Суэр зазваніў тэлефон. Яна пачала слухаць, загаварыла па-французску, на вачах у яе зьявіліся сьлёзы. Спахмурнелая Ванэса сказала нам, што званілі з радзімы Суэр, з Туніса, ёй паведамілі, што ў яе толькі што памёр бацька.

Машына ехала ў турму. Мы ўсе маўчалі. Суэр моўчкі выцірала сьлёзы, сустрэчу не адмянілі. На яе мы пайшлі ўсе ўчатырох. Спатканьне праходзіла ў кабінеце ў начальніка турмы. Кабінет быў зроблены ў старыя савецкія часы ды такім і застаўся: вялікі літарай "тэ" стол, шафа ў сьветлай фаніроўцы "пад сасну". Адзінае, што замест чырвонага эсэсэсэраўскага сьцяга зараз віселі кыргызскія сьцяг і герб. У кабінеце сьмярдзела застарэлым папяросным дымам. Такі пах сустракаецца яшчэ ў танных гатэлях, дзе ў нумарах дазваляюць паліць. Начальнік турмы выслухаў нашыя прадстаўленьні, затым прадставіўся сам і паведаміў, што ягоная задача тут — ахоўваць асуджаных і забясьпечваць ім умовы ўтрыманьня: разьмяшчэньне, харчаваньне, медыцынскую дапамогу. І ўсё. А астатняе — абвінавачваньні, прысуды, выракі, абскарджваньні — гэта справа пракуратуры, суда і саміх зьняволеных. І ўсе зьняволеныя для яго аднолькавыя. Мы выслухалі яго і заківалі галовамі: але, так і павінна быць. Затым увайшоў Азімжон Аскараў — худы, апрануты ў робу, коратка падстрыжаны, з чорнымі, выразнымі, бліскучымі вачыма. Падхапілася з крэсла Аіда, яны абое паглядзелі на начальніка турмы, той згодна кіўнуў галавою, і яны кінуліся ў абдымкі адно аднаму. Яны стаялі, абняўшыся, узьбек і кыргызка, і гучна плакалі, не хаваючы, не могучы стрымаць ні плачу, ні сьлёз. Плакала сядзела Суэр, на якую так нечакана навалілася яшчэ і асабістае гора, выціралі сьлёзы і мы з Ванэсаю, бо глядзець на ўсё гэта безь сьлёз было проста немагчыма.

## 31 траўня 2012 г., Бабруйск

*Працягваю свой распавед.*

А спыніўся я на тым, што пры сустрэчы з Азімжонам Аскаравым у кабінеце начальніка калоніі ўсе плакалі.

Адзін начальнік калоніі сядзеў з тварам азіяцкага тысячагадовага сфінкса, на якім нічога не адбівалася. Я ўбачыў, што жанчыны былі не ў стане гаварыць, і першым пачаў гутарку з Азімжонам. Пытаньні былі банальнымі і традыцыйнымі. Зараз я дзясяткі і сотні разоў пачуў іх у свой бок, а тады задаваў сам: “Як вашае здароўе, Азімжон? Як вы пачуваецеся? Што вам патрэбна?” Са здароўем у гэтай турме-шпіталі ў яго было лепей. Прынамсі тут ён мог ужо схадзіць у прыбіральню. Ён сам пачаў распавядаць пра тое, як тады, у дзень затрыманьня, бегаў па Базар-Каргане, здымаў палаючыя дамы ўзьбекаў і як затым яго затрымалі паліцыянты, якіх ён перад гэтым пастаянна крытыкаваў за ўжываньне гвалту да затрыманых, і як яго зьбівалі амаль безь перапынку на працягу сутак, патрабуючы прызнаньня ў арганізацыі забойства паліцыянта. Ён вытрымліваў, упарта не прызнаваўся. Тады яму сказалі, што зараз паедуць да яго дахаты, прывязуць ягоную жонку і будуць гвалтаваць у яго на вачах. І яны паехалі забіраць ягоную жонку. Ён сказаў, што ў тую хвіліну быў гатовы падпісаць што заўгодна, толькі б не дапусьціць гэтага. Але літаральна за пару гадзінаў перад прыездам паліцыянтаў ягоную жонку вывезьлі і схавалі кыргызскія праваабаронцы. Паліцыянты вярнуліся з пустымі рукамі і працягнулі катаваць Азімжона. Яго білі тры дні. Ён так і не падпісаў прызнальныя паказаньні. Затым яго адправілі ў турму ў іншы горад, у Таш-Кумыр, а затым у Наакен. Там яго ўжо не зьбівалі. Хапала для гэтага сярод затрыманых маладзейшых і здаравейшых узьбекаў. У Азімжона ад пабояў і нервовага стрэсу перастаў працаваць кішэчнік. І яго выратавалі ад сьмерці ўжо ў гэтым турэмным шпіталі. “Дзе вашая жонка зараз, — спытаўся я, — у бясьпецы?” — “Так, — заківаў ён галавою, — яна ва Узьбекістане”. — “Што вам патрэбна, Азімжон?” — спытаўся я ў яго. “Газеты і папера для маляваньня”, — адказаў ён. Аіда паабяцала перадаць паперу і фарбы літаральна заўтра. Азімжон тут пастаянна малюе, і калегі-праваабаронцы перадаюць яму паперу

ўжо не першы раз. Мы прагаварылі з Азімжонам больш за гадзіну. Я яму распавёў пра кангрэс няўрадавых арганізацыяў у Астане: пра тое, што пытаньне пра ягонае вызваленьне набыло міжнародны рэзананс. “Вы глядзіце сябе, — казаў я яму, — трымайцеся, моцна не хвалюйцеся, а мы даб’ёмся вашага вызваленьня”. Але лёс распарадзіўся так, што праз восем месяцаў я ўжо сам апынуўся ў турме, і кыргызскія праваабаронцы, мае шаноўныя каляжанкі і сяброўкі Талекан, Аіда, Азіза пікетавалі каля беларускай амбасады ў Бішкеку з патрабаваньнем вызваліць мяне.

У гэты ж дзень Суэр уначы паляцела ў Туніс на пахаваньне бацькі, а я мусіў прадстаўляць наш даклад у адміністрацыі кыргызскага прэзідэнта адзін. На гэтую сустрэчу прыйшоў кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта і шасьцёра загадчыкаў адзьдзелаў. Таксама была адзіная жанчына — загадчыца адзьдзела з МЗСа. Я ім роўным голасам выклаў вынікі нашай місіі, высновы і рэкамендацыі. Асобна, ад імя FIDH, запатрабаваў вызваленьня Азімжона Аскарава. “Такімі пытаньнямі ў нас займаецца незалежны суд, у дадзеным выпадку касацыйную скаргу Аскарава разглядае Вярхоўны Суд”, — адказаў кіраўнік адміністрацыі. Тут у кабінеце адчыніліся дзверы і зайшоў амбудсмэн па правах чалавека. Не пасьпеўшы сесьці, ён абвясьціў, што асабіста займаўся справай Аскарава і перакананы, што той невінаваты. Загадчыкі адзьдзелаў скрушна ўздыхнулі, я не выказаў ніякіх эмоцыяў. Іх у мяне проста не было.

З Азімжонам Аскаравым я сустрэўся яшчэ раз завочна ў кастрычніку 2011 года на Міжнародным фестывалі праваабарончых фільмаў у Бішкеку, дзе нам зь ім і яшчэ казахстанскаму праваабаронцу-вязьню Яўгену Жоўцісу ўручылі, зразумела што завочна, праваабарончыя дыпломы.

А пра Яўгена Жоўціса я напішу ў наступным лісьце.

## 1 чэрвеня 2012 г., Бабруйск

Як я ўжо пісаў, у кастрычніку 2011 года ў Бішкеку на Міжнародным праваабарончым кінафестывалі дыпломы “выпісалі” тром сядзельцам: Азімжону Аскараву, мне і Яўгену Жоўцісу.

Яўген Жоўціс — праваабаронца з Казахстана, кіраўнік Казахстанскага бюро па правах чалавека, найбуйнейшай у гэтай краіне праваабарончай арганізацыі. Так атрымалася, што ў 2009 годзе ён, ехаўшы на машыне ноччу, на трасе зьбіў насьмерць чалавека. Улады скарысталі гэта і засадзілі яго на чатыры гады ў калонію-пасяленьне ва Усьць-Каменагорску на поўначы Казахстана, нягледзячы на тое, што, як правіла, у падобных выпадках пакараньне ў адносінах да іншых правапарушальнікаў было лягчэйшым. Наш калега Валянцін Стэфановіч назваў падобную сітуацыю, калі за нейкае парушэньне ўлады максімальна строга караюць грамадскіх актывістаў, “эфектам Жоўціса”. Узьнялася міжнародная кампанія ў абарону Яўгена Жоўціса, бо сядзелася яму даволі цяжка. Яму было ўжо за пяцьдзясят узросту, ён у суровым па клімаце Усьць-Каменагорска першыя месяцы сваёй адсідкі сур’ёзна хварэў, працаваць у горад, як іншых пасяленцаў, яго не адпускалі. Вакол яго была створана напружаная атмасфера, не ўся інфармацыя выходзіла і даходзіла да яго. У чэрвені 2010 года, быўшы ў Бішкеку і Ошы, я “па дарозе” меў даручэньне, ініцыяванае мною ж самім, заехаць да Яўгена Жоўціса ў адведкі. Шлях мой ляжаў праз Алма-Ату, дзе я сустрэўся зь юрыстам ягонай арганізацыі. Яны рабілі мне дазвол на сустрэчу. Калі я быў у Алма-Аце, дазволу яшчэ не было. Аднак я ўсё роўна вырашыў не марудзіць, а браць квіткі ва Усьць-Каменагорск і назад. Праваабарончая арганізацыя Яўгена Жоўціса дзейнічала легальна, яны працавалі як зь бежанцамі, мігрантамі, так і ў казахстанскім парламенце, лабіруючы ўключэньне міжнародных праваабарончых

нормаў ва ўнутранае заканадаўства. Улады зь імі лічыліся, Жоўціса прымалі ў рознага ўзроўню ўладных кабінетах, але, калі надарылася магчымасьць, зь ціхім задавальненьнем сплавілі яго ў глухую паўночную правінцыю, падалей з вачэй. Тым не менш арганізацыя ягоная не спыніла працу і працягвала дзейнічаць далей.

Алма-Ата ляжыць у жывапісных, засьнежаных нават летам перадгор'ях. Гэтая блізкасьць да гораў стварае мяккі мікраклімат, не падобны да рэзкага кантынентальнага, характэрнага для агромністага пустынна-стэпавага Казахстана. Асабліва прыгожа Алма-Ата выглядае пры ўзьлёце і пасадцы на самалёце. Як і Бішкек, горад быў пабудаваны расійскімі акупацыйнымі ўладамі для кіраваньня падбітымі казахамі. Самалётам я прыляцеў ва Усьць-Каменагорск. Пад намі раскінуўся плоскі, як стол, жоўты, пустынны стэп з рэдкімі лінзамі салёных азёраў і нячастымі павуцінкамі дарог. Бліжэй да Усьць-Каменагорска з самалёта заўважныя былі іншыя краявіды. Зямля пазелянела, у шырокіх лагчынах засерабрыліся рэкі, на грывах халмоў зачарнеўся лес. Гэта быў паўночны Казахстан, ужо недалёкі ад расійскага Урала. Праз горад працякае паўнаводны прыгожы Іртыш. Цэнтр горада сфармаваны вакол вялізных заводаў, якія некалі былі пабудаваныя сасланымі і зэкамі. Такая планіроўка "горада-зоны" засталася і дасюль.

Затым у мяне была сустрэча ў калоніі зь Яўгенам Жоўцісам. Ён схуднеў і памаладзеў. Трымаўся бадзёра, распавядаў, што ў горад яго па-ранейшаму не адпускаюць, але далі магчымасьць працаваць на камп'ютары. Ён займаўся ўдасканаленьнем Крымінальна-выканаўчага кодэкса. Зараз я яго вельмі і вельмі разумею. З намі падчас размовы ўвесь час прысутнічала маладая лейтэнантка. Я паведаміў Яўгену, што Нарвежскі Хельсінкскі камітэт узнагародзіў яго праваабарончай прэміяй імя Андрэя Сахарава, намінантам якой я быў у 2006 годзе. Размова нашая доўжылася каля дзвюх гадзінаў. Асноўную мэту — маральна падтрымаць Жоўціса і паказаць

адміністрацыі калоніі, што пра Яўгена клапоцяцца і за межамі Казахстана, — падаецца, я выканаў. Для мяне асабіста важна было чыста па-чалавечы падтрымаць яго. Значыць, было нейкае неўсьвядомленае прадчуваньне, што крыху болей як праз год такая падтрымка спатрэбіцца і ўжо будзе аказвацца мне самому...

Ізноў у думках я вяртаюся да гэтага міжнароднага праваабарончага фестывалю ў кастрычніку 2011 года, дзе арганізатары ў сваіх згадках і праз дыпломы ўганаравалі-аб'яднаалі нас трох: Азімжона Аскарава, Алеся Бяляцкага і Яўгена Жоўціса, трох праваабаронцаў з Кыргызстана, Беларусі і Казахстана. З былых постсавецкіх рэспублік, якія ніяк не могуць разьвітацца з праблемамі, якія пазаставаліся са змрочнай спадчыны агульнай для нас некалі імперыі — Савецкага Саюза. Плынь жыцьця бязьлітасна паставіла нас у рознай цяжкасьці і важнасьці драматычныя сітуацыі. Азімжон — народны праваабаронца з дыктафонам і фотаздымачом у руках, я, які зь 2003 года працаваў фактычна па-за законам, а зь 2006 года пад пагрозаю крымінальнага перасьледу, і Яўген, арганізацыя якога падчас ягонай адсідкі праводзіла навучальныя семінары для супрацоўнікаў сістэмы пакараньняў, — мы былі аб'яднаныя як праз сваю дзейнасьць, так і праз пакараньне, якое адмералі нам улады ўжо суверэнных краінаў. У нас аднялі тое, за што мы па-рознаму і аднолькава змагаліся ў сваёй паўсядзённай барацьбе, у нас аднялі тое, што мы цэнім найбольш, найвышэй за ўсё, — волю. Ці сталі мы ад гэтага больш залежнымі і менш вольнымі? Не ведаю. Мабыць, больш дакладна я змагу адказаць пасьля адсідкі.

Калі гавару пра Азімжона і Яўгена, пішу пра іх, увесь час у мяне ў галаве круціцца яшчэ адное імя, увесь час я ўспамінаю яшчэ аднаго чалавека. Гэта Натальля Эсьцемірава. Але пра яе я напішу ў наступным лісьце.

## 4 чэрвеня 2012 г., Бабруйск

З праваабаронцай з Чачні Натальляй Эсьцеміравай я бачыўся адзін раз у Тбілісі, у Грузіі. Міжнародная федэрацыя за правы чалавека даўно планавала там рэгіянальны семінар для праваабарончых арганізацыяў з постсавецкіх краінаў. Але паміж Расіяй і Грузіяй здарылася вайна. Грузіны абстралялі Цхінвалі, а над Тбілісі лёталі расійскія самалёты. Мы прыехалі ў Тбілісі праз два месяцы пасьля гэтай ганебнай вайны. Грузінскія грамадскія арганізацыі задыхаліся ад праблемаў, якія нечакана зваліліся на краіну і на іх. Акупаваньне тэрыторыі, дзясяткі тысячаў бежанцаў, зьніклыя безь вестак, несправядліва асуджаныя, “шпіёны” і “дэзерціры” — адным словам, вайна паказала свой цалкам непрывабны твар, яна лягла цяжарам на плечы ўсяго народу. Такім чынам, нашая міжнародная канферэнцыя мела яшчэ і характар сімвалічнай падтрымкі простага народу, грамадзянаў, але ж не палітыкаў, якія сваімі безразважнымі дзеяньнямі давялі да вайны.

І вось распачалася, пайшла канферэнцыя. З расійскіх праваабаронцаў быў хіба што адзін чалавек, іншых мы пасьцерагліся запрашаць, бо невядома, як грузінскія ўлады адрэагавалі б на іхні прыезд. Шмат выступалі прадстаўнікі грузінскіх арганізацыяў. Мы далі магчымасьць ім выказацца, і гаварылі яны ў асноўным пра трагічныя наступствы вайны. А затым Уча Нануашвілі, кіраўнік грузінскай праваабарончай арганізацыі, сябра FIDH і нашага партнёра па ладжаньні семінара, некуды зьнік на некалькі гадзінаў і зьявіўся ўжо толькі пасьля абеду. Аказалася, ён езьдзіў на мяжу па Натальлю Эсьцеміраву, якая надоўга завязла там са сваім расійскім пашпартам. Яе не хацелі пускаць, і яна, стаміўшыся стаяць у аўтамабільнай чарзе і раззлаваўшыся, вырашыла вяртацца назад у Грозны. Але прыехаў Уча, і, пасьля васьмі гадзінаў стаяньня, яе ўрэшце прапусьцілі.

Натальля ў першы дзень так і не паказалася, пры-

ходзіла ў сябе пасьля дарогі. На другі дзень яна брала ўдзел у канферэнцыі. Сядзела за авальным сталом, выступала. Я дакладна ўжо не памятаю, пра што яна гаварыла, але гаварыла пра Чачню, пра неабмежаваную ўладу Рамзана Кадырава, якому Масква дала ясак на праўленьне, пра пазазаконныя зьнікненьні людзей, якія там працягваліся, пра перасьлед сваякоў і родных тых чачэнцаў, якія пайшлі ў лес, пра ўзровень страху ў неабароненым законам грамадстве. Але найбольш мне запомнілася яе суровае аблічча з рэзкімі рысамі твару. Усё, што яна гаварыла, мела ўнутранае трагічнае напружаньне. Яна не дазволіла сабе расслабіцца ні на хвіліну. Саша Кулаева, якая пастаянна кантактавала з ёй, сказала, што апошнім часам былі прамыя пагрозы ў бок Натальлі ад “невядомых”. Рамзан Кадыраў, выступаючы, таксама пагражаў ёй, назваў яе несапраўднай чачэнкаю, таму што яна выступіла супраць ягонай ініцыятывы апрануць на ўсіх чачэнак, па мусульманскім звычаі, хусткі. Натальля адкрыта хадзіла па Грозным зь непрыкрытаю галавою. Пагрозы сыпаліся як дождж, і некалькі месяцаў яна знаходзілася за мяжою, але потым ізноў вярнулася дадому. Натальля атрымала некалькі міжнародных прэміяў як праваабаронца і як журналістка, але вось ці здолеюць гэтыя прэміі яе абараніць — у голасе Сашы былі надзея і сумненьне адначасова. Мы віталіся з Натальляй, але ніякіх больш блізкіх размоваў я зь ёй не пачынаў. Энергія трывогі і небясьпекі сыходзіла ад яе і не давала магчымасьці гаварыць на больш простыя і спакойныя тэмы.

Тбілісі, нягледзячы на нядаўнюю вайну, сьвяціўся ўвечары, як калядная ёлка, гулка грымела хуткая Кура. Мы з Уладзем Лабковічам лазілі на гару, да развалінаў нейкай старажытнай цьвярдыні, затым хадзілі ў не менш старажытныя турэцкія лазьні, шыльда на якіх паведамляла, што ў іх мыўся яшчэ сам А. С. Пушкін, і дзе вялізны чырвоны банншчык па-садысцку выварочваў мае суглобы, як у батлеечнай лялькі. Затым мы каштавалі густое, цёмнае і цяжкае, як кроў, грузінскае хатняе віно.

“Гэта цяжка зразумець, пакуль не перажывеш сам”, — неаднойчы чуў я гэты выраз ад людзей, якія перажывалі нейкія трагічныя ці драматычныя падзеі ў сваім жыцьці. Зараз такое, мабыць, магу і я сказаць адносна майго зьняволеньня. Але цяжкасьці і пакуты несувымерныя ў сьвеце. Заўсёды трэба памятаць, што ёсьць той, хто церпіць больш за цябе.

Праз некалькі месяцаў пасьля нашага семінара невядомыя асобы схапілі Натальлю Эсьцеміраву каля пад’езда яе дома і запіхнулі ў машыну, у гэты ж дзень яе знайшлі забітай, застрэленай на ўзбочыне дарогі па-за Грозным. Забойцаў Натальлі “не знайшлі” і дасюль.

А ў наступным лісьце я распавяду, як я езьдзіў у Маскву на суд Кадырава супраць Арлова.

## 6 чэрвеня 2012 г., Бабруйск

Пасьля забойства праваабаронцы і журналісткі з Чачні Натальлі Эсьцеміравай кіраўнік расійскай праваабарончай арганізацыі “Мемарыял” Алег Арлоў абвінаваціў у гэтым Рамзана Кадырава, кіраўніка-дыктатара Чачні, які адкрыта пагражаў ёй. (Натальля Эсьцемірава зьяўлялася супрацоўніцай прадстаўніцтва ПЦ “Мемарыял” у Грозным. — ***Рэд.***) Рамзан Кадыраў пакрыўдзіўся і падаў на Арлова ў суд. Суд праходзіў у Маскве. Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека шмат гадоў супрацоўнічала зь “Мемарыялам” — вядучай расійскай праваабарончай арганізацыяй. FIDH заўсёды з трывогаю назірала за поўным занядбаньнем правоў чалавека ў Чачні, дзе да апанентаў улады, іх сваякоў, праваабаронцаў ужываліся незаконныя метады гвалту. Афіцыйная Масква прыкрывала “свавольствы”, а больш дакладна сказаць — злачынствы, чачэнскіх уладаў, якія, як сьцьвярджалі чачэнскія праваабаронцы, мелі прамое дачыненьне да зьнікненьняў людзей, падпалаў дамоў сваякоў чачэнскіх

партызанаў, катаваньняў затрыманых. Таму гэты суд набыў сімвалічнае значэньне. На першае судовае паседжаньне ў якасьці назіральніка і для маральнай падтрымкі Алега Арлова і ўсіх расійскіх праваабаронцаў з Парыжа прыляцела прэзідэнт FIDH Суэр Белхасен. Наступнае паседжаньне суда прызначылі праз тыдзень, і ў Маскву дакладна з такімі ж мэтамі паехалі я і Уладзь Лабковіч.

Была восень 2009 года. У Маскву мы патрапілі позна ўвечары, пакуль дабраліся да гатэля, ужо была поўнач. Аказалася, што нам далі не той адрас гатэля, мы патрапілі ў хостэл, дзе юціліся замежныя студэнты, якія бадзяжнічалі па Расіі і якім трэба было за нядорага перабыць у Маскве ноч. Пасьля доўгіх угавораў нам прапанавалі лепшы ў хостэле пакой па двайным кошце, у якім рама акна не была замацаваная ў аконным праёме і халодны вецер сьвістаў па кутах. Мы выпілі 200 грамаў няякаснага расійскага каньяку, купленага ў "начніку", які, відаць, быў зроблены з разбаўленага падфарбаванага сьпірту, скурчыліся на розных палавінах адзінага шырокага ложка і неяк ператрывалі ноч.

Назаўтра зранку мы былі ў судзе. Выступаў інтэлігентны, акадэмічны Алег Арлоў. (Яго за два гады да гэтага невядомыя ў масках і з аўтаматамі выцягнулі ноччу з гатэля ў Назрані (горад у Інгушэціі, які знаходзіцца прыблізна ў 85 кіламетрах ад Грознага. — ***Рэд.***) разам з тэлежурналістамі. Ім насунулі шапкі на вочы і ўсю дарогу, пакуль некуды везьлі, зьбівалі і прапаноўвалі рыхтавацца да сьмерці. Ім пашанцавала. Іх выкінулі босымі і распранутымі да сподняга ў голым засьнежаным полі і зьехалі.) Выступаў прадстаўнік Кадырава, нейкі рускі юрыст, якому, відаць, добра заплацілі. Але бачна было, што ён не толькі адпрацоўвае грошы, што ён шчыра ненавідзіць праваабаронцаў і ўдзел у працэсе прыносіць яму яшчэ і асабістае задавальненне. Прызнаюся, што я не стрымаўся і ў перапынку коратка сказаў, што я пра яго думаю. На што ён адказаў, што такіх, як я, рускіх гнаць

з Расіі трэба. А я на гэта з гонарам парыраваў яму, што я не рускі, я — беларус.

Мы пагаварылі з Алегам Арловым, зь іншымі нашымі расійскімі сябрамі і паплечнікамі, далі некалькі інтэрв'ю, дзе я выказаў пункт погляду FIDH на гэты працэс, напісалі справаздачу з гэтага дня суду (бо суд ізноў перанесьлі на тыдзень) і гэтым жа днём, увечары, вярнуліся ў Менск. А праз два дні я захварэў на грып, які праз тыдзень плаўна перайшоў у двухбаковае запаленьне лёгкіх. Тады ў Еўропе бушаваў "сьвінячы" грып. Эпідэмія дабралася і да Беларусі, дзе па загадзе згары яго вырашылі "не заўважаць". А я падхапіў яго, мабыць, у маскоўскім халодным хостэле. Пакуль я ляжаў у 3-й бальніцы і лячыўся, суд прысудзіў Алегу Арлову вялікі штраф, што было такім палавінчатым рашэньнем, бо маглі і пасадзіць. А ў лістападзе 2011 года ў Менск на суд да мяне прыязджаў Алег Арлоў. Яму, у адрозьненьне ад іншых праваабаронцаў зь еўрапейскімі пашпартамі, якім не далі візы, яна была непатрэбная. Я радасна павітаў яго з-за кратаў судовай клеткі. Урэшце, не апошні раз бачымся.




Мітынг у цэнтры сталіцы, прысьвечаны 50-годзьдзю прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Віктар Жагунь, Уладзімір Лабковіч, Валянцін Стэфановіч, невядомы. *1998, Менск*



Любоў Лунёва і Алесь Бяляцкі падчас акцыі. *20.01.1999, Менск*




Пікет каля "Валадаркі" ў гадавіну арышту Андрэя Клімава. Валянцін Стэфановіч, Мікола Сьцепаненка, сын Андрэя Клімава.
*11.02.1999, Менск*




Пікет супраць палітычных рэпрэсій з удзелам прадстаўнікоў шведскай праваабарончай арганізацыі "За мір і арбітраж" на станцыі метро "Усход".
*03.11.1999, Менск*

